УДК 811.161.1’(082)
ББК 81.2Беи-5
Б43



Р э ц э н з е н т ы:

кандыдаты філалагічных навук Э. В. Ярмоленка, Д. В. Дзятко

Б43 **Беларуская лінгвістыка.** Вып. 66 / НАН Беларусі, Ін-т мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы; рэдкал.: А. А. Лукашанец (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : Беларус. навука, 2011. – 167 с.

Часопіс уключае артыкулы айчынных даследчыкаў па актуальных пытаннях беларускага мовазнаўства. Праблемы моўнага функцыянавання разглядаюцца на лексічным, марфалагічным, словаўтваральным і сінтаксічным узроўнях. Пэўнае месца ў выпуску займаюць артыкулы па праблемах этымалогіі, гісторыі беларускай мовы, семантыцы. У часопісе змешчаны матэрыялы хронікі, нататкі па культуры мовы і этымалогіі, рэцэнзія.

Разлічаны на мовазнаўцаў, настаўнікаў, студэнтаў, журналістаў.

**УДК 811.161.1’(082)**
**ББК 81.2Беи-5**

# ДА XV МІЖНАРОДНАГА З’ЕЗДА СЛАВІСТАЎ (МІНСК-2013)

14–16 жніўня 2010 года ў Вялікім Ноўгарадзе (Расійская Федэрацыя) адбылося пасяджэнне Міжнароднага камітэта славістаў, дзе была абмеркавана і прынята тэматыка XV Міжнароднага з’езда славістаў, які адбудзецца ў 2013 годзе ў г. Мінску (Рэспубліка Беларусь).

## Тэматыка XV Міжнароднага з’езда славістаў

(Рэспубліка Беларусь, Мінск, 2013 год)
(прынята на пасяджэнні Міжнароднага камітэта славістаў
у Вялікім Ноўгарадзе, Расійская Федэрацыя, 15–16 жніўня 2010 года)

**1.0. Мовазнаўства**

**1.1. Славянскія мовы ў параўнальна-гістарычным і арэальным аспектах.** Гісторыя славянскіх моў у сувязі з праблемамі этнагенезу і глотагенезу. Лакалізацыя праславянскай моўнай прасторы і яе структура. Славянская этымалогія і анамастыка. Балтаславянскія моўныя ўзаемасувязі. Славяна-германскія, славяна-італійскія, славяна-іранскія, славяна-ўграфінскія, славяна-кельтскія і славяна-цюркскія моўныя адносіны ў мінулым. Палессе ў этнагенетычных і лінгвагеаграфічных даследаваннях.

**1.2. Гістарычнае апісанне славянскіх моў і дыялекталогія.** Гістарычная граматыка славянскіх моў. Унутраная і знешняя гісторыя мовы. Праблемы моўнага сумежжа. Славянскія мовы ў моўных саюзах. Славянская лінгвагеаграфія і дыялектаграфія.

**1.3. Славянскія мовы і культуры.** Славянская пісьменнасць на розных этапах яе развіцця. Кірыла-Мяфодзіеўская пісьмовая традыцыя ў славян. Літаратурна-лінгвістычная сітуацыя ў Вялікім Княстве Літоўскім. Феномен «простай мовы» і літаратурнага шматмоўя. Кітабістыка як раздзел славістыкі.

**1.4. Моўныя сітуацыі ў славянскім свеце.** Стан сучасных славянскіх стандартных (літаратурных) моў. Унутраныя і знешнія фактары ў фарміраванні і трансфармаванні славянскіх стандартных моў. Тэндэнцыі развіцця сістэм славянскіх моў у пачатку XXI стагоддзя. Славянскі моўны свет, праблемы глабалізацыі і праблемы выкладання славянскіх моў. Моўная палітыка і экалінгвістыка. Славянскія літаратурныя макра- і мікрамовы. Праблемы моўнай ідэнтыфікацыі і самаідэнтыфікацыі. Сацыялінгвістычныя, псіхалінгвістычныя і сацыякультурныя аспекты вывучэння сучасных славянскіх моў і дыялектаў. Змешаныя формы маўлення і іх тыпы ў славян.

**1.5. Сінхронна-тыпалагічнае і супастаўляльнае даследаванне славянскіх моў.** Фаналогія і акцэнталогія. Граматыка, словаўтварэнне і сінтаксіс. Праблемы славянскай аспекталогіі. Інавацыі ў сістэмах сучасных славянскіх моў. Славянская лексікаграфія, лексічная семантыка і фразеалогія. Лінгвістыка тэксту. Дыскурсіўны аналіз сучасных славянскіх моў.

**1.6. Моўныя карціны свету ў славян.** Кагнітыўны, этналінгвістычны, лінгвакультуралагічны і лінгвапрагматычны падыходы да вывучэння розных узроўняў славянскіх моў.

**1.7. Камп’ютарная і корпусная лінгвістыка ў даследаванні славянскіх моў.** Корпусы славянскіх моў. Праблемы граматыкі і лексікалогіі ў перспектыве корпуснай лінгвістыкі. Праблемы аўтаматычнага аналізу і пераклад. Стварэнне і выкарыстанне інтэрнэт-рэсурсаў.

**2.0. Літаратуразнаўства, культуралогія, фалькларыстыка**

**2.1. Славянскі фальклор, міфалогія і традыцыйная духоўная культура.** Праблемы і перспектывы кампаратыўнага даследавання фальклору. Народныя вераванні, абрадавыя практыкі і абрадавы фальклор: тэкст і кантэкст. Традыцыйны фальклор і праблемы нацыянальнай ідэнтыфікацыі. Аўтэнтычны фальклор і адлюстраванне ў ім ментальных асаблівасцей славянскіх этнасаў. Фальклор пагранічча і славянскіх дыяспар. Сучасныя формы фальклору; постфальклор. Узаемасувязь і ўзаемадзеянне традыцыйных і сучасных форм славянскага фальклору. Фальклор і мастацкая літаратура.

**2.2. Гісторыя славянскіх літаратур і аналіз мастацкага тэксту.** Славянскія літаратуры ў кантэксце еўрапейскага і сусветнага культурна-гістарычнага працэсу. Традыцыйнае і наватарскае ў славянскай прозе, паэзіі, драматургіі. Праблемы жанраў у славянскіх літаратурах. Тэкст і інтэртэкстуальнасць у даследаваннях славянскіх літаратур. Напрамкі ў славянскіх літаратурах; роля і значэнне замежных уплываў у іх генезісе і развіцці, нацыянальная спецыфіка напрамкаў. Нацыянальная міфалогія і яе мастацкае канструяванне ў славянскіх літаратурах. Помнікі славянскіх літаратур, тэксталогія і эдыцыйная практыка.

**2.3. Літаратура і рэлігія.** Праблемы літаратурнага ўзаемадзеяння ў рамках Slavia Orthodoxa и Slavia Romana. Канфесійнае самавызначэнне і літаратурная дынаміка. Народная рэлігійнасць, кананічныя і апакрыфічныя літаратурныя традыцыі. Slavia Christiana ў адлюстраванні паэтычнага эпасу славянскіх народаў. Сінтэз фальклору і біблейскіх традыцый у славянскай культуры. Біблейскія пераклады. Біблейскія алюзіі ў сучасных славянскіх літаратурах.

**2.4. Славянскі пераклад і міжславянскія пераклады.** Роля перакладу ў станаўленні новых і сучасных славянскіх літаратур. Сацыякультурныя, эстэтычныя, моўныя асаблівасці міжславянскага перакладу.

**2.5. Літаратура – філасофія – ідэалогія.** Эстэтычнае і этычнае, нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў славянскіх літаратурах Новага часу. Месца пісьменніка ў сацыяльна-палітычным жыцці эпохі. Нацыянальнае адраджэн-

не і яго адлюстраванне ў славянскіх літаратурах. Спецыфіка фарміравання беларускай літаратуры.

**2.6. Літаратурная крытыка і публіцыстыка.** Літаратурныя часопісы ў літаратурным працэсе ў славянскіх краінах. Эстэтычнае і сацыяльнае ў славянскай літаратурнай крытыцы. Значэнне літаратурных часопісаў у сацыяльна-гістарычных зменах у славянскіх краінах: Новы і Навейшы час.

**2.7. Праблемы сучасных славянскіх літаратур.** Дыялог актуальнага мастацкага мыслення з нацыянальнай літаратурнай класікай. Літаратура дыяспары і змена літаратурнага канона ў славянскіх краінах. Постмадэрнізм у прасторы традыцыйнага грамадства і класічнай культуры. Славянскія літаратуры і кіно. Роля маладзёжных субкультур у славянскай літаратуры апошніх гадоў.

**3.0. Гісторыя славістыкі**

3.1. Міжнародныя з’езды славістаў: традыцыі, дасягненні, перспектывы.

3.2. Гісторыя і сучасны стан славістыкі ў свеце.

**Тэмы для круглых сталоў**

1. Скарыніяна ў славянскім і еўрапейскім кантэксце.
2. Мова, літаратура, культура ВКЛ у славянскім і еўрапейскім кантэксце.
3. Нацыянальныя тыпы постмадэрнізму ў славянскіх літаратурах.

Заяўкі на ўдзел у XV Міжнародным з’ездзе славістаў дасылаць да 31 верасня 2011 года на адрас:

Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі (Беларускі камітэт славістаў)
вул. Сурганава, дом 1, корп. 2,
220072, г. Мінск, Беларусь.
E-mail: inlinasbel@tut.by
mks.belarus@gmail.com
http://xvcongress.iml.basnet.by

У заяўцы ўказваецца:

1. Назва даклада з указаннем раздзела тэматыкі.
2. Кароткая анатацыя даклада на беларускай і англійскай мовах (да 1000 знакаў). Заўвага: даклад павінен уключаць моўныя, літаратурныя і г. д. факты з розных славянскіх груп.
3. Прозвішча, імя і імя па бацьку дакладчыка.
4. Вучоная ступень, званне, месца працы і пасада дакладчыка.
5. Службовы і дамашні адрас, кантактныя тэлефоны, E-mail.

Тэлефоны для даведак:

(017) 284-15-94 (старшыня МКС і БКС Лукашанец А. А.),
(017) 222-36-02 (вучоны сакратар МКС і БКС Важнік С. А.).

*Беларускі камітэт славістаў*

## *НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ*

### АД РЭДКАЛЕГІІ ЧАСОПІСА



У маі 2009 года на гадавым сходзе Македонскай акадэміі навук і мастацтваў (МАНМ) галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар Генадзь Апанасавіч Цыхун быў абраны яе замежным сябрам. Згодна са статутам МАНМ, новаабраны акадэмік павінен выступіць з навуковым дакладам на Агульным сходзе акадэміі. Такое пасяджэнне адбылося 22 верасня 2010 года. На ім з паведамленнем пра творчы шлях акадэміка Генадзя Цыхуна і яго выдатны ўнёсак у лінгвістычную македаністыку і балканаславістыку наогул распавяла акадэмік-сакратар Аддзялення мовы і літаратуры Каціца Кюлаўкава. Грунтоўны аналіз славістычных даследаванняў Г. А. Цыхуна зрабіла акадэмік МАНМ Зузана Тапалінская. Затым з навуковым дакладам «Балканославика – проблеми и резултати», які прагучаў на македонскай мове, выступіў Г. А. Цыхун. Урачыстая цырымонія завяршылася ўручэннем яму прэзідэнтам МАНМ акадэмікам Георгіем Стардэлавым дыплома замежнага сябра Македонскай акдэміі навук і мастацтваў.

Рэдкалегія часопіса «Беларуская лінгвістыка» шчыра віншуе свайго калегу Генадзя Апанасавіча Цыхуна з атрыманнем найвышэйшага акадэмічнага звання Македоніі і прапануе чытачам у скарочаным варыянце тэкст яго выступлення ў Скоп’е.

*УДК 811.16*

*Г. А. ЦЫХУН*

# БАЛКАНАСЛАВІКА: ПРАБЛЕМЫ І ВЫНІКІ

На працягу многіх гадоў македонская мова (а таксама ў пэўным сэнсе фальклор і духоўная культура македонцаў), як і іншыя балканаславянскія мовы і дыялекты, разглядалася ў шырокім балканскім кантэксце, калі выкарыстаць лінгвістычную тэрміналогію, у якасці *пацыенса*, пасіўнага залежнага аб’екта, на які ўздзейнічалі яго балканскія неславянскія суседзі. Некаторыя нават думаюць, што ўсё ў ёй прыйшло звонку і засталося вельмі мала з таго, што можна лічыць славянскай спадчынай – мажліва толькі ў лексіцы. Пафас майго выступлення заключаецца якраз у супрацьлеглым: абгрунтаваць ролю македонскай мовы, як і іншых балканаславянскіх моў, у якасці *агенса* ў фарміраванні балканскай моўнай супольнасці.

Аднак спачатку трэба вызначыцца з тэрмінам «балканаславянскі». Лічыцца, што ўпершыню яго ў арэальна-тыпалагічным сэнсе ўжыў Х. Бірнбаўм [1], супрацьпаставіўшы тэрміну «паўднёваславянскі», што характарызуе ўвесь славянскі моўны арэал на Балканах як генетычную супольнасць, якая складаецца з роднасных моў і дыялектаў. Трэба сказаць, што тэрмінам «балканаславянскі» карысталіся і раней, аднак толькі ў такім супрацьпастаўленні ён набыў сучаснае навуковае ўжыванне. Былі спробы атаясаміць яго з тэрмінам «балгарскі», што з’яўляецца памылковым, таму што найважнейшыя балканаславянскія моўныя асаблівасці выходзяць далёка за межы балгарскай мовы [2]. Якраз гэтыя спецыфічныя асаблівасці прыцягнулі ўвагу славістаў, якія спрабавалі зразумець, як з пачатковага стану, шмат у чым ідэнтычнага становішчу ў іншых славянскіх мовах, на частцы паўднёваславянскай моўнай тэрыторыі сфарміраваўся новы балканскі моўны тып. Вывучэнне гэтага феномена прывяло вучоных да вельмі важнай высновы, што без высвятлення шляхоў фарміравання балканаславянскага моўнага тыпу не можа быць вырашана і пытанне ўзнікнення балканскага моўнага саюза – пытанне, што ляжыць у аснове спецыяльнай навукі балканістыкі. Вывучэнне балканаславянскага моўнага арэала паспрыяла афармленню асобнага раздзела славістыкі, які можна назваць б а л к а н а с л а в і к а й або б а л к а н а с л а в і с т ы к а й. Хацелася б падкрэсліць, што гэта раздзел славістыкі, а не балканістыкі ў вузкім разуменні, таму што ён вырашае асобныя пытанні і праблемы, якімі балканістыка звычайна не цікавіцца.

Па-першае, што ўяўлялі ў моўным плане тыя «огромные массы славян», як іх характарызуе Л. Нідэрле [3], што прыйшлі на Балканы?

Ці гэта ўжо былі кансалідаваныя з моўнага пункту погляду «прапаўднёваславяне», што перад міграцыяй жылі кампактна на больш паўночных землях, ці асобныя групы славянскага насельніцтва, якія прыйшлі сюды з розных краёў славянскага свету? У залежнасці ад адказу на гэта пытанне па-рознаму можна мадэліраваць працэсы, якія праходзілі на Балканах і прывялі да ўтварэння балканаславянскага моўнага арэала.

Па гэтым пытанні існуюць розныя меркаванні і сабраны ўжо значны матэрыял, які патрабуе навуковага асэнсавання. З візантыйскіх крыніц нам вядомы назвы некаторых плямёнаў, што з’явіліся тут і ўяўлялі вайсковаграмадскія адзінкі, якія называліся ў візантыйскіх дакументах VII–IX стст. «славініямі». Паводле Л. Нідэрле, паняцце «славянская зямля» ў VII ст. пашырылася на цэнтральную тэрыторыю Балканскага паўвострава, і перш за ўсё на Македонію і прылягаючыя землі [4]. У Македоніі пасяліліся плямёны *бярзітаў, драгавітаў (дрыгавічаў), струмцаў, рынхінаў, сагудатаў* і інш. Асабліва прыцягальнай для насельнікаў падалася мясцовасць каля Салуні. Тут прышлыя славяне размясціліся наступным чынам: па цячэнні ракі Црна і ў ваколіцах Баба-планіны жылі *бярзякі*, якія ідэнтыфікуюцца з *бярзітамі*, паміж імі і Шар-планінай – *міякі*, паміж бярзякамі і Салунню – *дрыгавічы*, па цячэнні ракі Места – *смаляне*, па рэках Струма і Струміца і каля Арфанскага заліва *рынхіны* або *рухіны*. На думку некаторых вучоных, асобныя з гэтых назваў захаваліся да нашых дзён у якасці рэгіянальных этнонімаў; напрыклад, у мясцовай назве *брсяци* (раён Дэбра) хочуць бачыць племянную назву бярзітаў/бярзякаў, якія жылі ў Цэнтральнай і Заходняй Македоніі [5]. Польскі даследчык К. Вітчак, разглядаючы этнонім *Fresiti* ў Баварскага географа, фармулюе наступную праблему: «Узнікае пытанне, ці можам мы выявіць, хаця б прыблізна, арэал гэтага племя ў перыяд, які папярэднічае міграцыям, на базе агульных кірункаў экспансіі славян на Балканы». Ён выказвае меркаванне, што назва *Fresiti* мае фармальны адпаведнік у назве македонскіх бярзітаў, якія былі другой галіной таго ж праславянскага племені, якое калісьці пакінула першапачатковы арэал і ў перыяд вялікай экспансіі славян пранікла на Балканы. Больш за тое, ён лічыць, што «бярзіты і драгавіты склалі адну і тую ж хвалю міграцыі. Гэта прыводзіць да думкі, што племя бярзітаў паходзіць з тэрыторыі па суседству з першапачатковым арэалам дрыгавічоў», г. зн. на поўдзень ад ракі Прыпяць [6]. У сувязі з гэтым, арыентуючыся на этымалогію племяннай назвы дрыгавічоў ‘жыхары палескіх балот’ ад *дрыгва* ‘балота’ (што ўзыходзіць да праславянскага **drъgva*), параўн. таксама старажытную назву гэтай мясцовасці *Дрэгава* [7], можна звязаць паходжанне назвы бярзітаў з палескім тапонімам і гідронімам *Бяроза*, вядомым у такой якасці і на іншых дрыгавіцкіх тэрыторыях, параўн. назву *Беразіна* ў цэнтральнай Беларусі. Цікава, што з Беразіной звязваюцца і міграцыі дрыгавічоў: «Частка дрыгавічоў пайшла на тэрыторыю цяперашняй Беларусі, у басейне Беразіны, частка апынулася ў Македоніі» [8]. Традыцыйна племянная назва бярзітаў выводзіцца з даметатэзнай формы

**berziti* ‘жыхары мясцовасці, дзе расце бяроза’ [9], хаця больш верагоднай здаецца сувязь з **bъrzina* ад праславянскага **bъrziti* ‘спяшацца, хутка рухацца’, як лічыць У. Геаргіеў, арыентуючыся на сучасныя мясцовыя назвы *брзяци/брсяци* [10], параўн. тую ж матывацыю ў шматлікіх назвах рэчак на Балканах тыпу *Бистрица,* у тым ліку ў раёне Салуні. Пэўную паралель прадстаўляе назва ракі ў паўночна-заходняй Фракіі Δρογοβιτης, дзе таксама пасяліліся драгавіты, пазней вядомай як *Драговица*.

У славістыцы неаднаразова адзначаліся «пераклічкі» славянскіх племянных назваў на Балканах і на іншых славянскіх тэрыторыях, як, напрыклад, назвы Κριβητζηνοί ў Пелапанесе (Грэцыя). Істотна тое, што ў гэтай назве захоўваецца ўсходнеславянскі рэфлекс **tj* > *č*, а не рэалізаваўся ўсходнепаўднёваславянскі *št* [11]. Таксама ўсходнеславянскі рэфлекс **dj* > *ž* дапускае Ф. Малінгудзіс для шэрагу захаваных славянскіх тапонімаў у Грэцыі [12], у чым сумняваецца З. Голамб, мяркуючы пра другасны характар гэтага рэфлекса праз стадыю *žd* > *žǯ* > *žž* > *ž* [13]. У нядаўна выдадзенай ва Украіне манаграфіі, прысвечанай даследаванню славянскай тапаніміі Грэцыі, таксама канстатуецца нязвыкласць з пункту погляду сучасных паўднёваславянскіх моў старажытных гідранімічных і тапанімічных назваў розных рэгіёнаў, і сярод іх гістарычная вобласць Македонія, уключна з Пелай, Серасам і Фларынай [14]. Аб найбольш аддаленым паўночна-заходнім пункце рассялення старажытных плямёнаў, назвы якіх пераклікаюцца з адпаведнымі ўсходнеславянскімі, сведчыць назва племені *Крычы* ў паўночнай Чарнагорыі (паводле вуснага паведамлення А. Ломы, якраз для гэтага раёна характэрна страта гука *в* у інтэрвакальным становішчы). Цікава, што яшчэ ў XVIII ст. з племенем Крывічоў звязвалася назва горада *Крычаў* на ўсходзе Беларусі: «Кривичи, отъ которыхъ чаятельно и Кричевъ сие многими Кривичемъ называемое мѣстечко, название свое получило» [15]. Як для назвы крывічоў, так і для дрыгавічоў існуе верагоднасць балтыйскага паходжання [16]. Былі таксама спробы звязаць назву племені *сагудаты* з *гуды*, адной з балтыйскіх назваў беларусаў [17].

З гэтага даволі сціслага агляду праблематыкі засялення славянамі поўдня Балканаў цікавасць з пункту погляду нашага паведамлення ўяўляюць наступныя моманты:

а) пасяленні мелі «групавы» характар, часта ўтвараючы гнёзды родных плямёнаў;

б) поўдзень і паўднёвы ўсход Балканскага паўвострава былі заселены плямёнамі, што мелі генетычныя сувязі з блізкімі па назвах плямёнамі на паўночным усходзе славянскай тэрыторыі.

У дакладзе на Охрыдскім з’ездзе славістаў [18] мы вылучылі наступны тэзіс: чым большы к а н т р а с т назіраўся паміж моўнымі сістэмамі славян, што прыйшлі на поўдзень, і карэннага насельніцтва, тым больш радыкальныя змены зазнавала моўная сістэма, у першую чаргу, прышэльцаў. Арэальная лінгвістыка ўстанавіла, што большы генетычны і тыпалагічны

кантраст назіраецца ў аддаленых адна ад адной мовах, і меншы – у суседніх мовах. Такім чынам, менавіта прыход далёкіх славянскіх плямёнаў на Балканы даў першасны штуршок балканскім працэсам тыпалагічнай перабудовы іх мовы, бо ў далейшым якраз з-за таго, што яны пасяліліся пераважна ў цэнтры Балканскага паўвострава, узніклыя ў выніку кантактаў з аўтахтонным насельніцтвам інавацыі распаўсюдзіліся і на суседнія неславянскія мовы, параўн., напрыклад, агульную заўвагу Ф. Корша: «усе разбурэнні граматычнай сістэмы стар.-грэч. мовы ішлі з Поўначы» [19]. У сувязі з гэтым адказ на пастаўленае І. Грыцкат пытанне: «која је средина прва стварала оне црте, које су после рашириле у разним балканским језицима» [20], як здаецца, павінен быць адназначным: гэтыя змены адбыліся спачатку ў мове прышлага славянскага насельніцтва. І гэта натуральна, бо менавіта перасяленцам прыходзіцца прыстасоўвацца да існуючай рэальнасці. У якасці фактару, які спрыяў такому развіццю, трэба прызнаць змешаны племянны склад перасяленцаў. Пры такім змяшэнні розных роднасных моў і дыялектаў вядучай тэндэнцыяй развіцця становіцца тэндэнцыя да ўзмацнення сістэмнасці, таму што пры наяўнасці некалькіх раўнапраўных варыянтаў таго ці другога фрагмента моўнай сістэмы найбольшы шанц быць засвоеным змешаным насельніцтвам мае фрагмент з больш празрыстай і «правільнай» структурай. Паскораныя тэмпы інтэграцыі на новых землях адкрывалі магчымасці для экспансіі перыферыйных інавацый, якія ўзнікалі ў зонах кантактаў з аўтахтонным насельніцтвам, пры гэтым яны набывалі больш сістэмны характар у параўнанні з зыходнымі з’явамі, якія сталі стымуламі іх утварэння. Узніклыя славянскія інавацыі не абмяжоўваліся выключна запазычаннямі з суседніх неславянскіх моў. Побач з непасрэднымі запазычаннямі вядомы славянскія інавацыі, якія з большай ці меншай дакладнасцю калькуюць адпаведныя неславянскія структуры, або, грунтуючыся на знешнім падабенстве славянскіх і неславянскіх формаў, надаюць першым з іх падобныя структурныя функцыі (так званая міжмоўная атракцыя). Нярэдка ў выніку міжмоўных кантактаў узнікаюць інавацыі, для ўтварэння якіх магчымым стымулам паслужылі знешне адрозныя (фармальна і тыпалагічна) з’явы ў суседніх неславянскіх мовах. Такім чынам, у межах рассялення славян на Балканах узніклі цэнтры сістэмнасці розных інавацый, якія лакалізаваліся пераважна ў зонах славянска-неславянскіх моўных кантактаў. Акрамя таго, што гэтыя цэнтры сталі цэнтрамі ірадыяцыі інавацый на астатнюю частку балканаславянскай прасторы, яны заставаліся цэнтрамі ўнутрысістэмнай экспансіі [21], што прывяло да перабудовы ўсёй першапачатковай структуры славянскіх гаворак, параўн., напрыклад, экспансію паказчыкаў ступеняў параўнання (*по*-, *нај*-), якія ад прыслоўяў і прыметнікаў у балканаславянскіх мовах распаўсюдзіліся на некаторыя назоўнікі (макед. *помајстор*), дзеясловы (макед. *посакам*) і іншыя часціны мовы.

У сувязі з тым, што працэсы прыстасавання розных славянскіх гаворак і асіміляцыі аўтахтоннага насельніцтва адбываліся на працягу некалькіх стагоддзяў, трансфармацыя моўнай сістэмы мела латэнтны характар. Пры

гэтым, аднак, можа паўстаць пытанне, чаму на паўночным захадзе Балканаў не назіралася такіх жа радыкальных змен у моўнай сістэме. Па-першае, можна меркаваць, што там моўны кантраст паміж сістэмамі аўтахтонаў і перасяленцамі, якія найбольш верагодна перасяліліся з Паноніі, не быў такім значным з-за таго, што гэтыя групы жыхароў былі ў працяглым кантакце і тэрытарыяльным суседстве [22]. Па-другое, інфільтрацыя на поўдзень суседніх славянскіх груп перад нашэсцем гунаў мела пастаянны характар (Л. Нідэрле піша, што на паўночны захад Балканаў «славяне проникали постепенно» [23]) у адрозненне ад усходніх Балканаў, куды прыход славян па так званым усходнім шляху меў характар спарадычнай ваеннай інвазіі. Так, у адной з візантыйскіх крыніц паведамляецца пра славянскія плямёны, што «прыйшлі з нейкай далёкай краіны і пасяліліся на захад ад Салонік» [24]. Можна меркаваць, што гэта былі дрыгавічы (драгавіты), адной з лакалізацый якіх у старажытнасці была дакладна гэта тэрыторыя. Цікава, што ландшафт гэтай мясцовасці найбольш адпавядае характару дрыгавічоў як ‘жыхароў палескіх балот’, параўн. сучасную характарыстыку гэтай мясцовасці, дзе найбольш фігуруе лексема ‘балота’: «Турците го викаа Големото Енеџеварско Блато, други, Солунското Езеро, трети само Големата Вода. А месното население, својот атар го делеа на: Големо Блато, Мало Блато и знаменитите реки Бистрица и Кара Азмак» [25].

Такім чынам, менавіта славяне, што прыйшлі на Балканы і аселі ў іх цэнтральнай частцы, і былі стваральнікамі моўных балканізмаў, якія распаўсюдзіліся на суседнія тэрыторыі, і тым самым сфарміравалі арэальнатыпалагічную супольнасць вядомую як балканскі моўны саюз (БМС). Гэта выснова карэнным чынам пярэчыць даволі распаўсюджаным тэорыям пра ролю так званых вядучых моў у развіцці БМС, сярод якіх ужо называліся грэчаская, албанская, румынская, арумынская і інш. Аднак усе гэтыя тэорыі разбіваліся пры сутыкненні з рэальнымі фактамі, у святле якіх стала відавочна, што найбольшай ступенню балканістычнасці характарызуюцца македонская і балгарская мовы, а ў меншай ступені славянскія гаворкі паўночнай і паўднёвай Сербіі, Косава, а таксама часткі Чарнагорыі, г. зн. цэнтральная зона балканаславянскага моўнага арэала. Таму мы лічым неабходным пагадзіцца з меркаваннем М. Паўлавіча, выказаным на Маскоўскім з’ездзе славістаў у 1958 г.: «Словенска језичка зона треба да буде главна основа балканистичких језичких испитувања» [26].

Спробы картаграфавання некаторых балканізмаў на ўсім працягу дыялектнага ландшафту БМС прывялі да цікавых назіранняў: ізаглосы распаўсюджання гэтых з’яў часцей за ўсё не «стыкуюцца» па абодва бакі моўнай мяжы, што сведчыць пра аўтаномны характар балканізацыі ў розных мовах і супрацьпастаўляе балканаславянскі моўны арэал астатнім часткам БМС. Такая «стыкоўка» павінна была б назірацца, калі б цэнтры ірадыяцыі балканізмаў лакалізаваліся на тэрыторыі іншых балканскіх моў [27].

Аднак можа з’явіцца пытанне: ці маглі інавацыйныя з’явы, што захапілі поўдзень і ўсход Балкан, сцерці ўсе сляды былой моўнай разнастайнасці міграцыйных плыняў першаснай славянскай міграцыі, якая літаральна затапіла ўсю названую тэрыторыю? Адносна падобнага працэсу, звязанага з міграцыяй гістарычнага племені Харватаў на заходнеславянскія тэрыторыі, А. Трубачоў заўважае: «Першапачатковыя лінгвістычные рысы нівеліраваліся ў мясцовым славянскім акружэнні, так што на Захадзе славянства, акрамя імя харватаў, практычна нічога не засталося» [28]. У іншай сваёй працы ён аперыруе аналогіяй з засяленнем Сібіры ўсходнімі славянамі, дзе назіраюцца такія ж вынікі. У нас ёсць і больш блізкі прыклад з засяленнем змешаным кантынгентам так званых вернутых зямель у Польшчы, дзе ўжо ў другім пакаленні перасяленцаў застаецца вельмі мала слядоў былой моўнай разнастайнасці. Найбольшую стабільнасць дэманструюць перанесеныя на новыя землі гідронімы і тапонімы ў сувязі з іх прывязанасцю да пэўных геаграфічных аб’ектаў. Пра наяўнасць значнага пласта балканаславянска-ўсходнеславянскіх гідранімічных і тапанімічных адпаведнікаў піша ўкраінскі аўтар А. Іліадзі, які лічыць, што «корпус онімів консервуе лексику, втрачену в апелятивному словнику» [29]. Аднак найбольш важным паказчыкам старажытных сувязяў, на яго думку, застаецца адлюстраванне ў гэтых назвах старой дыялектнай фанетыкі, і асабліва білабіяльнае вымаўленне пачатковага (і не толькі пачатковага) **v-* «як артікуляційну особливість деяких слов’янських племен Балкан» [30]. Прычыну перадачы **v-* праз грэчаскае Οὐ ён бачыць у спецыфіцы лакальнага вымаўлення гэтага гука як білабіяльнага, а не лабіядэнтальнага, у выніку чага рэалізацыя **vь-* > *u-* можа адбыцца толькі пры такой артыкуляцыі. У сувязі з гэтым становіцца больш яснай і выяўленая намі рэдкая беларуска-македонская ізаглоса: бел. *цуць* ‘цвісці’ (*бульба ўжо цула п, кап ні змершы была*; [31]) і макед. *цуӣи* ‘цвісці, квітнець’ (*нека цуӣи и нека се развива*; [32]). Адносна македонскага слова Б. Конескі пісаў наступнае: «Скудните податоци, што си добиваме од средновековните текстови, ни даваат само многу ограничена можност за посматрање на дијалектните разлики што во тоа време се зараѓале. Варијанти *цуӣи* (западно наречје): *цăвӣи, цавӣи* (источно наречје) нè водат уште во времето на губењето на еровите. Разликата се објаснува со тоа што во западната област *в* уште било билабиајлен глас, додека во источната област тоа веќе преминало во лабио-дентален глас, каков што е и во современнот мак. јазик» [33]). Ён адносіць гэту з’яву да X ст. Сярод вельмі рэдкіх лексічных паралелей адзначым салунскае *vr’ätin* ‘мера паверхні зямлі’, зафіксаванае М. Малэцкім [34], і бел. *вéрацень* ‘загон, гоні’ (вядомае пераважна на захадзе і ў цэнтры Беларусі), захаванае, відаць, таксама дзякуючы «прывязанасці» да зямлі. Пра гэтую паралель раней пісаў ужо К. Машынскі, параўноўваючы яе з ст.-інд. *vartanna* ‘мера адлегласці на спаборніцтвах калясніц’ пры санскр. *vartana*- ‘абарот’ [35]. Намі былі адзначаны і некаторыя іншыя беларуска-македонскія паралелі, якія патрабуюць грунтоўнага абмеркавання [36].

Мяркуем, што такія сепаратныя (эксклюзіўныя) ізаглосы знойдуць сваё месца ў будучым этымалагічным слоўніку македонскай мовы, дзе будуць разглядацца і іншыя старажытныя ізаглосы, якія звязваюць македонскую мову з усімі славянскімі мовамі на праславянскім узроўні, і спецыяльныя так званыя праславянскія дыялектызмы, якія сведчаць пра бліжэйшыя адносіны паміж нашымі моўнымі продкамі, мажліва, яшчэ ў межах агульнай прарадзімы.

## Літаратура

1. Birnbaum, H. Balkanslavisch und Südslavisch, zur Reichweite der Balkanizmen in südslavischen Sprachraum / H. Birnbaum // Zeitschrift für Balkanologie. – 1965. – Bd. 3. – S. 12–63.

2. Цыхун, Г. Балканаславянскі моўны тып: дакл. на XIV Міжнар. з'ездзе славістаў / Г. Цыхун. – Мінск, 2008. – С. 17.

3. Нидерле, Л. Славянские древности / Л. Нидерле. – М., 2000. – С. 30.

4. Нидерле, Л. Славянские древности. – С. 60.

5. Сребранов, Р. Българско-полски топонимни паралели в общославянски контекст и в светлинита на лингвистичната география / Р. Сребранов // Onomastica. – Kraków, 2007. – Roczn. LII. – S. 54.

6. Витчак, К. Т. Из проблематики древних славянских племен. 1. Этноним *Fresiti* у Баварского географа и его локализация / К. Т. Витчак // Этимология. 1988–1990. – М., 1992. – С. 32.

7. Сербаў, І. А. Вічынскія паляне: матэрыяльная культура. Этнаграфічны нарыс Беларускага Палесся / І. А. Сербаў. – Мінск, 2005. – С. 44.

8. Попович, М. В. Мировоззрение древних славян / М. В. Попович. – Киев, 1985. – С. 30.

9. Іліаді, О. І. Слов'янські мовні релікти в топонімії Балкан / О. І. Іліаді. – Київ; Кіровоград, 2008. – С. 61.

10. Георгиев, В. И. Вокалната система в развоя на славянските езици / В. И. Георгиев. – София, 1964. – С. 83.

11. Loma, A. Serbisches und kroatisches Sprachengut bei Konstantin Porphyrogennetos / A. Loma // Зборник радова Византолошког института. – Београд, 1999–2000. – Књ. 38. – С. 147.

12. Malingoudis, Ph. Studien zu den slavischen Orstnamen Griechenlands, 1. Slavische Flurnamen aus der messenische Mani / Ph. Malingoudis. – Wiesbaden, 1981. – S. 150.

13. Голомб, З. Јазикот на првите Словени во Грција и историјата на македонскиот јазик (Неколку белешки во врска со работите на Fasmer и Malingoudis) / З. Голомб // Македонски јазик. – Год. XL–XLI. 1989–1990. – Скопје, 1995. – С. 126.

14. Іліаді, О. І. Слов'янські мовні релікти в топонімії Балкан. – С. 134.

15. Мейер, А. Описание Кричевского графства 1786 года / А. Мейер // З гісторыка-археалагічнай спадчыны: Выбр. тв. / Е. Р. Раманаў. – Магілёў, 2006. – С. 119.

16. Аникин, А. Е. Опыт словаря лексических балтизмов в русском языке / А. Е. Аникин. – Новосибирск, 2005. – С. 13.

17. Супрун, В. За смугою часу: даследаванні і меркаванні / В. Супрун. – Мінск, 1994. – С. 48.

18. Цыхун, Г. Балканаславянскі моўны тып. – С. 4.

19. Корш, Ф. Е. Мысли о происхождении новогреческого языка / Ф. Е. Корш. – Одесса, 1896. – С. 11.

20. Грицкат, И. Студије из историје српскохрватског језика / И. Грицкат. – Београд, 1975. – С. 41.

21. Цыхун, Г. А. Типологические проблемы балканославянского языкового ареала / Г. А. Цыхун. – Минск, 1981. – С. 16.

22. Šivic-Dular, A. Odsev etnogeneze v jeziku slovenskega prostora (v času od 6. do 12 stol.) / A. Šivic-Dular // Migrationen und Ethnogeneze in pannonischen Raum bis zum Ende des 12. Jahrhunderts. – Graz, 1996. – S. 137–153.

23. Нидерле, Л. Славянские древности. – С. 54.

24. Зайковский, В. Этимология, этнолингвистика и языковые контакты славянских с греческим, другими балканскими и тюркскими языками / В. Зайковский // Словенска етимологија данас. – Београд, 2007. – С. 174.

25. Мисиркова-Руменова, К. Записи за Пела / К. Мисиркова-Руменова. – Скопје, 2003. – С. 15.

26. Павловић, М. Перспективе и зоне балканистичких језичних процесса / М. Павловић // Јужнословенски филолог. – Београд, 1958. – Књ. XXII. – С. 209.

27. Цыхун, Г. А. Балканский лингвистический атлас (БЛА): цели и задачи / Г. А. Цыхун // Актуальные вопросы балканского языкознания. – СПб., 2003. – С. 44–49.

28. Трубачёв, О. Н. Из славяно-иранских лексических отношений / О. Н. Трубачёв // Этимология. 1965. – М., 1967. – С. 31–32.

29. Іліаді, О. І. Слов'янські мовні релікти в топонімії Балкан. – С. 137.

30. Іліаді, О. І. Слов'янські мовні релікти в топонімії Балкан. – С. 14.

31. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. – Мінск, 1986. – Т. 5. – С. 367.

32. Речник на македонскиот јазик со српскохрватски толкувања. – Скопје, 1966. – Т. III. – С. 527.

33. Конески, Б. Историја на македонскиот јазик. Поправено и дополнето издание / Б. Конески. – Скопје, 1981. – С. 13.

34. Małecki, M. Dwie gwary macedońskie (Suche i Wysoka w Sołuńskiem) / M. Małecki. – Kraków, 1936. – Cz. II: Słownik. – S. 128.

35. Moszyński, K. Kultura ludowa Słowian / K. Moszyński. – Warszawa, 1967. – T. II: Kultura duchowa. – Cz. I. – S. 126.

36. Цыхун, Г. Беларусь у міжславянскіх сувязях (гістарычна-моўная праблематыка) / Г. Цыхун // Pavol Jozef Šafárik a slavistika. – Prešov; Martin, 1996. – S. 279–284.

## Summary

The article investigates the history of research and current problems of Macedonian ethno- and glottogenesis on the Balkan (but predominantly Balcan-Slavic) ethnolinguistic background. On the basis of etymological and historiographical analysis of toponyms and ethnic names, separate (exclusive) Macedonian-Belarusian parallels, and other new and earlier discussed linguistic facts, conclusions about the time and directions of Slavonization of Balkans, forming of the so-called Balkan linguistic type are made.

*Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*10.10.2010 г.*

*УДК 811.161.3’282’374.4*

*М. П. АНТРОПАЎ*

# ПРАСЛАВЯНСКАЯ ДЫЯЛЕКТНАСЦЬ ПА МАТЭРЫЯЛАХ «ЭТЫМАЛАГІЧНАГА СЛОЎНІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ»

Як вядома, этымалагічны слоўнік любой славянскай мовы акумулюе ў сабе ўсе раней выказаныя меркаванні (ці іх большасць) адносна паходжання той ці іншай лексемы і, такім чынам, з’яўляецца своеасаблівым помнікам навуковай думкі асобных перыядаў развіцця славянскай этымалогіі. Таму на прыкладзе шматтомных выданняў, што рыхтаваліся на працягу значнага часу (а работа над многімі яшчэ працягваецца), можна, апрача ўсяго іншага – і, безумоўна, галоўнага – прасачыць эвалюцыю даследчыцкіх поглядаў асобных аўтараў, прычым датычных не толькі асобных назваў, але груп намінацый, якія магчыма вылучыць па аднолькавых параметрах, у прыватнасці, праз слоўнікавыя паметы, якія ў максімальна сціслай форме ўтрымліваюць неабходныя для аналітычнага абагульнення звесткі. Больш за тое, у гэтым выпадку гаворку трэба весці пра адлюстраванне ў слоўніку развіцця навуковых кірункаў рознага маштабу і суадноснай вагі. Да падобных можа быць аднесена выключна важная праблема дыялектнага чляпення праславянскай мовы, якое выяўляецца паводле фактаграфіі этымалагічнага слоўніка.

Бясспрэчна, што пры наяўнасці падстаў, якія робяць магчымым аднясенне той ці іншай лексемы да праславянскага стану і фактычна абавязковай рэканструкцыі праформы ці хаця б яе асновы, кваліфікацыя праславянскай дыялектнай прыналежнасці гэтай праформы абавязковай усё ж такі не з’яўляецца – па сутнасці, гэта звышзадача асобнага артыкула этымалагічнага слоўніка. Тым не менш у большасці этымалагічных слоўнікаў славянскіх моў, асабліва тамоў, якія былі надрукаваны ў апошнія два дзесяцігоддзі, назіраецца выразная тэндэнцыя да вызначэння дыялектнай прыналежнасці этымалагізуемай лексікі ў межах праславянскага этнамоўнага абшару. Не з’яўляецца тут выключэннем і «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» (ЭСБМ), 12 тамоў якога пабачылі свет за 30-гадовы перыяд (1978–2008 гг.).

У сувязі з даволі вялікай колькасцю вылучанага матэрыялу для артыкула ў якасці асноўнай выбаркі беларускіх найменняў, якія далей узводзяцца ў гэтым слоўніку да праславянскіх лексічных дыялектызмаў, былі абраны 1, 6 і 12-ы тамы (1978, 1990 і 2008 гг.). Часткова выкарыстаны матэрыял новага 13-га тома (2010 г.). Варта нагадаць, што 1-ы том рыхтаваўся беларускімі этымолагамі старэйшага пакалення (Рэйнгольд Краўчук, Віктар Мартынаў,

Адам Супрун і Генадзь Цыхун – аўтар і цяперашні галоўны рэдактар слоўніка), 6-ы том належыць аднаму аўтару – Івану Лучыцу-Федарцу, 12-ы – Генадзю Цыхуну і Раісе Малько, 13-ы – калектыву аўтараў, але больш за палову яго артыкулаў альбо напісаны Г. Цыхуном асабіста, альбо ім жа ў суаўтарстве.

Праведзеная эксцэрпцыя паказала перш-наперш, што колькасць асобных лексем, якія наўпрост ці апасродкавана аўтары лічаць (ці, зважаючы на прыцягненную фактаграфію, маглі б лічыць) дыялектнымі праславянскімі, у 1-м томе склала прыблізна 10 найменняў, у 6-м – каля 60, у 12-м – крыху болей за 30. Хоць гэтыя падлікі не маюць нейкай асаблівай эўрыстычнай каштоўнасці, яны, як падаецца, сведчаць, па-першае, аб тэндынцыі, пра якую гаварылася вышэй, а па-другое паказваюць (у пэўнай ступені, зразумела) пазіцыю, стаўленне да праблемы праславянскага дыялектнага слова асобных аўтараў. Дарэчы, тут да месца прывесці не менш цікавыя даныя па 3-м томе на літары Г, Д, Е/Ё (56 артыкулаў, з іх 8 адсылачных), Ж, З, у якім намі вылучана больш за сотню беларускіх найменняў, прамых ці ўскосных кантынуантаў праславянскіх дыялектызмаў, – лічба, якая не здзіўляе, калі мець на ўвазе, што аўтарам артыкулаў на Г, Д быў дасведчаны і ў тыя часы (том выйшаў у 1985 г.) вядомы спецыяліст у галіне праславянскага слоўтварэння Рэйнгольд Краўчук, а на Ж і З – буйны славіст Адам Супрун*.

Звычайным у ЭСБМ спосабам увядзення ў тэкст артыкула праславянскага дыялектызма з'яўляецца прамое ўказанне тыпу памет «прасл. дыял.», «дыял. прасл.», «прасл. дыялектызм» (іншы раз «дыял.» з пытальнікам як у *тваро́г*, 13-ы т.), зрэдку, звычайна ў першых тамах «слав. дыял.» (1-ы т., *брыка́ць*; укр., рус. і польск. паралелі) з шэрагам варыянтаў самага рознага напаўнення, у прыватнасці з часавай прыкметай, параўн., напрыклад, такія пашыраныя, як «лексічны дыялектызм познепраславянскай эпохі» (11-ы т., *рарог*), а таксама:

«прасл. дыялектная інавацыя» (1-ы т., *бле́дны*; укр., рус. і балг. адпаведнікі);

«арэальная праславянская інавацыя» (13-ы т., *то́чка*$_1$ 'мядзведка [насякомае]'; каш., палаб., славац. дыял.);

«познепраславянскі дыялектызм» (12-ы т., *се́сла* 'матня ў штаноў'; серб.-харв.** чарнагор. паралель);

«[гэта] дазваляе лічыць названыя формы агульнымі для ўходнеславянскіх і паўднёваславянскіх дыялектаў інавацыямі познепраславянскага перыяду» (13-ы т., *тады́шні*; серб.-харв. і славен. адпаведнікі).

---

* Тут не залішне нагадаць, што ў калектыўнай манаграфіі «Славянские языки» (апублікавана ў 2005; але большасць артыкулаў напісана па меншай меры за дзесяцігоддзе да выхаду кнігі) менавіта Адам Супрун падрыхтаваў (у суаўтарстве з Сяргеем Скорвідам) уступную главу, дзе разам з іншымі разглядаюцца пытанні дыялектнага члянення праславянскай мовы, гл. [1].

** Тут і далей пры вызначэнні сербскахарвацкай мовы (а не асобных сербскай і/ці харвацкай моў) маецца на ўвазе прынятае ў навуковай лінгвістычнай літаратуры, у прыватнасці этымалагічных слоўніках славянскіх моў, прытрымліванне былой традыцыі.

Спачатку параўнальна рэдка, але ад тома да тома ўсё часцей, сустракаецца ўжо непасрэдная тэрытарыяльная прывязка мяркуемага дыялектызма праславянскага часу, найчасцей «паўн.-слав.» («паўночнаславянскае/паўночна-праславянскае»), але, зразумела, не толькі, накшталт:

«наколькі вядома, слова выключна паўночнаславянскае» (1-ы т., *абрузáць* ‘пухнуць, азызнуць’ з рускімі адпаведнікамі);

«[праславянская рэканструкцыя] **berezъka* (усх.-слав.)» (1-ы т., *бярóзка*; укр., рус.);

«дыял. прасл. (усх.-слав.)» (12-ы т., *снíтка* ‘расліна’; укр., рус.);

«да прасл. дыял. (усходняга)» (13-ы т., *тавáр* ‘свойская рагатая жывёла; статак і пад.’; укр., рус.);

«прасл. (паўночнае)» (13-ы т., *травíць* ‘рабіць патраву’; укр., рус., польск.);

«паўднёва-славянскае праславянскае дыялектнае ўтварэнне» (13-ы т., *трап*$_1$ ‘сцежка, дарога, кірунак; крок’; рус., серб., харв. кайк., балг., макед., ст.-слав.);

і яшчэ больш дэталізавана:

«перыферыйны праславянскі (палабска-кашубска-палескі) архаізм» (13-ы т., *тóчка*$_1$ ‘мядзведка [насякомае]’; каш., палаб., славац. дыял.).

Пры гэтым фактычна адзіным крытэрыем дыялектнай праславянскасці ў ЭСБМ з’яўляецца наяўнасць/адсутнасць кантынуантаў праславянскай лексемы ў адным з традыцыйных моўных кангламератаў: усходне-, заходне-, паўднёва- і паўночнаславянскім, параўн. у гэтым кантэксце прамую заўвагу ў артыкуле *борць* (1-ы т., «прасл. (дыял., бо няма ў паўдн. славян)».

Калі абагуліць увесь вылучаны толькі ў гэтым кірунку матэрыял ЭСБМ, то дыялектны малюнак праславянскай мовы па яго даных акажацца добра знаёмым: гэта перш за ўсё паўночна(пра)славянскі дыялектны кангламерат, далей – у значна меншай ступені – усходнеславянска-паўднёваславянскі і, нарэшце, уласна ўсходне(пра)славянскі. Такім чынам, дыялектная структура праславянскай паўстае ў ЭСБМ у межах традыцыі, якая ўзыходзіць да этымалагічнай класікі, менавіта прац Тадэвуша Лер-Сплавінскага, Яна Чаканоўскага, Здзіслава Шцібера, Самуіла Бярнштэйна, артыкулаў і манаграфій Алега Трубачова канца 50-х – пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя і шэрагу інш. Тут важна адзначыць, што, як правіла, адсылка ў артыкулах ЭСБМ да дыялектнага праславянізма грунтуецца на раней выказаных меркаваннях, прычым, як таго і трэба чакаць, кола крыніц ад тома да тома пастаянна павялічваецца, а аргументацыя пашыраецца і дэталізуецца. Разам з тым ужо ў 1-м томе адзначаны ўласныя (аўтарскія) рэканструкцыі такіх праславянізмаў – зразумела, адзінкавыя, параўн., напрыклад **bъgati*, да якога бел. *багаць* ‘гнуць, мяць, камячыць’*.

* Такую ж рэканструкцыю прыводзіць А. Трубачоў у [2], але трэба ўлічыць, што 1-ы т. ЭСБМ (Мінск, 1978) быў здадзены ў друк у пачатку ліпеня 1976 г., а падрыхтаваны значна раней, і адпаведныя матэрыялы ЭССЯ аўтар артыкула ў ЭСБМ Р. Краўчук улічыць не мог.

Апрача памет, аб якіх ішла гаворка вышэй, у беларускім этымалагічным слоўніку для тэрытарыяльнай прывязкі таго ці іншага наймення выкарыстоўваюцца таксама рэсурсы апасродкаванага характару з прасторавымі дыягностарамі кшталту «арэальнае», «рэгіянальнае» і «беларуска-[іншаславянская] ізалекса». Лексемы, вылучаныя па гэтых крытэрыях, могуць мець магчымыя праславянскія дыялектныя апеляцыі (напрыклад, *ло́маць* ‘адламаны кавалак; луста хлеба’ ў 6-м т.), але, натуральна, далёка не ва ўсіх выпадках. Як правіла, яны далей не абмяркоўваюцца, што цалкам зразумела, улічваючы змястоўную і стылістычную традыцыі артыкула ў этымалагічным слоўніку.

Паметы «арэальнае» і «рэгіянальнае» найбольш часта ў параўнанні з іншымі славянскімі этымалагічнымі слоўнікамі ўжываюцца, як падаецца, якраз у ЭСБМ, а што тычыцца дэфініцыі «беларуска-іншаславянская ізалекса», то гэта своеасаблівая інавацыя беларускага слоўніка, за якім трэба прызнаць прыярытэт у яго выкарыстанні. Безумоўна, традыцыя вызначэння этымалагічных сувязей беларускай лексікі з адпаведнай лексікай іншых моў узыходзіць да серыі акадэмічных канферэнцый 1969–1975 гадоў з «гаворачымі» назвамі (1969 – Лексічныя балтызмы ў беларускай мове; 1971 – Беларуска-ўкраінскія ізалексы; 1973 – Беларуска-рускія ізалексы; 1975 – Беларуска-польскія ізалексы), на якіх у заяўленых кірунках абмякоўваліся пытанні этымолага-лінгвагеаграфічнага статусу даволі значнай колькасці беларускіх найменняў.

Толькі ў чатырох тамах ЭСБМ (1, 6, 12 і 13-м) намі вылучана пэўная колькасць лексем з такімі паметамі, параўн. некаторыя:

«бел.-рус. (рус.-бел.) ізалекса», але і больш абмежаваныя: «бел.-паўн.-рус. ізалекса» (6-ы т., *ляжа́нец* ‘абложная зямля’ з рус. арханг., наўг. адпаведнікамі), «паўн.-бел.-рус. ізалекса» (6-ы т., *мальчо́нак* ‘хлапчына’), «бел.-паўд.-рус. ізалекса» (6-ы т., *мана́* ‘прыемны пах’; рус. тамб., калуж.);

«бел.-укр. ізалекса» і яе тэрытарыяльныя варыянты: «бел.-зах.-укр. ізалекса» (6-ы т., *ма́лезны* ‘вельмі малы’), «паўд.-бел.-укр. ізалекса» (6-ы т., *мачы́на* ‘зерне маку; каліва, маласць’);

«бел.-польск. ізалекса» (6-ы т., *льжэць* ‘лягчэць (аб хваробе, марозе)’; польск. літар., паморск.);

«бел.-паўд.-слав. ізалекса» (6-ы т., *марка́ль* ‘баран-вытворнік’; серб.-харв., балг.*);

«бел.-балг. ізалекса» (12-ы т., *скрэ́нда* ‘жмінда’) і больш пашыраныя вызначэнні: «старая ўсх.-слав.-балг. ізалекса» (1-ы т., *адзе́жа*; ст.-слав.), «бел.-балг.-макед. паралель» (1-ы т., *абуме́рлы* ‘сумны, прыгнечаны’);

---

* Цікава, што ў ЭССЯ праславянская праформа адсутнічае, але ёсць **mъrkačь* (**mьrkačь*?) з адпаведным кантынуантам бел. дыял. *марка́ч* [3]; апошняе найменне ў якасці загаловачнага слова мае ў ЭСБМ асобны артыкул [4] і з праславянскай рэканструкцыяй **mьrkačь* паводле А. Трубачова (зразумела, не з ЭССЯ, а з [5]), аднак не як «бел.-паўд.-слав. ізалекса», хаця падставы для гэтага былі роўна тыя ж самыя).

«бел.-серб.-харв. ізалекса» (1-ы т., *ато́ка* ‘востраў’; серб.-харв., але таксама балг.);

«бел.-серб. ізалекса» (з пытальнікам; 1-ы т., *алю́дзець* ‘вырасці, зрабіцца больш развітым’; серб.-харв.);

«бел.-серб. ізалекса» (13-ы т., *тра́нты* ‘лахманы; хлам і пад.’ з укр. дыял., серб.-харв. дыял. паралелямі; наяўнасць укр. формаў, відаць, пашырае арэал да ўсходнеславянскага);

і пашыраныя:

«паўд.-усх. ізалекса» (13-ы т., *су́прадкі* ‘вячоркі, на якіх прадуць’; укр., серб.-харв.);

«усх.-слав.-серб.-харв. ізалекса» (13-ы т., *суто́нне* ‘паўзмрок паміж заходам сонца і надыходам ночы, а таксама перад світаннем’; рус. дыял., серб.-харв.).

Да вызначаных такім чынам беларуска-іншаславянскіх ізалекс/паралелей прымыкае немалая колькасць фактычна аналагічных, але без канкрэтнага ўказання на іх характар. Вось некалькі прыкладаў:

безумоўна, была магчымасць вызначэння бел.-серб.-харв. ізалексы для *бо́рзды* ‘быстры, спрытны’ (1-ы т.), тым больш, што яе статус як праславянскага дыялектызма раней быў ужо паказаны А. Трубачовым – сярод 67 беларускіх найменняў, для якіх прапаноўвалася праславянскае дыялектнае паходжанне [6];

такога ж кшталту шэраг фактычна вызначаных, але не дэфінаваных бел.-паўд.-слав. ізалекс у 13-м т.:

бел.-паўд.-слав.: 1) *сужэ́нства* ‘праўная сувязь мужа і жонкі, шлюб’ (серб.-харв., славен., балг. адпаведнікі); 2) *су́карак* ‘сукрутак, завіток, кучаравінка’ (серб. дыял., балг. дыял.); 3) *сухабра́зы* ‘хто выглядае худым, сухім з твару’ (для другой часткі кампазіта, які, бясспрэчна, са сцягнутага **суха-абра́зы* пры славен. *obraz* ‘твар’, серб.-харв. *ȍбраз* ‘шчака’, балг. *образ* ‘твар, шчака’, макед. *образ* ‘шчака, твар’); 4) *сце́клы* ‘шалёны’ (харв. *stékel* ‘шалёны, люты, ачмурэлы’, славен. *stékel* ‘шалёны (пра сабаку)’, макед. дыял. *стекает се* ‘злавацца, шалець’); 5) *тайба́* ‘трыманне ў тайне, тайна’, ‘утойванне, хаванне’ (пры прамым славен. дыял. (белакраньскім) адпаведніку *tâjba*, а таксама ўскоснымі ст.-слав. **таибьна** ‘тайна’, **таибьно** ‘таямнічы, таемны’, **таибьникъ** ‘асоба, якая валодае тайнай, жрэц, святар’, стараж.-рус. *таиба* ‘тайна’);

бел.-серб.-харв.: *су́плаў* ‘дрыгва’ (серб.-харв. дыял. *суплав* ‘тое, што нанесена вадой’);

бел.-балг.: *супру́г* (у словаспалучэнні *супруг валоў*) ‘пара спрэжаных валоў’, параўн. балг. дыял. *съпу́рзи* ‘пара спрэжаных коней або валоў’, ст.-слав. **сѫпрѧгъ** ‘запрэжка’;

бел.-рус.-славен.: *су́песак* ‘зямля з прымессю пяску’ (рус. *су́песь* ‘пясчаная глеба’, славен. *sopések* ‘вапністая гліна’).

Аб магчымасці неадназначнага асэнсавання вектарнага напрамку ізалексы яскрава сведчыць артыкул *тра́п’е* ў 13-м т.: *рыба залезе ў гэты закобэнь*

[закутак], *у гэтэ трап’е*. Мяркуючы па гэтым кантэксце, які прыводзіцца ў «Тураўскім слоўніку», вызначанае для *тра́п’е* там жа значэнне ‘рыззё, лахманы’ відавочна недакладнае. Калі ўлічыць фармальна аналагічнае (і этымалагічна ізаляванае) каш. *tr̆ap* з базавай семантыкай ‘гразь на дарогах; снег з дажджом’ (параўн. [7]), то трэба гаварыць пра сепаратную беларуска-кашубскую ізалексу, якая ізаляванасць кашубскага наймення здымае. Але аўтар артыкула Генадзь Цыхун слушна прапануе сувязь таксама з адпаведнымі паўднёваславянскімі словамі, параўн. балг. дыял. *трапйе* ‘роў, упадзіна’, тапонім *Трапьето*, макед. дыял. *трапје* ‘карытападобныя формы на зямлі’, якія да балг., макед. *трап* ‘яма, роў’, серб.-харв. *тра̏п* ‘яма для захоўвання гародніны зімой’, славен. *trap* ‘яма’. Паўднёваславянскія формы Любоў Куркіна [8] лічыць выключна паўднёваславянскімі дыялектызмамі і ўзводзіць (другое найменне з пытальнікам) да прасл. **trapъ/*torpъ*. Прыняцце сувязі беларускай лексемы з праславянскімі выводзіць з ізаляцыі ўжо цэнтральнапалескі дыялектызм, што стварае падмурак для вызначэння яшчэ адной беларуска-паўднёваславянскай ізалексы.

Адлюстраванасць у ЭСБМ беларуска-іншаславянскіх ізалекс такога кшталту, нярэдка сепаратных, з усёй відавочнасцю пацвярджае цяпер ужо фактычна агульнапрынятую думку аб надзвычайнай стракатасці, мазаічнасці ўнутрыславянскіх ізаглос, а ў іх складзе ізалекс, якія з’яўляюцца моўнымі сведкамі разгорнутых ў прасторы-часе былых дыялектных станаў праславянскай мовы, аб чым так доказна пісаў Алег Трубачоў у артыкуле, прысвечаным славянскім этнонімам [9]*.

Не ў меншай ступені цікавымі, а ў плане карцiравання і ўсведамлення праславянскага дыялектнага абшару паказальнымі з’яўляюцца праславянскія рэканструкцыі беларускіх «унікалізмаў», у прыватнасці, *віжо́к* ‘частка сахі’ і *вя́тка* ‘натоўп, гурт людзей’ ў 2-м т., *кляха́ты* ‘з тоўстымі, шырокімі бёдрамі’ ў 5-м, *рух* ‘перамяшчэнне’ ў 11-м, *сядзі́ба* ‘жылыя і гаспадарчыя пабудовы разам з садам, агародам’ у 13-м і г. д., што больш падрабязна можа быць разгледжана ў спецыяльнай публікацыі.

## Літаратура

1. Супрун, А. Е. Славянские языки / А. Е. Супрун, С. С. Скорвид // Языки мира: Славянские языки / РАН, Ин-т языкознания; редкол.: А. М. Молдован [и др.]. – М., 2005. – С. 15, 17–19.

2. Этимологический словарь славянских языков. Праславянский лексический фонд. – М., 1976. – Вып. 3. – С. 115.

3. Этимологический словарь славянских языков. Праславянский лексический фонд. – М., 1994. – Вып. 20. – С. 242.

4. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 1978. – Т. 6. – С. 230.

* Яшчэ раней фактычна аб тым жа нагадваў Ф. Філін [10], а праз трыццаць год Л. Куркіна ўжо ўпэўнена называе першую главу ўзгаданай вышэй манаграфіі «Лексические изоглоссы как один из критериев диалектного членения праславянского языка» [11].

5. Трубачев, О. Н. О составе праславянского словаря (проблемы и задачи) / О. Н. Трубачев // Труды по этимологии: Слово. История. Культура / О. Н. Трубачев. – М., 2004. – Т. 1. – С. 282 (першая публікацыя – 1963 г.).
6. Трубачев, О. Н. О составе праславянского словаря (проблемы и задачи). – С. 278.
7. Boryś, W. Słownik etymologiczny kaszubszczyzny / W. Boryś, H. Popowska-Taborska. – Warszawa, 2006. – T. V. – S. 176.
8. Куркина, Л. В. Диалектная структура праславянского языка по данным южнославянской лексики / Л. В. Куркина. – Ljubljana, 1992. – С. 31.
9. Трубачев, О. Н. Ранние славянские этнонимы – свидетели миграции славян / О. Н. Трубачев // Вопросы языкознания. – 1974. – № 6. – С. 66.
10. Филин, Ф. П. Образование языка восточных славян / Ф. П. Филин. – М.; Л., 1962. – С. 181, 217.
11. Куркина, Л. В. Диалектная структура праславянского языка по данным южнославянской лексики. – С. 26–51.

## Summary

On the basis of the material extracted from several volumes of the «Etymological dictionary of the Belarusian language» (EDBL) the complex of marks which categorize pre-Slavic dialect affiliation of several Belarusian nominations is analyzed. According to EDBL, the dialect structure of the pre-Slavic language reflects the traditional scientific views but the undoubted accomplishment of the Belarusian Etymological Dictionary is a characteristic use of the marks «areal», «regional» in respect of pre-Slavic dialect with continuants in Belarusian, and in particular – identification of a number of Belarusian-other Slavic languages pairs of lexemes as separate isolexes of the late pre-Slavic era.

*Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа*
*і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*1.11.2010 г.*

*УДК 808.26.316.4:9*

*В. К. МАРОЗ*

# ТЭРМІНАЛАГІЧНАЕ І ГІСТОРЫКА-ЛІНГВІСТЫЧНАЕ ВЫЗНАЧЭННЕ ЛІТАРАТУРНАЙ ФОРМЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ І ЯЕ НОРМАЎ У ДАЧЫНЕННІ ДА СТАРАЖЫТНАГА ПЕРЫЯДУ

У сваім гістарычным развіцці беларуская літаратурная мова прайшла два этапы – старой літаратурнай мовы (старабеларускай, ці старажытнай беларускай) і новай (сучаснай) беларускай літаратурнай мовы. Паводле паказчыкаў пісьмовых крыніц, да якіх залічваюцца найперш полацкія і смаленскія граматы XIII–XIV стст., ніжняя мяжа старажытнага перыяду суадносіцца з XIV ст. [1]. З улікам верхняй умоўнай мяжы, якая вызначаецца XVII–XVIII стст., агульны перыяд функцыянавання старажытнай беларускай літаратурнай мовы ахоплівае амаль пяць стагоддзяў.

На працягу XIV–XVI стст. у перыяд фарміравання беларускай народнасці ў Вялікім Княстве Літоўскім у якасці пісьмова-літаратурнай формы стала дамінаваць старажытная беларуская мова, якая дасягнула высокай ступені развіцця і дасканаласці. Увесь гэты перыяд характарызуецца насычэннем помнікаў пісьменства спецыфічна беларускімі асаблівасцямі ў такой меры, што «ёсць ужо ўсе падставы гаварыць аб беларускай літаратурна-пісьмовай мове, якая сваімі арфаграфічнымі, граматычнымі і лексічнымі рысамі істотна адрозніваецца ад усходнеславянскай («старажытнарускай») літаратурнай мовы» [2]. Першым арыентацыю беларускай пісьмова-літаратурнай традыцыі на жывыя народныя формы засведчыў Я. Ф. Карскі, сцвердзіўшы, што старое «заходнерускае» пісьменства афармілася тады, калі сталі выяўляцца асаблівасці жывой беларускай мовы [3]. Вучоны выпрацаваў самастойную канцэпцыю гісторыі старажытнай беларускай літаратурнай мовы, якая была прадоўжана ў працах беларускіх мовазнаўцаў [4]. Сёння ні ў кога не выклікае пярэчання, што ў Вялікім Княстве Літоўскім беларуская мова функцыянавала як пісьмова-літаратурная і выступала ў якасці наддыялектнага ўтварэння ў межах этнічнай тэрыторыі беларусаў [5]. Праведзены А. М. Булыкам падрабязны аналіз асноўных старабеларускіх пісьмовых крыніц розных жанраў у сінхронным супастаўленні з помнікамі на царкоўнаславянскай мове паказаў, што створаныя на беларускай мове ў канцы XV – пачатку XVI ст. помнікі пісьменства, нягледзячы на іх жанрава-стылёвую разнастайнасць, аб'ядноўваліся паміж сабой шэрагам графіка-арфаграфічных, граматычных і лексічных прыкмет, што сведчыць аб устойлівасці пісьмовых

традыцый і аб агульнасці тэндэнцый у развіцці старабеларускай пісьмова-літаратурнай мовы: «Паколькі ў беларускіх пісьмовых крыніцах XIV–XVIII стст., нягледзячы на некаторы разнабой, нормы перадачы слоў выкарыстоўваюцца даволі выразна, аб усёй сукупнасці гэтых норм можна гаварыць іменна як аб арфаграфічнай сістэме» [6]. Двухтомнае манаграфічнае даследаванне «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (1967–1968) абагульніла папярэдні вопыт вывучэння працэсаў фарміравання беларускай літаратурнай мовы, вызначыла адметны набор паказчыкаў у межах станаўлення жанрава-стылістычных разнавіднасцей мовы, паказала ўзаемаўплывы паміж пісьмова-літаратурнай і жывой народнай мовай, узаемадзеянне беларускай мовы з іншымі мовамі [7; 8]. Выхад на праблему сістэматызацыі адметных рыс беларускай літаратурнай мовы ў розныя перыяды яе развіцця, вызначэнне асноўных графіка-арфаграфічных, граматычных і лексічных адрозненняў паміж літаратурнай мовай старажытнага і сучаснага перыядаў было зроблена ў навуковым артыкуле А. І. Жураўскага і І. І. Крамко «Важнейшыя адрозненні паміж новай і старой беларускай літаратурнай мовай», што можна лічыць значным крокам у напрамку комплекснага вывучэння нарматыўных паказчыкаў беларускай літаратурнай мовы [9]. Характар знешніх узаемаадносін беларускай літаратурнай мовы з іншымі славянскімі мовамі ў пачатковы перыяд яе фарміравання быў разгледжаны ў дакладзе А. І. Жураўскага і І. І. Крамко на VII Міжнародным з’ездзе славістаў (1973) [10].

Па-ранейшаму захоўваюць сваю актульнасць пытанні перыядызацыі гісторыі беларускай мовы, характар яе літаратурнай і дыялектнай асновы, ступень развітасці стылістычных рэсурсаў [11]. Пры дастаткова поўнай распрацаванасці пытанняў гістарычнай лексікаграфіі, лексікалогіі, этымалогіі, фанетыкі, марфалогіі ў беларускай лінгвістыцы пытанне пра характар нарматыўнасці старажытнай беларускай літаратурнай мовы застаецца дыскусійным. Асэнсаванне нарматворчых працэсаў, комплекснае апісанне нормаў старажытнай беларускай мовы як спосабу афармлення яе літаратурнай формы не набыло ў беларускім мовазнаўстве адпаведнай глыбіні, а сама тэорыя літаратурнай нормы застаецца нераспрацаванай. У межах асобных мовазнаўчых даследаванняў рабіліся асобныя агульныя заўвагі наконт афармлення адметных рыс мовы старажытнага перыяду ў якасці *факультатыўнай* або *варыянтнай* нормы. Так, у манаграфіі А. М. Булыкі «Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы» (1970) было вызначана, што старабеларускі правапіс у асноўных сваіх рысах грунтаваўся на традыцыйным, этымалагічна-марфалагічным прынцыпе, а паводле фанетычнага прынцыпу выпрацоўваліся «толькі асобныя факультатыўныя нормы» [12]. Паводле А. І. Жураўскага і І. І. Крамко, досыць шырока ў старажытным пісьменстве адлюстравалася зацвярдзенне шыпячых і *р*, але і гэта з’ява «не выйшла за межы варыянтнай нормы». Такія ж паказальныя рысы фаналагічнай сістэмы беларускай мовы, як аканне і яканне, дзеканне і цеканне, падваенне зычных у інтэрвакальным становішчы, пераход *л* у *ў* у пэўных катэгорыях слоў адлюстроўваліся

толькі спарадычна ці ў выглядзе памылак і «ніколі не былі арфаграфічнай нормай» [13]. Неадлюстраванне ў старажытнай пісьмовай мове характэрных беларускіх фанетычных асаблівасцей абумоўлівалася архаічнасцю правапісу і ў пэўнай ступені кансерватыўнасцю кірылічнага пісьма, таму аканне, яканне, дзеканне, цеканне ніколі не разглядаліся ў якасці літаратурнай нормы беларускай мовы старажытнага перыяду. І толькі пераход *в* у *ў*, што назіраўся на пачатку слоў і ў прыназоўніках практычна ад XVI ст., у беларускім мовазнаўстве прызнаецца «правапіснай нормай» [14].

Агульнавядома, што арфаграфічныя нормы строга рэгулююць правільнасць пісьмовай мовы, з прычыны чаго замацоўваюцца ў выглядзе рэгламентаваных правіл пісьма. У асноўных сваіх рысах беларускі правапіс заставаўся традыцыйным, арыентаваным на этымалагічна-марфалагічны прынцып, які да канца XV – пачатку XVI ст. быў асноўным нягледзячы на пастаянны колькасны рост фанетычных напісанняў. Дастаткова непрыкметнымі заставаліся фанетычныя рысы арфаграфіі і ў помніках XV ст., да якіх адносяцца і летапісы І беларускага зводу – Акадэмічны, Нікіфараўскі, Слуцкі, Супрасльскі. Такім чынам, кніжная арфаграфія ў беларускіх помніках захоўвалася на працягу ўсяго старажытнага перыяду, у той час як напісанні, заснаваныя на фанетычным прынцыпе, займалі месца факультатыўных нормаў.

Што да граматычных формаў старажытнай беларускай літаратурнай мовы, то з улікам суіснавання ў ёй архаічных кніжнаславянскіх рыс і паступовага насычэння тэкстаў асаблівасцямі жывой беларускай мовы ў мовазнаўчых даследаваннях прызнаецца варыянтнае суіснаванне нарматыўных паказчыкаў. Тут перш за ўсё трэба адзначыць формы інфінітыва, нормай якога ў старажытнай мове з’яўляўся канчатак *-ти*. «Новыя формы на *-ть* ужо часта сустракаюцца ў «Евангеллі» В. Цяпінскага, вельмі пашыраны яны ў Літоўскім статуце 1588 г. і ў некаторых іншых помніках XVII ст.» [15].

Важныя аспекты праблематыкі функцыянавання старажытнай беларускай літаратурнай мовы знайшлі адлюстраванне ў манаграфіі беларускага мовазнаўцы У. В. Анічэнкі, прысвечанай старажытным беларуска-ўкраінскім моўным сувязям [16]. Але прыцягненне хай сабе і вычарпальнага спектра адметных беларускіх пісьмова-моўных асаблівасцей, якія адрознівалі абедзве мовы – беларускую і ўкраінскую, на жаль, не дае падстаў разглядаць іх як комплекс пісьмова-літаратурных нормаў старажытнай беларускай мовы, а толькі ўскосна можа засведчыць наяўнасць тых ці іншых тэндэнцый.

Разгляд функцыянальна-нарматыўнага аспекту паняццяў *старажытная беларуская літаратурная мова* і *сучасная беларуская літаратурная мова* схіляе большасць даследчыкаў да высноваў, што як па суаднесенасці іх грамадска-культурных функцый, так і з-за істотнай розніцы ўпарадкаванасці моўных нормаў, неаднолькавай строгасці іх кадыфікацыі, рознага ўзроўню развітасці стыляў абедзве гэтыя формы мовы адрозніваюцца паводле ўсіх асноўных узроўняў. Таму паняцце нормы ў сучасным яе разуменні як набору стандартных паказчыкаў з адзнакамі ўстойлівасці, камунікатыў-

най мэтазгоднасці, статыстычнага дамінавання нарматыўных моўных з'яў, арыентацыі на аўтарытэтнасць пісьмовых крыніц адносна старажытнай літаратурнай мовы прыменена быць не можа [17].

*Літаратурнасць мовы* агульнапрынята разглядаць з унутрымоўнага структурнага падыходу, паколькі літаратурная мова ўзорная і нармалізаваная, а нормы яе ўспрымаюцца як правільныя і абавязковыя, чым проціпастаўляюцца дыялектам і прастамоўю. У гэтым плане праблема нарматыўнасці старажытнай літаратурнай мовы, так як і сучаснай, павінна разглядацца ў межах паняццяў *літаратурная мова* і *літаратурная норма*, што звязана з наборам устойлівых паказчыкаў, якія забяспечваюць надзейнасць функцыянавання графічных, фанетычных, словаўтваральных, марфалагічных, сінтаксічных, фразеалагічных, лексічных і стылістычных прыёмаў пісьма і словазмянення. Пры гэтым неабходна мець на ўвазе, што на пачатковым этапе свайго станаўлення моўныя нормы характарызуюцца большай пранікальнасцю, суіснаваннем новага і старога, адборам нарматыўных элементаў пры менш строгім фармальным кантролі. Але і ў сучасны, і ў старажытны перыяд нормы на адных узроўнях мовы выступаюць як арфаграфічныя правілы, а на іншых – як граматычныя ўзоры ці моўна-стылістычныя прыёмы.

Паняцце *літаратурнай мовы* з'яўляецца катэгорыяй гістарычнай і паводле свайго зыходнага значэння арыентавана на мову кніжную, гэта значыць, унармаваную. Станаўленне ж нарматыўных рыс літаратурнай мовы непасрэдным чынам звязваецца з агульным працэсам фарміравання *мовы пісьмовай літаратуры*, у межах якой і адбываецца выпрацоўка, а затым і замацаванне праз варыянтнасць словаўжывання ўстойлівых паказчыкаў, арыентаваных на адпаведныя ўзоры пісьма. Агульнапрызнана, што літаратурная форма беларускай мовы складвалася паступова шляхам трансфармацыі старажытнарускай моўнай асновы праз насычэнне мясцовымі моўнымі рысамі і замену імі архаічных старажытнарускіх і царкоўнаславянскіх моўных рыс. Гэта дае падставу для вывучэння гісторыі літаратурнай мовы як гісторыі нормы.

Гістарычнае развіццё літаратурнай формы беларускай мовы адбывалася ў цеснай сувязі яе знешняй і ўнутранай гісторыі. Тое, што ў Вялікім Княстве Літоўскім з XIV ст. беларуская мова стала афіцыйна прызнаным сродкам агульнадзяржаўных грамадскіх адносін, спрыяла росквіту юрыдычнаправавога пісьменства і адначасова паўплывала на пашырэнне іншых жанравых формаў тагачаснай літаратуры. Таму паняцце *старажытнай беларускай літаратурнай мовы* звязваецца з поліфункцыянальным наборам сродкаў, якія праз разнастайныя пісьмовыя крыніцы пашыраліся на асноўныя сферы тагачаснага грамадскага жыцця. Але пры гэтым у беларускім пісьменстве старажытнага перыяду з прычыны яго шматколькаснасці і актыўнасці пашырэння літаратурнасць мовы не рэгулявалася ўзорнымі тэкстамі, хоць гэта не адмаўляе моцных традыцый, у адпаведнасці з якімі і ствараліся ўзоры беларускай літаратурнай мовы.

Адсутнасць у беларускім мовазнаўстве спецыяльных даследаванняў, дзе б адносна старажытнага перыяду літаратурнасць беларускай мовы разглядалася як тэарэтычная праблема на ўзроўні асноўных структурных адзінак мовы – гукаў, граматычных і словаўтваральных формаў, слоў і словазлучэнняў, сінтаксічных канструкцый – выклікае неадназначнасць падыходаў да праблемы. Так, наяўнасць сталых пісьмовых традыцый, разгалінаванай сістэмы стыляў старажытнага беларускага пісьменства дае права асобным даследчыкам гаварыць пра ўстойлівы характар нормаў тагачаснага пісьма і нават пра стыхійную іх кадыфікацыю [18]. А з другога боку, паколькі ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы змены выспявалі паступова, шляхам пераемнасці паміж старым і новым, дапускаецца сцвярджэнне, што працэс гэты адбываўся «пры адсутнасці строга вызначаных літаратурных нормаў» [19].

У адрозненне ад беларускай, спецыфіка рускай культурна-пісьмовай традыцыі шырока даследавана ў мовазнаўчай літаратуры [20; 21]. Адметнасць станаўлення літаратурнай формы мовы ў расійскай гісторыі вызначаецца тым, што на працягу XI–XVII стст. грамадскія патрэбы там абслугоўваліся дзвюма пісьмовымі формамі мовы, абедзве з якіх былі нармаваныя, пісьмова фіксаваныя, кадыфікаваныя, мелі свае кола тэкстаў. Мова справавога жанру была пісьмовай, нармаванай і з канца XIII – пачатку XIV ст. кадыфікаванай, а царкоўнаславянская была нармаванай, стылістычна дыферэнцыяванай, поліфункцыянальнай, кадыфікаванай, г. зн. адпаведнай усім патрабаванням, каб лічыць яе літаратурнай мовай у Расіі XI–XVII стст. Крыніцай кадыфікацыі нормаў кніжна-славянскага пісьма служылі так званыя ўзорныя тэксты, а ў справавой сферы – пэўнага роду трафарэты, якія функцыянавалі практычна пры мінімальным узаемаўплыве аж да сярэдзіны XVI ст. Змена моўнай сітуацыі і перамена тыпаў літаратурнай мовы ў Расіі на працягу ўсяго старажытнага перыяду паказвае на перамену дамінанты ў працэсе тварэння літаратурнай мовы. У перыядзе Старажытнай Русі паняцце *літаратурная мова* выступала першасным у дачыненні да паняцця *літаратура*, а крытэрыем далучэння помніка пісьменства да ліку ўзорных тэкстаў выступала ступень яго ўнармаванасці. У сітуацыі ж Расіі другой паловы XVIII ст. паняцце *літаратура* становіцца дамінантным адносна *літаратурнай мовы* і з’яўляюцца падставы літаратурную мову вывяраць па тэкстах узорных аўтараў, а не ўзорных тэкстах.

Такім чынам, у параўнанні з гісторыяй станаўлення літаратурных нормаў рускай мовы, дзе асноўнае значэнне надаецца помнікам пісьменства з адлюстраваннем старaславянскіх (паўднёваславянскіх паводле сваіх вытокаў) кніжных рыс, у найбольш значных беларускіх пісьмовых тэкстах кампаненты царкоўнаславянскай мовы выступаюць не самой моўнай базай, а ўсяго толькі наборам асобных элементаў, у той час як з’явы агульнаўсходнеславянскай мовы з’яўляюцца асновай, насычэнне якой з’явамі жывых беларускіх гаворак і прывяло да ўтварэння старажытнай беларускай літаратурнай мовы. Гэта значыць, што працэс увядзення ўсходнеславянскіх элементаў у кніжную мову

і адначасова ўзвядзенне народнай мовы да ўзроўню кніжнай у беларускай мове адбываўся значна раней і інтэнсіўней, чым у рускай [22].

Паводле спалучэння кніжных і народна-дыялектных паказчыкаў помнікі пісьменства неаднолькава значныя для гісторыі беларускай мовы: адны даюць матэрыял для даследавання яе вуснай формы, а іншыя – для вывучэння пісьмова-літаратурнай. Тая істотная акалічнасць, што пашырэнне геаграфіі і аб'ёму старажытнай беларускай мовы адбывалася пераважна ў афіцыйна-справавой сферы праз актавае і юрыдычнае пісьменства, дазволіла даследчыкам з наяўных помнікаў перыяду росквіту беларускай мовы ў XIV–XVI стст. асобнае месца як па колькасных паказчыках, так і па ступені збліжэння з жывой яе формай адвесці канцылярскім і справавым дакументам. Багатая дакументальна-справавая літаратура, выпрацаваўшы адметнае кола ўласнабеларускіх стылістычных сродкаў, стала выступаць як асобна распрацаваная і цесна звязаная з надзённымі патрэбамі часу. Разам з тым мовазнаўцы не схільны ўсё справавое пісьменства залічваць у крыніцы гісторыі літаратурнай мовы. Так, Я. Ф. Карскі да помнікаў пісьмова-літаратурнай мовы адносіў толькі юрыдычную літаратуру (судзебнікі, статуты, уставы), паколькі бачыў у ёй адзнакі нарматыўнасці і літаратурнай апрацоўкі, а розныя справавыя запісы (граматы, акты, прывілеі, позвы, судовыя пратаколы, попісы і інш.) прызнаваў крыніцамі для вывучэння толькі гістарычнай граматыкі. Праблематычнасць аднясення да крыніц фарміравання пісьмова-літаратурнай беларускай мовы ўсіх відаў справавога пісьма, хоць яно і найбольш пашырана адлюстроўвала характэрныя асаблівасці народна-дыялектнай мовы, была выказана ў «Беларусах» [23]. Творам свецкага характару – летапісам, хронікам, перакладным рыцарскім раманам і аповесцям вызначаецца прамежкавае становішча паміж справавой і рэлігійнай літаратурай.

Як паказвае практыка, пры такой разнастайнасці пісьмовай спадчыны надзвычай складана вылучыць ядро пісьмовых тэкстаў, у якіх беларуская мова выступала б у якасці ўзору нармавання – мела б адпаведныя асноўным патрабаванням літаратурнай мовы адзнакі поліфункцыянальнасці, кадыфікаванасці, стылістычнай дыферэнцыяцыі. Пытанне вызначэння цэнтра і перыферыі тэкстаў на старажытнай беларускай мове застаецца актуальным і можа быць вырашана толькі праз адбор такіх моўных паказчыкаў, якія б адпавядалі паняццю літаратурнай нормы і маглі забяспечыць комплексны падыход вывучэння пісьмовых помнікаў з беларускамоўнай асновай. Адбор сістэмна-нарматыўных паказчыкаў для вызначэння цэнтра і перыферыі старажытнай мовы павінен арыентавацца на такі жанр старажытнага пісьма, які найбольш адпавядаў бы паказчыкам літаратурнага. У гэтым плане ёсць сэнс звярнуцца да беларускіх летапісаў як адной з асноўных крыніц нарматыўных рыс старажытнай беларускай мовы. Летапісная спадчына, саступаючы па колькасці рукапісам справавых папер і друкаваным выданням старажытнага беларускага права, паводле тэматычнай разнастайнасці выступае ўласна літаратурным жанрам старажытнага беларускага пісьменства. Адмет-

насць летапіснай літаратуры заключаецца ў тым, што на першым этапе яна спалучала ў сабе адначасова як пазнавальна-эстэтычную функцыцыю, так і службова-справавую. Справавое пісьменства непасрэдным чынам паўплывала на летапісанне, у выніку чаго абодва жанры набылі блізкасць мовы і стылю. Таму беларускія летапісы, нягледзячы на іх свецкі характар, захавалі ў сваім складзе справавыя дакументы і ў значнай ступені перанялі іх моўную аснову. Упершыню выказаў і абгрунтаваў думку пра арганічны ўплыў стылю грамат на летапісную мову Т. Сушыцкі. На багатай факталогіі даследчык паказаў фарміраванне такога ўплыву не праз непасрэднае запазычванне тэкставых элементаў з грамат, а ў выніку ўдзелу «летапісцаўканцылярыстаў» як у складанні грамат, так адначасна і летапісаў. Такім чынам, наяўнасць агульных стылістычных формул, устойлівых словазлучэнняў тыпу *«и пополчившись с полки своими»*, *«и поткались над озером»*, *«и был межи ими бои и сеча не мала з ранку аж до вечера»*, *«и поможе бог»*, *«на голову поразил»*, якія былі выяўлены ў беларускіх граматах і летапісах XIV–XVI стст., тлумачыцца тым, што пры вялікакняжацкіх і гарадскіх канцылярыях летапісцамі былі вопытныя кніжнікі з добрым веданнем справаводства. Усё гэта паслужыла падставай, каб разглядаць летапісы як пераходны жанр ад справавога пісьменства да ўласна літаратуры, ад гістарычна-дакументальнай прозы да гістарычна-мастацкай белетрыстыкі: менавіта сістэмна-тыпалагічнае, генетычнае і моўна-стылёвае падабенства летапісных тэкстаў да твораў справавога, дакументальна-службовага пісьменства дае падставы бачыць у апошнім адзін з асноўных вытокаў жанру летапісаў у Беларусі, якія вяліся пры вялікакняжацкіх і гарадскіх канцылярыях, пры дварах буйных свецкіх і духоўных іерархаў вопытнымі кніжнікамі, добра дасведчанымі ў тонкасцях справавога пісьма [24].

Мовазнаўчае вывучэнне летапісных твораў спалучыла ў сабе як характарыстыку іх мовы, скіраваную на паказ мастацка-вобразных сродкаў без вызначэння заканамернасцей стылістычнага іх выкарыстання, так і апісанне асобных структурных адзінак летапіснай мовы – графіка-фанетычных, граматычных, словаўтваральных, лексічных і сінтаксічных. Было прызнана, што мова летапісаў выступае той сінкрэтычнай формай, якая на аснове пісьмова-літаратурнай мовы агульнаўсходнеславянскага перыяду прыняла ў сябе комплекс паказчыкаў жывой беларускай народна-дыялектнай мовы ўжо нарматыўна апрабаваных у межах справавога стылю – граматах і дакументах дзяржаўнага справаводства ВКЛ. Летапісы ілюструюць беларускую літаратурную мову старажытнага перыяду як сістэму, якая актыўна папаўнялася жывымі асаблівасцямі тагачасных гаворак. Такім чынам, мова беларускага летапісання ўяўляе сабой адметную форму пісьмова-літаратурнай мовы, якая ад самага пачатку была арыентавана на жывыя з’явы старажытнай беларускай мовы і адначасова захоўвала традыцыі старажытнага пісьма на беларускіх землях, звязанага як з усходнеславянскім летапісаннем, так і з заходнееўрапейскімі мовамі, пераважна польскай.

Такім чынам, летапісная мова можа разглядацца праз прызму праяўлення ў ёй агульнамоўных нарматворчых працэсаў у двух аспектах – функцыянальным і ўнутрымоўным. Адлюстраванне ў мове беларускіх летапісаў знешняга (функцыянальнага) аспекту фарміравання літаратурнай формы мовы – гэта выпрацоўка ўстойлівых формул часу ў працэсе пераарыентацыі беларускага летапісання на апавядальную прозу, прыёмы аўтарскай апрацоўкі тэксту ў складзе запазычаных частак І летапіснага зводу, мастацка-стылістычнае абнаўленне летапіснай вобразнасці ў летапісным фрагменце «Пахвала Вітаўту», узбагачэнне рэсурсаў літаратурнай мовы фразеалагічнымі сродкамі. Праяўленне ўнутрымоўных нарматворчых працэсаў у мове беларускага летапісання – гэта адлюстраванне эвалюцыйных з'яў старажытнай беларускай літаратурнай мовы, наяўнасць структурных рознаўзроўневых нарматыўных паказчыкаў у летапісных розначытаннях – тых зменах, якія дазваляюць гаварыць пра свядомы характар нармалізатарскай дзейнасці летапісцаў, гэта і комплекс прыёмаў моўнай адаптацыі кампілятыўных частак у складзе спісаў І летапіснага зводу. Паказальным прыкладам адлюстравання ў летапісах унутрымоўных нарматворчых працэсаў з'яўляецца спіс летапісу Рачынскага, у якім была зроблена спроба паслядоўнага ўвядзення ў правапіс фанетычнага прынцыпу напісання зацвярдзелых шыпячых і *р*.

Мова беларускага летапісання выступае разнавіднасцю пісьмова-літаратурнай формы старажытнай беларускай мовы, якая развівалася ў напрамку да абнаўлення, рэгламентацыі і замацавання літаратурных паказчыкаў, пашырэння стылістычнай і функцыянальнай разнастайнасці. Дынаміка нарматворчых працэсаў праяўляецца ў летапісах як інтэграцыя пісьмова-нарматыўных рыс, што замацоўваліся ў самых розных жанрах пісьмовай літаратуры. Таму мова летапісаў не дэманструе пераадолення дыялектных асаблівасцей, у сувязі з чым адносна яе адсутнічае патрэба ў размежаванні паняццяў *літаратурная мова* і *дыялектная мова*. Напрыклад, дыялектныя рысы Смаленшчыны, нягледзячы на даказаны факт, што Смаленск быў цэнтрам беларускага агульнадзяржаўнага летапісання, у цэлым не могуць выступаць моўнай асновай беларускіх летапісаў. У гэтым ракурсе па-іншаму можна інтэрпрэтаваць і вынікі глыбокага даследавання мовы Баркулабаўскага летапісу, праведзенага Н. Т. Вайтовіч [25]. У ім была выяўлена тыпалогія моўных з'яў паміж мовай летапісу і сучаснай баркулабаўскай гаворкай пераважна на лексіка-семантычным узроўні. Гэтаму аспекту надавалася асноўная ўвага і на пачатковым этапе вывучэння мовы беларускіх летапісаў у працах М. І. Карнеевай-Петрулан [26]. Вынікі паказалі, што летапісец, які не толькі добра ведаў мясцовыя рэаліі і мову жыхароў Баркулабава, але і меў выдатны літаратурны талент, актыўна выкарыстоўваў у пісьмовым тэксце ўласнабеларускі лексічны матэрыял. Што ж да арфаграфіі і граматыкі, то там ён кіраваўся аналогіяй і арыентаваўся на тыя нормы пісьмова-літаратурнай мовы, якія засвоіў, карыстаючыся рукапісамі і старадрукамі, створанымі на

беларускай мове. Таму ў Баркулабаўскім летапісе, найбольш набліжаным да жывой народна-дыялектнай мовы паводле лексічнага складу, практычна адсутнічаюць фанетычныя і марфалагічныя дыялектызмы, за выключэннем спарадычных украінізмаў (*зымовалъ*, *не чинилы*, *быблея*, *филыповы* і інш.).

Мэтанакіраваны адбор з летапісных спісаў разнастайнага матэрыялу, яго сістэматызацыя і апісанне ў арыентацыі на нормы старажытнай беларускай пісьмова-літаратурнай мовы засведчылі: паводле функцыянальнага прызначэння, зместу і адметнага набору літаратурна-стылістычных сродкаў беларускія летапісы ўяўляюць сабой творы гісторыка-мастацкай прозы і ў пераважнай сваёй большасці захоўваюць лад старажытнай беларускай мовы. Тым самым яны далучаюцца да помнікаў беларускага пісьменства ў вузкім разуменні гэтага слова: «У вузкім сэнсе пад беларускай пісьменнасцю разумеюцца творы, напісаныя ў эпоху беларускай народнасці на беларускай мове ў адрозненне ад помнікаў на царкоўнаславянскай, польскай і лацінскай мовах» [27]. Адначасова летапісы суадносяцца і з шырокім разуменнем беларускага пісьменства, паколькі з'яўляюцца сінкрэтычным жанрам старажытнай літаратуры, які спалучыў у сабе ўласна летапісныя запісы, вусна-паэтычныя апавяданні, тэксты афіцыйна-справавога пісьменства, гістарычныя творы, а таксама дакументальныя запісы. У навуковай літаратуры адзначаецца як надзвычай важны той факт, што беларускія летапісцы, пакідаючы ў межах аднаго летапіснага твора разнародныя ў моўных адносінах тэксты, праводзілі толькі частковую рэдактарскую апрацоўку іх, а не падпарадкоўвалі поўнасцю пад уласныя ўяўленні аб правільнасці мовы. Гэта выключае меркаванні, неаднойчы выказаныя ў літаратуры, наконт неадукаванасці ці нявопытнасці беларускіх аўтараў і дазваляе патлумачыць моўную неаднароднасць беларускіх летапісаў тым, «што іх тэкст змяшчае ў сабе ўвесь спектр магчымасцей моўных паводзін, якія даспускаюцца моўнай сітуацыяй пэўнай эпохі (і варыянты якіх прадстаўлены рэальнымі тэкстамі)» [28].

Назапашванне і стабілізацыя нарматыўных паказчыкаў у мове беларускіх летапісаў адбывалася ў перыяд, калі беларуская мова ўжо аформілася як літаратурна-пісьмовая: «У тыя дзесяцігоддзі, калі ўзнікалі вядомыя зараз спісы ранніх беларускіх летапісаў (Віленскі, Увараўскі, Нікіфараўскі, Супрасльскі), перакладаліся з іншамоўных арыгіналаў дзелавы Вісліцкі статут, свецкія «Александрыя», «Траянская гісторыя», рэлігійныя «Пакуты Хрыста», «Аповесць пра трох каралёў», калі друкаваліся першыя ва ўсходняй славяншчыне кнігі ў перакладзе Ф. Скарыны, старабеларуская мова валодала ўжо ўсімі марфалагічнымі катэгорыямі і важнейшымі сродкамі іх выражэння, якія ўласцівы і сучаснай беларускай мове» [29]. У гэтым сэнсе летапісная традыцыя ад самага пачатку была арыентавана на адносна ўсталяваныя прыёмы пісьмовага адлюстравання мовы на пісьме. Першасная апрабацыя літаратурна-пісьмовых нарматыўных паказчыкаў магла адбывацца яшчэ на этапе стварэння «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх» як арыгінальнага твора ўласнабеларускай гісторыка-дакументальнай літаратуры. Надалей

у жанры беларускай летапіснай прозы пры шматлікіх перапісваннях тэксты шліфаваліся і паступова афармляліся як узорныя.

Такім чынам, падставай для разгляду летапісаў у якасці адной з галоўных крыніц з'яўляецца тое, што яны здольны былі ўвабраць асноўныя літаратурна-пісьмовыя нормы старажытнага беларускага пісьма, паколькі сам летапісны жанр выяўляе сваю суадноснасць практычна з усімі відамі старажытнага пісьменства. З улікам таго, што агульнадзяржаўнае летапісанне ў ВКЛ XIV–XVI стст. развівалася ва ўмовах актыўнага афармлення літаратурна-пісьмовых нормаў старажытнай беларускай мовы, летапісная традыцыя ўжо ад самага пачатку была арыентавана на іх. У гэтым плане беларускія летапісы як мастацка-гістарычныя творы перыяду беларускай народнасці даюць магчымасць паглыбленага даследавання ўнутранай гісторыі мовы ў галіне гістарычнай фанетыкі, граматыкі, лексікалогіі, стылістыкі, з'яўляюцца адной з асноўных крыніц нарматыўных рыс. Гэта дазваляе прасачыць па ўсіх наяўных спісах трох зводаў беларускіх летапісаў працэсы дыяхранічнага развіцця нормаў старажытнай пісьмова-літаратурнай мовы на працягу ўсяго перыяду беларускай народнасці, даказаць устойлівасць праяўлення ў гісторыі беларускай мовы літаратурных нарматыўных паказчыкаў.

## Літаратура


1. Шакун, Л. М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы: вучэб. дапам. / Л. М. Шакун. – 2-е выд., перапрац. – Мінск, 1984. – С. 16.

2. Жураўскі, А. І. Характар знешніх узаемаадносін беларускай літаратурнай мовы з іншымі славянскімі мовамі ў пачатковы перыяд яе фарміравання: дакл. на VII Міжнар. з'ездзе славістаў / А. І. Жураўскі, І. І. Крамко. – Мінск, 1973. – С. 33–34.

3. Карский, Е. Ф. Белорусы: в 3 т. / Е. Ф. Карский. – Петроград, 1921. – Т. 3, кн. 2 : Старая западно-русская письменность. – С. 3.

4. Шакун, Л. М. Я. Ф. Карскі як даследчык гісторыі беларускай літаратурнай мовы / Л. М. Шакун // Карані роднай мовы: выбр. працы па гісторыі беларус. мовы. – Мінск, 2001. – С. 167.

5. Свяжынскі, У. Праблема ідэнтыфікацыі афіцыйнай мовы Вялікага Княства Літоўскага / У. Свяжынскі // Metriciana: даслед. і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага / Ін-т гіст. НАН Беларусі; рэдкал.: Г. Галенчанка [і інш.]. – Мінск, 2001. – Т. I. – С. 29.

6. Булыка, А. М. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы / А. М. Булыка / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства. – Мінск, 1970. – С. 3.

7. Жураўскі, А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы: у 2 т. / А. І. Жураўскі / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства. – Мінск, 1967. – Т. 1.– С. 232.

8. Крамко, І. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы: у 2 т. / І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; пад рэд. А. І. Жураўскага. – Мінск, 1968. – Т. 2. – 342 с.

9. Жураўскі, А. І. Важнейшыя адрозненні паміж новай і старой беларускай літаратурнай мовай / А. І. Жураўскі, І. І. Крамко // Беларускае і славянскае мовазнаўства / пад агул. рэд. М. Р. Судніка. – Мінск, 1972. – С. 13–48.

10. Жураўскі, А. І. Характар знешніх узаемаадносін беларускай літаратурнай мовы з іншымі славянскімі мовамі ў пачатковы перыяд яе фарміравання. – С. 1–40.

11. Шакун, Л. М. Старабеларуская літаратурная мова / Л. М. Шакун // Беларуская мова: энцыкл.; пад рэд. А. Я. Міхневіча; рэдкал.: Б. І. Сачанка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1994. – С. 532.

12. Булыка, А. М. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. – С. 95.

13. Жураўскі, А. І. Важнейшыя адрозненні паміж новай і старой беларускай літаратурнай мовай. – С. 134.

14. Булыка, А. М. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. – С. 95.

15. Жураўскі, А. І. Важнейшыя адрозненні паміж новай і старой беларускай літаратурнай мовай. – С. 137.

16. Анічэнка, У. В. Беларуска-ўкраінскія пісьмовыя моўныя сувязі / У. В. Анічэнка; рэд.: П. Ф. Глебка, М. А. Жаўтобрух. – Мінск, 1969. – 296 с.

17. Успенский, Б. А. История русского литературного языка (XI–XVII вв.) / Б. А. Успенский. – 3-е изд., испр. и доп. – М., 2002. – 558 с.

18. Свяжынскі, У. Праблема ідэнтыфікацыі афіцыйнай мовы Вялікага Княства Літоўскага. – С. 29.

19. Шакун, Л. М. Старабеларуская літаратурная мова. – С. 532.

20. Ремнева, М. Л. Литературный язык древней Руси / М. Л. Ремнева. – М., 1988. – 143 с.

21. Успенский, С. М. Язык смоленских грамот XII–XIV вв. / С. М. Успенский // Филологический сборник / Смол. обл. краевед. науч.-исслед. ин-т. – Смоленск, 1950. – С. 5–148.

22. Анохіна, В. Аб каэфіцыенце традыцыйнай кніжнасці некаторых помнікаў старабеларускай пісьменнасці / В. Анохіна // Беларускае і славянскае мовазнаўства (да 70-годдзя акад. К. К. Крапівы): зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; пад агул. рэд. М. Р. Судніка. – Мінск, 1972. – С. 50.

23. Карский, Е. Ф. Белорусы: в 3 т. – С. 116–117.

24. Сушицький, Т. Західньо-руські літописи як пам’ятки литератури: в 2 ч. / Т. Сушицький; Всеукр. акад. наук; за ред. В. Перетца. – Київ, 1921. – Ч. 1. – 54 с.

25. Вайтовіч, Н. Т. Баркалабаўскі летапіс / Н. Т. Вайтовіч; пад рэд. А. І. Аванесава. – Мінск, 1977. – 208 с.

26. Карнеева-Петрулан, М. І. Мова Баркулабаўскага летапісу / М. І. Карнеева-Петрулан // Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР. – Мінск, 1957. – Вып. 3. – С. 94–112.

27. Мова беларускай пісьменнасці XIV–XVIII стст. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; аўт. кал.: А. М. Булыка [і інш.]; рэд. А. І. Жураўскі. – Мінск, 1988. – С. 5.

28. Морозова, Н. Проблемы языка и текстологии летописей Великого княжества Литовского: Хроника Быховца: автореф. дис. ... д-ра гуманитар. наук: Н 590 / Н. Морозова; Вильнюс. ун-т. – Вильнюс, 2001. – С. 26.

29. Булыка, А. М. Беларуская мова канца XV – пачатку XVI ст. / А. М. Булыка // Скарына і яго эпоха / В. А. Чамярыцкі [і інш.]; Акад. навук БССР, Ін-т літ. – Мінск, 1990. – С. 171.

## Summary

This article examines linguistic aspects of Belarusian chronicles. The subject of research – the norms of Belarusian chronicles’ language. The conclusion that chronicles accumulate in themselves the norms of an ancient Belarusian literary language is made.

*Акадэмія МУС Рэспублікі Беларусь* *24.10.2010 г.*

*УДК 811.161.3(091) + 091.5(= 161.3) «17/18»*

*М. У. ТАРЭЛКА*

# МОВА АДНАГО КІТАБА І СТАРАБЕЛАРУСКАЯ КІРЫЛІЧНАЯ ПІСЬМОВАЯ ТРАДЫЦЫЯ

Усе вядомыя на сённяшні дзень кітабы або беларускамоўныя, або польскамоўныя. Пры гэтым беларуская мова прадстаўлена ў іх у дыялектнай форме*, а польская – у форме так званай *пальшчызны крэсовай*.

Рукапіс, пра які ідзе размова, знаходзіцца ў прыватным уладанні. У ім 201 аркуш, але гэта канвалют, які складаецца з трох сшытых разам частак рознага паходжання: арк. 1–127 гэта кітаб, мове якога прысвечана наша праца; арк. 128–188 – фрагмент тафсіра (г. зн. фрагмент Карана з падрадковым перакладам на польскую мову); арк. 189–201 займае тэкст веравызнаўчага характару на турэцкай мове таксама з падрадковым перакладам на польскую.

Калафона ў кітабе няма. Але на ўнутраным баку верхняга вечка напісана лацінкай па-польску: «*Ta Xiążka pisana r. 1820*», што можа быць прынята як гіпатэтычная дата ўзнікнення рукапісу або адной з яго частак. Хоць на с. 156b напісана «*Ta książka z 1820 r. (1781)*», што робіць магчымым і больш ранняе датаванне. На жаль, немагчыма з поўнай упэўненасцю сказаць, пра якую частку рукапісу гаворыцца ў гэтых прыпісках** і як разумець наяўнасць дзвюх дат у другой прыпісцы.

На паперы бачны вадзяны знак у форме арла і літар «KRAUS» (гл. напрыклад, арк. 97). Другасны вадзяны знак «KRAUSE» або «KRAUS» на працягу каля ста гадоў ставіўся на паперы з папяровага млына, які быў заснаваны ў 1750 г. у Пюльцэ (Pültz). Таму дакладна датаваць паперу з такім знакам вельмі складана [2].

Таксама толькі прыблізна можна датаваць рукапіс паводле арфаграфічных асаблівасцей. Галосны [о] пазначаецца ў ім літарай و + дыякрытычны знак *fatḥa*, што ўказвае на напісанне рукапісу не раней за другую палову XVIII ст. [3].

Аркушы 1–6 адарваныя (відавочна яны знаходзяцца не на сваім месцы). Тэкст на арк. 7–8 напісаны іншым почыркам, які нагадвае почырк тафсіра.

* «Мова беларускіх тэкстаў, напісаных арабскім пісьмом, вельмі блізкая да народнагутарковай мовы. У ёй знайшлі сваё яркае адлюстраванне многія дыялектныя асаблівасці паўднёва-заходніх беларускіх гаворак, а таксама невялікай паласы сярэднябеларускіх і паўднёва-заходняй часткі полацкай групы беларускіх гаворак, якія непасрэдна прымыкаюць да літоўскай моўнай тэрыторыі» [1].

** Тафсір мае ўласны калафон, згодна з якім ён быў напісаны ў 1868 г. (арк. 179b).

Першы тэкст кітаба, які мае пачатак і канец, займае арк. 9a–18b (па 13–14 радкоў на старонцы). Ён прысвечаны нараджэнню Прарока Мухамада і мае адпаведную назву – *Маўлюд* «Нараджэнне». Паспрабуем апісаць мову кітаба на прыкладзе гэтага тэксту.

Першае, што кінулася ў вочы пры азнаямленні з тэкстам – гэта амаль поўная адсутнасць адлюстравання такіх характэрных для беларускай мовы рыс, як аканне / яканне і дзеканне / цеканне. Таму ўзнікла пытанне – з чым мы маем справу, з арфаграфічнай нормай, згодна з якой гэтыя рысы хоць і існуюць у мове, але не перадаюцца на пісьме, або з адлюстраваннем такой мовы (дыялекту), дзе яны адсутнічаюць. Іншымі словамі, на якой мове (дыялекце) напісаны гэты рукапіс: на адным з дыялектаў (беларускіх?), як і ўсе вядомыя раней рукапісы татараў былога Вялікага Княства Літоўскага (зразумела, за выключэннем польскамоўных), або аўтар (ці перапісчык) знаходзіўся пад моцным уплывам старабеларускай кірылічнай пісьмовай традыцыі?

**Арфаграфія і фанетыка.** «У старабеларускай пісьменнасці фактычна праявілася тэндэнцыя да фанетызацыі правапісу пры перадачы такіх важнейшых рыс беларускай фанетыкі, як пераход **в** у **ў**, зацвярдзенне шыпячых, **ц** і **р** і інш. Разам з тым многія з'явы жывой мовы (напрыклад, дзеканне і цеканне, пераход **л** у **ў**, аканне, падаўжэнне зычных) не адлюстроўваліся зусім у большасці помнікаў або адлюстроўваліся надзвычай слаба» [4].

Амаль такую самую карціну можна назіраць у даследаваным намі тэксце. Хоць арабскі алфавіт і не прыстасаваны для перадачы зацвярдзення шыпячых, а таксама [c] і [r], аднак пра наяўнасць [v] > [ŭ] сведчыць, напрыклад, варыятыўнасць у напісанні займенніка **'uwaś / wwaś** «увесь» (9a:11 / 14b:5 і г. д.).

Тыя ж рысы беларускай мовы, якія амаль не знаходзілі адлюстравання ў старабеларускай пісьмовай мове, і якія маглі б быць перададзены арабскім алфавітам, слаба адлюстраваны і ў даследаваным намі тэксце.

У тэксце пераважае оканне, напрыклад, **holowi** «галавы» (17a:10)*; **mocno** «моцна» (13b:7). Аканне паказана вельмі спарадычна, напрыклад, **holāṣ** «голас» (14b:4; 15a:2, 7). Параўнайце таксама **nadāwarki** (15a:12) і **nadowarki** «недаверкі» (18a:13)**.

У тэксце амаль не адлюстраваны дзеканне і цеканне. Літарай د (d) абазначаюцца як [d]: **dobra** «добра» (11a:5; 17b:11), так і меркаваны [dz′], напрыклад, **datki** «дзеткі» (16a:6), **prīda** «прыйдзе» (13b:1)***. Літара د з трыма кропкамі пад ёй, уведзеная ў арабскі алфавіт беларускімі татарамі для перадачы

---

* Гл. табліцу транслітарацыі літар арабскага алфавіта ў канцы артыкула.

** Дакладнае вызначэнне выпадкаў акання ўскадняецца з прычыны асаблівасцей арфаграфіі – знак *фатха* (**a**) можа пазначаць як [e]: **paršij** [p′eršy] «першы» (9a:2; 12a:2), так і [a]: **dāwaw** [davaŭ] «даваў» (12a:14), і нават [o]: **prazb** [proz′b] «просьбаў» (15a:10) і [u]: **hlānaw** [hl′anuŭ] «глянуў» (15a:1). Аднак галосны [o] часцей абазначаецца камбінацыяй літары و + *фатха* (1193 разы).

*** Усяго ў даследаваным тэксце меркаваны [dz′] пазначаецца літарай د (d) звыш 80 разоў.

гукаў [dz] і [dz′], выкарыстана толькі чатыры разы: **nādḥodzil** «надыходзіў» (12b:3), **’odḥ odzili** «адыходзілі» (16b:9), **’idza** «ідзе» (17b:9)*.

Літара ط (ṭ) выкарыстана 338 разоў. Яна заўсёды абазначае [t]**. Літара ت (t) выкарыстана 247 разоў***. Яна можа абазначаць як [t] (звыш 80 разоў), напрыклад, **mātqa** «маці» (12a:15), так і меркаваны [t′] > [c′] (звыш 120 разоў), напрыклад, **pit** «піць» (13b:3). У канцы слова для [t′] > [c′] выкарыстоўваецца таксама літара ة (46 разоў), напрыклад, **rādoṣ̱ť** «радасць» (15b:2). Толькі тры разы [t′] > [c′] перадаецца літарай ص з трыма кропкамі пад ёй, уведзенай у арабскі алфавіт беларускімі татарамі для перадачы гукаў [c] і [c′]: **mac** «мець» (11a:3), **milos͜c** «міласць» (18b:1), **milos͜ciwij** «міласцівы» (18b:2)****.

Амаль поўнасцю адсутнічае падваенне зычных на месцы старажытнага спалучэння «мяккі зычны, ь, j»: **nārožanja** «нараджэнне» (12b:10, 13), **roṣqāẓānja** «загад» (13b:2) і г. д.

Арфаграфію старабеларускага пісьменства нагадвае і спосаб абазначэння фрыкатыўнага [h] і выбухнога [g]. У тэксце 287 разоў ужыта літара ه для перадачы [h]. Літара غ, якая абазначае [g], выкарыстана 14 разоў і толькі ў трох лексемах: **ġdī** «калі» (10a:4 і г. д.), **niġdī** «ніколі» (15b:13), **ṣṭroġoṣ̱t** «строгасць» (14b:5), **ṣṭroġūṣ̱ti** «строгасці» (14b:6)*****, што нагадвае выкарыстанне дыграфа *кг* для перадачы выбуховага [g] у некаторых запазычаннях.

Аднак пераход [l] > [ŭ] адлюстраваны даволі паслядоўна. У 3 ас. м. р. адз. л. прошлага часу пераважае суфікс *-w* (113 разоў): **ṣtworiw** «стварыў» (11a:6); **maw** «меў» (10a:10; 18b:9) і г. д.; суфікс *-l* сустракаецца толькі 14 разоў: **ṣṭwarīl** «стварыў» (10a:10), **mjāl** «меў» (17b:7, 10, 11). Параўн. таксама прыметнік **pownij** «поўны» (13b:4; 18b:10).

У тэксце таксама ёсць некалькі фанетычных асаблівасцей, характэрных як для старабеларускай пісьмовай мовы, так і для паўднёва-заходняга дыялекту. Напрыклад, лабіялізацыя ў формах дзеяслова *быць* у прошлым часе, дзе на месцы этымалагічнага [y] сустракаецца фанема [u]: **buw** «быў» (9a:3 і г. д.), што характэрна для шэрагу гаворак Брэсцкай, Гомельскай і паўднёвай часткі Мінскай абласцей [6–8].

На паўднёва-заходні дыялект указвае і варыянт лексемы *гаспадар* без пачатковага [h]: **’oṣpodār** «гаспадар» (13b:8, 11), **’oṣpādārā** «гаспадара» (12b:8), распаўсюджаны ў раёнах, прылеглых да цяперашняй беларуска-літоўскай мяжы [9]******.

---

* Чацвёртае слова з гэтай літарай пакуль не падаецца інтэрпрэтацыі: **hodz** (15a:7).

** Параўн., аднак **’ūṣ̱waṭiw** «асвяціў» (15a:7); **ṣ̱waṭiwśa** «свяціўся» (18a:4); але **ṣ̱watiloṣ̱a** «свяцілася» (17a:9).

*** Уключаючы арабізмы, у якіх выкарыстанне ت для [t] тлумачыцца ўплывам арабскай арфаграфіі, напрыклад: **kitāb «кніга»** (9a:1).

**** Для цвёрдага [c] гэта літара выкарыстоўваецца паслядоўна, напрыклад, **moc** «моц» (13b:3; 14a:2; 18b:5).

***** «Рускае слова (строгий) звычайна лічыцца запазычаным з польскай мовы» [5].

****** Параўн. *осподаръ*, *господаръ* [10].

Акрамя таго, даволі шматлікія ў тэксце напісанні кшталту **s̯awaṭow** «светаў» (10b:14; 13a:5), на наш погляд, могуць быць як памылкай, так спробай пад уплывам арфаграфіі старабеларускіх кірылічных тэкстаў перадаць даўно зніклыя рэдукаваныя галосныя[*].

**Марфалогія.** Пераважная большасць марфалагічных рыс, якія адрозніваюць мову даследаванага кітаба ад сучаснай беларускай літаратурнай мовы, характэрна і для старабеларускай пісьмовай мовы, і для паўднёва-заходняга дыялекту.

***Назоўнік.*** У твор. скл. назоўнікаў ж. р. адз. л. былых асноў на *-ā* ўжываецца толькі характэрны пераважна для паўднёва-заходняга дыялекту і старабеларускай пісьмовай мовы канчатак *-oju* (*-aju*): **holowoju** «галавою» (17a:14), **’oṣobāju** «асобаю» (11a:8). Двухскладовы канчатак (*-eju*) ужыты і ў назоўніках з асновай на зычны: **s̯watlos̯taju** / **s̯waṭlos̯taju** «святлом» (14a:7; 14b:1), **wadomos̯taju** «паведамленнем» (17b:8), што таксама адзначаецца як у старабеларускай пісьмовай мове, так і ў паўднёва-заходнім дыялекце [11; 12].

***Прыметнік.*** У род. скл. адз. л. ж. р. пераважае канчатак -*oj* (12 разоў), але сустракаецца і -*oje* (4 разы): **prorocqoja** «прароцкай» (11b:7), **waliqoja** «вялікай» (13a:12), характэрны як для старабеларускай пісьмовай мовы [13], так і для паўднёва-заходняга дыялекту [14]. Аднак тры разы ўжыты канчатак -*yj*: **būžij** «Божай» (15b:4; 16a:2; 17b:5), распаўсюджанне якога ў ХХ ст. абмяжоўвалася ўсходам Беларусі [15; 16]. У твор. скл. ужываецца толькі характэрны для паўднёва-заходняга дыялекту двухскладовы канчатак (5 разоў): **’oẓdabnoju** «прыгожаю» (12a:1) [17].

***Дзеяслоў.*** З 16 ужытых у тэксце інфінітываў чатыры маюць суфікс **-ti**: **’umarti** «памерці» (16a:2), **’uzāti** «узяць» (14b:3) і г. д. У старабеларускай пісьмовай мове формы на *-ть* і *-ти* таксама суіснуюць [18].

У цяперашнім часе ў 3 ас. адз. л. дзеясловаў I спражэння адсутнічае фармант *-ць*: **’idza** «ідзе» (17b:9), а ў дзеясловах II спражэння прысутнічае: **lūbit** «любіць» (16a:13; 17b:4). Аднак у будучым часе дзеяслова *быць* сустракаюцца формы як без **-t**, так і з ім: **būda** (8 разоў), **būdat** (4 разы) «будзе». Важна падкрэсліць, што формы з фармантам *-ць* у дзеясловах I спражэння характэрны для паўночна-ўсходняга дыялекту [19], у той час як для старабеларускай пісьмовай мовы характэрны формы як з *-ць*, так і без яго [20][**].

Двойчы ўжытыя сінтэтычныя формы складанага будучага часу з дапаможным дзеясловам *мець*: **’ohladāti**(**mat**) – «аглядаць (мае)» (10b:14),

---

[*] Немагчыма не звярнуць увагі на яшчэ адну асаблівасць арфаграфіі. Калі апазіцыя [s] і [ś] пазначаецца паслядоўна: гук [s] заўсёды (284 разы) перадаецца літарай ص (адзінае выключэнне – **ṣili** «сілы» 13b:4); мяккі [s′] абазначаецца пераважна літарай ڛ (244 разы), рэдка ث (49 разоў), то ў абазначэнні [z] і [z′] такой паслядоўнасці няма. Мяккі [z′] абазначаецца толькі літарай ز/ ذ (10 разоў), аднак цвёрды [z] абазначаецца ажно трыма літарамі: ز/ ذ (30 разоў), ض (22 разы), ظ (103 разы).

[**] Меркаванне пра магчымы ўплыў у дадзеным выпадку старабеларускай пісьмовай мовы выказвалася ўжо даўно, таму што фармант *-ць* у дзесловах I спражэння сустракаецца і ў іншых беларуска-татарскіх рукапісах, напісаных на паўднёва-заходнім дыялекце [21].

**z̰nāti**(**mat**) – «ведаць (маюць)» (12a:10), характэрны для паўднёва-заходняга дыялекту [22], але вельмі рэдкія ў пісьмовай мове ВКЛ [23].

У прошлым часе ўжываюцца сінтэтычныя формы: **’učinilām** «я зрабіў» (15a:8), **z̰nālam** «я зрабіла» (16a:1); **-s̰ z̰nāw** «ты ведаў» (9b:4), уласцівыя пісьмовай старабеларускай мове [24].

Ва ўмоўным ладзе ўжыта канструкцыя з часціцай *бы* і формай плюсквамперфекта: **naḥāj bim bilā ’obrādowālā śa** «няхай бы я абрадавалася» (15b:10–11), характэрная, для перакладзеных з польскай мовы твораў першай паловы XVII ст. [25][*].

У тэксце шырока ўжываюцца дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу: **būdučij** (18a:11), **lūbjāčija** (14a:4), **mājučij** (12a:9), **nas̰pāčij** (17b:12), **pros̰ačija** (10b:5), **s̰pāčij** (17b:13), **waračija** (15a:13), якія, як лічыцца, не мелі адпаведнасці ў народна-дыялектнай мове і з’явіліся прадуктам унутранага развіцця літаратурнай мовы [26].

Дзеепрыметнікі прошлага часу некалькі разоў выступаюць у значэнні выказніка ў безасабовых сказах у застылай форме н. р. адз. л. Пры выказніках у такіх выпадках стаіць прамое дапаўненне, напрыклад, **dāno jamu ’us̰iḥ proroqaw roz̰um** «Дадзены яму розум усіх пракрокаў» (14b:7). Такая сінтаксічная асаблівасць характэрна, з аднаго боку, для старабеларускай пісьмовай мовы [27], а з другога, для сучасных гаворак на тэрыторыі Віцебскай вобласці [28].

***Займеннік.*** Яркай асаблівасцю мовы гэтага тэксту з’яўляецца ўжыванне займенніка **ščo** (26 разоў). З усіх вядомых рукапісаў татараў былога ВКЛ гэты займеннік ужываецца толькі 4 разы ў рукапісе XVII ст. ЛУ-893 паралельна з займеннікам *што* [29]. У даследаваным намі тэксце займеннік *що* ўжываецца безальтэрнатыўна. У XX ст. тэрыторыя ўжывання *що* ў Беларусі ахоплівала значную частку Брэсцкай вобласці і асобныя населеныя пункты Гомельскай вобласці ўздоўж украінскай мяжы [30]. Магчыма, што ў мінулым гэта тэрыторыя была яшчэ большай.

Звяртае на сябе ўвагу выкарыстанне займенніка **s̰aj** (6 разоў)[**], таму што ў старажытнабеларускіх помніках ужо ў XV і асабліва ў XVI ст. ужыванне яго значна зменшылася [31]. Аднак яшчэ ў XX ст. гэты займеннік быў характэрны для гаворак на поўдні Гомельскай вобласці [32].

**Заключэнне.** Зразумела, наш артыкул – гэта толькі першы крок на шляху даследання як мовы гэтага тэксту ў прыватнасці, так і ўсяго рукапісу наогул. Папярэднія высновы, да якіх мы прыйшлі, наступныя.

---

[*] Зразумела, наяўнасць гэтай канструкцыі ў даследаваным намі тэксце не сведчыць пра тое, што ён быў перакладзены з польскай мовы, а толькі пра кніжны характар яго мовы і, можа быць, уплыў мовы згаданых перакладаў. Што да перакладнога або арыгінальнага характару гэтага тэксту наогул, то, калі ён і быў перакладзены, дык з усходняй (арабскай або цюркскай) мовы, пра што сведчыць наяўнасць у ім шэрагу арыенталізмаў.

[**] Акрамя таго, у тэксце ўжытыя ўказальныя займеннікі: **’onnij** (1 раз); **tan** (9 разоў); **ṭoj** (2 разы); **ṭoṭ** (2 разы).

У тэксце шмат элементаў старабеларускай пісьмовай мовы як на фанетычным і граматычным (марфалагічным і сінтаксічным), так і лексічным узроўні. Пераважная большасць моўных элементаў тэксту агульная для паўднёва-заходняга дыялекту і для старабеларускай пісьмовай мовы. Аднак ёсць і элементы, якія, будучы ўласцівымі старабеларускай пісьмовай мове, узыходзяць да паўночна-ўсходняга дыялекту або маюць стараславянскае, польскае, украінскае паходжанне. Гэтыя элементы маглі трапіць у даследаваны намі тэкст праз старабеларускую пісьмовую мову.

На арфаграфіі гэтага рукапісу таксама бачны моцны ўплыў старабеларускай кірылічнай пісьмовай традыцыі. З другога боку, некаторыя арфаграфічныя рысы кітаба аналагічныя арфаграфіі двух апісаных А. Антановічам рукапісаў XVII ст.: ЛУ-893 і КУ-1446: абазначэнне [d] і [d′] літарай د, абазначэнне літарай ص з трыма кропкамі пад ёй толькі цвёрдага [c], а [t′] – літарай ت і г. д. [33]. Пры гэтым Антановіч на падставе некаторых фанетычных дадзеных вызначыў мову гэтых рукапісаў як гаворкі слуцка-мазырскай групы [34] і выказаў меркаванне пра ўзнікненне рукапісу ЛУ-893 на мяжы Глускага і Любанскага раёнаў [35], а КУ-1446 – на тэрыторыі Калінкавічскага раёна [36].

Аднак адказаць на пытанне, як суадносяцца граматыка даследаванага намі тэксту і граматыка гэтых двух апісаных Антановічам рукапісаў пакуль немагчыма, таму што мова ніводнага з іх не даследавана настолькі, каб рабіць канчатковыя высновы.

Такім чынам, мы можам выказаць меркаванне, што даследаваны тэкст узнік на тэрыторыі паўнёва-заходняга дыялекту беларускай мовы, а дакладней кажучы, тых яго гаворак на поўдні Беларусі, якія непасрэдна прымыкаюць да ўкраінскай моўнай тэрыторыі. Пра гэта сведчыць наяўнасць лексемы *що* і некаторыя іншыя факты. Але, усё ж такі, не на тэрыторыі Украіны (або Заходняга Палесся), таму што ў тэксце не зафіксавана, напрыклад, ніводнага выпадку супадзення *яць* і *і* і г. д.

**Табліца транслітарацыі літар арабскага алфавіта**

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ا | ب | ت | ث | ج | ح | خ | د | ذ | ر | ز | س | ش | ص |
| ’ | b | t | ś | ğ | ḫ | ḥ | D | z̲ | r | z | s | š | ṣ |

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ض | ط | ظ | ع | غ | ف | ق | ك | ل | م | ن | ه | Й | و | ى |
| ẓ | ṭ | z̤ | ‘ | ġ | f | q | k | l | m | n | h | ť | w | j |

**Табліца транслітарацыі дадатковых літар, уведзеных у арабскі алфавіт персамі, цюркамі і беларускімі татарамі**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| پ | چ | ژ | ك (сагыр нун) | د з трыма кропкамі пад ёй | ص з трыма кропкамі пад ёй |
| p | č | ž | ŋ | dz | c |

Што тычыцца галосных, то арабскі алфавіт прыстасаваны для перадачы толькі шасці галосных, трох кароткіх: [a], [i], [u] і трох доўгіх: [ā], [ī], [ū]. Пры гэтым у беларускіх і польскіх тэкстах знак для [ā] звычайна перадае [a], а знак для a – [e]; знакі для [i] і [ī] могуць абазначаць [i] і [y], а знакі для [u] і [ū] – [u]. Акрамя таго, беларускімі татарамі быў уведзены спецыяльны знак для галоснага [o].

## Літаратура


1. Антонович, А. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система / А. Антонович. – Вильнюс, 1968. – С. 354–355.
2. Лауцявичюс, Э. Бумага в Литве в XV–XVIII веках / Э. Лауцявичюс. – Вильнюс, 1979. – С. 89.
3. Антонович, А. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. – С. 297–299, 307–308.
4. Булыка, А. Адлюстраванне вымаўлення ў старабеларускай арфаграфіі / А. Булыка // Вес. Акад. навук БССР. Сер. грамад. навук. – 1966. – № 1. – С. 128–129.
5. Фасмер, М. Этимологический словарь русскаго языка: у 4 т. / М. Фасмер. – М., 1987.
6. Нарысы па беларускай дыялекталогіі / пад рэд. Р. Аванесава. – Мінск, 1964. – С. 40.
7. Гістарычны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 1982–2008. – Вып. 1–28 (выданне працягваецца).
8. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. – Мінск, 1963. – Карта № 40.
9. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. – Карта № 334.
10. Гістарычны слоўнік беларускай мовы.
11. Булыка, А. Назоўнік / А. Булыка // Мова беларускай пісьменнасці XIV–XVIII стст. – Мінск, 1988. – С. 45–48.
12. Нарысы па беларускай дыялекталогіі. – С. 164–167.
13. Свяжынскі, У. Прыметнік / У. Свяжынскі // Мова беларускай пісьменнасці XIV–XVIII стст. – Мінск, 1988. – С. 107.
14. Нарысы па беларускай дыялекталогіі. – С. 195.
15. Нарысы па беларускай дыялекталогіі. – С. 201.
16. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. – Карта № 120.
17. Нарысы па беларускай дыялекталогіі. – С. 195.
18. Жураўскі, А. Дзеяслоў / А. Жураўскі // Мова беларускай пісьменнасці XIV–XVIII стст. – Мінск, 1988. – С. 259–265.
19. Нарысы па беларускай дыялекталогіі. – С. 263–264.
20. Жураўскі, А. Дзеяслоў. – С. 173–178.
21. Антонович, А. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. – С. 130, 169.
22. Нарысы па беларускай дыялекталогіі. – С. 281.
23. Жураўскі, А. Дзеяслоў. – С. 186.
24. Жураўскі, А. Дзеяслоў. – С. 190–192.
25. Жураўскі, А. Дзеяслоў. – С. 233.
26. Жураўскі, А. Дзеяслоў. – С. 239.
27. Жураўскі, А. Дзеяслоў. – С. 249–251.
28. Нарысы па беларускай дыялекталогіі. – С. 301.
29. Антонович, А. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. – С. 28, 118.
30. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. – Карта № 63.
31. Карлаў, Р. Да пытання аб замене займенніка *сей* формай *гэты* ў беларускай мове / Р. Карлаў // Беларуская мова і мовазнаўства. – Мінск, 1973. – Вып. 1. – С. 56.

32. Нарысы па беларускай дыялекталогіі. – С. 222.
33. Антонович, А. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. – С. 111, 125, 208–209, 250.
34. Антонович, А. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. – С. 28.
35. Антонович, А. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. – С. 117.
36. Антонович, А. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. – С. 129.

## Summary

The article is dedicated to the description of the language of one of the *kitabs* – the manuscript of the Belarusian Tatars. The most specific feature of its language is a strong influence of the Old Belarusian literary language in the phonetic, grammar (morphology and syntax) and vocabulary. It is seen also the influence of the Old Belarusian orthography. Some linguistic peculiarities of the researched text say they the manuscript was copied on the territory the south-west dialect of the Belarusian language close to the territory of the Ukrainian language.

*Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт* *25.10.2010 г.*

*УДК 808.2–541.42 + 808.26–541.42*

*І. У. ЯЛЫНЦАВА*

# ПОЛІМАТЫВАВАНЫЯ ФЕМІНІНАТЫВЫ Ў СУЧАСНЫХ БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ

Словаўтварэнне – неад’емная і надзвычайна важная частка супастаўляльнага вывучэння моў у цэлым, у тым ліку блізкароднасных, паколькі ў сферы дэрывацыі праяўляюцца і перакрыжоўваюцца заканамернасці, звязаныя як з лексічнымі намінацыямі, так і з граматычнымі значэннямі, фанетычнымі і акцэнталагічнымі альтэрнацыямі і інш. Супастаўляльнае словаўтварэнне ва ўсёй магчымай шматпланавасці і шматаспектнасці яго вывучэння з’яўляецца адным з аб’ектаў даследавання, які дазваляе не толькі ўдасканальваць нашы веды ў галіне лінгвістычнай тыпалогіі, але і пранікнуць у глыбінныя структуры феномена мовы [1].

Словаўтваральныя сістэмы беларускай і рускай моў маюць шмат агульнага. Гэта абумоўлена іх генетычнай і тыпалагічнай блізкасцю, а таксама цеснымі сувязямі, якія ўстанавіліся паміж названымі блізкароднаснымі мовамі.

Аб’ект нашай увагі – поліматываваныя назоўнікі са значэннем асобы жаночага полу – фемінінатывы* (ад англ. *feminine* – жаночы) у сучасных беларускай і рускай мовах. Аналіз праводзіўся з пазіцыі матывацыйных баз і словаўтваральных фармантаў (і іх фанетычных варыянтаў). У беларускай дэрываталогіі фемінінныя намінацыі з пункту погляду множнасці матывацыі ў супастаўляльным плане да гэтага часу не разглядаліся. Між тым дакладны словаўтваральны аналіз названых беларускіх і рускіх адзінак дазволіць выявіць ступень рэлевантнасці поліматываванасці для ўтварэння той ці іншай лексемы, устанавіць заканамернасці праяўлення падабенстваў і адрозненняў на дэрывацыйным узроўні.

Па сваёй словаўтваральнай структуры як беларускія, так і рускія фемінінатывы ў асноўным аднародныя. Як правіла, яны ўтвараюцца суфіксальным спосабам ад адпаведных назоўнікаў са значэннем асобы мужчынскага полу (маскулінатываў). Гэта знайшло сваё адлюстраванне і ў лексікаграфічнай практыцы, напрыклад**: бел. ***вяскоўка*** (1 знач.) ‘*Жан. да* вясковец’ (ТСБМ.

* Пра асаблівасці множнасці матывацыі беларускіх і рускіх мужчынскіх намінацый (маскулінатываў) гл.: Ялынцава І. У. Супастаўляльны аспект даследавання множнасці матывацыі асабовых назоўнікаў // Бел. лінгвістыка. 2008. Вып. 62. С. 68–77.

** Тут і далей значэнні слоў прыводзяцца з Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы (у 5 т. (6 кн.)) (Мінск, 1977–1984) (у артыкуле – ТСБМ), Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы (Мінск, 2002) (у артыкуле – ТСБЛМ), «Словаря русского языка» (у 4 т.) (М., 1981–1984) (у артыкуле – СРЯ) і «Большого толкового словаря русского языка» (СПб., 2000) (у артыкуле – БТСРЯ). Пры адсутнасці значэнняў у названых вышэй слоўніках быў выкарыстаны «Словарь современного русского литературного языка» (у 17 т.) (М.; Л., 1950–1965) (у артыкуле – ССРЛЯ).

Т. 1. С. 604) – рус. *сельчанка* (1 знач.) *'Разг. Женск. к* сельчанин' (СРЯ. Т. IV. С. 73); бел. ***дыпломніца*** (1 знач.) '*Разм. Жан. да* дыпломнік' (1 знач.) (ТСБМ. Т. 2. С. 221) – рус. *дипломница* '*Женск. к* дипломник' (СРЯ. Т. I. С. 401); бел. ***кляўзніца*** (1 знач.) '*Разм. Жан. да* кляўзнік' (ТСБМ. Т. 2. С. 704) – рус. *кляузница* (1 знач.) '*Женск. пренебр. к* кляузник (в 1 знач.)' (СРЯ. Т. II. С. 62) і інш.* Множнасць матывацыі беларускіх і рускіх фемінінатываў цалкам залежыць ад таго, колькі матывавальных асноў мае маскулінатыў, ад якога той ці іншы фемінінатыў утвораны: калі маскулінатыў поліматываваны, то адпаведна і фемінінатыў будзе мець некалькі матывавальных асноў. Параўн.:

бел. *абіва-(ць)* → *абіва-**льшчык**-(Ø)* – *абіва/льшчык/-(Ø)* → *абіва**льшчыц**-(а)*; *сэрц-(а)* → *сардэч-**нік**-(Ø)* 1 і *сардэчн-(ы)* → *сардэчн-**ік**-(Ø)* 2 – *сардэч/**нік**/-(Ø)* 1 → *сардэч-**ніц**-(а)* 1 і *сардэчн/**ік**/-(Ø)* 2 → *сардэчн-**іц**-(а)* 2;

рус. *обой/к/-(и)* → *обой-**щик**-(Ø)* – *обой/щик/-(Ø)* → *обой-**щиц**-(а)*; *сердечн-(ый)* → *сердечн-**ик**-(Ø)* 1 і *сердц-(е)* → *сердеч-**ник**-(Ø)* 2 – *сердечн/**ик**/-(Ø)* 1 → *сердечн-**иц**-(а)* 1 і *сердеч/**ник**/-(Ø)* 2 → *сердеч-**ниц**-(а)* 2.

Аднак трэба адзначыць, што гэта адбываецца толькі ў тым выпадку, калі множнасць матывацыі маскулінатываў суправаджаецца множнасцю словаўтваральнай структуры. Параўн.:

бел. *мантаж-(Ø)* → *мантаж-**нік**-(Ø)* 1 і *мантажн-(ы)* → *мантажн**ік**-(Ø)* – *мантаж/нік/-(Ø)* 1 → *мантаж-**ніц**-(а)* 1 і *мантажн/ік/-(Ø)* 2 → *мантажн-**іц**-(а)* 2, але: *заклад-(Ø)* → *заклад-**чык**-(Ø)* 1 і *заклад/ва/-(ць)* → *заклад-**чык**-(Ø)* 2 – *заклад/чык/-(Ø)* → *заклад-**чыц**-(а);*

рус. *монтаж-(Ø)* → *монтаж-**ник**-(Ø)* 1 і *монтажн-(ый)* → *монтажн-**ик**-(Ø)* 2 – *монтаж/ник/-(Ø)* 1 → *монтаж-**ниц**-(а)* 1 і *монтажн/ик/-(Ø)* 2 → *монтажн-**иц**-(а)* 2, але: *заклад/к/-(а)* → *заклад-**чик**-(Ø)* 1 і *заклас-(ть)* → *заклад-**чик**-(Ø)* 2 – *заклад/чик/-(Ø)* → *заклад-**чиц**-(а)***.

Так, праведзены супастаўляльны аналіз беларускіх і рускіх поліматываваных фемінінатываў дазволіў выявіць наступныя асаблівасці.

1. Большасці беларускіх поліматываваных фемінінатываў у рускай мове адпавядаюць дэрываты з адной матывавальнай асновай і аднолькавымі суфіксамі, напрыклад: бел. *вяскоўк-(а) (вяск/овец/-(Ø)* 1 → *вяск-**оўк**-(а)* 1 і *вясков/ец/-(Ø)* 2 → *вяскоў-**к**-(а)* 2) – рус. *сельчанк-(а) (сельчан/ин/-(Ø)* → *сельчан-**к**-(а));* бел. *самотніц-(а) (самот/нік/-(Ø)* 1 → *самот-**ніц**-(а)* 1 і *самотн/ік/-(Ø)* 2 → *самотн-**іц**-(а)* 2) – рус. *отшельниц-(а) (отшель/ник/-(Ø)* → *отшель-**ниц**-(а)), затворниц-(а) (затвор/ник/-(Ø)* → *затвор-**ниц**-(а));* бел. *зайздросніц-(а) (зайзрос/нік/-(Ø)* 1 → *зайздрос-**ніц**-(а)* 1 і *зайздросн/ік/-(Ø)*

* Фактычны матэрыял узяты з наступных лексікаграфічных крыніц: «Беларуска-рускага слоўніка» (у 3 т.) (Мінск, 2003) (у артыкуле – БРС), «Слоўніка беларускай мовы» (пад рэд. М. В. Бірылы) (Мінск, 1987) (у артыкуле – СБМ), «Словаўтваральнага слоўніка беларускай мовы» (Мінск, 2000) (у артыкуле – ССБМ), «Словообразовательного словаря русского языка» (у 2 т. А. М. Ціханава) (М., 1985) (у артыкуле – ССРЯ), «Все трудности русского словообразования. Словарь-справочник» (А. М. Ціханава) (М., 2009).

** Пры разглядзе пытання множнасці матывацыі фемінінатываў мы прытрымліваемся пункту погляду вядомага русскага дэрыватолага А. М. Ціханава на гэту моўную з'яву.

2 → *зайздросн-**іц**-(а)* 2) – рус. *завистниц-(а) (завист/ник/-(Ø) → завист-**ниц**-(а))*; бел. *свавольніц-(а) (сваволь/нік/-(Ø)* 1 → *сваволь-**ніц**-(а)* 1 і *свавольн/ік/-(Ø)* 2 → *свавольн-**іц**-(а)* 2) – рус. *проказниц-(а) (проказник-(Ø) → проказ-**ниц**-(а)), баловниц-(а) (балов/ник/-(Ø) → балов-**ниц**-(а)), своевольниц-(а) (своевольн/ик/-(Ø) → своевольн-**иц**-(а)), строптивиц-(а)) строптив/ец/-(Ø) → строптив-**иц**-(а))**; бел. *забаўніц-(а) (забаў/нік/-(Ø)* 1 → *забаў-**ніц**-(а)* 1 і *забаўн/ік/-(Ø)* 2 → *забаўн-**іц**-(а)* 2) – рус. *затейниц-(а) (затей/ник/-(Ø) → затей-**ниц**-(а))***; бел. *спадарожніц-(а) (спадарож/нік/-(Ø)* 1 → *спадарож-**ніц**-(а)* 1 і *спадарожн/ік/-(Ø)* 2 → *спадарожн-**іц**-(а)* 2) – рус. *спутниц-(а) (спут/ник/-(Ø) → спут-**ниц**-(а));* бел. *здрадніц-(а) (здрад/нік/-(Ø)* 1 → *здрад-**ніц**-(а)* 1 і *здрадн/ік/-(Ø)* 2 → *здрадн-**іц**-(а)* 2) – рус. *изменниц-(а) (измен/ник/-(Ø) → измен-**ниц**-(а)); предательниц-(а) (предатель-(Ø) → предатель-**ниц**-(а))*; бел. *зневажальніц-(а) (зневажа/льнік/-(Ø)* 1 → *зневажа-**льніц**-(а)* 1 і *зневажальн/ік/-(Ø)* 2 → *зневажальн-**іц**-(а)* 2) – рус. *оскорбительниц-(а) (оскорбитель-(Ø) → оскорбитель-**ниц**-(а))*; бел. *вязальшчыц-(а) (вяза-(ць) → вяза-**льшчыц**-(а)* 1 і *вязальшч/ык/-(Ø) → вязальшч-**ыц**-(а)* 2) – рус. *вязальщиц-(а) (вязальщ/ик/-(Ø) → вязальшч-**иц**-(а))*; бел. *прыбіральшчыц-(а) (прыбіра-(ць) → прыбіра-**льшчыц**-(а)* 1 і *прыбіральшч/ык/-(Ø) → прыбіральшч-**ыц**-(а)* 2) – рус. *уборщиц-(а) (убор/щик/-(Ø) → убор-**щиц**-(а))*; бел. *захавальніц-(а) (захава-(ць) → захава-**льніц**-(а)* 1 і *захавальн/ік/-(Ø) → захавальн-**іц**-(а)* 2) – рус. *хранительниц-(а) (хранитель-(Ø) → хранитель**ниц**-(а))*; бел. *наведвальніц-(а) (наведва-(ць) → наведва-**льніц**-(а)* 1 і *наведвальн/ік/-(Ø) → наведвальн-**іц**-(а)* 2) – рус. *посетительниц-(а) (посетитель-(Ø) → посетитель-**ниц**-(а)).*

Беларускі поліматываваны фемінінатыў *манаш-**к**-(а) (*ад *манах-(Ø)* і *манаш/ак/-(Ø))* мае рускі адпаведнік – *монашка.* Па дадзеных ССРЯ (Т. I. С. 625), гэты дэрыват утвараецца толькі ад назоўніка *монах (монах-(Ø) → монаш-к-(а))*, г. зн. з'яўляецца монаматываваным. Аднак, па нашым меркаванні, дадзены фемінінатыў можа ўтварацца таксама і ад назоўніка *монашек (монаш/ек/-(Ø) → монаш-**к**-(а))*, які мае адно са значэнняў '*Разг.* То же, что и монах; молодой монах' (СРЯ. Т. II. С. 295).

У ТСБМ зафіксаваны фемінінатыў *сакрэтніца* са значэннем '*Жан. да* сакрэтнік (у 2 знач.)' (ТСБМ. Т. 5. С. 23). Па даных ССБМ, ён з'яўляецца поліматываваным: *сакрэт/нік/-(Ø) → сакрэт-**ніц**-(а)* і *сакрэтн/ік/-(Ø) → сакрэтн-**іц**-(а)* (ССБМ. С. 312). Поліматываваны назоўнік *сакрэтнік,* які выступае матывавальным да названага фемінінатыва, мае два значэнні: '1. Род пісьмовага стала з адкідной дошкай і шуфлядкамі для папер. 2. *Разм.* Чалавек, які выконвае сакрэтнае даручэнне. // Асоба, якая любіць сакрэтнічаць' (ТСБМ. Т. 5. С. 23). У БРС да беларускага назоўніка *сакрэтнік* прыводзіцца толькі адзін рускі адпаведнік – назоўнік *секретер* (БРС. Т. 3. С. 475),

* Эквівалентам беларускага фемінінатыва *свавольніца* ў рускай мове таксама выступае і поліматываваны назоўнік *озорница (озорн/ик/-(Ø) → озорн-**иц**-(а)* і *озор/ник/-(Ø) → озор-**ниц**-(а)).*

** Эквівалентам беларускага фемінінатыва *забаўніца* ў рускай мове выступае і поліматываваны дэрыват *забавница* (*забавн/ик/-(Ø) → забавн-**иц**-(а)* і *забав/ник/-(Ø) → забав-**ниц**-(а)).*

які мае значэнне: ‘Род небольшого письменного стола с ящиками и полками; шкаф с выдвигающейся или откидывающейся доской для писания’ (БТСРЯ. С. 1171) і, значыць, не з’яўляецца маскулінатывам. Аднак трэба заўважыць, што сучасныя слоўнікі рускай мовы фіксуюць фемінінатыў *секретница,* які ўтвараецца ад маскулінатыва *секретник* ‘*Разг.* Тот, кто любит секретничать’ (БТСРЯ. С. 1171). Па даных слоўніка «Все трудности русского словообразования» А. М. Ціханава, названы маскулінатыў з’яўляецца поліматываваным *(секретн-(ый)* → *секретн-**ик**-(Ø)* 1 і *секрет-(Ø)* (тайна) → *секрет-**ник**-(Ø)* 2) (с. 675) і, адпаведна, фемінінатыў *секретница* таксама мае дзве ўтваральныя асновы: *секретн/**ик/**-(Ø)* 1 → *секретн-**иц**-(а)* 1 і *секрет/**ник/**-(Ø)* 2 → *секрет-**ниц**-(а)* 2 (с. 675).

2. Значнай колькасці беларускіх поліматываваных асабовых назоўнікаў адпавядаюць рускія поліматываваныя адзінкі, якія а) поўнасцю супадаюць па сваёй структуры, напрыклад: бел. *модніц-(а) (мод/нік/-(Ø)* 1 → *мод-**ніц**-(а)* 1 і *модн/ік/-(Ø)* 2 → *модн-**іц**-(а)* 2) – рус. *модниц-(а) (мод/ник/-(Ø)* 1 → *мод-**ниц**-(а)* 1 і *модн/ик/-(Ø)* 2 → *модн-**иц**-(а)* 2); бел. *няўдачніц-(а) (няўдач/нік/-(Ø)* 1 → *няўдач-**ніц**-(а)* 1 і *няўдачн/ік/-(Ø)* 2 → *няўдачн-**іц**-(а)* 2) – рус. *неудачниц-(а) (неудач/ник/-(Ø)* 1 → *неудач-**ниц**-(а)* 1 і *неудачн/ик/-(Ø)* 2 → *неудачн-**иц**-(а)* 2); бел. *кляўзніц-(а) (кляўз/нік/-(Ø)* 1 → *кляўз-**ніц**-(а)* 1 і *кляўзн/ік/-(Ø)* 2 → *кляўзн-**іц**-(а)* 2) – рус. *кляузниц-(а) (кляуз/ник/-(Ø)* 1 → *кляуз-**ниц**-(а)* 1 і *кляузн/ик/ -(Ø)* 2 → *кляузн-**иц**-(а)* 2); бел. *дашкольніц-(а) (дашколь/нік/-(Ø)* 1 → *дашколь-**ніц**-(а)* 1 і *дашкольн/ік/-(Ø)* 2 → *дашкольн-**іц**-(а)* 2) – рус. *дошкольниц-(а) (дошколь/ник/-(Ø)* 1 → *дошколь-**ниц**-(а)* 1 і *дошкольн/ик/-(Ø)* 2 → *дошкольн-**иц**-(а)* 2) і інш.; б) часткова супадаюць па сваёй структуры, напрыклад: бел. *чыгуначніц-(а) (чыгунач/нік/-(Ø)* 1 → *чыгунач-**ніц**-(а)* 1 і *чыгуначн/ік/-(Ø)* 2 → *чыгуначн-**іц**-(а)* 2) – рус. *железнодорожниц-(а) (железнодорож/ник/-(Ø)* 1 → *железнодорож-**ниц**-(а)* 1 і *железнодорожн/ик/-(Ø)* 2 → *железнодорожн-**иц**-(а)* 2); бел. *сараматніц-(а) (сарамат/нік/-(Ø)* 1 → *сарамат-**ніц**-(а)* 1 і *сараматн/ік/-(Ø)* 2 → *сараматн-**іц**-(а)* 2) – рус. *бесстыдниц-(а) (бесстыд/ник/-(Ø)* 1 → *бесстыд-**ниц**-(а)* 1 і *бесстыдн/ик/-(Ø)* 2 → *бесстыдн-**иц**-(а)* 2), *срамниц-(а) (срамн/ик/-(Ø)* 1 → *срамн-**иц**-(а)* 1 і *срам/ник/-(Ø)* 2 → *срам-**ниц**-(а)* 2) і інш.

3. Некаторым беларускім поліматываваным назоўнікам са значэннем асобы жаночага полу ў рускай мове адпавядаюць дэрываты з адной матывавальнай асновай і рознымі суфіксамі, напрыклад: бел. *вартаўніц-(а) (варт/аўнік/-(Ø)* 1 → *варт-**аўніц**-(а)* 1 і *вартаў/нік/-(Ø)* 2 → *вартаў-**ніц**-(а)* 2) – рус. *сторожих-(а) (сторож-(Ø)* → *сторож-**их**-(а)), караульщиц-(а) (карауль/щик/-(Ø)* → *карауль-**щиц**-(а))* (ССРЯ. Т. I. С. 413); бел. *спадарожніца (спадарож/нік/-(Ø)* 1 → *спадарож-**ніц**-(а)* 1 і *спадарожн/ік/-(Ø)* 2 → *спадарожн-**іц**-(а)* 2) – рус. *попутчиц-(а) (попут/чик/-(Ø)* → *попут-**чиц**-(а))*[*];

[*] Тут і далей суфіксы ***-чиц(а), -щиц(а)*** выдзяляюцца ў словах паводле ССРЯ. Згодна з «Русской грамматикой», у фемінінатывах такога тыпу вылучаецца суфікс ***-иц(а)*** (гл.: Русская грамматика. М., 1980. Т. I. С. 201).

бел. *свавольніц-(а) (сваволь/нік/-(Ø)* 1 → *сваволь-**ніц**-(а)* 1 і *свавольн/ік/-(Ø)* 2 → *свавольн-**іц**-(а)* 2) – рус. *шалун-(Ø) (шалун-(Ø) → шалунь-(я) [шалун’-**j**-а])* і інш.

4. Некаторым беларускім назоўнікам са значэннем асобы жаночага полу ў рускай мове могуць адпавядаць утварэнні, розныя па структуры і граматычных паказчыках.

Так, эквівалентам беларускага поліматываванага фемінінатыва *злосніца (злос/нік/-(Ø)* 1 → *злос-**ніц**-(а)* 1 і *злосн/ік/-(Ø)* 2 → *злосн-**іц**-(а)* 2) у рускай мове выступаюць: 1) назоўнік агульнага роду *злюка*; 2) монаматываваны фемінінатыў *недоброжелательница* і 3) назоўнік мужчынскага роду *недруг* (БРС. Т. 2. С. 16).

Фемінінатыў *бяздольніца* мае значэнне ‘*Разм*. *Жан. да* бяздольнік’ (*бяздольнік* ‘Той, у каго няма шчаслівай долі; нешчаслівы чалавек’ (ТСБМ. Т. 1. С. 437). Згодна з ССБМ, названы фемінінатыў з’яўляецца поліматываваным: *бяздоль/нік/-(Ø)* 1 → *бяздоль-**ніц**-(а)* 1 і *бяздольн/ік/-(Ø)* 2 → *бяздольн-**іц**-(а)* 2 (ССБМ. С. 61). Нягледзячы на тое што ў БРС адсутнічае артыкул з названым словам і яго перакладам на рускую мову, рускім адпаведнікам беларускай фемініннай намінацыі *бяздольніца*, на нашу думку, можа выступаць субстантываваны прыметнік *обездоленная*, утвораны ад субстантываванага прыметніка *обездоленный* ‘Лишенный всего жизненно необходимого; находящийся в тяжёлом, бедственном положении’ (БТСРЯ. С. 664) (Параўн. у ССРЛЯ (Т. 8. С. 76): *обездоленный* ‘Лишенный самого необходимого; угнетённый, несчастный’). Па даных ССРЯ, фемінінатыў *обездоленная* з’яўляецца монаматываваным (ССРЯ. Т. I. С. 308).

5. Некаторым беларускім поліматываваным фемінінатывам, нейтральным у стылістычных адносінах, у рускай мове адпавядаюць фемінінныя намінацыі, якія належаць да ўстарэлай лексікі. Так, напрыклад, беларускаму фемінінатыву *ануч-**ніц**-(а) (ануч/нік/-(Ø)* і *ануч-(а))* са значэннем ‘1. *Жан. да* анучнік. 2. *Разм*. Жанчына, якая захапляецца ўборамі, строямі’ (ТСБМ. Т. 1. С. 239) у рускай мове адпавядаюць поліэквівалентныя карэляты *тряпичниц-(а) (тряпичн/ик/-(Ø)* 1 → *тряпичн-**иц**-(а)* 1 і *тряпич/ник/-(Ø)* 2 → *тряпич-**ниц**-(а)* 2) і *ветошниц-(а) (ветошн/ик/-(Ø)* 1 → *ветошн-**иц**-(а)* 1 і *ветош/ник/-(Ø)* 2 → *ветош-**ниц**-(а)* 2). Апошні дэрыват, паводле СРЯ, адносіцца да ўстарэлай лексікі (СРЯ. Т. I. С. 158). Беларускаму поліматываванаму фемінінатыву *жаласніца (жалас/нік/-(Ø)* 1 → *жалас-**ніц**-(а)* 1 і *жаласн/ік/-(Ø)* 2 → *жаласн-**іц**-(а)* 2) адпавядае рускі карэлят *печальница (печаль/ник/-(Ø)* → *печаль-**ниц**-(а))*, які таксама адносіцца да ўстарэлай лексікі і мае адну матывавальную аснову (СРЯ. Т. III. С. 117).

У беларускай мове зафіксаваны фемінінатыў *чыноўніц-(а)*. Нягледзячы на тое што ў ССБМ ён падаецца як поліматываваны *(чын/оўнік/-(Ø)* 1 → *чын-**оўніц**-(а)* 1 і *чыноўн/ік/-(Ø)* 2 → *чыноўн-**іц**-(а)* 2), лічым неабходным даць некаторыя тлумачэнні. Маскулінатыў *чыноўнік*, ад якога ўтвараецца названы фемінінатыў, не можа мець дзве матывавальныя асновы (па даных ССБМ ён таксама поліматываваны. – *І. Я.*), паколькі прыметнік *чыноўны* –

адна з матывавальных асноўназванага маскулінатыва, адносіцца да ўстарэлай лексікі (*гл.* СБМ, ТСБМ, ТСБЛМ). Выходзячы з таго, што множнасць матывацыі – з’ява сучаснай беларускай мовы, названы ад’ектыў не можа выступаць матывавальным да маскулінатыва *чыноўнік*, што гаворыць пра яго (маскулінатыва. – *І. Я.*) монаматываванасць. Гэта, у сваю чаргу, дае ўсе падставы лічыць фемінінатыў *чыноўніца* неполіматываваным.

Тое ж самае назіраем і пры ўтварэнні рускага фемінінатыва *чиновница* – эквіваленту беларускага дэрывата *чыноўніца*. У ССРЯ (Т. II. С. 374) названы дэрыват падаецца як поліматываваны *(чинов/ник/-(Ø)* 1 → *чинов-**ниц**-(а)* 1 і *чиновн/ик/-(Ø)* 2 → *чиновн-**иц**-(а)* 2), аднак прыметнік *чиновный* таксама адносіцца да ўстарэлай лексікі (СРЯ. Т. IV. С. 678), што ўказвае на монаматываванасць маскулінатыва *чиновник* а, значыць, і фемінінатыва *чиновница*.

Такім чынам, множнасць матывацыі фемінінатываў у сучасных беларускай і рускай мовах праяўляецца па-рознаму: 1) большасці беларускіх поліматываваных фемінінатываў у рускай мове адпавядаюць дэрываты з адной матывавальнай асновай і аднолькавымі суфіксамі; 2) значнай колькасці беларускіх поліматываваных назоўнікаў са значэннем асобы жаночага полу ў рускай мове адпавядаюць неадзінаматываваныя адзінкі, якія поўнасцю супадаюць па сваёй структуры; часткова супадаюць па сваёй структуры; некаторым беларускім фемінінным намінацыям у рускай мове адпавядаюць монаматываваныя фемінінатывы з рознымі суфіксамі; нязначнай колькасці беларускіх назоўнікаў са значэннем асобы жаночага полу ў рускай мове адпавядаюць рознатыповыя ўтварэнні; некаторым беларускім поліматываваным фемінінатывам, нейтральным у стылістычных адносінах, адпавядаюць рускія фемінінныя намінацыі, якія належаць да ўстарэлай лексікі.

## Літаратура

1. Сопоставительная грамматика русского и украинского языков / Г. Д. Басова [и др.]. – Киев, 2003. – С. 27.

2. Беларуская граматыка: у 2 ч. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства. – Мінск, 1985. – Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. – С. 255.

3. Беларуская граматыка. – С. 254–255.

## Summary

The problem of plural motivation of personal names of nouns in the modern Belarussian and Russian word formation is considered in the article.

*Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа*
*і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*02.09.2010 г.*

*УДК 811.161.3’367.623’366.5*

*В. І. УЛАСЕВІЧ*

# АСАБЛІВАСЦІ СКЛАНЕННЯ ЯКАСНЫХ І АДНОСНЫХ ПРЫМЕТНІКАЎ ЖАНОЧАГА РОДУ Ў РОДНЫМ І ТВОРНЫМ СКЛОНАХ АДЗІНОЧНАГА ЛІКУ

Склонавыя канчаткі прыметнікаў залежаць ад месца націску (на аснове ці на канчатку) і характару канцавога зычнага асновы (на мяккі, цвёрды, зацвярдзелы зычны і на *г*, *к*, *х*), у адзіночным ліку – ад роду (мужчынскага, жаночага ці ніякага). Скланенне прыметнікаў звычайна не выклікае асаблівых цяжкасцей. Варыянтныя канчаткі характэрны толькі для адносных і якасных прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку ў родным і творным склонах.

**Формы роднага склону жаночага роду адзіночнага ліку.** У сучаснай беларускай літаратурнай мове прыметнікі жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку звычайна ўжываюцца з канчаткамі *-ай, -ой, -яй.* Традыцыйна ў беларускіх граматыках падкрэсліваецца, што ў размоўным стылі і мове мастацкай літаратуры варыянтнымі да іх выступаюць канчаткі *-ае, -ое, -яе* [1]. Аднак у беларускай мове канца XX – пачатку XXI ст. назіраецца тэндэнцыя распаўсюджання двухскладовых канчаткаў і на іншыя стылі мовы.

Трэба адзначыць, што канчаткі *-ай, -ой, -яй* застаюцца асноўнымі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове, ужываюцца ва ўсіх функцыянальных стылях, што рэгламентуецца граматыкамі і нарматыўнымі слоўнікамі. Найбольш распаўсюджаны гэтыя канчаткі і ў беларускіх гаворках: «Форма з канчаткам *-ой (-ай)* вядома большасці гаворак і з’яўляецца нормай беларускай літаратурнай мовы. Форма з канчаткам *-ое (-ае)* шырока ўжываецца ў паўднёва-заходніх гаворках» [2]. Пры гэтым двухскладовыя формы і ў паўднёва-заходнім дыялекце не з’яўляюцца адзінаўжывальнымі. Такім чынам, канчаткі *-ай, -ой, -яй* «прадстаўлены як амаль адзінаўжывальныя ў паўночна-заходняй частцы гаворак і выяўляюць ярка выражаную тэндэнцыю да далейшага пашырэння ў паўднёва-заходнім і паўночна-ўсходнім дыялекце» [3].

У старабеларускай мове поўныя прыметнікі жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку першапачаткова выкарыстоўваліся толькі з канчаткам *-ое, -ее*, аб чым сведчаць шматлікія прыклады з пісьмовых крыніц розных жанраў. Аднаскладовыя формы *-ой, -ей* сустракаюцца ў беларускіх пісьмовых помніках з канца XV – пачатку XVI ст. [4] (па сцвярджэнні М. Г. Булахава – з другой паловы XIV ст. [5]). У помніках XVI–XVII стст.

канчаткі *-ой, -ей* прадстаўлены значна шырэй, аднак у меншай колькасці, чым *-ое, -ее* [6]. Тым не менш у многіх дакументах аднаскладовыя формы ў гэты час нават пераважаюць над двухскладовымі [7]. Пры гэтым даследчыкі мяркуюць, што ў жывой народнай мове старабеларускага перыяду аднаскладовыя канчаткі мелі большае пашырэнне, чым у літаратурна-пісьмовай мове таго часу [8].

Цікавыя звесткі знаходзім адносна ўжывання аднаскладовых і двухскладовых канчаткаў у мове газеты «Наша Ніва» (1906–1915). Так, канчатак *-ае* зафіксаваны ў 19 выпадках, тады як *-ай* – у 58; канчатак *-яе* – усяго ў 1 выпадку, *-яй* – у 10; канчатак жа *-ое* не сустракаецца ўвогуле [9]. Пры гэтым заўважаецца наступная заканамернасць: найбольшае пашырэнне канчатак *-ае* меў у мове газеты «Наша Ніва» ў 1906–1910 гг., калі ён адзначаецца ў тэкстах розных стыляў (мастацкі, публіцыстычны, навукова-папулярны), аднак пачынаючы з 1910 г. сфера ўжывання двухскладовай формы *-ае* значна звужаецца (найперш фіксуецца ў вершаванай мове). На падставе гэтага робіцца вывад аб тым, што дадзеная форма магла быць стылістычна абумоўленай [10].

Першыя граматыкі сучаснай беларускай літаратурнай мовы арыентаваліся на граматычныя нормы паўднёва-заходніх гаворак [11]. У сувязі з гэтым, у прыватнасці, у «Беларускай граматыцы для школ» Б. Тарашкевіча рэкамендуецца ў якасці асноўных выкарыстоўваць менавіта канчаткі *-ае, -ое, -яе* (канчаткі *-ай, -ой, -яй* даюцца побач у дужках як варыянтныя формы) [12]. У «Беларускім правапісе» Я. Лёсіка правіла сфармулявана наступным чынам: «Родны склон адзіночнага ліку *жаночага* роду не пад націскам мае канчаткі: **-***ае (-ай) – -яе (-яй): цікавае* або *цікавай* кнігі; *сіняе* або *сіняй* паперы; а пад націскам – *-ое (-ой): маладое* або *маладой* жанчыны; *старое* або *старой* хаты» [13]. У «Граматыцы беларускае мовы» Я. Лёсік удакладняе, што «адносна дублетаў з канчаткам *ой–ай–яй* у родным і творным склонах можна думаць, што тут не абышлося бяз уплыву з боку склонаў давальнага і меснага» [14].

Увогуле, пытанне канчаткаў прыметнікаў у 1920-я гады вырашалася не так адназначна. Так, У. Дубоўка піша: «Не растлумачанымі для ўжываньня зьяўляюцца два выпадкі: канчаткі прыметнікаў роднага склону жаночага роду ў адзіночным ліку, а таксама назоўнікаў і прыметнікаў творнага склону жаночага роду ў адзіночным ліку. Нашы граматыкі зазначаюць, што можна ўжываць у першым выпадку канчаткі «ае» і «ай» («ое» – «ой», «яе» – «яй»), у другім выпадку – канчаткі «ою» – «ой» («аю» – «ай», «яю» – «яй»). Я. Лёсік далучае да гэтага такое тлумачэньне: «але ў беларускай мове звычайней поўныя формы, напр. – за дурною галавою нагам няма спакою».

Тым часам, абедзьве формы павінны ўжывацца ў розных выпадках, і тут можна, па аналёгіі з папярэднімі, вызначыць такое правіла.

Тады, калі за паказанымі формамі чарговае слова пачынаецца зычным гукам, трэба даваць поўныя канчаткі. Калі слова пачынаецца галосным –

трэба даваць кароткія канчаткі. Напрыклад: Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі; беларускай абычайнасьці; моцнаю рукой ахапіў стан; вялікай адлегласьцю і да т. п.» [15].

Цікавым уяўляецца высвятленне колькаснай суадноснасці двухскладовых і аднаскладовых форм у творах мастацкай літаратуры пачатку – сярэдзіны XX ст. (усяго 85 тамоў), праведзенае М. Г. Булахавым і прадстаўленае ў яго манаграфіі «Прыметнік у беларускай мове» (1964): «Сістэматычныя падлікі паказалі, што формы *-ое, -ае, -яе* складаюць толькі 9,2 % ад агульнай колькасці форм адзіночнага ліку жаночага роду. Зразумела, паказчык гэты не з'яўляецца абсалютным у адносінах да ўсіх аўтараў. У творах большасці пісьменнікаў ужывальнасць гэтых форм складае яшчэ меншы працэнт» [16]. Несумненна, што колькасць двухскладовых форм будзе пераважаць у выхадцаў з паўднёва-заходняй Беларусі.

У сярэдзіне XX ст. замацоўваецца норма (адлюстраваная ў «Граматыцы беларускай мовы» (1962)), паводле якой канчатак *-ой (-ай, -яй)* з'яўляецца асноўным і пераважаючым, нейтральным у стылістычных адносінах; двухскладовыя ж канчаткі *-ое (-ае, -яе)* ужываюцца ў тэкстах размоўнага стылю, у мове мастацкай літаратуры (асабліва ў паэтычнай мове) і таму разглядаюцца як стылістычна маркіраваныя. Аднак у «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959) такое размежаванне адсутнічае: «Якасныя і адносныя прыметнікі ў родным склоне адз. ліку жаночага роду пішуцца з канчаткамі *-ай (-ае), -яй (-яе)* не пад націскам і *-ой (-ое)* пад націскам, напрыклад: *дружнай (-ае) сям'і, шырокай (-ае) дарогі, крынічнай (-ае) вады, мураванай (-ае) сцяны, летняй (-яе) раніцы, маладой (-ое) травы, стальной (-ое) апоры»* [17]. У дапаможніку ж для філалагічных факультэтаў педінстытутаў «Сучасная беларуская літаратурная мова: Марфалогія» (1980) адзначаецца, што двухскладовыя канчаткі ў родным і творным склонах прыметнікі маюць «у жывой народнай мове, літаратурна-мастацкім і навукова-папулярным стылях мовы» [18].

У сучасным беларускім друку двухскладовыя канчаткі прыметнікаў жаночага роду роднага склону звычайна выкарыстоўваюцца ў творах мастацкай літаратуры, што адпавядае граматычным нормам сучаснай беларускай літаратурнай мовы: *І мне не хапае паху Баров**ае** смалы* (Р. Барадулін. Полымя. 1995. № 1. С. 31); *Свае* [коні] *зрабіліся, як дэрбіны – ад бяскорміцы ды непасільн**ае** працы, а ягоны конік быў, як намаляваны* (В. Быкаў. Полымя. 1995. № 1. С. 16); *Пяць лістоў з твайго юнацтва – светл**ае** далечыні* (В. Жуковіч. Маладосць. 1997. № 1. С. 186); *Праз колькі хвіль няёмк**ае** цішыні мужчына дастаў з кішэні гадзіннік* <...> (Б. Пятровіч. Полымя. 1997. № 9. С. 37); *Усё, акрамя жыв**ое** чалавеч**ае** душы* (І. Сяргейчык. Маладосць. 1998. № 1. С. 149); *Вяршына яшчэ не стар**ое** бярозы перацягнута на другі бок дарогі* (Я. Брыль. ЛіМ. 1998. № 43. С. 15); <...> *такія ж самыя грымасы, дурны рогат без прычыны, перабіванне чуж**ое** гаворкі* <...> (У. Дамашэвіч. Маладосць. 1998. № 2. С. 42); *Сябра ўцякаў ад сваёй бязладн**ае** сіроцк**ае** долі* (Г. Багданава.

Маладосць. 1998. № 5. С. 20); *Чаго шукаў, ні разу не знайшоў, апроч надзей і вечн**ае** трывогі* (С. Грахоўскі. Полымя. 1998. № 2. С. 159); *Нікому анічога не кажы, Я не вярнулася з парыжск**ае** кавярні* (Л. Рублеўская. ЛіМ. 2000. № 23–24. С. 8); *Ад чарады, ад лебядзін**ае** Адзін адбіўся лебядзін: Не мог ён без яе, адзін**ае**, Ляцець, шукаць цяплейшых зім* (М. Лужанін. ЛіМ. 2000. № 26. С. 8); *А яно квітнее, гэта слова, Сонцам наліваецца барвовым, Водарам з духмян**ае** ракі* (М. Макарцоў. ЛіМ. 2007. № 18. С. 8); *З тваёй нястомн**ае** гасподы Ляціць нязведанасць да нас* (У. Марук. Полымя. 2007. № 2. С. 9); *Урэшце, я і довад маю З той старадаўн**яе** пары, Калі захоплена складалі Паэму Лыс**ае** гары* (З. Вядзьмак-Лысагорскі. Звязда. 2006. 4 жн.).

У большасці выпадкаў формы прыметнікаў з двухскладовымі канчаткамі надзелены стылістычнымі функцыямі, прычым у паэтычнай мове паралелізм гэтых форм залежыць і ад патрабаванняў рытму і размеру [19]. Пра гэта сведчыць і тое, што формы з аднаскладовымі і двухскладовымі канчаткамі могуць ужывацца ў адным вершы, напрыклад: *Свой сум адной ужо мне не адолець – Ён сэрца затапіў па берагі, І я вяду душу сваю на споведзь, Каб збавіцца смяротн**ае** тугі. Мой спавядальнік – месяц залацісты, Тужлів**ай** ночы трапяткі слухач* (Г. Міклашэвіч. ЛіМ. 2000. № 29. С. 13).

У 1990-я гады пад уплывам тэндэнцыі да нацыяналізацыі, што актыўна пачала праяўляцца ў беларускай мове, двухскладовыя канчаткі *-ае, -ое, -яе* сталі зноў выкарыстоўвацца і ў публіцыстычным стылі: *Стварэнне моцн**ае** Беларуск**ае** дзяржавы – вось мэта і сэнс нацыянальнай ідэі* (ЛіМ. 1995. № 6. С. 2); <...> *у нас вынайдзена нешта белавата-сіняватае, паўтарапрацэнтн**ае** тлустасці пад назваю «малако»* <...> (ЛіМ. 1998. № 49. С. 2); *І перш за ўсё гэта боль Вялік**ае** Айчынн**ае**, боль за ўсіх загінуўшых* <...> (ЛіМ. 1999. № 5. С. 6); *Нашы родныя русіфікатары з нашага ўрада* <...> *не «дакажуць» нават сілаю міліцэйск**ае** палкі, што наша беларуская мова горшая за рускую* (ЛіМ. 1999. № 45. С. 15); *У дні востр**ае** грамадск**ае** й палітычн**ае** барацьбы, калі ўсе сілы народу йдуць на змаганне* <...> (Полымя. 1998. № 2. С. 268); <...> *архімандрыт Супрасльскага манастыра ўласнаю асобаю сышоў з царкоўн**ае** будоўлі* (Спадчына. 1996. № 3. С. 235); *Гэта нібы падмацоўвае меркаванне аб прамежкавасці праславянск**ае** мовы паміж італійскаю і балцкаю* (Спадчына. 1996. № 1. С. 167); *Пасля абвешчаньня ў 1918 г. незалежнасьці Беларусі Рада БНР зьвярнулася да сусветн**ае** супольнасьці* (Спадчына. 1998. № 1. С. 165); *Трэба было пусьціць пыл у вочы гасьцям, каб тыя шчыра паверылі ў вялікія посьпехі савецк**ае** нацыянальн**ае** палітыкі* (Спадчына. 1998. № 1. С. 210); *Мне б не хацелася, каб склалася ўражаньне, што мэта гэтага матар'ялу – адлюстраваньне хібаў нашае вышэйш**ае** адукацыі ці прыніжэньне яе ўзроўню* (Студэнцкая думка. 1999. Кастр. С. 2); *Беларуская лацінка – гэта яшчэ адна з формаў спрашчэньня беларуск**ае** мовы* (Студэнцкая думка. 1999. Кастр. С. 30).

Гэта тэндэнцыя знайшла адлюстраванне ў некаторых падручніках па беларускай мове. Так, у вучэбным дапаможніку для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ «Сучасная беларуская літаратурная мова: Марфалогія» (1997)

чытаем, што побач з канчаткамі -*ой* (пад націскам), -*ай*, -*яй* (не пад націскам) «у родным склоне прыметнікі могуць мець варыянтны канчатак -*ое (-ае), -яе: дарагое краіны, ранняе вясны, любае зямлі*» [20]. Пра нейкія стылістычныя абмежаванні пры ўжыванні гэтых канчаткаў гаворка не вядзецца.

П. Сцяцко ў манаграфіі «Культура мовы» (2002) увогуле сцвярджае, што двухскладовыя канчаткі «не толькі больш мілагучныя, чым аднаскладовыя (*маладой, упрыгожанай, восьмай, нашай*), але дазваляюць размяжоўваць розныя склонавыя формы – роднага і творнага склону: *прыдатны падарунак для (каго?) маладое гаспадыні* і *ганаруся (кім?) маладой гаспадыняй*» [21]. Аднак у гэтым выпадку даследчык чамусьці не ўлічвае існаванне двухскладовых варыянтаў канчаткаў прыметнікаў у творным склоне (-*аю, -ою, -яю*), якія атрымалі ў беларускай мове XX ст. нават большае пашырэнне, чым двухскладовыя канчаткі роднага склону (гл. пра канчаткі творнага склону ніжэй). На думку аўтара, «у выніку выраўноўвання граматычнага ладу нашае мовы на расійскі ўзор, гэтую адметную форму роднага склону [двухскладовыя канчаткі] неабгрунтавана занядбалі» [22].

Іншыя ж даследчыкі адзначаюць, што «многія прыклады з пісьмовых крыніц паказваюць, што шырокае ўжыванне канчаткаў -*ае, -яе, -ое* не мае пад сабой важкай, абгрунтаванай глебы, а з'явілася вынікам беспадстаўнай дзейнасці асобных лінгвістаў, пісьменнікаў, работнікаў друку, неспецыялістаў-прафесіяналаў, якія лічаць, што аднаўленне двухскладовага канчатка -*ае, -яе, -ое* ўнясе пэўную карэкціроўку ў стан норм сучаснай беларускай мовы» [23].

Як стылістычна маркіраваныя разглядаюцца двухскладовыя канчаткі і ў даследаваннях пачатку XXI ст., у прыватнасці ў «Кароткай граматыцы беларускай мовы» (2007) і «Граматычным слоўніку прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя» (2009) [24].

Трэба заўважыць, што выкарыстанне двухскладовых канчаткаў рэкамендуецца так званай тарашкевіцай («клясычным правапісам»). Гэты правапіс грунтуецца на першых граматыках новай беларускай літаратурнай мовы, у якіх, як было заўважана вышэй, у якасці асноўных канчаткаў прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку ў родным склоне фіксаваліся менавіта двухскладовыя формы. Такім чынам, пры выкарыстанні гэтага правапісу двухскладовыя канчаткі сустракаюцца не толькі ў тэкстах мастацкага і публіцыстычнага стыляў, але і ў навуковых і афіцыйна-дзелавых тэкстах. Напрыклад, навуковы стыль: *Шэраг уласнабеларускіх і пазычаных назоўнікаў мужчынскага роду афармляецца бяз малахарактэрн**ае** для беларуск**ае** мовы фіналі **-ій/-ый*** (Беларускі клясычны правапіс. Збор правілаў. Сучасная нармалізацыя. Вільня; Менск, 2005. С. 39); афіцыйна-дзелавы стыль: *11. Усе епіскапы БАПЦ роўныя сабе ў сане. Кандыдатаў на епіскапа могуць выстаўляць: Сабор Епіскапаў і Епархіяльны Сабор. Кажны кандыдат мае быць зацьверджаны Радай БАПЦ і адказваць усім правілам Сусьветн**ае** Праваслаўн**ае** Царквы* (Статут Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. http://www.belapc.org/aficyynyya-dakumenty/statut). Аднак і ў тэкстах, створаных «клясычным правапісам»,

двухскладовыя канчаткі не з’яўляюцца адзінаўжывальнымі. Даволі часта выкарыстоўваюцца ў іх і аднаскладовыя канчаткі (нават у адным кантэксце): *Працоўная група імкнулася стварыць выданьне для шырок**ае** чытацк**ай** аўдыторыі: як адмыслоўцаў – журналістаў і рэдактараў, пісьменьнікаў, навукоўцаў, гэтак і паспалітых карыстальнікаў* (Беларускі клясычны правапіс. С. 7).

Тым не менш у 2000-я гады двухскладовыя варыянты ў сучаснай публіцыстыцы сустракаюцца толькі спарадычна (безумоўна, у творах, напісаных «клясычным правапісам», такія варыянты пераважаюць): *Вельмі важным пытаннем, якое, на думку назіральнікаў, не зможа абысці Сабор, ёсць статус Праваслаўн**ае** Царквы ва Украіне* (Наша Ніва. 2008. 11 снеж.); *І праз жахлівую сацыяльную дэградацыю рабск**ае** вёскі* (Наша Ніва. 2009. 11 лют.).

Пад уплывам канчаткаў роднага склону прыметнікі жаночага роду адзіночнага ліку ў давальным і месным склонах таксама зрэдку ўжываюцца з канчаткамі *-ае, -ое, -яе*: *Будзем жа верныя ягонае светл**ае** памяці* (ЛіМ. 1999. № 54. С. 15); *Ад гэтых пакояў святло выстрэльвала за раку і адбівалася ў падвойн**ае** шыбе нашага канца калідора* (ЛіМ. 1999. № 5. С. 9); *У знак прызнання заслугаў у нялёгк**ае** й высакародн**ае** справе захавання Беларушчыны* (Полымя. 1995. № 4. С. 171). Такія канчаткі ў давальным і месным склонах не характэрны для беларускіх гаворак («у давальным і месным склонах прыметнікі жаночага роду маюць аднолькавыя формы: з канчаткам *-ой (-ай), -уй, -эй*» [25]). Не зафіксаваны яны і ў першых граматыках беларускай мовы, у тым ліку ў «Беларускай граматыцы для школ» Б. Тарашкевіча. Гэтыя формы знаходзяцца таксама па-за межамі граматычных норм сучаснай беларускай мовы, а таму павінны разглядацца як памылка.

**Формы творнага склону жаночага роду адзіночнага ліку.** У сучаснай беларускай літаратурнай мове прыметнікі жаночага роду ў творным склоне адзіночнага ліку звычайна выкарыстоўваюцца з канчаткамі *-ай, -ой, -яй.* Аднак у творах мастацкай літаратуры, асабліва паэтычных, і ў размоўным стылі варыянтнымі да іх выступаюць канчаткі *-аю, -ою, -яю.*

Названыя вышэй канчаткі маюць найбольшае пашырэнне і ў дыялектнай мове: усечаныя аднаскладовыя характэрны для паўночна-ўсходняй часткі беларускіх гаворак, поўныя двухскладовыя – для паўднёва-заходняй [26]. У сучаснай беларускай літаратурнай мове, як і ў выпадку з канчаткамі роднага склону, дапускаецца выкарыстанне двухскладовых канчаткаў у размоўным стылі і тэкстах мастацкай літаратуры [27].

Гістарычна двухскладовыя формы з’яўляюцца зыходнымі. Прыметнікі з канчаткамі *-ою, -ею* паслядоўна адлюстраваны ў старабеларускіх пісьмовых помніках розных жанраў [28]. Працэс замены двухскладовых форм аднаскладовымі адбываўся ў асноўным пасля XVII ст. [29]. Хаця, як мяркуюць даследчыкі, у жывой народнай мове формы на *-ой, -ей*, напэўна, існавалі [30].

У мове газеты «Наша Ніва» (1906–1915) шырока ўжываліся абодва тыпы канчаткаў. Двухскладовыя канчаткі, як і ў сучаснай мове, актыўна выкарыстоўваліся ў мове мастацкіх твораў у стылістычных мэтах і для захаван-

ня пэўнага рытму і размеру ў паэтычных творах [31]. Пры гэтым характэрнай асаблівасцю мовы «Нашай Нівы» стала ўжыванне канчаткаў *-аю, -ою* ў артыкулах публіцыстычнага характару.

У «Беларускай граматыцы для школ» Б. Тарашкевіча двухскладовыя формы ў творным склоне рэкамендуецца ўжываць як асноўныя (пры наяўнасці варыянтных аднаскладовых форм). Аднак цікава, што для прыметнікаў з мяккай асновай у творным склоне, у адрозненне ад роднага, фіксуецца толькі канчатак *-яю* (без варыянтнага *-яй*) [32]. У «Беларускім правапісе» Я. Лёсіка гэта недакладнасць адсутнічае, усе двухскладовыя канчаткі пададзены з варыянтнымі аднаскладовымі: «Прыметнікі жаночага роду адзін. ліку ў творным склоне бяз націску на канчатку маюць *-аю (-ай) – -яю (-яй): босаю* або *босай* нагой; *новаю* або *новай* кнігаю; *сіняю* або *сіняй* папераю; *раньняю* або *раньняй* вясною; а калі націск на канчатку, то будзе *-ою (-ой): дурною* або *дурной* галавою» [33].

Увогуле двухскладовыя канчаткі прыметнікаў жаночага роду ў творным склоне адзіночнага ліку былі больш распаўсюджаны ў першай трэці XX ст. у параўнанні з аналагічнымі канчаткамі роднага склону. Так, у 1920–1930-х гадах гэтыя канчаткі фіксуюцца не толькі ў творах мастацкай літаратуры, але і ў афіцыйна-дзелавым стылі беларускай літаратурнай мовы [34]. Аднак пачынаючы з 1930-х гадоў пад уплывам экстралінгвістычных фактараў (тэндэнцыі да русіфікацыі) канчаткі *-аю, -ою, -яю* паступова адыходзілі на другі план у сувязі з пашырэннем канчаткаў *-ай, -ой, -яй* і звычайна разглядаліся як стылістычна маркіраваныя. Гэта знайшло сваё адлюстраванне ў граматыках і ў большасці падручнікаў і дапаможнікаў па беларускай мове.

Двухскладовыя канчаткі і ў наш час актыўна выкарыстоўваюцца ў мастацкіх тэкстах, у асноўным са стылістычнымі мэтамі або для захавання рытму і размеру ў паэтычных творах: *І стаю я пасярод дарогі Са стар**ою** кульбаю ў руцэ...* (Г. Бураўкін. Полымя. 1995. № 8. С. 13); *Брыдзе жанчына ля бяроз Бярозай бел**аю** дахаты* (К. Камейша. Полымя. 1997. № 1. С. 11); *Вятрэе неба, Зябне дол, І робіцца радня чуж**ою*** (Р. Барадулін. Полымя. 1997. № 3. С. 11); *Абстрэл цягнуўся ўсю ноч – то крыху слабеючы, нават прыпыняючыся, то разгараючыся з нов**аю** сілай* (В. Быкаў. Полымя. 1995. № 5. С. 41); *Перад стар**ою** іконай натхнёна Ты памаліся* (Н. Шклярава. ЛіМ. 2007. № 15. С. 8); *Але неўзабаве адчуў, як абудзілася і затрапятала вольн**аю** птушкай у душы даўняя прыснулая надзея* (А. Давыдаў. Полымя. 1996. № 12. С. 186); *Там вада цямнелася і глядзелася на чалавека чорн**аю** прадонн**аю** глыбінёй* (А. Жук. Полымя. 1997. № 1. С. 26).

У 1990-я гады пад уплывам тэндэнцыі да нацыяналізацыі двухскладовыя канчаткі *-аю, -ою, -яю* зноў сталі актыўна выкарыстоўвацца ў публіцыстычным стылі: *Заставалася глух**ою** да яе праблемаў і Ліга Нацыяў, куды ўрад БНР некалькі разоў накіроўваў мемарандумы* (Спадчына. 1995. № 6. С. 201); <...> *Бельскі* <...> *не паўтарае легенду пра рымскае паходжанне літоўскай нацыі, лічачы яе, мабыць, беспадстаўн**аю*** (Спадчына. 1996. № 1.

С. 38); *Пачатков**аю**, асноўн**аю** якасцю міфу ёсць вера ягоных носьбітаў у суцэльную верагоднасць міфічнага апавядання* (Спадчына. 1996. № 2. С. 59); *Розыгрыш царск**аю** адміністрацыяй «беларускай карты» ўяўляе сабой цікавую і маладаследаваную старонку нашае гісторыі* (Спадчына. 1996. № 4. С. 53); *Пры выяўленні польскіх стэрэатыпаў у свядомасці беларусаў карыстаемся чарырохузроўнев**аю** сістэматызацыяй псіхікі чалавека, распрацаванай П. Сарокіным з ЗША* (Спадчына. 1997. № 2. С. 62); *Адзін**аю** магчым**аю** альтэрнатываю гэтай максімалісцкай праграме быў <...> зварот да рыжскай мяжы* (Спадчына. 1997. № 3. С. 106); *Давераснёўская творчасць Міхася Машары не аддавалася анафеме, але... заставалася ў большай частцы сваёй незапатрабаван**аю*** (Спадчына. 1997. № 5. С. 56); *Што гэта, яшчэ адна праява фанабэрыі, выкліканая сваёю сённяшн**яю** матэрыяльн**аю** звышзабяспечанасцю?* (ЛіМ. 1995. № 51. С. 4); *Здаецца, стогне нават сама атмасфера над прыгнечанымі людзьмі, занядбал**аю** гаспадаркай* (ЛіМ. 1997. № 1. С. 4); *Харыста мае аднакавае імя з грэцк**аю** багіняю ўдзячнасці* (ЛіМ. 1998. № 8. С. 5); *Вясна 1966 года <...> была ў маім жыцці помн**аю*** <...> (ЛіМ. 1998. № 47. С. 7); *Кніга <...> цікавая для ўсіх адукаваных людзей – Слова мудрага і натхнёнага мысленніка, што вядзе дыялог з сучасн**аю** думкай* <...> (ЛіМ. 1999. № 49. С. 5); *«Студэнцк**аю** думкаю» было зладжана апытаньне студэнтаў менскіх ВНУ, ім ставілася тры пытаньні: ці лёгка вам даецца замежная мова?* <...> (Студэнцкая думка. 1999. Кастр. С. 30).

Шырока ўжываюцца двухскладовыя канчаткі ў тэкстах, напісаных «клясычным правапісам», у тым ліку ў навуковым стылі, аднак і тут яны не з'яўляюцца адзінаўжывальнымі (нават у межах аднаго кантэксту): *Ува ўласных назовах зь неславянск**аю** лексычн**ай** асновай этымалягічны выбухны [ґ] традыцыйна вымаўляецца па-беларуску як фрыкатыўны [γ]* <...> (Беларускі клясычны правапіс. С. 72).

Такім чынам, у сучаснай беларускай літаратурнай мове прыметнікі жаночага роду ў родным і творным склоне адзіночнага ліку могуць мець варыянтныя канчаткі: *-ай, -ой, -яй (-ае, -ое, -яе)* у родным і *-ай, -ой, -яй (-аю, -ою, -яю)* у творным склоне. Аднаскладовыя канчаткі ў абодвух выпадках з'яўляюцца стылістычна нейтральнымі, іх мэтазгодней выкарыстоўваць у пісьмовай практыцы, як гэта і замацавана ў большасці падручнікаў і граматыках беларускай мовы. Двухскладовыя канчаткі стылістычна маркіраваныя, звычайна яны ўжываюцца ў размоўным і мастацкім стылі, радзей – у публіцыстычных і навукова-папулярных тэкстах.

## Літаратура

1. Кароткая граматыка беларускай мовы: у 2 ч. – Мінск, 2007. – Ч. 1: Фаналогія. Марфаналогія. Марфалогія. – С. 244; Граматыка беларускай мовы: у 2 т. – Мінск, 1962. – Т. 1: Марфалогія. – С. 182; Беларуская граматыка: у 2 ч. – Мінск, 1985. – Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. – С. 114.

2. Нарысы па беларускай дыялекталогіі: вучэб. дапам. / пад рэд. Р. І. Аванесава. – Мінск, 1964. – С. 201.

3. Булахаў, М. Г. Прыметнік у беларускай мове / М. Г. Булахаў. – Мінск, 1964. – С. 78.
4. Булыка, А. М. Гістарычная марфалогія беларускай мовы / А. М. Булыка, А. І. Жураўскі, І. І. Крамко. – Мінск, 1979. – С. 150–151; Нарысы па гісторыі беларускай мовы: дапам. – Мінск, 1957. – С. 175.
5. Булахаў, М. Г. Прыметнік у беларускай мове. – С. 72.
6. Булыка, А. М. Гістарычная марфалогія беларускай мовы. – С. 151.
7. Булахаў, М. Г. Прыметнік у беларускай мове. – С. 72–73.
8. Булыка, А. М. Гістарычная марфалогія беларускай мовы. – С. 151.
9. Мова «Нашай Нівы» (1906–1915). Варыянтнасць. Сінанімія / В. П. Лемцюгова [і інш.]. – Мінск, 2005. – С. 135.
10. Мова «Нашай Нівы» (1906–1915). Варыянтнасць. Сінанімія. – С. 135.
11. Булахаў, М. Г. Прыметнік у беларускай мове. – С. 78.
12. Тарашкевіч, Б. Беларуская граматыка для школ. Факсімільнае выданне / Б. Тарашкевіч. – Мінск, 1991. – С. 85.
13. Лёсік, Я. Беларускі правапіс / Я. Лёсік. – Менск, 1928. – С. 85.
14. Лёсік, Я. Граматыка беларускае мовы: Морфолёгія / Я. Лёсік. – Менск, 1927. – С. 148.
15. Дубоўка, У. Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасьці нашае мовы / У. Дубоўка // Узвышша. – 1927. – № 4. – С. 90.
16. Булахаў, М. Г. Прыметнік у беларускай мове. – С. 78.
17. Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. – Мінск, 1959. – С. 30.
18. Сучасная беларуская літаратурная мова: Марфалогія / пад рэд. Ф. М. Янкоўскага. – 2-е выд., дапрац. – Мінск, 1980. – С. 91.
19. Граматыка беларускай мовы. – С. 182.
20. Сучасная беларуская літаратурная мова: Марфалогія: вучэб. дапам. / пад рэд. М. С. Яўневіча. – Мінск, 1997. – С. 107.
21. Сцяцко, П. Культура мовы / П. Сцяцко. – Мінск, 2002. – С. 76.
22. Сцяцко, П. Культура мовы. – С. 76.
23. Чабатар, Н. А. Варыянтнасць канчаткаў прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку ў родным склоне / Н. А. Чабатар // Беларуская лінгвістыка. – Мінск, 1998. – Вып. 48. – С. 87.
24. Граматыка беларускай мовы. – С. 244; Граматычны слоўнік прыметніка, займенніка, лічэбніка, прыслоўя / уклад. Н. П. Еўсіевіч [і інш.]; навук. рэд. В. П. Русак. – Мінск, 2009. – С. 5.
25. Нарысы па гісторыі беларускай мовы. – С. 201.
26. Нарысы па гісторыі беларускай мовы. – С. 202.
27. Граматыка беларускай мовы. – С. 183; Беларуская граматыка. – С. 115; Кароткая граматыка беларускай мовы. – С. 244.
28. Булыка, А. М. Гістарычная марфалогія беларускай мовы. – С. 155.
29. Булахаў, М. Г. Прыметнік у беларускай мове. – С. 92.
30. Булыка, А. М. Гістарычная марфалогія беларускай мовы. – С. 155.
31. Мова «Нашай Нівы» (1906–1915). Варыянтнасць. Сінанімія. – С. 141.
32. Тарашкевіч, Б. Беларуская граматыка для школ. – С. 85.
33. Лёсік, Я. Беларускі правапіс. – С. 86–87.
34. Булахаў, М. Г. Прыметнік у беларускай мове. – С. 93.

## Summary

The article is devoted to peculiarities of declension of qualitative and relative adjectives, which have the form of feminine gender and are used in the singular, in genitive and instrumental cases in the modern Belarusian language.

*Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа*
*і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*28.07.2010 г.*

*УДК 811.161.3’367*

*Т. Я. ШЭМЕТ*

# ТЭНДЭНЦЫІ РАЗВІЦЦЯ СІНТАКСІСУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў КАНЦЫ ХХ – ПАЧАТКУ ХХІ ст.

Мова – дынамічная сістэма. Яна развіваецца, змяняецца па меры таго, як змяняецца грамадства. А значыць, змяняюцца або дапаўняюцца варыянтамі моўныя нормы.

Сінтаксічныя нормы вызначаюць заканамернасці спалучэння слоў у словазлучэннях і сказах. Яны грунтуюцца на дыялектычным адзінстве таго, што выпрабавана часам, і таго, што толькі нараджаецца і спрабуе замацавацца ў мове. У ідэале нормы, у тым ліку сінтаксічныя, пракладаюць мяжу паміж тым новым, што ўваходзіць у жывую моўную плынь натуральна, і тым, што хоць і новае, але ненатуральнае, збыткоўнае, функцыянальна не нагружанае. «Мове немагчыма «навязаць» штосьці штучна, калі гэта будзе супярэчыць мілагучнасці маўлення, традыцыйнасці і грамадскаму густу» [1].

На сённяшні дзень існуюць перашкоды для натуральнага дынамічнага развіцця беларускай мовы, абумоўленыя тым, што рэальная колькасць людзей, якія карыстаюцца мовай для штодзённых зносін, а значыць, удзельнічаюць у яе развіцці, нязначная. На гэты немалаважны фактар ужо была звернута ўвага мовазнаўцаў ([2]; [3] і інш.). Акрамя таго, сярод тых беларусаў, якія карыстаюцца беларускай мовай, шмат прыхільнікаў «тарашкевіцы» або развітых на аснове «тарашкевіцы» моўных стандартаў. Адсюль вынікае яшчэ адна праблема – «неўсталяванасць нормы, яе існаванне ў дзвюх версіях – афіцыйнай і неафіцыйнай» [4].

Нягледзячы на ўсе аб’ектыўныя складанасці, беларуская літаратурная мова развіваецца, перажывае змены на розных узроўнях моўнай сістэмы. Развіццё мовы «суправаджаецца інтэнсіўнай актывізацыяй сінтаксічных канструкцый, якія маюць на мэце максімальна актуалізаваць змешчаную інфармацыю з тым, каб звярнуць на яе большую ўвагу, узмацніць практычную дзейнасць» [5]. Адпаведна значна пашыраецца колькасць парцэляваных, устаўных, эліптычных канструкцый. Названая тэндэнцыя сведчыць пра ўзмацненне пазіцый аналітызму ў мове і ў немалой ступені звязана з дзейнасцю такога сацыяльнага фактару, як развіццё ў ХХ ст. масавага, адрасаванага маўлення ў сродках масавай камунікацыі (радыё, тэлебачанне і інш.).

На сучасным этапе для сінтаксічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы характэрны зварот да тых моўных сродкаў, якія былі ва ўжытку ў 20–

30-я гады XX ст. Вяртанне тых ці іншых сінтаксічных мадэлей, прадуктыўных на пачатку мінулага стагоддзя, у пэўнай ступені звязана са свядомым імкненнем да выціскання русіфікаваных моўных форм. А ўплыў рускай мовы на беларускую ў XX ст. праявіўся на ўсіх моўных узроўнях, у тым ліку і ў сінтаксісе.

У цэлым канец XX – пачатак XXI ст., па словах С. А. Важніка, «цікавы жывымі незавершанымі працэсамі ў граматычным ладзе» [6]. Пра некаторыя з іх пойдзе гаворка ў гэтым артыкуле.

**Аб асаблівасцях пранікнення вуснага маўлення ў пісьмовыя тэксты.** Вуснае маўленне часцей за ўсё разглядаецца як замкнёная сістэма, у значнай ступені супрацьпастаўленая кадыфікаванай пісьмовай мове. Аднак усё больш відавочна асаблівасці вуснага маўлення пранікаюць у пісьмовыя тэксты, і існаванне такой тэндэнцыі не выклікае сумненняў. Вуснаму спосабу камунікацыі ўласцівы такія рысы, як незакончанасць выказванняў, слабая структураванасць, фрагментарнасць і інш. Невыпадкова сінтаксіс маўленчай дзейнасці выдзяляецца ў асобны раздзел лінгвістыкі, які вывучае выказванне, пабудаванае згодна (або насуперак!) з той ці іншай структурнай схемай.

Адна з характэрных асаблівасцей вуснага маўлення – яго экспрэсіўнасць. Павышэнню экспрэсіўнасці выказванняў у пісьмовым маўленні садзейнічае такая пашыраная сінтаксічная з'ява і стылістычная фігура, як **парцэляцыя**. Сінтаксічную перарывістасць выказвання, «што і семантычна, і графічна, і акцэнталагічна актуалізуе пэўныя часткі сказа ці тэксту», Т. Р. Рамза называе асноўнай уласцівасцю сінтаксічнага ладу сучаснай беларускай літаратурнай мовы [7].

Парцэлявацца, г. зн. аддзяляцца ў камунікатыўна самастойны сегмент выказвання, могуць словы, спалучэнні слоў і нават простыя сказы, якія ўваходзяць у структуру складаных. Парцэляцыйны разрыў можа адбыцца як унутры прэдыкатыўнай адзінкі, так і паміж асобнымі прэдыкатыўнымі адзінкамі. «Фактычны матэрыял з твораў сучасных аўтараў сведчыць, што парцэлявацца тэкст можа ў любым месцы (уключаючы нават і моцную сувязь паміж кампанентамі сказа) як пры паратаксісе і далучэнні, так і пры гіпатаксісе» [8].

Надзвычай распаўсюджанымі з'яўляюцца выпадкі парцэляцыі на месцы злучальнай сувязі паміж аднароднымі кампанентамі канструкцыі. Напрыклад, у сказе *Мне не патрэбны шум і тлум, Якія йдуць услед за раннем. Ні колкасць першародных дум, Ні слодыч даўняга кахання* (ЛіМ. 2007. № 15. С. 8) разрыў мае месца паміж аднароднымі дзейнікамі, дыстанцыраванымі праз пасрэдніцтва даданага сказа. У наступным прыкладзе парцэлят утвораны адным з аднародных інфінітываў, які з'яўляецца часткай састаўнога дзеяслоўнага выказніка, і залежнымі ад яго кампанентамі: *Пабываць у чароўным свеце дзяцінства зараз проста: можна набыць адзін з больш чым 13 тысяч асобнікаў часопіса «Вясёлка». Альбо купіць аднайменную кнігу,*

*дзе сабрана лепшае з надрукаванага на яго старонках за некалькі апошніх гадоў* (ЛіМ. 2007. № 18. С. 5). Парцэляцыйны разрыў паміж асобнымі прэдыкатыўнымі адзінкамі – аднароднымі даданымі сказамі – назіраецца ў наступным прыкладзе: *Можна сказаць, што я гультай. Што гэта па маёй віне не нараджаецца вобраз* <...> (Полымя. 2003. № 12. С. 47).

Часцей за ўсё структура парцэляванай сінтаксічнай канструкцыі складаецца з двух кампанентаў – базавага сказа і парцэлята. Але калі базавы сказ заўсёды толькі адзін, то парцэлятаў можа быць некалькі. У такім выпадку парцэляваная канструкцыя мае «ступеньчатую» структуру [9]. Два парцэляцыйныя разрывы і, адпаведна, два парцэляты вылучаюцца ў наступным прыкладзе: *Зараз ён, бургамістр Валькоўскі, схопіць зладзюгу – з такім цяжарам на руках той далёка не ўцячэ! – зловіць і павесіць! **Пад акном свайго кабінета. На старой бярозе*** (Полымя. 2008. № 2. С. 4–5).

Выразнай экспрэсіўнай функцыяй надзелены ў сучасным пісьмовым маўленні **ўстаўныя канструкцыі**. Павышэнню экспрэсіўнасці садзейнічае пунктуацыя: нярэдка сустракаюцца выпадкі ўжывання ўстаўных канструкцый з выклічнікам або пытальнікам на канцы, напрыклад: *Раней адно тое, што ты пісьменнік **(і не важна: што і як ты пішаш!)**, стварала вакол цябе нейкі арэол* (ЛіМ. 1998. № 1. С. 5); *Сына Васіля фінская вайна прыбрала **(і каму толькі яна трэба была?)**, мужыка – Вялікая Айчынная знішчыла* (ЛіМ. 2000. № 7. С. 5); *Як ні круці, а воля вольная для нас – **рускіх беларусаў ці беларускіх рускіх?** – такі ж міф-жах, як для ліцвінаў колішніх – прыгнёт ды бязроднасць <...> Але **(вось дзівосы!)** пра свабоду самавыяўлення, без якой беларус – не беларус, яшчэ Сымон Будны, аказваецца, зазначаў <...>* (ЛіМ. 2000. № 7. С. 5).

Найбольшай экспрэсіўнасцю сярод пытальных устаўных канструкцый надзелены тыя, у якіх утрымліваюцца рытарычныя пытанні. Аднак не пазбаўлены экспрэсіі і іншыя пытальныя ўстаўкі. У сказе *Прадстаўнікі life:) пераконваюць, што папярэднім ноу-хау кампаніі, 3G – **памятаеце бясконцыя рэкламныя ролікі з рэперам Сярогам?** – карыстаецца кожны шосты абанент кампаніі* (Наша Ніва. 2010. № 11. С. 15) пытанне дазваляе ўзмацніць эмацыйную блізкасць аўтара і чытачоў, прыцягнуўшы добра вядомыя для кожнага з іх вобразы, а значыць, наладзіць зваротную сувязь. Эмацыйна ажыўляе плынь паведамлення ўстаўная канструкцыя ў наступным прыкладзе: *Клімаў затрымаўся перад дзвярыма кабінета – драўлянымі, пад клён, з пазалочанай **(залатой?)** ручкай і лічбай «1»* (Маладосць. 2007. № 10. С. 61). Выказаныя ў пытальнай форме сумненні дзеючай асобы, абуджаюць такія ж сумненні ў чытачоў, інтрыгуюць, прыцягваюць увагу.

Нярэдка сустракаюцца ўстаўкі, якія маюць ацэначны характар. Такія канструкцыі таксама не пазбаўлены экспрэсіўнасці: *Як бы мы ні пераасэнсоўвалі сваё мінулае **(а гэта справа патрэбная)**, нязменнай застаецца павага да тых, хто ў цяжкі час са зброяй у руках абараняў Радзіму* (ЛіМ. 1998. № 1. С. 4); *Захад ёсць Захад **(не пра яго гаворка, галодны сытаму не тава-***

***рыш)**, Усход ёсць Усход* (ЛіМ. 2000. № 7. С. 5); *А зараз нават пры жаданні інтэграцыі **(а я нічога не маю супраць адсутнасці межаў)** – не ўсё ўжо залежыць ад жадання Крамля!* (ЛіМ. 1998. № 1. С. 5).

З мэтай інтанацыйнага, сэнсавага выдзялення інфармацыі, на якой акцэнтуе ўвагу аўтар, ужыта ўстаўная канструкцыя ў наступным прыкладзе: *Існуе няспраўджаная інфармацыя, што нават чыгуначная калейка – **пасля спецыяльнага звароту гаспадара сядзібы да цара** – была скіравана ад Шуміліна бліжэй да Лясковічаў, каб спадручней вывозіць ураджай* (Новы час. 2010. № 3. С. 23). Гэты сказ лёгка трансфармуецца ў сказ, няўскладнены ўстаўной канструкцыяй, для чаго дастаткова запісаць яго без працяжнікаў: *Існуе няспраўджаная інфармацыя, што нават чыгуначная калейка пасля спецыяльнага звароту гаспадара сядзібы да цара была скіравана ад Шуміліна бліжэй да Лясковічаў, каб спадручней вывозіць ураджай.* Аб'ектыўных, структурна абумоўленых патрэб у пунктуацыйным выдзяленні працяжнікамі пэўнай часткі канструкцыі не ўзнікае. На першы план у гэтым выпадку выходзіць імкненне да актуалізацыі.

Ужыванне ўстаўных канструкцый – гэта эканомны спосаб выражэння інфармацыі, што немалаважна, напрыклад, для невялікіх па аб'ёме публіцыстычных нататак. Устаўныя канструкцыі дазваляюць лаканічна ўдакладняць, тлумачыць, паясняць асноўнае выказванне, напрыклад: *На працягу тыдня **(перыяд, пакуль пялёсткі не апалі)** можна любавацца квітнеючай сакурай* (ЛіМ. 1999. № 44. С. 16); *Менавіта летам значная колькасць прадаўцоў **(каля 10–15 працэнтаў)** пачалі выстаўляць кватэры на продаж па цэнах, крыху ніжэйшых за сярэднярынкавыя* (Звязда. 2010. № 118. С. 1); *Тэрмін увядзення Закона быў, не ў прыклад Прыбалтыйскім краінам, расцягнуты **(10 год)**, але шансы беларусізацыі школы, а за ёй і грамадства, выглядалі цалкам пазітыўна* (Новы час. 2010. № 3. С. 24).

У цэлым актыўнае развіццё парцэляваных і ўстаўных канструкцый – яркія праявы тэндэнцыі да развіцця аналітызму ў мове.

Да змен у сістэме словазлучэння, якія актыўна праяўляюць сябе ў мове, адносіцца і тое, што можна назваць сэнсавай і граматычнай **кандэнсацыяй**. Сярод іншых найменняў гэтай з'явы называюць *кампрэсію, эліпсіс, сцяжэнне, уключэнне* і інш. [10]. Фактычна, размова ідзе пра тэндэнцыю да эканоміі знакавых сродкаў.

Да праяў кандэнсацыі ў мове адносяцца выпадкі, калі ў выніку распаду атрыбутыўнага словазлучэння застаецца толькі залежны кампанент. Напрыклад, у сказе *Прапаную скарочаны варыянт артыкула Баруцкай у маім перакладзе **з польскай*** (Новы час. 2010. № 3. С. 23) на месцы словазлучэння *з польскай мовы* ўжываецца словаформа *з польскай*, якая акумулюе ў сабе значэнне ўсяго словазлучэння.

Аналагічныя выпадкі словаўжывання ілюструе наступны сказ: *У інтэр'ерах Бэйлі Скота сустракаюцца спалучэнні блакіту і **жоўтага**, дапасаванні **фіялетавага**, **зялёнага** і **белага*** (Новы час. 2010. № 27. С. 1). На месцы

словазлучэнняў *жоўты колер, фіялетавы колер, зялёны колер, белы колер* з тым жа сэнсавым і граматычным напаўненнем ужываюцца іх залежныя, атрыбутыўныя, кампаненты. Утварэнне субстантыва *блакіт* таксама звязана з дзеяннем у мове механізма кандэнсацыі, паколькі семантычна лексема *блакіт* узыходзіць непасрэдна да словазлучэння *блакітны колер.*

У выразе *трэнер* ***хакейнага «Юнацтва»*** (Наша Ніва. 2010. № 17. С. 1) назіраецца кандэнсацыя атрыбутыўнага словазлучэння *клуб «Юнацтва».* Першапачаткова залежны кампанент – прыдатак – становіцца носьбітам лексічнага і граматычнага значэння словазлучэння, пра што сведчыць яго здольнасць падпарадкоўваць сабе іншае азначэнне – прыметнік *хакейны.*

Яскравыя прыклады кандэнсацыі прадстаўлены ў наступных сказах: *Увазе прысутных на семінары былі прадстаўлены пяць урокаў тэарэтычнага навучання і пазакласныя мерапрыемствы, якія былі заяўлены* ***на «Педагагічны Оскар»*** (Настаўніцкая газета. 2004. № 37. С. 1); *У тым жа годзе паводле рамана быў зняты аднайменны мастацкі фільм, які атрымаў адразу сем намінацый* ***на «Оскара»*** (Наша Ніва. 2010. № 4. С. 11). У кожным выпадку на месцы словазлучэння *на прэмію «Оскар»* ужыты толькі залежны атрыбутыўны кампанент. У першым сказе ён утварае словазлучэнне, падпарадкоўваючы сабе прыметнік *педагагічны*, што выразна сведчыць пра сэнсавую і граматычную самастойнасць, якую набываюць такія словаформы ў выніку кандэнсацыі. Дарэчы, аб тым, што мы маем справу не з базіснай сінтаксічнай структурай, а з вытворнай ад яе, сведчыць і неаднастайнасць граматычнага афармлення словаформы ў вінавальным склоне ў першым і другім сказах: *на* <...> *Оскар* (нулявы канчатак), але *на Оскара* (канчатак -а). Наяўнасць варыянтаў указвае на складанасці, звязаныя з выражэннем у адной словаформе граматычнага значэння цэлага словазлучэння.

З’ява кандэнсацыі можа набываць больш складаную форму, калі ад залежнага атрыбутыўнага кампанента, выражанага прыметнікам, утвараецца назоўнік (звычайна стылістычна афарбаваны). Напрыклад, прастамоўны назоўнік *прафсаюзнік* у выразе *галоўны* ***прафсаюзнік*** *краіны* (Наша Ніва. 2010. № 17. С. 1) утвораны, відавочна, ад словазлучэння *прафсаюзны дзеяч.* Ад словазлучэння *маршрутнае таксі* ўтворана размоўная форма *маршрутка*: *Кажуць, вадзіцелі* ***маршрутак*** *мясцовы страйк рыхтуюць* (Звязда. 2010. № 118. С. 3).

Спрашчэнню сінтаксічнай канструкцыі, змяншэнню колькасці словаформ у словазлучэнні садзейнічае кандэнсацыя і ў наступным сказе: *Аўтар знакамітай аповесці «Гісторыя кахання» («Love Story») амерыканскі пісьменнік і сцэнарыст Эрык Сігал* ***памёр ад сэрца*** *на 73-м годзе жыцця* (Наша Ніва. 2010. № 4. С. 11). Словазлучэнне *памёр ад сэрца* ўтворана ад поўнага варыянта *памёр ад хваробы сэрца*.

**Аб актывізацыі некаторых спосабаў выражэння састаўнога іменнага выказніка.** У беларускай літаратурнай мове канца XX – пачатку XXI ст. даволі часта сустракаюцца састаўныя іменныя выказнікі, утвораныя па ма-

дэлі *ёсць + назоўнік у творным склоне* (далей у тэксце падаецца скарочаны запіс: *ёсць* + $Н_{тв.\ скл.}$). Напрыклад: *Адсутнасць кропкі як перадыху і акцэнтаванага супыну дзеля глыбокага роздуму над напісаным і тым, што яшчэ напішацца, на цяперашні час **ёсць** сур'ёзнай **праблемай** не толькі для творчасці В. Шніпа* (ЛіМ. 2007. № 15. С. 16); *«Сонца ці месяц?» – пытаешся раптам. А я абіраю поўню, якая ведае, што такое быць месяцам, якая верыць, што яна **ёсць сонцам*** (А. Спрынчан). *Арыяне ж сцвярджалі, што Сын Божы **ёсць стварэннем** ягонага Айца і таму Сын падпарадкаваны Айцу і не з'яўляецца яму раўназначным* (http://wapedia.mobi/be/ – 27.05.2010); *Няма сумневаў, што слова «бульбаш» утварылася ад слова «бульба», назвы карняплода, які ў Беларусі **ёсць «другім хлебам»*** (www.belsat.eu/ – 27.05.2010); *Смалявіцкі рэгіён багаты месцамі, якія варта наведаць: касцёл святога Валянціна **ёсць** адзіным у Беларусі каталіцкім **прыходам** імя св. Валянціна, скульптура св. Валянціну **ёсць** другім **манументам** абаронцу закаханых на тэрыторыі былога СССР* <...> (smaliavichy.by/ – 27.05.2010); *У рэшце рэшт, пачварнае таксама **ёсць катэгорыяй** эстэтыкі, адваротным **бокам** красы, а значыць, звязанай з красой **праявай*** (ЛіМ. 1998. № 41. С. 5).

У «Граматыцы беларускай мовы» (1966), дзе даецца падрабязнае апісанне магчымых спосабаў выражэння складанага двухкампанентнага выказніка, няма звестак пра магчымасць утварэння выказнікаў на ўзор гэтай мадэлі. Згодна з граматыкай, дзеяслоў-звязка *быць* у форме цяперашняга часу можа ўжывацца ў спалучэнні з назоўнікам у форме назоўнага склону (*ёсць* + $Н_{н.скл.}$), аднак сфера выкарыстання дадзенай мадэлі абмежаваная. Выказнікі такога тыпу «ўказваюць на сутнасць таго ці іншага паняцця і з'яўляюцца прыналежнасцю кніжных стыляў» [11]. Аднак нягледзячы на тое што ў падручніках і граматыках сучаснай беларускай мовы не разглядаецца мадэль *ёсць* + $Н_{тв.\ скл.}$, колькасць зафіксаваных прыкладаў (а іх значна болей, чым дазваляе змясціць аб'ём дадзенага артыкула) сведчыць пра тое, што на сённяшні дзень у мадэлі састаўнога іменнага выказніка *ёсць* + $Н_{н.скл.}$ з'явіўся даволі прадуктыўны варыянт з творным склонам.

Мадэль *ёсць* + $Н_{тв.скл.}$ не з'яўляецца новай, інавацыйнай у беларускай мове канца XX – пачатку XXI ст., паколькі яна была вядома яшчэ старабеларускай мове: *покора **ест жродлом** цноты, пыха жродлом нецноты* (Дыяр., 173б) [12]. ***Сынемъ есте**ᵐ слꙋжебницы твоеи* (Зб. 259, 654) [13].

Сустракаецца дадзеная сінтаксічная мадэль і ў мове пачатку XX ст., напрыклад: *Але калі дзерава ці жывёліна **ёсць** толькі паверхнаснай **аздобай** зямлі, то мова людзей **ёсць** як бы **цэнтрам** гэтага жыцця, яго **душой**, яго ўнутранай **аздобай**. Таксама і мова якога-небудзь народа **ёсць** для яго і **скіпетрам**, і **каронай**, яго нічым не апаганенай **аздобнасцяй*** (Наша Ніва. 1914. № 15) [14].

І ў перыяд развіцця старабеларускай мовы, і ў «нашаніўскі» перыяд мадэль састаўнога іменнага выказніка з назоўнікам у творным склоне не была адзіна магчымай, а ўтварала варыянт да мадэлі *ёсць* + $Н_{н.скл.}$. Апошняя

з’яўляецца першаснай па часе ўзнікнення ў пісьмовай мове, што дазваляе ёй захоўваць даволі трывалыя пазіцыі на працягу многіх стагоддзяў.

Мадэль *ёсць* + $Н_{\text{тв.скл.}}$ можна класіфікаваць як адну з «вернутых» мадэлей у сучаснай беларускай літаратурнай мове канца ХХ – пачатку ХХІ ст., па меншай меры ў яе пісьмовай, кніжнай форме існавання. Гэты вывад тычыцца і мадэлей састаўнога іменнага выказніка з дзеясловам-звязкай *ёсць* і іменнай часткай, выражанай займеннікам, парадкавым лічэбнікам, прыметнікам або дзеепрыметнікам у творным склоне, напрыклад: *Сваё – гэта звычайнае і звыклае, простае і натуральнае, што кожную хвіліну* ***ёсць маім*** *і са мной* (kamunikat.fontel.net/ – 20.05.2010); *Вы што, лічыць не здатныя?! Якое наступнае ад гэтага крэсла? Дзевятае. Значыцца, папярэдняе* ***ёсць маім***, ***восьмым*** (pawet.net/library/ – 13.04.2010); *Мадэль нацыі* ***не ёсць вечнай*** (arche.by/ – 28.05.2010); *Гэтае рашэнне* ***не ёсць нечаканым*** (Наша Ніва. 2010. № 17. С. 8).

Сярод іншых тэндэнцый у спосабах выражэння іменнага выказніка адзначаецца пашырэнне сферы выкарыстання дзеяслова-звязкі *стацца.* У «Граматыцы беларускай мовы» (1966) магчымасць ужывання зваротнай формы дзеяслова *стаць* разглядаецца ў межах «Заўвагі 1» на с. 298, а таксама «Заўвагі 1» на с. 301 і ілюструецца лічанымі прыкладамі з твораў Я. Коласа, П. Глебкі, П. Пестрака, што дае падставы меркаваць пра спарадычнасць выкарыстання гэтай граматычнай формы ў літаратурнай мове сярэдзіны ХХ ст.

Разам з тым частотнасць ужывання дадзенай лексемы ў кніжных стылях апошнім часам відавочна павялічылася, пра што сведчаць шматлікія прыклады: *Для дзяўчынкі выяўленчае мастацтва* ***сталася*** *тым адзіна магчымым жыццёвым* ***прасторам***, *які ёй неабходна было пераадолець, каб засведчыць у канцы сваю высокую чалавечую годнасць* (Новы час. 2010. № 3. С. 15); *Вядома ж,* ***адметнасцю*** *вечарыны* ***стаўся*** *расповед Міхася Міцкевіча* (ЛіМ. 2007. № 15. С. 2); ***Вынікам*** *незадаволенасці гэтай палітыкай* ***сталася*** *паўстанне 1863 г. пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага* <...> (Спадчына. 1996. № 6. С. 282); *З глыбокага ўсведамлення трагізму народу, што* ***стаўся нявольнікам*** *на сваёй зямлі, пачынаўся цыкл вершаў Л. Родзевіча, аб’яднаных у кнізе «Беларусь»* (Спадчына. 1997. № 3. С. 94); *Сюрпрызы і нават скандалы* ***сталіся*** *адметнай* ***рысай*** *«Рок-каранацый» апошніх гадоў* (ЛіМ. 2007. № 15. С. 12); *Для ВКЛ дзяржаўная вунія з Польшчай* ***сталася*** *змушаным* ***крокам*** *і была абумоўленая цяжкім ваенна-палітычным становішчам...* (Спадчына. 1995. № 3. С. 190); *Гэта, заўважыў Уладзімір Сямашка,* ***сталася магчымым*** *толькі праз мэтавае дацiраванне энергетычнай галіны* (21.by/ – 10.03.2007).

Зваротная форма *стацца* вядомая ў беларускай мове з даўніх часоў. У картатэцы аддзела гісторыі беларускай мовы Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі зафіксавана вялікая колькасць прыкладаў з гэтай лексемай, у тым ліку наступныя: *Кро*$^{л}$ *начини*$^{л}$ *золота досы*$^{т}$, *хотѣ*$^{л}$ *ести, теды чого се доткну*$^{л}$

*на столѣ,* ***сталосе*** *все* ***золото***$^{\text{м}}$ (Бельск. С. 37); *Чл҃къ былъ ѡдинъ которы*$^{\text{ѕ}}$ *ꙋмолоды*$^{\text{х}}$ *лѣтехъ добре и присто*$^{\text{ѕ}}$*не се справовалъ, пото*$^{\text{м}}$ *злегка з доброго* ***ста***$^{\text{л}}$***се*** *ба*$^{\text{р}}$*зо* ***злы***$^{\text{м}}$ *заты*$^{\text{м}}$ *впа*$^{\text{л}}$ *в хоробу* (Зб., 107, 168б).

Нямала выпадкаў ужывання зваротнай формы дзеяслова-звязкі *стаць* можна знайсці на этапе адраджэння пісьмовых традыцый беларускай мовы пачатку ХХ ст., напрыклад: *Мінула роўна 10 год, як вышла ў сьвет «Беларуская граматыка для школ». За гэты час беларуская мова* ***сталася*** *ня толькі* ***мовай*** *прыгожага пісьменства ды рознароднай публіцыстыкі, але і* ***мовай*** *дзяржаўнаю або прызнанаю дзяржавай у публічным жыцці. «Народнае нарэчча» сілаю* ***сталася*** *«літаратурным* ***языком****»* [15]. *Prosty sposab* ***stacca*** *й karotkim čase* ***hramatnym*** (назва невялікай брашуры Р. Абіхта і Я. Станкевіча, выдадзенай на пачатку стагоддзя) [16].

Зваротная форма дзеяслова-звязкі *стаць* у складзе састаўнога іменнага выказніка традыцыйная для беларускай мовы. Сфера яе ўжывання істотна звузілася ў перыяд правядзення актыўнай моўнай кадыфікацыі. Гэта магло быць вынікам канкурэнцыі дзвюх граматычных форм, зваротнай і незваротнай, на карысць апошняй. Але магчыма і тое, што ў дадзеным выпадку праявілася тэндэнцыя да ўніфікацыі моўных адзінак у беларускай і рускай мовах на ўзор рускай мовы. Ужыванне дзеяслова-звязкі *стацца* ў сучаснай беларускай мове канца ХХ – пачатку ХХІ ст. можа быць праяўленнем адваротнай тэндэнцыі – імкненнем дыстанцыравацца ад рускай мовы на розных граматычных узроўнях, у тым ліку і ў сінтаксісе.

Мова ў цэлым і яе сінтаксічны ўзровень у прыватнасці развіваюцца пад уздзеяннем шматлікіх лінгвістычных фактараў, звязаных з унутраным, паступальным, незваротным развіццём моўнай сістэмы. На развіццё мовы таксама ўплывае значная колькасць экстралінгвістычных фактараў, такіх як статус мовы ў грамадстве, зменлівасць запатрабаванняў грамадства на розных этапах гісторыі, агульны культурны ўзровень грамадства ў канкрэтны гістарычны перыяд і інш. Далёка не ўсе тэндэнцыі моўнага развіцця замацоўваюцца нарматыўнымі граматыкамі. Разам з тым многія з іх вызначаюць асаблівасці функцыянавання моўнай сістэмы ў перспектыве.

## Літаратура

1. Беларуская мова: Najnowsze dzieje języków słowiańskich. – Opole, 1998. – С. 219.

2. Беларуская мова: Najnowsze dzieje języków słowiańskich. – С. 206.

3. Важнік, С. А. Праблемы супастаўлення даследавання сінтаксісу сучасных беларускай і польскай моў / С. А. Важнік // Беларуская лінгвістыка. – 2002. – Вып. 52. – С. 29.

4. Важнік, С. А. Праблемы супастаўлення даследавання сінтаксісу сучасных беларускай і польскай моў. – С. 34.

5. Бурак, Л. І. Актыўныя працэсы ў сінтаксісе сучаснай беларускай мовы / Л. І. Бурак // Беларус. мова і літ. у школе. – 1990. – № 3. – С. 56.

6. Важнік, С. А. Станаўленне і дынаміка сінтаксічнай нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы / С. А. Важнік // Сучасны стан і дынаміка норм беларускай літаратурнай мовы: матэрыялы Міжнар. навук. канф. – Мінск, 2006. – С. 9.

7. Беларуская мова: Najnowsze dzieje języków słowiańskich. – С. 207.
8. Беларуская мова: Najnowsze dzieje języków słowiańskich. – С. 209.
9. Русак, В. У. Экспрэсіўны сінтаксіс празаічных твораў Янкі Сіпакова: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / В. У. Русак. – Мінск, 2009. – С. 6.
10. Акимова, Г. Н. Новое в синтаксисе современного русского языка / Г. Н. Акимова. – М., 1990. – С. 18.
11. Граматыка беларускай мовы: у 2 т. – Мінск, 1966. – Т. 2: Сінтаксіс. – С. 294.
12. Гістарычны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 1983. – Вып. 2.– С. 279.
13. Булыка, А. М. Гістарычная марфалогія беларускай мовы / А. М. Булыка. – Мінск, 1979. – С. 37.
14. Слоўнік тыпу INSITU беларускай мовы. – Мінск, 2003. – С. 322.
15. Тарашкевіч, Б. Беларуская граматыка для школ / Б. Тарашкевіч. – Вільня, 1929. – С. 4.
16. Abiht R. Prosty sposab stacca ŭ karotkim čase hramatnym / R. Abiht, Ĭ. Stankewič. – Breslaŭ, 1918. – 16 s.

## Summary

Various tendencies of the Belarusian language syntax development at the end of the XX$^{th}$ – the beginning of the XXI$^{st}$ centuries are considered. Main attention is devoted to perculiarities of spoken and written language interference and to the problem of activization of some variant predicate forms.

*Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа*
*і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*23.07.2010 г.*

*УДК 811.16'37 + 811.16'373.6*

*А. М. УШАКЕВІЧ*

# ДА ПРАБЛЕМЫ ВЫЗНАЧЭННЯ СЕМАНТЫКІ І ЭТЫМАЛОГІІ СТАРАСЛАВЯНСКАГА СЛОВА: *которати/котерати (сѧ)*

Вызначэнне семантыкі старaславянскай лексікі часта з'яўляецца працэсам складаным, паколькі гаворка ідзе пра мову, часава значна аддаленую і зафіксаваную толькі ў перакладах іншамоўных помнікаў, але вельмі патрэбным, таму што старaславянскія тэксты захавалі стан мовы, найбліжэйшы да праславянскага перыяду. На гэта звяртаюць увагу як аўтары слоўніка старaславянскай мовы [1], так і аўтары этымалагічнага слоўніка старaславянскай мовы (гл., напрыклад, [2]). Вялікую ролю пры гэтым мае вывучэнне гісторыі рэчаў, абазначаных тым ці іншым словам, аднак выкарыстаць такі дапаможны сродак пры этымалагізацыі абстрактных паняццяў не падаецца магчымым. Тут даводзіцца рабіць высновы аб лексічным значэнні, зыходзячы з кантэксту, кантынуантаў лексемы ў жывых славянскіх мовах і матэрыялу іншамоўнага арыгінала. Карыстанне апошняй крыніцай вызначаецца сваёй спецыфікай: «Паралелі з арыгіналаў нельга атаясамліваць са значэннямі [старaславянскіх слоў] <...> Варта зыходзіць з грэчаскага арыгінала, але нельга залежыць ад яго па-рабску; патрэбна самім па становішчы слова і па ўсім кантэксце вызначаць сэнс адпаведнага месца» [3]. Ст.-слав. **которати/котерати (сѧ)** з'яўляецца выдатным прыкладам таго, наколькі важным для вырашэння задач этымалогіі з'яўляецца максімальна дакладнае вызначэнне семантыкі пэўнай лексемы ці яе кораня і наколькі гэта мэта цяжкадасягальная.

У працы «Даследаванне сістэмы трыванняў» Антанін Достал вызначае семантыку ст.-слав. **которати**, **котораѭ** як 'ukládati (pokutu), usuzovati, bojovati (прызначаць пакаранне, меркаваць, змагацца)', прыводзячы два прыклады ўжывання дадзенага дзеяслова.

Першы паходзіць з глагалічнага помніка, які быў упершыню выдадзены Б. Копітарам пад назвай «Glagolita Clozianus» (1836)*. Урывак, прыведзены А. Досталам у яго працы аб сістэме трыванняў, паходзіць з казані, што прыпісваецца Афанасію Вялікаму**. Адзін з даследчыкаў помніка, менавіта

* Пазней быў часткова выдадзены Ф. Міклашычам, цалкам выдадзены І. Сразнеўскім, В. Вондракам і самім А. Досталам.

** Яе грэчаскі тэкст знаходзіцца ў Migne «Patrologiae cursus completus...». Ser. graeca. T. 28. P. 1053–1062.

В. Вондрак, на падставе параўнання з іншымі рукапісамі (перакладамі дадзенай казані), даводзіць, што Клоцаў зборнік з'яўляецца копіяй іншага рукапісу, а не арыгінальным перакладам, паколькі «знаходзім тут памылкі, якія маглі ўзнікнуць толькі ў выніку перапісвання» [4].

Прывядзём першы прыклад Достала ў крыху шырэйшым кантэксце з яго ж выдання Клоцава зборніка [5]:

| | |
|---|---|
| **тварь • слъньце распінаемъ видітъ,**<br>**і сьѣти не съмѣетъ • вьземлѩ свѣтъ**<br>**отъ распінаѭштихъ • по г҃и бор ѫ ношть**<br>**ѭ • безако̆ннѫѭ • котораетъ дръзость**<br>**безаконьѣ юдѣіска • ꙁемлѣ зыблѫ-** | 679[*]<br><br>681<br>683<br> |
| k 11b 1–20[**]<br>τῶν σταυρούντων τὸ φῶς, ὑπὲρ Δεσπότου μαχόμενος·<br>νυκτὶ παραλόγῳ καταδικάζει<br>Ἰουδαίων παρανομίαν. Ἡ γῆ σαλευο- | <br>681<br><br>683 |
| k 11b 1–20<br>crucifigentibus, ut pro Domino pugnet: inexpectata nocte Judaeorum damnat iniquitatem. | (t. j. lesk) od těch, kteří křižují (v stsl. textu participiální vazba), bojujíc po Pánu, nenáležitou nocí (t. j. mimořádným zatměním při ukřižování) dokazuje bezbožnou židovskou odvahu. |

Грэч. καταδικάζειν перакладаецца на чэшскую як *odsuzovati*, *odsouditi* [7], 'give judgement or sentence against a person, condemn' (Liddell–Scott. S. 889), г. зн. 'асуджаць (літаральна і фігуральна)', што не адпавядае абагульненаму Досталам значэнню для ст.-слав. **котората**. Прыпісанае ж аўтарам старaславянскаму дзеяслову значэнне 'ukládati (pokutu) (прызначаць пакаранне)' знаходзім як агульнае значэнне для лац. *damnō*, *āre* 'тс' (Pražák–Novotný–Sedláček. S. 335), што ўжыта ў лацінскім перакладзе. Пры гэтым у сваім перакладзе ўсяго ўрыўка на чэшскую мову аўтар ужывае зусім іншы дзеяслоў – *dokazovat* 1. (něco) 'provésti důkaz něčeho, o něčem (прывесці доказ чагосьці)': *Já to řekl hned, že odsouzen nebude, protože se mu [žhářství] nedokázalo.* <...> // '(něco, archaick. něčeho) provésti, dovésti, dosáhnouti (змагчы, здолець)': *Zkoušela to, ale nedokázala.* <...> *Konečně dokázal toho, že byl přijat i jeho přítel Novák.* <...> // '(něco) projeviti, prokázati, osvědčiti (праявіць, засведчыць)': *Teď mně teprv napadá, jak ušlechtilou starostlivost dokázal Morousek.* <...> [8]. Такім чынам, зыходзячы з параўнання разнамоўных версій, сказ, які знаходзіцца на радках 679–683, на беларускую мову можна літаральна перакласці як «сонца распінанага (распінаемага – таго, каго распінаюць) бачыць і ззяць не наважваецца, пазбаўляючы святла тых, што распінаюць, за Госпада зма-

[*] Нумар радка ў выданні В. Вондрака [6].

[**] Лакалізацыя (паводле Вондрака) у Migne «Patrologiae cursus completus...». T. 28. P. 1053–1062.

гаючыся, ноччу нечаканай асуджае дзёрзкасць непачцівага (няправеднага) учынку юдэйскага». Але і беларускі пераклад не здольны перадаць поўны і глыбокі сэнс ужытай у гэтым урыўку старaславянскай формы **котораєтъ**, гэта нам можа дазволіць толькі больш падрабязнае вывучэнне функцыянавання дадзенай лексемы ў старaславянскай (і царкоўнаславянскай) мове.

Варта дадаць, што дадзены ўрывак (яго грэчаскі арыгінал) быў няпросты для разумення як яго сярэднявечным перакладчыкам (перапісчыкам), так і лінгвістам, што інтэрпрэтавалі старажытны рукапіс. Гэта, між іншым, вынікае з заўваг, якія ў дачыненні да яго робіць В. Вондрак: па-першае, у тэксце глагалічнага рукапісу, у 682-м радку, запісана менавіта **котор.**, а не транслітараванае першым выдаўцом «Glagolita Clozianus» Е. Копітарам **котєр.**; па-другое, В. Вондрак зазначае: «καταδικάζει, слова гэта не зразумеў пісец Мігановічавай казані (помнік харвацкай глаголіцы канца XII – пачатку XIII ст., выдадзены В. Ягічам (V. Jagić. Gradja za glagolsku paleografiju / Rad. Jugoslavenske Akad. znanosti i umjetnosti. Zagreb, 1868. S. 1–35) і напісаў: **нощию безаконьники покриваше котора юсть дрьзость**(!)» [9]. Але і варыянт перакладу, прапанаваны Клоцам, не даслоўны, паколькі выраз **ноштыѭ безакоñнѫѭ** не адпавядае грэчаскаму арыгіналу νυκτὶ παραλόγῳ, які тут хутчэй значыць ‘ноччу нечаканай, неперадбачанай, незвычайнай (якая настала не ў сваю пару)’ – грэч. παραλογος ‘beyond calculation, unexpected, unlooked for (нечаканы, неперадбачаны)’: ἄτοπον ‘out of place, out of way (недарэчны, неадпаведны)’ καὶ παραλογος; ‘casual’, ‘uncertain’, ‘strange’, ‘abnormal’ (‘выпадковы, няпэўны, дзіўны, ненармальны’); 2. ‘beyond reason’, ‘unreasonable’ (‘беспадстаўны’); 3. (gramm.) ‘contrary to analogy or rule, irregular’ (‘які не адпавядае правілу, нерэгулярны’) (Liddell–Scott. S. 1317). Такое значэнне для ст.-слав. **безаконьнъ** не засведчана: **безаконьнъ** adj. ἄνομος illegitimus; παράνομος impius (‘беззаконны’) <...> [10].

Патрабуе ўдакладненняў інтэрпрэтацыя Досталам і другога прыкладу са ст.-слав. **которати** (*dъvěma prědъležęštema veštьma i kotorajǫštema sę ima druga kъ druzě jedno izvolite*; δύο προκειμένων καὶ μαχομένων ἀλλήλοις θάτερον ἐκλέξασθε; *když se dvě věci ukládají jedna ke druhé, jedno vyvolte!* [11]). Варта пачаць з таго, што сам Досталаў пераклад урыўка на чэшскую мову ізноў жа не стасуецца з агульным значэннем, якое прыпісвае аўтар старaславянскаму дзеяслову (‘ukládati (pokutu), usuzovati, bojovati’), хоць ён і больш блізкі да грэчаскага арыгінала, чым у выпадку ўрыўка з Клоцава зборніка.

Дадзены ўрывак паходзіць з «Жыцця Феадора, Канстанціна, Феафіла, Каліста, Васоя і дружыны іх», змешчанага ў Супрасльскім рукапісе (Рэткавым зборніку), што ўзнік у часы ўладарання цара Сімяона (893–927 гг.) у Балгарыі, выдадзены С. Севяр’янавым (Супрасльская рукопис. СПб., 1904; перадрук Graz, 1956) і пазней Заімавым, Капалдо (Заимов Й., Капалдо М. Супрасълски или Ретков сборник, в два тома. София, 1982–1983). Прыведзены ўрывак апісвае кульмінацыйны момант твора, а менавіта «суд» сірыйскага

ўладара над хрысціянскімі пакутнікамі, якія да гэтага прабылі 7 год у вязніцы і цяпер пастаўлены перад выбарам, які вырашыць іх лёс: альбо яны зракуцца Хрыста, альбо будуць пакарыны смерцю.

6 о҆нъ же о҆твр’-
зъ оуста своя и҆ рече тако• вьсѣчьскы
примысливъше не могохомъ и҆хъ о҆у-
вѣштати• о҆тъврѣшти сѧ х҃а своѥго
и҆ быти съ нами• нын҃га о҆убо и҆ди и҆ се
и҆сповѣждь имъ• о҆бладаѭи вьсеѭ҇
соурисѭ҇ сице къ вамъ глагол҇етъ. дъ-
вѣма прѣдълежѧштема вештьма•
14 и҆ котораѭштема сѧ и҆ма дроуга къ
дроузе• ѥ҆дно и҆зволите• и҆ли о҆тъврѣ-
шти сѧ х҃а и҆ съ нами веселити сѧ• и҆лі
не покорѧште сѧ мечемъ дьнесь съкон’-
чати сѧ •[12], (Северьянов С. Супрасльская рукопись. С. 59).

Тут, як і ў большасці іншых прыкладаў, ст.-слав. **котор**а**ти сѧ** ўжыты замест грэчаскага дзеяслова μάχομαι, які мае некалькі значэнняў. У слоўніку Г. Лідэла і Р. Скота як першае для яго прыводзіцца ‘fight (бой)’ («in Homerus mostly of armies and persons fighting as parts of armies, but sometimes of single combat, between men and beasts, between beasts (у Гамера большасцю аб змаганні войскаў і ваяроў, але часам – аб асобных сутычках паміж людзьмі і пачварамі, паміж пачварамі)» (Liddell–Scott. S. 1085), наступнымі значэннямі для яго з’яўляюцца: II. агульнае ‘quarrel, wrangle (сварыцца)’, ‘dispute, argue (спрачацца)’; III. ‘contend for the mastery in games, etc. (супернічаць)’, ‘measure oneself with or against (мерацца сіламі)’; IV. у паслягамераўскую пару ‘struggle against a force (змагацца супраць пэўнай сілы)’; V. ‘struggle, make an effort to do (змагацца, прыкладаць намаганні)’; VI. аб аргументах, прапановах і г. д. ‘to be in contradiction or inconsistent (быць у супярэчнасці, не супадаць)’: τρία ὁμολογήματα μ. αὐτὰ αὑτοῖς ‘тры дапушчэнні супярэчаць адно аднаму’ (Liddell–Scott. S. 1086). Вартыя ўвагі сведчанні аб значэнні гэтага грэчаскага дзеяслова прыносіць слоўнік грэчаскай мовы Новага запавету і хрысціянскай літаратуры ранняй пары: μάχη, ης, ἡ ‘battle (бой, барацьба)’ «(па адным саперніку з кожнага боку дастаткова), у нашай літаратуры – толькі ў мн. л. і толькі пра барацьбу без сапраўднай зброі (fighting, quarrels, strife, disputes)...» (Arndt–Gingrich. S. 497), μάχομαι ‘fight’, 1. пра сапраўдны бой (паміж дзвюма асобамі); 2. фігуральна, пра змаганне без зброі (fight, quarrel, dispute) (Arndt–Gingrich. S. 497). Хоць дзеля справядлівасці зазначым, што ў цытаваным вышэй урыўку з Клоцава зборніка грэчаскаму ὑπὲρ Δεσπότου μαχόμενος (681) адпавядае ст.-слав. **по г҃и борѧ** (681), г. зн. «эксклюзіўнага» права на пераклад дадзенага грэчаскага дзеяслова ст.-слав. **котор**а**ти сѧ** не мела.

Тым не менш відавочна, што ў прыведзеным урыўку грэчаскі дзеяслоў ужыты ў значэнні ‘быць супрацьпастаўленым, супярэчыць адно аднаму, быць у адносінах узаемавыключэння’, што адпавядае дэфініцыі, пададзенай у слоўніку Г. Лідэла і Р. Скота пад пазіцыяй 6 (of arguments, propositions, etc., ‘to be in contradiction or inconsistent’), што зноў жа не адпавядае агульнаму значэнню старaславянскай лексемы, прыведзенаму А. Досталам (прызнаем, аднак, што прэцызійнае дэфінаванне семантыкі не з’яўлялася галоўнай мэтай аўтара).

На нашу думку, прынцыповай адметнасцю старaславянскага дзеяслова **которати сѧ** з’яўляецца тое, што прымарным для яго было паняцце супрацьстаяння менавіта маральнага/лагічнага, якое не прадугледжвае фізічнага кантакту ці нанясення пэўнай фізічнай шкоды. Гэтым ст.-слав. **которати сѧ** адрозніваецца ад большасці іншамоўных лексем, якімі звычайна яго перакладаюць ці апісваюць яго значэнне:

**которати сѧ, -раѭ сѧ, -раѥши сѧ** vb. ‘μάχεσθαι’, ‘pugnare’; ‘ὀργίζεσθαι’, ‘irasci’ [13] – для μάχεσθαι гл. значэнні вышэй пад μάχομαι; *pugnare* 1) ‘bojovati, potýkati se, zápasiti (змагацца, мецць сутычку, спаборнічаць)’<...>; 2) metaf. a) ‘zápasiti (сапернічаць)’; b) ‘odporovati, vzpírati se, protiviti se (супрацьстаяць)’; c) паэтычнае ‘bojovati o něco, usilovati (змагацца за)’ <...> (Pražák–Novotný–Sedláček. S. 1023); параўн. ὀργίζομαι ‘be angry (быць злым)’ (Arndt–Gingrich. S. 583), *īrāscī* ‘hněvati se, zlobiti se, být rozhněván (гневацца)’ (Pražák–Novotný–Sedláček. S. 698);

*kotorati sę* ‘μάχεσθαι, streiten, kämpfen’ [14];

ст.-балг. *kotora* ‘Streit, Kampf’, wohl auch als. ‘kampftüchtig (баяздольны)’ [15]);

**kotera*, **kotora* ‘quarrel, fight’ [16] і інш.

І грэч. μάχομαι, і лац. *pugnare*, і ням. *kämpfen*, і англ. *fight* азначаюць ‘змагацца’ (‘bojovat, бороться’) як у прамым, так і пераносным сэнсе, прычым якое з іх першаснае – невідавочна. Тое, што для ст.-слав. **которати сѧ** першасным з’яўляецца паняцце менавіта нефізічнага супрацьстаяння, вынікае як з прыведзеных вышэй прыкладаў (з Клоцава зборніка і Рэткава зборніка), так і з прыкладаў ужывання гэтага дзеяслова і яго дэрыватаў у іншых старажытных пісьмовых помніках паўднёва- і ўсходнеславянскай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы:

*которати* 1. о чем ‘ругать, бранить кого-л. за что-л.’: *А ты жена сущи оскврьнивъши ся въ блудѣхъ о водахъ и о питии котораеши мя.* (XII–XIII стст.) <...> // ‘поносить кого-либо’<...> // ‘изрыгать ругательства’: *Пономареви же призвавшю подруга своего, и которати на нь: почто в вечер не утверди двереи цр҃кве*<...> (XVI ст.); 2. с кем ‘вступать в спор; ссориться, браниться’<...>;

*которатися* 1. с кем ‘спорить, препираться’: *Мьртва ли видиши лежаща, ти хулити съмѣеши, таинѣ сицеи прѣстоиши, и съ разлучьшимь дш҃ю*

*котораеши ся, ово ли бо г҃леши покои г҃и, ово ли пакы самъ охуляеши.* (XII–XIII стст.) <...>; 2. ‘враждовать’: *Вадба бо м҃ти ясть рати и творить гневъ, имиже котораются и уратятся.* (XII ст. па спісе XV ст.) *Котора котораеться* – ‘возникает ссора, вражда’: *И н҃нѣ блажаи еси ты пач<е> Валаака сн҃а Сегопфорова цр҃я Моавля, еда котораяся котора съ Ии҃лем или воюя воева на ня* (μή μαχόμενος ἐμαχέσατο) (XV ст.); *Въ распряхъ которатися* – ‘враждовать, быть в ссоре’ (запіс з Іпацьеўскага летапісу за 1054 г.): *Аще ли будете ненавистьно живуще, вь распряхъ которающеся, то и сами погибнете и землю оц҃ъ и дѣдъ погубите.* <...>; 3. ‘гневаться, сердиться’ (1158 г.): *И сице о семь* [о кандидате в митрополиты] *много которавшеся и сверѣпѣвше смиришася.*<...> (СРЯ XI–XVII. Т. 7. С. 384);

*котора* 1. ‘спор’<...>; ‘ссора’// ‘распря, раздор’ (СРЯ XI–XVII. Т. 7. С. 383) = *котера*;

*котерати* ‘осуждать’: *котераю* (δικάσω) (XII ст.) (СРЯ XI–XVII. Т. 7. С. 380);

*котератися* ‘ссориться’ (СРЯ XI–XVII. Т. 7. С. 380);

*которичь* ‘противник, спорщик’: <...> *Не похвалим же бога которича, на нюже тои упова.* (XVI ст.) (СРЯ XI–XVII. Т. 7. С. 384);

*которливый* (*которивый, которный*[1], *которавый*) ‘склонный к ссорам, строптивый’ (СРЯ XI–XVII. Т. 7. С. 384–385).

Падобныя прыклады (з падобным дэфінаваннем значэння) знаходзім і ў іншых лексікаграфічных крыніцах [17–20]; **которьникъ** ‘ослушник, непослушный’, Ефрема Сирина поучения, по спискам XIV и XV вв.: *с которникомъ* ‘ἀνυποτάκτων, inobedientibus’ [21], **которьливый** ‘воинственный, бранноносный’, Григорий Богослов, XI в.: *не къ которьливъимъ нъ къ миродѣивъимь* ‘μαχιμωτατις’ [22; 23] (СДрЯ XI–XV. Т. 4. С. 273–277). Сярод прыведзеных крыніц толькі ў адной аўтары асобна фіксуюць значэнне ‘бітва, бойка’ для лексем з коранем котор-, якія выступаюць як адпаведнікі ўсё таго ж грэчаскага кораня μαχ-): *котора* 2. ‘битва’: *и ѥдинѣмь воплемь чаꙗ плѣнити Иер(с)лма, всѣхъ вои въскорѣ бес пристоупа и бес которы изньре* (ἄνευ... μάχης); <...> // ‘драка’: *и невольныихъ ѥсть и то еже помагающю. нѣкомоу въ которѣ. дрѣвъмь или роукою бе-щадѥниꙗ. оударениѥмь ꙗзву нанести.* (ἐν μάχῃ) (СДрЯ XI–XV. Т. 4. С. 274); *которатисѧ, -юсѧ, -ѥтьсѧ* ‘враждовать с кем.-л.’ <...> // ‘драться’: *идоую же ѥмоу видѣ моужа ·в· которающасѧ, обрѣтъшема камень ч(с)тныи, и ре(ч) к нима: «въскоую, брата, котораетасѧ?»* (μαχομένους... μάχεσθε); *Аще котораѥтасѧ ·в· мужа ти оуразить жену непразну* <...> *да дасть цѣну ѥлико задежеть мужь жены свободою* (СДрЯ XI–XV. Т. 4. С. 275). Зазначым, што падобных прыкладаў ужывання вытворных ад ст.-слав. котор- у параўнанні з ужываннем у значэнні ‘сварка, звада’ значна менш і сустракаюцца яны толькі ў помніках усходнеславянскай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы. Прывядзём яшчэ некалькі прыкладаў, у якіх, наадварот, яскрава праяўляецца паняцце супрацьпастаўленасці, процілегласці: *которьныи* 1. ‘склонный к раз-

дорам, распрям, ссорам' <...> (у ролі назоўніка): *двою каменю подражаеть е(с)ству хвалимоую . будеть бо оударяющимъ адамантъ . которнымъ же магнитъ . неизъгл҃аны(м) е(с)тва. желѣзо влекыи нужею.* (τοῖς στασιάζουσι); 2. *которьноѥ* н. р., (у ролі назоўніка) 'раздор, распря, ссора': *мирить же которное само к собѣ . и самому ни ѥдиного примиряющаго не требовать.* (τὸ στασιάζον) (СДрЯ XI–XV. Т. 4. С. 277) – вызначанае значэнне, як падаецца, не адпавядае ні кантэкстам, ні сэнсу грэчаскага адпаведніка στᾰσι-άζω I. intransitive 'to be at variance, τινι with one (супярэчыць, быць у нязгодзе з)', 2. у грэчаскіх дзяржавах 'form a party or faction, be at odds (супрацьстаяць, быць у апазіцыі (да каго / чаго)': <...> πρὸσ τοὺσ τυράννους ὑπερ τοῦ δήμου <...>; агульнае 'quarrel (спрэчка, сварка)': τοῖσ ἐχθροῖσι μεθ̓ ἡμῶν 'side with us against them (будзь з намі супраць іх)'; 4. generally 'to be in a state of discord, disagree (быць у стане нязгоды)'; 5. σῶμα σ. αὐτὸ αὑτῳ 'цела не ў згодзе само з сабой, унутраны дысананс' (Liddell–Scott. S. 1633). Бадай, нездарма аўтар стараславянска-грэчаскага слоўніка Супрасльскага рукапісу з двух адпаведнікаў да кораня **котор-** першым прывёў менавіта грэч. διάλεκτος ('discourse, conversation; discussion, debate, argument (разважанне, размова; дыскусія, дэбаты, аргумент)' (Liddell–Scott. S. 401) і толькі як другі μάχη [24].

Сцвярджэнне прымарнасці паняцця нефізічнага супрастаяння ўяўляецца такім прынцыповым таму, што гэта непасрэдна ўплывае на ўстанаўленне семантычнай матывацыі дадзенага кораня і, адпаведна, яго этымалагічную рэканструкцыю. Менавіта засяроджанне на значэнні фізічнага бою/барацьбы, як падаецца, вяло шматлікіх аўтараў да збліжэння ст.-слав. **котор-**/**котер-** з ням. *Hader*$_2$ 'ануча' (пры *Hader*$_1$ 'звада (рус. раздор)'), ст.-в.-ням. *hadara* 'акравак', с.-в.-ням. *hader* 'разадраны кавалак тканіны'; ст.-в.-ням. *Hadu-*, гальск. *Catu-* 'бой, бітва' ў імёнах уласных, ст.-інд. *śátru-* 'вораг' (падрабязны агляд літаратуры – у (ЭССЯ. Т. 11. С. 200–201), [25]). У той жа час факусіраванне на прымарным, на нашу думку, для ст.-слав. **которати**/**котерати** (**ся**) значэнні супрацьстаяння нефізічнага/лагічнага дазваляе прапанаваць для яго іншае этымалагічнае рашэнне.

На незвычайна дакладны фармальны паралелізм слав. **kotora/*kotera* і займенніка **kotorъjь/*koterъjь* у свой час звярнуў увагу А. Ваян, прапанаваўшы наступную этымалогію: **kotorъjь/*koterъjь* → **kotorati/*koterati (sę)* ('discuter sur lequel (est responsable) (спрачацца пра тое, каторы (ёсць адказны, вінаваты)' → **kotora/*kotera* [26]. Гэта версія была аспрэчана праз сваю «складанадаказальнасць», перш за ўсё ў семантычным плане (ЭССЯ. Т. 11. С. 200–201) [27]. Аднак прыведзеныя вышэй факты на карысць прымарнасці для **которати**/**котерати** (**ся**) значэння менавіта супрацьпастаўленасці, супрацьстаяння ў шырокім сэнсе, на нашу думку, пераканаўча сведчаць пра верагоднасць адзайменнікавага паходжання дадзенага дзеяслова,

неабходна толькі ўдакладніць тлумачэнне семантычнага развіцця: не ‘спрачацца пра тое, каторы (ёсць адказны, вінаваты)’, а ‘супрацьпастаўляць адно аднаму (дзве рэчы, сябе і іншага і г. д.)’ → ‘спрачацца, супрацьстаяць’ → ‘змагацца (у шырокім сэнсе, потым – у «прамым» значэнні дзеяслова)’. У такім выпадку, займеннік **kotorъjь/*koterъjь* выдатна падыходзіць на ролю матывавальнага не толькі ў фанетычным, але і семантычным плане, паколькі ў якасці прымарнага яму прыпісваецца значэнне ‘welcher von beiden (каторы з двух)’ (ESSJ SG. T. 2. S. 368; з літаратурай), параўн.: *Владыка же Василеи отвѣча с новгородци королю Магнушу: оже хощеши увѣдати, которая вѣра лучьше, наша или ваша, пошлите во Царьград к патриарху.; Цесарь вопроша всѣхъ сѣдящихъ при столѣ и около стоящих глаголя имъ повѣждьте ми который из дву насъ есть цесарь.* (СРЯ XI–XVII. Т. 7. С. 385) – **дъвѣма прѣдълежаштема вештьма·и҆ котораѭштема сѧ и҆ма дроуга къ дроузѣ· ѥ҆дно и҆зволите** (вышэйцытаванае).

Займеннік **kotorъjь/*koterъjь* належыць да пласта старажытнай лексікі і мае свае адпаведнікі ў многіх індаеўрапейскіх мовах: літ. *katràs* ‘каторы з двух’, лат. *katrs, katars* ‘тс’, ст.-інд. *katará*-, авест. *katā́ra*-, пехлеві *katār*, грэч. πότερος ‘каторы з двух’ і ‘адзін з двух’, оск. *pútúrúspíd* ‘utrique’, гоц. *hvaθaruh* ‘jeder von beiden (кожны з двух)’ [28]. Помнікі стараславянскай і царкоўнаславянскай мовы засведчылі значнае пашырэнне яго семантыкі ў параўнанні з дагістарычным станам, які можна рэканструяваць на падставе прыведзеных рознамоўных сведчанняў. Адпаведна прапанаванае семантычнае развіццё і падобная вербалізацыя дадзенага займенніка маглі мець месца ў той час, калі яго семантыка яшчэ не была так развіта і мела спецыяльны, вузкі характар – ‘каторы з двух’.

У якасці прыкладу аналагічнага семантычнага развіцця можна прапанаваць пару адносны і няпэўны лацінскі займеннік *quī, que, quod* і лацінскі дзеяслоў *queror, -ī* ‘to complain, protest (скардзіцца, пратэставаць)’ (*querēla* ‘complain, protest (скардзіцца, наракаць)’, *querimōnia* ‘complain, protest’, *conquerī* ‘to utter a complain, bewail (выражаць скруху)’), які традыцыйна выводзяць з індаеўрапейскага кораня **kues*- ‘to hiss (шыпець, свісцець)’ via ‘to sigh (уздыхаць, тужыць)’ (санскр. *śvásiti* ‘to hiss, snort (храпці)’, *śúṣma*- ‘hissing, roaring (рэў, гуд, свіст)’, н.-авест. *suši* ‘лёгкія’; ст.-ісл. *hvæsa* ‘to hiss, snort’, ст.-англ. *hwōsan* ‘кашляць’), і на конт чаго зазначаецца: «Гэта магчыма [пра такое паходжанне], але семантычна ніяк не даказальна. <...> Аднак іншай этымалогіі няма» [29]. Калі прыняць наша збліжэнне лацінскіх лексем, то прапанаваная намі для ст.-слав. **которати/котерати (сѧ)** мадэль семантычнага развіцця выявіцца больш старажытнай.

Ад займенніка **kotorъjь/*koterъjь* у больш позні перыяд развіцця славянскіх моў былі наноў утвораны займеннікавыя прыметнікі, некаторыя з якіх сталі аманімічнымі да ранейшага **kotorьnъ*: польск. дыял. *chteren*, *chterny*, *fterny* (ESSJ SG. T. 2. S. 368); чэш. *kteraký*, *kterakový* (ад якога, верагодна, па аналогіі з лац. *quantitas*, *qualitas* – *kterakost*: *Buoh jest bez kterakofti veliký*

*(sine quantitate magnus); rozváživše kterakoft a vážnost statków* <...>) [30]; рус. *которный*$_2$ ‘які ўтрымлівае слова *который*’: *Въпрос чтовныи и которныи образование ес<ть>: въпрос ащныи и чемныи оправдание ес<ть>* (СРЯ XI–XVII. Т. 7. С. 385). Нельга адназначна сказаць, наколькі атаясамліваліся новыя дэрываты ад **kotorъjь/*koterъjь* і сам займеннік з больш старажытнымі лексемамі ва ўсходнеславянскіх мовах, дзе захаваліся паўнаголосныя формы займенніка, але можна меркаваць, што адносіны паміж імі значна зацямняліся па меры развіцця новых значэнняў і функцый як у займенніка **kotorъjь/*koterъjь*, так і ў дзеяслова **которати/котєрати** (**сѧ**) і яго дэрыватаў. Семантыка апошніх, як зазначалася вышэй, усё болей змяшчалася ад паняццяў супрацьлегласці, супрацьпастаўленасці да паняццяў барацьбы, варагавання, звады. На гэта, акрамя пашырэння значэння займенніка **kotorъjь/*koterъjь* (якое, як зазначаецца, мела месца пасля адасаблення славянскіх моў (ESSJ SG. T. 2. S. 368), мела таксама свой уплыў інтэрферэнцыя этымалагічнага гнязда дзеяслова **которати/котєрати** (**сѧ**) з аманімічнымі лексемамі, такімі як рус. дыял. *котя́шить* ‘біць, калаціць’ [31], *котоши́ть* [32]; бел. *кача́ць* ‘катать розгами или плетьми’: *Безъ милосци качаець, закачавъ на смерць* [33], чэш. *kácet* ‘валіць дрэвы’. Аднак этымалогія саміх гэтых дзеясловаў прызнаецца цьмянай (ЭССЯ. Т. 9. С. 163; Т. 11. С. 205) і патрабуе больш пільнага разгляду.

Такім чынам, даследаванне семантыкі стараславянскага (і царкоўнаславянскага) дзеяслова **которати/котєрати** (**сѧ**) дазволіла нам прапанаваць новую гіпотэзу іх паходжання – на наш погляд, яны ўтварыліся ад праславянскага займенніка **kotorъjь/*koterъjь* і, такім чынам, не маюць дачынення да індаеўрапейскага кораня **k̑at-* ‘біцца, змагацца’.

## Спіс скарачэнняў

**СДрЯ XI–XV** – Словарь древнерусского языка XI–XV вв. – М., 1988–2008. – Т. I–X (выданне працягваецца).

**СРЯ XI–XVII** – Словарь русского языка XI–XVII вв. – М., 1975–2008. – Т. 1–28 (выданне працягваецца).

**ЭССЯ** – Этимологический словарь славянских языков. Праславянский лексический фонд. – М., 1974–2009. – Вып. 1–35 (выданне працягваецца).

**Arndt–Gingrich** – Arndt W., Gingrich F. A Greek-English lexicon of New Testament and other early Christian literature. – Chicago, 1957.

**ESSJ SG** – Etymologický slovník slovanských jazyků. Slova gramatická a zájmena: I–II d. – Praha, 1973–1980.

**Liddell–Scott** – Liddell H. G., Scott R. A Greek-English Lexicon. – Oxword, 1953.

**Pražák–Novotný–Sedláček** – Pražák M. J., Novotný F., Sedláček J. Latinsko-český slovník. – Praha, 1910.

## Скарачэнні моў

**Авест.** – авестыйскае, **англ.** – англійскае, **бел.** – беларускае, **гальск.** – гальскае, **гоц.** – гоцкае, **грэч.** – грэчаскае, **лат.** – латышскае, **лац.** – лацінскае, **літ.** – літоўскае, **н.-авест.** – новаавестыйскае, **ням.** – нямецкае, **оск.** – оскскае, **пол.** – польскае, **рус.** – рускае, **с.-в.-ням.** –

сярэдняверхненямецкае, **слав.** – славянскае, **ст.-англ.** – старажытнаанглійскае, **ст.-балг.** – старабалгарскае, **ст.-в.-ням.** – старажытнаверхненямецкае, **ст.-інд.** – старажытнаіндыйскае, **ст.-ісл.** – старажытнаісландскае, **ст.-слав.** – старaславянскае, **чэш.** – чэшскае.

## Літаратура

1. Slovník jazyka staroslověnského: I–IV. – Praha, 1966–1997. – D. 1. – S. XII.
2. Šarapatková, Ž. Poznámky k sémantice několika staroslověnských slov / Ž. Šarapatková // Studia etymologica Brunensia 2. – Praha, 2003. – S. 209–214.
3. Slovník jazyka staroslověnského: I–IV. – D. 1. – S. XII.
4. Vondrák, V. Glagolita Clozův / V. Vondrák. – Praha 1893. – S. 4.
5. Dostal, A. Clozianus, staroslověnský hlaholský sborník tridentský a innsbrucký / A. Dostal. – Praha, 1959. – S. 91, 259–261.
6. Vondrák, V. Glagolita Clozův.
7. Soušek, J. B. Řecko-český slovník k Novému zákonu / J. B. Soušek. – Praha, 1973. – S. 134.
8. Příruční slovník jazyka českého: I–VIII d. – Praha, 1935–1957. – D. 1. – S. 446.
9. Vondrák, V. Glagolita Clozův. – S. 84.
10. Miklosich, Fr. Lexicon palaeoslovenico-graeco-latinum / Fr. Miklosich. – Vindobonae, 1862–1865. – S. 13.
11. Dostal, A. Studie o vidovém systému v staroslověnštině / A. Dostal. – Praha, 1954. – S. 188.
12. Заимов, Й., Капалдо, М. Супрасълски или Ретков сборник, в два тома / Й. Заимов, М. Капалдо. – София, 1982–1983. – Т. 1. – S. 137.
13. Miklosich, Fr. Lexicon palaeoslovenico-graeco-latinum. – S. 306.
14. Berneker, E. Slavisches etymologisches Wörterbuch: B. I–II / E. Berneker. – Heidelberg, 1908–1913. – B. 1. – S. 588.
15. Walde, A. Vergleichendes Wörterbuch der Indogermanischen Sprachen: 1–2 / A. Walde. – Berlin; Leipzig, 1927–1930. – B. 1. – S. 339.
16. Derksen, R. Etymological Dictionary of the Slavic Inherited Lexicon / R. Derksen. – Leiden; Boston, 2008. – P. 240.
17. Срезневскій, И. И. Матеріалы для словаря древне-русскаго языка по письменнымъ памятникамъ: I–III. – СПб., 1893–1903. – Т. 2. – Стлб. 1299–1302.
18. Slovník jazyka staroslověnského. – D. 2. – S. 56–57.
19. Словарь церковно-славянскаго и русскаго языка: I–II. – СПб., 1867. – Т. 1. – С. 443–444.
20. Дьяченко, Г. Полный церковно-славянский словарь / Г. Дьяченко. – М., 1900. – С. 266.
21. Востоковъ, А. Х. Словарь церковно-славянскаго языка: I–II / А. Х. Востоковъ. – СПб., 1858–1861. – Т. 1. – С. 180.
22. Востоковъ, А. Х. Словарь церковно-славянскаго языка. – Т. 1. – С. 180.
23. Старобългарски речник: I–II. – София, 1999–2009. – Т. 1. – С. 747.
24. Meyer, K. H. Altkirchenslavisch-griechisches Wörterbuch des Codex Supasliensis / K. H. Meyer. – Glückstadt; Hamburg, 1935. – S. 105.
25. Etymologický slovník jazyka staroslověnského: seš. 1–14. – Praha, 1989–2008. – Seš. 6. – S. 346 (выданне працягваецца).
26. Vaillant, A. Grammaire comparée des langues slaves / A. Vaillant. – Paris, 1966. – Vol. III. – P. 357.
27. Etymologický slovník jazyka staroslověnského. – Seš. 6. – S. 346.
28. Fraenkel, E. Litauisches etymologisches Wörterbuch: I–II / E. Fraenkel. – Heidelberg, 1962–1965. – B. 1. – S. 2.
29. Vaan, M. Etymological Dictionary of Latin and the other Italic Languages / M. Vaan. – Leiden; Boston, 2008. – P. 507.

30. Gebauer, J. Slovník staročeský: I–II / J. Gebauer. – II vyd. – Praha, 1970. – D. 2. – S. 167.
31. Словарь русских народных говоров. – М.; Л., 1977. – Вып. 13. – С. 119.
32. Словарь русских народных говоров. – Вып. 15. – С. 112.
33. Носович, И. И. Словарь белорусского наречия / И. И. Носович. – СПб., 1870. – С. 231.

## Summary

The article demonstrates an importance of specifying of meaning of Old Slavonic lexicon by example of Old Slavonic verb **которати/котерати (сѧ)**. Studying of sense of the verb conducted with drawing historical dictionaries and manuscripts allowed to offer a new version of its origin – from pronoun **kotorъјь/*koterъјь*.

*Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа*
*і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*21.09.2010 г.*

*УДК 811.161.3'373'366.542*

*К. Д. ШЧАСНАЯ*

# ПЫТАННЕ ПРАВАПІСУ СКЛОНАВЫХ КАНЧАТКАЎ НАЗОЎНІКАЎ ЖАНОЧАГА РОДУ *НА -а (-я)* З АСНОВАЙ НА АДЗІН ЗЫЧНЫ Ў РОДНЫМ СКЛОНЕ МНОЖНАГА ЛІКУ

Прынцыпы напісання назоўнікаў жаночага роду на *-а (-я)* з асновай на адзін зычны ў родным склоне множнага ліку заўсёды былі неадназначнымі, змяняліся на працягу ўсяго XX ст., у многіх выпадках дапускалася варыянтнасць. Няўстойлівасць правіл мінулых гадоў праявілася і ў сучаснай беларускай мове, якая ўвесь час актыўна развіваецца, аднак пры граматычным засваенні новых слоў арыентуецца на папярэдні вопыт кадыфікацыі, які выглядае супярэчлівым. У сітуацыі адсутнасці цвёрдай кадыфікацыі некаторыя аўтары публіцыстычных і літаратурных тэкстаў пачынаюць карыстацца не нарматыўнымі крыніцамі, а ўласнымі меркаваннямі, «часцей амбіцыёзнага або інстынктыўнага характару», што можа быць «разбуральным для граматычнай сістэмы» [1].

Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі павялічылася колькасць ужываняў назоўнікаў II скланення* з асновай на адзін зычны з канчаткамі *-аў (-яў)* у родным склоне множнага ліку: *газетаў, трасаў, ахвяраў, крамаў, краінаў, трубаў, паліцаў, паслугаў, хваробаў* і інш.: *Адзінае – там больш доўгабудаў, больш **трубаў** і вышыні зусім іншыя* (Б. 2009. № 7. С. 32); *Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Белпошта» займае лідзіруючыя пазіцыі на рынку распаўсюджвання друкаваных сродкаў масавай інфармацыі, прадастаўлення **паслугаў** па падпісцы і дастаўцы **газетаў**, часопісаў, кніг* (Р. 2006. № 40. С. 4). Акрамя таго, назоўнікі II скланення з асновай на адзін зычны часта паралельна ўжываюцца ў дзвюх формах – як з чыстай асновай, так і з канчаткам *-аў (-яў)*: *узнагарод* і *ўзнагародаў, хвілін* і *хвілінаў, краін* і *краінаў, рыс* і *рысаў, асоб* і *асобаў* і інш.).

Аналізуючы гэтыя з'явы, можна меркаваць, што некаторыя аўтары, магчыма, лічаць нулявы канчатак нехарактэрным для беларускай мовы, нягледзячы на тое, што даследчыкі раяць выконваць «закон моўнай эканоміі». Варта адзначыць, што Я. Ф. Карскі, аналізуючы старажытныя пісьмовыя помнікі, апісваў наяўнасць форм назоўнікаў жаночага роду на *-а* з флексіямі *-оў (-аў)* – *высповъ, куроў, слёзаў* – як спецыфічную беларускую з'яву.

* Падзел назоўнікаў на скланенні ў мовазнаўстве лічыцца ўмоўным. Аўтар артыкула прытрымліваецца падзелу большасці акадэмічных граматык і адносіць назоўнікі жаночага роду на -а (я) да II скланення.

Гэтыя канчаткі пры пасрэдніцтве назоўнікаў на *-ŏ-* замацаваліся як вядучыя ў мужчынскім родзе, а пасля сур'ёзна паўплывалі і на жаночы род [2]. Што да пашырэння форм з нулявым канчаткам, якія выйшлі з асноўных старажытных рускіх форм на *-ъ, -ь*, *-й* (з *-jъ, -jь*) – *рукъ*, *женъ*, то даследчыкі бачаць у гэтым уплыў рускай мовы, які пазней, у савецкія часы, быў падмацаваны мэтанакіраваным збліжэннем дзвюх моў, арыентацыяй айчынных мастакоў слова на набыткі суседняй мовы і літаратуры, дамінаваннем рускай мовы ў многіх сферах жыцця. Грамадска-палітычныя ідэі 1990-х гадоў пераасэнсавання савецкага мінулага, нацыянальнага вылучэння, і, найперш, рэакцыйнае стаўленне да правапіснай рэформы СНК БССР 1933 г., якая разам з ідэямі ўнармавання мовы мела небяспечную палітычную афарбоўку, карэнным чынам змянілі адносіны да ўсталяваных норм. Многія сучасныя аўтары сталі свядома і адкрыта адмаўляцца ад правапісу 1930–1980-х гадоў, адштурхоўвацца ад агульных з рускай мовай лексіка-граматычных форм, звяртацца да граматык 1920-х гадоў і жывой гутарковай мовы. Аднак І. Р. Шкраба слушна адзначае, што не варта арыентавацца на ўзоры літаратуры і публіцыстыкі пачатку ХХ ст., бо трэба ўлічваць ступень унармаванасці і кадыфікацыі мовы на той час, а таксама асаблівасці мастацкай мовы, дзе выкарыстанне элементаў гутарковай мовы з'яўляецца адным з літаратурных прыёмаў [3]. Да таго ж нулявы канчатак у назоўніках II скланення з асновай на адзін зычны ў родным склоне множнага ліку характэрны не толькі для рускай, але і для ўкраінскай і большасці лексем польскай мовы (*робіт, країн, тисяч, справ*; *świec, minut*, *dróg, rozmów, pań*). Адносна гутарковага ўплыву на граматыку П. П. Шуба заўважаў, што дыялектную аснову маюць абедзве формы канчаткаў, толькі словаформы на *-аў (-яў)*, «уласцівыя паўночна-заходнім беларускім гаворкам», «не знайшлі <...> падтрымкі» ў беларускай мове [4]. Паводле ДАБМ (1963), формы назоўнікаў тыпу *хатаў, сценаў* былі распаўсюджаны на значнай тэрыторыі Беларусі (заходняя частка Віцебскай вобласці, Гродзеншчына і Міншчына, поўнач Брэсцкай і захад Гомельскай абласцей). Прычым, калі часткова на гэтай тэрыторыі існавалі два варыянты словазмянення, то на тэрыторыі Гродзенскай вобласці і памежжы з Літвой і Польшчай ужываліся выключна формы з канчаткам *-аў.* Толькі нулявы канчатак *(хат, сцен)* быў распаўсюджаны на ўсходзе Беларусі, а таксама на поўдні Брэсцкай вобласці, дзе ён канкураваў з заходнепалескай формай на *-эй (хатэй, сценэй).* Аднак падчас аналізу карт ЛАБНГ (1998. Т. 5) бачна змяшчэнне поўных форм назоўнікаў II скланення з асновай на адзін зычны ў родным склоне множнага ліку (*ліпаў*) на захад Беларусі (па лініі Браслаў – Валожын – Стоўбцы – Асіповічы – Брагін) і большае распаўсюджанне форм з нулявым канчаткам. На тэрыторыі заходне-палескіх гаворак побач з нулявым канчаткам сустракаюцца і формы з канчаткамі *-эй (ліпэй, лыпэй)*, а таксама *ліпэў* (Пінскі р-н), *лепэв* (Камянецкі р-н). Такім чынам, парадыгма «нулявы канчатак – канчатак *-аў (-яў)*» стала больш адпавядаць чляненню асноўнага масіву беларускіх гаворак на паўночна-ўсходнія

і паўднёва-заходнія, або на заходнюю і ўсходнюю зоны. Гаворачы аб раннім фарміраванні тыповых рыс беларускай літаратурнай мовы, Н. Т. Вайтовіч адзначае значную ролю паўночна-заходніх гаворак Беларусі, распаўсюджаных на Віленшчыне і Міншчыне [5], дзе нарадзіліся першыя выбітныя беларускія пісьменнікі, заснавальнікі выдавецтваў і перыядычных выданняў. Пасля 1930-х гадоў літаратурную мову сталі вызначаць гаворкі цэнтральнай часткі Беларусі, што звязана як і з асабістым унёскам пісьменнікаў, народжаных там, так і з тэрытарыяльнай раз'яднанасцю краіны ў 1930-я гады, пераходам буйнога культурнага цэнтра, Вільні, да Літвы, рэпрэсіямі дзеячаў беларусізацыі. У апошнія гады А. А. Крывіцкі заўважае вяртанне ўплыву заходніх гаворак, асаблівасці якіх пачынаюць нават фіксавацца ў нарматыўных крыніцах [6]. Верагодна, што не гледзячы на змяншэнне тэрытарыяльнай распаўсюджанасці, формы на *-аў (-яў)* могуць складсці канкурэнцыю формам з нулявым канчаткам.

Больш дакладную дынаміку словазмянення назоўнікаў II скланення з асновай на адзін зычны, выяўленне прычын узнікнення граматычнай варыянтнасці можна праілюстраваць з дапамогай граматык і нарматыўных крыніц XX – пачатку XXI ст., а таксама сучаснай перыёдыкі.

Паводле Б. Тарашкевіча і Я. Лёсіка, назоўнікі жаночага роду на *-а(-я)* з чыстай асновай часта мелі канчатак *-аў (-яў)* у родным склоне множнага ліку на ўзор назоўнікаў мужчынскага роду *(водаў, нядзеляў, ліпаў, мухаў).* Аднак «найчасцей ужывалася форма, якая супадала з чыстай асновай», або «скарочаная форма» (*зор, ран, ягад, кароў, маладзіц і маладзіцаў, малін і малінаў* і інш.). Варыянтнасць не дапускалася толькі ў дачыненні да лексем *рук і ног.* Для назоўнікаў *свіней, курэй** быў нарматыўным канчатак *-эй (-ей).* Нулявы канчатак пераважаў і ў афармленні назоўнікаў II скланення ў родным склоне множнага ліку газетай «Наша Ніва» (1906–1915) [7].

Беларускія мовазнаўцы ў 1930-я гады загаварылі аб неабходнасці развіцця беларускай мовы праз «сціранне граней паміж літаратурнай мовай і гаворкамі», «уніфікацыю прагрэсуючых фанетычных, граматычных з'яў літаратурнай мовы, шляхам адмірання <...> аджыўшых <...> форм» [8] (хаця і Я. Лёсік выказваўся за спрашчэнне правапісу і яго нармалізацыю дзеля пашырэння граматы сярод «працоўных мас»). Правапіс 1933 г. ставіў на мэце ўлічыць асаблівасці ўсіх гаворак Беларусі (а не толькі Міншчыны і Віленшчыны, як было ў 1920-я гады) і наблізіцца «да правапісу іншых моў народаў СССР».

Пастанова СНК БССР «Аб зьменах і спрашчэнні беларускага правапіса» не закранала ўжывання назоўнікаў II скланення ў родным склоне множнага

* Форма *свіней* паводле «Беларускай граматыкі» (1985) лічыцца формай з падоўжаным зычным у аснове, а таксама нулявым канчаткам і беглым галосным *-е* (ад старажытнай *свиньј → свінеј*). Лексема *курэй* на пачатак XX ст. уваходзіла ў III скланенне, назоўнікаў жаночага роду на зычны, сёння гэта форма роднага склону множнага ліку назоўніка *курыца*, які належыць II скланенню.

ліку, але ў «Беларускай граматыцы» (1936) кадыфікаваўся нулявы канчатак для назоўнікаў жаночага роду на *-а (-я)* з асновай на адзін зычны. Формы на *-аў (-яў)* лічыліся «хісткімі». На думку аўтараў «Курса сучаснай беларускай мовы» (1941), «аголеная» форма назоўнікаў выконвала функцыю граматычнага паказчыка назоўнікаў жаночага роду ў множным ліку. Канчаткі ж *-аў (-яў)* лічыліся характэрнамі для гутарковай мовы і мастацкай літаратуры. Асобныя лексемы (*ролей, курэй* і інш.) маглі ўжывацца з канчаткамі *-эй(-ей)*. Аўтары «Беларускай граматыкі» (1943) і «Граматыкі беларускай мовы» (1948) былі не такімі прынцыповымі і дапускалі, што некаторыя назоўнікі маглі аднолькава ўжывацца як з чыстай асновай, так і з канчаткамі *-аў* (*-яў*): *веж* і *вежаў, хваль* і *хваляў*. А ў выдадзеным у Рэгенсбургу (1946) Я. Станкевічам «Падручніку крывіцкай (беларускай) мовы» *-аў (-яў)* прымаліся ва ўсіх выпадках (*хатаў, зораў, рэкаў, навукаў*).

Граматычная варыянтнасць у друку і школьных падручніках, неадпаведнасць некаторых правіл 1933 г. пасляваеннаму стану беларускай літаратурнай мовы, папоўненаму новай лексікай, недастатковая распрацаванасць моўных пытанняў падштурхнула навукоўцаў да думкі аб неабходнасці ўнясення змен і дапаўненняў у беларускі правапіс («Праект змен і ўдакладненняў беларускага правапісу...», 1957). У «Курсе сучаснай беларускай літаратурай мовы» (1957) для назоўнікаў II скланення з асновай на адзін зычны ў родным склоне множнага ліку нарматыўнай формай лічыўся нулявы канчатак (але для лексем *курэй, свіней* заставаўся ранейшы канчатак). Формы з *-аў (-яў)* адносіліся да гутарковых. У «Граматыцы беларускай мовы» (1962) нулявая флексія была адзіна правільнай для назоўнікаў жаночага роду на *-а (-я)* з асновай на адзін зычны. Гэтай пазіцыі прытрымліваўся і А. І. Наркевіч («Назоўнік. Граматычныя катэгорыі і формы», 1976). Л. П. Падгайскі дапускаў варыянтнасць у напісанні канчаткаў, акрамя назоўнікаў на заднеязычныя (*рук, ног, дарог* і пад.) і на *-ыя (-ія)*: *авацый, камедый, ліній* [9]. Тым не менш «ненарматыўныя» і «дыялектныя» формы з канчаткамі *-аў (-яў)* актыўна ўжываліся ў мастацкай літаратуры 1960–1970-х гадоў.

У «Беларускай граматыцы» (1985) напісанне назоўнікаў II скланення з асновай на адзін зычны ў родным склоне множнага ліку вызначалася паводле колькасці складоў і характару асновы. Так, трохскладовыя назоўнікі і большасць двухскладовых (акрамя назоўнікаў на адзін мяккі зычны ці *j*) ужываліся з нулявым канчаткам. У сучаснасці большасць трохскладовых назоўнікаў паслядоўна пішуцца з чыстай асновай, а вось да двухскладовых лексем многія аўтары імкнуцца дадаць канчаткі *-аў (-яў)* (*ружаў, цэнаў, рысаў, сфераў, візаў* і інш.)*: Рэальныя заробкі налета пранууецца павялічыць на 13–14 працэнтаў пры індэксе спажывецкіх **цэнаў** у 9–10 працэнтаў; Мы не можам у аднабаковым парадку знізіць кошт **візаў** для грамадзян ЕС* (Зв. 2009. № 240. С. 2). Гэта адбываецца, магчыма, таму, што з чыстай асновай такія словы становяцца аднаскладовымі, губляюць характэрную для беларускай мовы «напеўнасць», якая рэалізуецца за кошт працягласці гучання

слова, адсутнасці хуткіх і абрывістых фраз, яснага вымаўлення галосных і без іх рэдукцыі, а таксама дзякуючы перавазе адкрытых складоў [10]. Даказана, што ў беларускай літаратуры і публіцыстыцы часцей сустракаюцца двухскладовыя і трохскладовыя словы, а у гутарковай мове – двухскладовыя і аднаскладовыя. Уплыў літаратуры і публіцыстыкі, верагодна, сфарміраваў уяўленне аб двухскладовых формах як найбольш пашыраных, значыць, і нарматыўных.

1990-я гады сталі пераломнымі як для грамадска-палітычнага ўкладу краіны, так і для навукі, культуры. Дэмакратызацыя, укараненне новых ідэй і, адначасова, няўстойлівасць жыцця праявіліся ў пошуку публіцыстамі і літаратарамі новых форм выражэння думкі, свабодным стаўленні да слова, што прывяло да варыянтнасці ў СМІ і нават дапушчэння яе граматыкамі. Не было аднадумства і ў мовазнаўцаў («Навуковы савет па мовазнаўству», 1991; канферэнцыя «Праблемы беларускага правапісу», 1992; «Высновы дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы», 1994). У падручніках гэтага часу хоць і пераважала кадыфікацыя форм з нулявым канчаткам для назоўнікаў ІІ скланення з асновай на адзін зычны ў родным склоне множнага ліку, але і дапускаліся варыянты: *хвояў* і *хвой*, *яблыняў* і *яблынь, межаў* і *меж, кішэняў* і *кішэнь* і нават *хатаў, краінаў, гадзінаў.* Трывала ўжываліся з нулявым канчаткам назоўнікі з асновай на заднеязычныя *г, к, х*, губныя *в, б, м, п*.

Мовазнаўцы 2000-х – больш катэгарычныя. Нулявы канчатак у якасці нарматыўнага для назоўнікаў ІІ скланення з чыстай асновай у родным склоне множнага ліку зацвярджае Б. А. Плотнікаў («Беларуская мова: Лінгвістычны кампедыум», 2003). У «Кароткай граматыцы беларускай мовы» (2007) прымаецца ўжыванне канчаткаў *-аў (-яў)* у мастацкім стылі або гутарковай мове, аднак гэта недапушчальна для навуковага, публіцыстычнага стыляў, а таксама для запазычаных лексем (асабліва на *-ія* (*-ыя*)). Апошняя катэгорыя слоў значна пашырылася ў 1990–2000-я гады і паслядоўна ўжываецца з нулявым канчаткам (*інвестыцый, санкцый, амбіцый, рэалій, тэхналогій*) за выключэннем асобных эпізодаў: *Прадаўцы, зразумела, не маюць* ***ліцэнзіяў*** *на продаж і ў сваю чаргу не плацяць падаткі* (Зв. 2009. № 243–244. С. 4). Трэба адзначыць, што пасля зацвярджэння Закона Рэспублікі Беларусь «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (2008) афармленне тэкстаў стала больш унармаваным, а формы з нулявым канчаткам сустракаюцца часцей: *Егіпецкія фараоны фарбавалі бровы і бароды з дапамогай* ***раслінаў****...* (Б. 2006. № 12. С. 53) і *Цікава, што тэхнічны прагрэс сыграў з раслінаводамі-любіцелямі непрыемны жарт: са з'яўленнем цэнтральнага ацяплення многія цудоўныя калекцыі* ***раслін*** *загінулі* (Б. 2008. № 11. С. 13); *Эпоха падпольных* ***дыскатэкаў*** *скончылася* (Р. 2006. № 40. С. 10) і *А мне падавалася, што навокал хапае* ***дыскатэк*** *і начных клубаў* (Зв. 2009. № 38. С. 6).

Такім чынам, большасцю граматык кадыфікуецца нулявы канчатак для назоўнікаў ІІ скланення з асновай на адзін зычны ў родным склоне множна-




га ліку. Дынаміку словазмяняльнай нормы можна адлюстраваць з дапамогай графіка (малюнак), дзе за нулявое значэнне ўзята паралельная кадыфікацыя нулявой флексіі і *-аў (-яў)*, а за +1 – толькі чыстай асновы. Значэнні ад +0,25 да +0,75 выводзяцца ад частковага ўжывання *-аў (-яў).* Аналізуючы графік, бачна, што перыяды станаўлення моўных норм, якія супадаюць з гадамі грамадскіх «разломаў» (1920-я, 1940-я, 1980–1990-я) з характэрнай рамантычнай імпульсіўнасцю, жаданнем нацыянальнага вылучэння, пошукам словавыражэння, змяняюцца перыядамі стабілізацыі, у тым ліку моцнага палітычнага курса (1930-я, 1950–1970-я, 2000-я). Для іх уласцівы грунтоўны аналіз папярэдняга вопыту, пошук універсальных форм, выхад вызначальных моўных законаў і, на жаль, вялікі ўплыў рускай мовы ў грамадстве.

Аднак з’явы ўніфікацыі і спрашчэння беларускай мовы, прыпадабнення сістэмы скланення назоўнікаў па агульным узоры мужчынскага роду, дзе дамінуе канчатак *-аў (-яў)*, працягваюць развівацца. Да таго ж нарматыўныя крыніцы часам утрымліваюць супярэчлівыя звесткі. Так, у ССБМ сустрэты *шый* і *шыяў, завей* і *завеяў, зграй* і *зграяў*, у БАС – *мрояў*, што можа потым прывесці да пашырэння канчатка *-яў* сярод назоўнікаў жаночага роду на *-j. Тады насмяюся ўволю са сваіх пачуццяў, **мрой** і думак* (Б. 2006. № 8. С. 7) і *Самі ведаеце, у большасці камедый ёсць такі смешны, але вельмі мілы персанаж, які, трапіўшы ў серыю камічных сітуацый, паступова пераўтвараецца калі не ў героя мрояў, то ў героя чыіхсьці **мрояў** дакладна* (Б. 2008. № 12. С. 3).

Варыянтнасць дапускаецца і ў скланенні назоўніка *кішэня*, які мае дзве формы назоўнага склону адзіночнага ліку – *кішэнь і кішэня*, а ў родным склоне множнага ліку варыянтныя поўныя канчаткі – *кішэн-ей і кішэн-яў.* Вызначыцца на карысць аднаго з іх вельмі праблематычна, бо ТСБМ адносіць лексемы *кішэнь* і *кішэня* да жаночага роду, а значыць, да III і да II скланенняў адпаведна. Аднак у падручніку «Сучасная беларуская літаратурная мова» (1997) гаворыцца, што гэтыя формы – вынік нявызначанасці мужчынскага і жаночага роду, што ставіць назоўнік *кішэня* ўжо на мяжы трох скланенняў. Да таго ж некаторымі граматыкамі для гэтай лексемы дапускаецца і нулявы канчатак. На практыцы пераважаюць формы на *-яў: Учора*

*у нас цыгарэты з усіх* ***кішэняў*** *павытрасалі* (Б. 2009. № 7. С. 23); *Напрыклад, у камізэльцы я налічыў 14* ***кішэняў!*** (Зв. 2010. № 47. С. 6). Падобнае назіраецца і ў скланенні назоўніка *клавіша*, які мае форму і мужчынскага роду *клавіш.* Канчатак тут выбіраецца згода з родам, таму часта ідзе паралельнае ўжыванне як нулявой флексіі, так і *-аў. Я хуценька падышла да* ***клавішаў****, найграла яе, запісала на дыктафон, каб не забыцца, і легла зноў спаць...* (Зв. 2010. № 96. С. 7) і *Некалькі націсканняў* ***клавіш*** *– і перад вамі інфармацыя не толькі пра правапіс усіх формаў патрэбнага слова, але і яго націск* (Зв. 2009. № 133. С. 4).

Як выключэнні скланяюцца і некаторыя назоўнікі на *-ля: роля, доля* ‘частка чаго-небудзь’, бо нулявы канчатак можа нават парушыць іх сэнс. У 1930-я гады для слоў *роля і доля* як для назоўнікаў з нерухомым націскам дапускаўся канчатак *-ей.* У 1980-я гады канчаткі *-аў (-яў)* кадыфікаваліся для двухскладовых назоўнікаў на мяккі зычны: *доляў, роляў, хваляў, паляў.* Слоўнікі 1990–2000-х гадоў захоўваюць гэтыя прынцыпы, а вось у ТСБМ і ГСН зафіксаваны формы *долей.* У перыядычных выданнях назіраецца няпэўнасць у выкарыстанні лексем на *-ля*, як двухскладовых (*міляў* і *міль, хваляў* і *хваль, доляў* і *долей*), так і трохскладовых (*казуляў* і *казуль, пілюляў* і *пілюль, кашуляў* і *кашуль* і інш.), акрамя назоўніка *роля*, які трывала ўжываецца з канчаткам *-яў*: *Да Мінска ад гэтых* ***хваляў*** *даходзяць хіба толькі адгалоскі...* (Зв. 2008. № 179. С. 8); але *Як лічаць вучоныя, будуць назірацца адзінкавыя ўспышкі* ***хваль*** (Зв. 2010. № 36. С. 8). *У зялёнае суквецце ўплятталі чырвоную стужку-абярэг, каля скронявых* ***доляў*** *замацоўвалі выраблены ў воску вінаградныя гронкі* (Зв. 2009. № 185. С. 8); *Акрамя таго, дзяржава адмаўляецца ад пераважнага права на набыццё* ***долей*** *(акцый) у статутных фондах камерцыйных арганізацый, створаных у працэсе прыватызацыі* (Зв. 2009. № 128. С. 1); *У мяне шмат беларускіх* ***кашуль****, ёсць і іншыя рэчы беларускай вытворчасці* (Зв. 2009. № 23. С. 3) і *Абмежаванай аказалася каляровая гама і мадэльны рад* ***кашуляў*** *для падлеткаў* (Зв. 2009. № 43. С. 6).

Часта з канчаткамі *-аў (-яў)* ужываюцца і назоўнікі на *-ня: святыняў, велічыняў, вышыняў, багіняў* і інш.: *А гэта, акрамя фестывалю Дзень Беларускага пісьменства і традыцыйныя экспедыцыі «Дарога да* ***святыняў****», штогадовыя цырымоніі ўручэння прэмій «За духоўнае адраджэнне», аднаўленне храмаў і інш.* (ЛіМ. 2007. № 17. С. 2); *У 2010 годзе іх* (акладаў. – *К. Ш.*) *памер будзе вагацца ад 1 да 12 базавых* ***велічыняў*** (Зв. 2009. № 240. С. 1). Гэту з’яву можна растлумачыць блізкасцю слоў дадзенай катэгорыі да назоўнікаў III скланення, якія ўжываюцца з поўнымі канчаткамі (*граней* і *граняў, ростаней* і *ростаняў, гаваней і гаваняў*). Да таго ж некаторыя назоўнікі II скланення са збегам зычных у аснове перад *-ня* нарматыўна ўжываюцца з варыянтнымі канчаткамі (*вішняў* і *вішань, сотняў* і *соцен, чарэшняў* і *чарэшань*).

Увогуле, канчатак *-аў (-яў)* найчасцей сустракаецца сярод назоўнікаў II скланення з асновай на санорны: *сілаў, плямаў, сістэмаў*, *фараў, дысцып-*

*лінаў* і інш.: *Без дастковай колькасці тлушчу паскараецца працэс выпарэння слёзнай плёнкі, што прыводзіць да з'яўлення сухіх* ***плямаў*** *на паверхні рагавіцы* (Зв. 2010. № 22. С. 5); *Каб нагнаць страчаны не па віне час, даводзілася працаваць і пры святле вулічных ліхтароў, і пры святле аўтамабільных* ***фараў*** (Зв. 2009. № 241. С. 1). Гэта, з аднаго боку, можна растлумачыць і асаблівасцямі санорных гукаў, якія пры ўспрыманні на слых часам даюць прыгук галоснага. Так, розныя ўчасткі гука [л] могуць гучаць як [у], [ы] з адценнем [у], [ву]; [р] па гучанні практычна не аддзяляецца ад папярэдняга галоснага, [м] і [н] «успрымаюцца няпэўна», момантамі як [ы] [11]. Атрымліваецца, што санорны гук фанетычна прыцягвае за сабой галосны, у выніку аўтар лічыць больш правільным і мілагучным ужываць канчатак *-аў (-яў)*. З другога боку, санорны, з'яўляючыся гукам, які мае ўласцівасці зычнага і галоснага, не патрабуе канчатка. Да прыкладу, у чэшскай і славацкай мовах гукі [р], [л] з'яўляюцца складаўтваральнымі, [р] – складаўтваральны ў сербскай і харвацкай.

Праблематычным з'яўляецца і напісанне назоўнікаў жаночага роду, якія набываюць значэнне множналікавасці – *навіны, улады, руіны, меры, страты, пакуты, залозы* і інш., якія часта ўжываюцца з канчаткамі *-аў (-яў)*: *Абноўлены праект стане, па задуме яго стваральнікаў больш дынамічным – за паўгадзіны максімальную колькасць* ***навінаў*** *пастараюцца даць вядучыя і журналісты* (Зв. 2009. № 39. С. 8); *На Захадзе і ў Расіі ўсё часцей схіляюцца да ўвядзення пратэкцыянісцкіх* ***056мераў*** *па абароне сваіх нацыянальных эканомік* (Зв. 2009. № 29. С. 5), але *Яшчэ некалькі такіх ахвотнікаў заняць вакансію – і невялікі праект зроблены, суцэльныя прыбыткі для прадпрыемства без аніякіх* ***страт*** (Зв. 2008. № 37. С. 2). Паводле «Кароткай граматыкі беларускай мовы» (2007), канчаткі *-аў (-яў)* з'яўляюцца нарматыўнымі толькі для множналікавых назоўнікаў са збегам зычных у аснове. У «Беларускай граматыцы» (1985) знаходзім выключэнні: назоўнікі на *г, к, х,* аддзеяслоўныя, складаныя і іншамоўныя, у П. П. Шубы – трывалыя ў жывой гутарковай мове формы тыпу *абцугоў, лекаў, духоў, усходаў, родаў, выбараў*. БАС, ССБМ зацвярджаюць для лексем жаночага роду з адценнем множналікавасці нулявы канчатак, што варта прызнаць, каб не дапускаць непатрэбных размежаванняў у словах адной лексіка-граматычнай групы.

Нявызначанасць назіраецца ў некаторых назоўнікаў, якія ў жывой гаворцы замацаваліся з канчаткам *-аў* (тыпу *вудаў, вежаў, межаў*)*: вуд і вудаў* (БАС), *вуд* (ССБМ, ГСН)*; веж і вежаў* (АР, ГСБМ, БАС, ССБМ, ГСН); *межаў* (ТСБМ, ГСБМ), *меж і межаў* (БАС), *меж* (ССБМ, ГСН). На практыцы відавочна перавага поўных форм: *Да 3 лютага павінны быць апублікаваныя спісы выбарчых акруг з назначэннем іх* ***межаў,*** *найменняў, нумароў, колькасці выбаршчыкаў і месцаў знаходжання выбарчых камісій* (Зв. 2010. № 11. С. 2)*; На плошчы Свабоды, дзе побач узвышаюцца галоўныя праваслаўная і каталіцкая святыні, адбываўся сапраўдны кветкавы баль – пад званы з* ***вежаў*** (Зв. 2010. № 158. С. 2)*; Аднак гэта не спыніла двух слесараў-*

*сантэхнікаў Мядзельскай ЖКГ, якія на возеры Мястра з выкарыстанннем донных **вудаў** здабылі 14 вугроў агульнай вагой 9 кілаграмаў* (Зв. 2009. № 120. С. 7).

Такім чынам, у назоўніках II скланення з асновай на адзін зычны ў родным склоне множнага ліку, хоць і актыўна ўжываюцца канчаткі *-аў (-яў)*, усе ж дамінуе нулявая форма, якую, верагодна, варта зафіксаваць як нарматыўную. Улічваючы шэраг экстра- і інтралінгвістычных фактараў, ёсць неабходнасць пакінуць шэраг выключэнняў: *курэй,* назоўнікі з нявызначаный формай скланення – *кішэняў, клавішаў* і інш., трывала замацаваныя ў моўнай практыцы двухскладовыя назоўнікі *доляў, роляў, вежаў, межаў, вудаў.* Пры гэтым лексемы-выключэнні павінны паслядоўна адлюстроўвацца ў акадэмічных слоўніках, задача для якіх – быць надзейнай крыніцай вырашэння спрэчных выпадкаў формаўжывання назоўнікаў.

## Спіс скарачэнняў

**ТСБМ** – Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. – Мінск, 1977 – 1984; **ГСБМ** – Граматычны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 1994; **АР** – Арашонкава Г. У., Лемцюгова В. П. Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы. – Мінск, 1987; **ГСН** – Граматычны слоўнік назоўніка. – Мінск, 2008; **БАС** – Беларускі арфаграфічны слоўнік. – Мінск, 2009; **ССБМ** – Слоўнік сучаснай беларускай мовы. – Мінск, 2009; **ДАБМ** – Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. – Мінск, 1963; **ЛАБНГ** – Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. – Мінск, 1998. – Т. 5: Семантыка. Словаўтварэнне. Націск; **Зв.** – «Звязда», **Р.** – «Раніца», **ЛіМ** – «Літаратура і мастацтва», **Б.** – «Бярозка».

## Літаратура

1. Карповіч, М. П. Сродкі масавай камунікацыі ў станаўленні моўнай формы / М. П. Карповіч // Беларуская мова ў II палове XX ст.: матэрыялы Міжнар. навук. канф., 22–24 кастр. 1998 г. – Мінск, 1998. – С. 179–181.

2. Карский, Я. Ф. Белорусы / Я. Ф. Карский. – Минск, 2006. – Т. 2: Язык белорусcского народа, вып. 2: Исторический очерк словообразования и словоизменения. – С. 164.

3. Шкраба, І. Р. Варыянтнасць у сучаснай беларускай мове / І. Р. Шкраба. – Мінск, 2004. – С. 119.

4. Шуба, П. П. Сучасная беларуская мова / П. П. Шуба. – Мінск, 1987. – С. 70.

5. Вайтовіч, Н. Т. Да пытання аб фарміраванні нацыянальнай літаратурнай беларускай мовы / Н. Т. Вайтовіч. – Мінск, 1958. – 49 с.

6. Крывіцкі, А. А. Дыялекталогія беларускай мовы / А. А. Крывіцкі. – Мінск, 2003. – 294 с.

7. Анісім, А. М. Склонавая парадыгма назоўнікаў у «Нашай Ніве» (1906–1915) / А. М. Анісім // Беларуская лінгвістыка. – 2008. – Вып. 62. – С. 139–147.

8. Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы. – Мінск, 1934. – С. 34.

9. Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія/ пад агул. рэд. Ф. М. Янкоўскага. – Мінск, 1975. – С. 66.

10. Выгонная, Л. Т. Белорусская суперсегментарная фонетика / Л. Т. Выгонная. – Минск, 1992. – 48 с.

11. Фанетыка беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. А. І. Падлужнага. – Мінск, 1989. – С. 119.

**Summary**

This article touches up the problem of normalization of ending in nouns (famine gender Genitive case in the plural number) through the analyzing normative resources of XX – beginning XXI centuries and the modern press.

*Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа*
*і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*23.09.2010 г.*

*УДК 801.3*

*А. А. МАРОЗАВА*

# ДЭАРХАІЗАЦЫЯ ЯК КРЫНІЦА ЛЕКСІЧНАЙ ВАРЫЯНТНАСЦІ Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Эвалюцыйныя працэсы ў мове звязаны з трансфармацыйнымі працэсамі ў яе сістэмах, у тым ліку лексічнай. Лексічная сістэма сучаснай беларускай мовы характарызуецца такімі вызначальнымі рысамі, як дынамізм, адкрытасць, нераўнамернасць развіцця розных груп лексікі і лексічных адзінак, складанасць структуры. Зменлівасць мовы выклікаецца як знешнімі ўмовамі яе функцыянавання (кантактаванне моў, узаемаўплыў культур), так і ўнутранымі механізмамі, звязанымі з працэсам перагрупавання моўных элементаў.

Тэндэнцыі, якія вызначаюць развіццё слоўнікавага складу беларускай мовы, маюць рознанакіраваны характар: з аднаго боку, гэта развіццё лексікі ад старога да новага (з'яўленне неалагізмаў, працэс архаізацыі пэўных слоў), з другога – развіццё лексікі ў кірунку ад новага да старога [1]. Цыклічнасць моўнага развіцця характарызуецца тым, што кожны новы цыкл не паўтарае папярэдні, а прадугледжвае ўзбагачэнне існуючай лексічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы за кошт лексічных здабыткаў папярэдніх этапаў моўнага развіцця [2]. Такая тэндэнцыя атрымала назву дэархаізацыі лексічнага складу мовы і прывяла на сучасным этапе да суіснавання варыянтных лексічных пар, якія складаюцца з нарматыўных агульнавядомых слоў і іх устарэлых эквівалентаў.

Калі разглядаць мову як адзінства элементаў ядра і перыферыі, то ўстойлівасць мовы забяспечваецца стабільнасцю элементаў ядра ўсіх узроўняў, а перыферыйныя элементы бесперапынна адчуваюць змены. Ядро лексічнай сістэмы сучаснай беларускай мовы складаюць агульнавядомыя стылістычна нейтральныя лексічныя адзінкі, а перыферыю – стылістычна маркіраваная, дыялектная, прафесійная, устарэлая лексіка. Але ў перыяды сацыяльных змен у жыцці грамадства, калі ідзе пераасэнсаванне і пераацэнка матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей папярэдніх эпох, часта назіраюцца выпадкі раптоўнага ажыўлення слоў «з часавай перыферыі мовы, у прыватнасці, рэсурсаў архаічнай лексікі, якая паступова ўваходзіць у стадыю «рэнесанснага» бытавання» [3].

У сучаснай мовазнаўчай літаратуры не існуе адзінай назвы для слоў, якія пасля значнага перапынку зноў уваходзяць у шырокі ўжытак: адны даследчыкі іх называюць адроджанымі (Ю. Шавялёў), другія – рэактываванымі

(Л. Мацько, П. Дудзік), трэція – рэвіталізаванымі (С. Капуш), чацвёртыя – унутранымі ўваходжаннямі, або ўнутранымі неалагізмамі (Д. Мазурык), але большая частка вучоных прапануе тэрмін актуалізаваныя словы (Л. Ферм, А. Дулічэнка, Л. Струганец).

Працэс вяртання некаторых лексічных адзінак у нацыянальныя мовы народаў былых савецкіх рэспублік характэрны для канца XX ст. – перыяду, калі многія нацыянальныя мовы набылі статус дзяржаўных. У беларускай мове гэты працэс з'яўляецца праявай своеасаблівага пурызму, які выкліканы імкненнем абмежаваць і ў некаторай ступені аслабіць відавочную блізкасць часткі агульнага слоўнікавага фонду беларускай і рускай моў. Даследчыкі звяртаюць увагу на тое, што ў СССР моўная палітыка была скіравана на скасаванне правапісных, граматычных, словаўтваральных, лексічных і сінтаксічных асаблівасцей беларускай мовы [4]. Вядомы аўстрыйскі беларусіст Герман Бідэр таксама прытрымліваецца думкі, што «з польскай і рускай моў былі запазычаны не толькі словы для патрэб намінацыі і экспрэсіўнага выражэння, але і шматлікія лексічныя дублеты, па прычыне сацыякультурнага ўціску і моўнага прэстыжу дамінуючай суседняй мовы або проста моўнай моды» [5]. Нягледзячы на тое што акадэмічны пяцітомны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» з'яўляецца фундаментальнай працай па апісанні лексікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы, у цяперашні час узнікла патрэба ў пераглядзе рэестра слоўніка, і гэта выклікана аб'ектыўнымі прычынамі: па-першае, з часу яго складання прайшло трыццаць гадоў і мова значна папоўніла свой лексічны склад новымі адзінкамі; па-другое, сучасны перыяд развіцця мовы характарызуецца актыўным адраджэннем устарэлых слоў, што прывяло да суіснавання варыянтных лексем. Павінен прайсці яшчэ некаторы час, каб моўная практыка носьбітаў беларускай мовы паказала, які варыянт выйдзе за межы нормы, а які стане нарматыўным.

Частка дэархаізаваных слоў была запазычана ў беларускую мову з польскай, нямецкай, французскай, лацінскай моў, некаторыя прыйшлі з беларускіх гаворак. Функцыянальны статус устарэлых варыянтаў змяняўся на працягу гісторыі: яны актыўна функцыянавалі ў мове ў пачатку XX ст. (да 1930-х гадоў) падчас правядзення палітыкі беларусізацыі і былі зафіксаваны лексікаграфічнымі крыніцамі таго перыяду, пасля 1930-х гадоў не фіксаваліся ў нарматыўных слоўніках, паўторна вярнуліся да актыўнага ўжытку ў 1990-я гады на хвалі адраджэння. Немалаважную ролю ў адраджэнні архаічных слоў і знаёмстве з імі носьбітаў мовы адыгралі некаторыя СМІ, а таксама блізкасць да падобных з'яў ва ўкраінскай мове. У цяперашні час некаторыя варыянты зафіксаваны ў слоўніках і граматыках са стылістычнымі паметамі размоўнасці і ўстарэласці, а некаторыя існуюць толькі як з'явы жывой мовы, выкарыстоўваюцца ў гутарковым маўленні, у СМІ, у мастацкай і часам навуковай літаратуры і некадыфікаваны слоўнікамі і граматыкамі.

Да ліку такіх лексічных адзінак адносяцца наступныя варыянтныя пары: *асадка – ручка, атрамант – чарніла, вакацыі – канікулы, адсотак –*

*працэнт, мапа – карта, амбасадар – пасол і амбасада – пасольства, электарат – выбаршчыкі, гарбата – чай*, *кава – кофе, цытрына – лімон*. Вернутыя да ўжытку ўстарэлыя лексемы найбольш часта сустракаюцца ў матэрыялах сучаснай прэсы.

У канцы ХХ – пачатку ХХІ ст. актыўна пачалі выкарыстоўвацца лексемы *асадка, атрамант, вакацыі, адсотак*. Разгледзім іх у адной групе, паколькі словы блізкія па часе ўзнікнення ў мове і сферы свайго выкарыстання. Зафіксаваныя ў мове з XVIII ст. для абазначэння адпаведных рэчаў і рэалій, словы існавалі як лексічныя адзінкі актыўнага фонду мовы да савецкага часу, затым ужываліся ў якасці дублетаў да лексем *ручка, чарніла, канікулы, працэнт* і паступова перайшлі ў пасіўны слоўнік мовы. Дэархаізацыя гэтых найменняў у цяперашні час паказвае, што статус іх устарэласці становіцца адносным. Словы *асадка, атрамант, вакацыі* часта ўжываюцца на старонках неафіцыйных выданняў і на віртуальных літаратурных старонках Інтэрнэта: *Па сканчэньні мастацкае школы ў 1994-м годзе маляваў яшчэ некалькі гадоў. Праўда, не акварэлі, а адмысловую графіку (каляровая крэйда з чорнай шарыкавай* ***асадкай)*** (з інтэрв'ю на радыё «Свабода»); *Я стала на калені. Ён шпурлянуў мне ў твар дакументы і* ***асадку*** (Бабіна Наталка. Рыбін горад. www.PRASTORA.BY); *Дзеля гэтага я скраў у старэйшага сябра «аўтаручку», бо малечай ня мог сабе нават уявіць, што кнігі можна пісаць і школьнай* ***асадкай****, раз-пораз макаючы пёрка ў* ***атрамант*** (В. Акудовіч. Анкета «Дзеяслова». dziejaslou. by); *Нашкрэбаць верш, не шкадаваць паперы,* ***Атрамант*** *ёй пакінуць як сляды* <...> (Анатоль Трафімчык. Лірыка. www.tvory.by); *Гэта было яшчэ летам і ўсе гомельскія апазыцыянеры былі* ***на вакацыях*** (Наша Ніва. 22.01.2007); *Абласны этап рэспубліканскага конкурсу самадзейнай мастацкай творчасці навучэнцаў прафесійна-тэхнічных і сярэднеспецыяльных навучальных устаноў* ***«АРТ-вакацыі»*** *раскрыў шмат новых талентаў* (Народнае слова. 12.05.2009).

Зыходзячы з лексічнага значэння слова *асадка*, хутчэй можна гаварыць пра яго не як пра архаічны варыянт сучаснай лексемы, а як пра гістарызм у сучаснай беларускай мове. ТСБМ падае 5 значэнняў слова *асадка:* 1. 'Дзеянне паводле дзеяслова асядаць – асесці'; 2. 'Дзеянне і стан паводле дзеяслова асадзіць'; 3. Спец. 'Глыбіня апускання судна ў ваду'; 4. Спец. 'У кавальскай справе – ковачная аперацыя, пры якой павялічваецца таўшчыня загатоўкі за кошт яе вышыні'; 5. 'Тое, што і асада – дзяржанне ў прыладах працы, інструменце (малатку, долаце, гэблі і пад.)'; 'Тое, што і асада – рамка' (ТСБМ. Т. 1. С. 274). Пятае значэнне слова *асадка* ўтрымлівае і наступныя падзначэнні: 'драўляная частка якога-небудзь інструмента, прылады, якая з'яўляецца дзяржаннем металічнай або якой-небудзь іншай часткі'; 'пісьмовая прылада – палачка, у якую ўстаўляецца пяро; тое, што і ручка' (ТСБМ. Т. 1. С. 274). У апошнім падзначэнні ўтрымліваецца ўказанне на *асадку* як прыладу для пісьма, але ў ім таксама не менш дакладна ўказваецца на тое, што *асадка* сама па сабе яшчэ не можа выкарыстоўвацца ў якасці пісьмовай

прылады, паколькі з'яўляецца толькі яе часткай, прычым часткай не для напісання, а для трымання. Такое разуменне *асадкі* як свайго роду рукаяткі для пісьмовага інструмента падаюць «Гістарычны слоўнік беларускай мовы»: *асадка* – 'ручка для пяра' (ГСБМ. Т. 1. С. 52), слоўнікі 1920-х гадоў («Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік» М. Гарэцкага, «Беларуска-расейскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча). У ГСБМ звяртаецца ўвага і на шлях утварэння: пры дапамозе суфікса *-к-* ад *асада* 'частка прылады, якая насаджваецца на іншую частку – у дадзеным выпадку асадка асаджвалася на пяро' (ГСБМ. Т. 1. С. 52). Развіццё значэння ішло шляхам метанімічнага пераносу: частка – цэлае = дзяржанне – уся прылада для пісьма. Аднак слова *асадка* ў беларускай мове мнагазначнае, у некаторых са значэнняў слова ўтварае і другія варыянтныя пары (асадка – рамка, асадка – шуфляда), і толькі ў адным са значэнняў змяшчаецца ўказанне на прыладу для пісьма. Магчыма, на працягу першай паловы ХХ ст., калі для пісьма карысталіся толькі ручкамі з пёрамі, дапускалася існаванне ў мове як раўназначных дублетаў *ручка і асадка*: ручка 'пісьмовая прылада ў выглядзе палачкі, стрыжня, куды ўстаўляецца пяро' (ТСБМ. Т. 4. С. 731). Але з развіццём тэхналогій грамадства адмовілася ад такога тыпу пісьмовых прылад і цалкам перайшло да выкарыстання шарыкавай ручкі – аўтаматычнай ручкі з шарыкам замест пяра для падачы чарнільнай масы. Калі знікае з ужытку сама пісьмовая прылада ў тым выглядзе, да якога адносілася найменне *асадка*, слова пераходзіць у разрад гістарызмаў. Пра гэта сведчыць і тое, што ўжо ў ХХ ст. нават для абазначэння пісьмовай прылады з пяром сталі ўжываць слова *ручка*, а слова *асадка* набыло значэнне не самастойнай прылады для пісьма, а яе састаўной часткі: *А тым часам галоўнае было ўсё наперадзе: дастаць аркуш паперы для кантракта,* ***асадку****, чарніла, пяро* (ТСБМ. Т. 1. С. 274). Слова *асадка* працягвае сваё аб'ектыўнае існаванне ў народнай мове са значэннем 'дзяржанне ў прыладах працы, інструменце' [6].

З ручкай як прыладай для пісьма непасрэдна звязана і *чарніла* – 'водны раствор якога-небудзь каляровага рэчыва, што ўжываецца для пісання' (ТСБМ. Т. 5. С. 300). У апошні час у беларускай мове побач з лексемай *чарніла* зноў пачало выкарыстоўвацца слова *атрамант*, якое ТСБМ падае з паметай уст. (устарэлае). Слова *атрамант* з'явілася і пашырылася ў старабеларускай мове разам са з'яўленнем адпаведнай прылады для пісьма – *ручкі з пяром*. Слова *атрамант* фіксуецца з 1710 г., запазычана праз польскую мову з лацінскай, у якой гучыць і пішацца як atramentum. Форма слова ўказвае на значэнне хімічнага рэчыва, элемента (параўнаем aurum – золата, argentum – срэбра), што выкарыстоўвалася для атрымання чарніла. Змена наймення адбылася, верагодна, дзякуючы развіццю тэхналогіі вырабу самога раствору: у «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» засведчана наступнае: '*галясу купили полфунта на* ***атраментъ****, галясу на* ***атраментъ*** *за 15 осм*' (ГСБМ. Т. 1. С. 161), дзе *галясъ* (польск. galas < лац. galla) – «чарнільны арэшак» [7], з якога атрымлівалі вадкасць для пісьма. Сучасная

хімічная вытворчасць пры атрыманні чарніла для шарыкавых ручак выкарыстоўвае іншыя рэчывы і кампаненты.

Аднясенне на сучасным этапе варыянта *атрамант* да пласта ўстарэлай лексікі мае падставы. На пачатку XX ст. слова функцыянавала ў жывым маўленні, выпадкі яго ўжывання засведчаны ў мове газеты «Наша Ніва». Сустракалася слова і ў мастацкіх тэкстах класікаў беларускай літаратуры Змітрака Бядулі і Янкі Купалы: *Маленькі Тамаш быў тады заўсёды запэцканы ў сіні* ***атрамант****: рукі, нос, лоб, нават язык. Тамаш і цяпер памятае саладкаваты, непрыемны смак* ***атраманту***; *Змачу пёрка ў* ***атрамэнту*** *Ды як чыркну на паперы* [8]. Аднак ужо ў слоўніках 1920-х гадоў не было адзінства пры падачы слова *атрамант*: фіксуе яго толькі «Беларуска-расейскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча (БРС. С. 37), іншыя лексікаграфічныя крыніцы не падаюць увогуле, а ў «Падручным Расейска-крыўскім (беларускім) слоўніку» В. Ластоўскага як адпаведнікі да рускага слова *чернило* прыводзяцца *чарніла* і *каламар* (РБС. С. 745). На сучасным этапе слова *атрамант* ужываецца аўтарамі ў творах на гістарычную тэматыку: *Ніжэй ішлі літары, ірваныя ад дрэннай паперы і вадкага* ***атраманту*** [9]; *Я помніў тыя пасланні, якія пісалі манахі-францысканцы пад дыктоўку вялікага князя, пацеючы ад напружання і паспешліва соўгаючы вострыя гусіныя пёры ў чорнае месіва* ***атраманту*** [10].

Побач з агульнавядомым словам *канікулы* ў апошнія дзесяцігоддзі пачало актыўна ўваходзіць ва ўжытак і варыянтнае слова *вакацыі*. Абедзве лексемы з’яўляюцца запазычаннямі з лацінскай мовы: caniculae і vacātio. Калі звярнуцца да лексічнага значэння гэтых слоў, то яны абазначаюць перапынак у занятках, які даецца навучэнцам для адпачынку. Слова *вакацыі* было запазычана яшчэ старабеларускай мовай і першапачаткова абазначала часовы перапынак у працы: *Крама мурованая ув аренде пані Гачысе ведле воротъ ратушныхъ, ведле ряду пекарского,* ***на вакацыі*** [11]. Паколькі лацінскі корань слова мае значэнне ‘вольны’, з цягам часу ўжыванне слова непасрэдным чынам пачало звязвацца з семінарскай сістэмай навучання і адпачынкам навучэнцаў дадзенага тыпу ўстаноў на тэрыторыі былой Расійскай імперыі: *На калядныя* ***вакацыі*** *ён [Алесь] спустошыў частку дзедавай бібліятэкі* [12]. Слова *канікулы* з’явілася ў мове пазней і зафіксавана ў 1920-я гады. В. Ластоўскі ўводзіць яго ў свой слоўнік для абазначэння перапынку ў занятках: ‘час летніх упалаў, правольная пара ў вучомных установах’ (РБС. С. 246). Ужыванне слова *канікулы* прыходзіцца на пачатак XX ст., што звязана, верагодна, з пераходам на новую сістэму навучання ў паслярэвалюцыйнай Расіі, пры якой страцілі актуальнасць не толькі семінарскія тыпы ўстаноў, але і семінарская лексіка.

З’яўляючыся першапачаткова матэматычным тэрмінам, які мае значэнне ‘сотая доля ліку, які прымаецца за цэлае, за адзінку; колькасць, якая вымяраецца ў сотых долях чаго-небудзь, прынятага за адзінку’ (ТСБМ. Т. 4. С. 387), слова *працэнт* дэтэрмінізавалася і набыло вялікія словаспалучаль-

ныя магчымасці. У апошні час слова *працэнт* атрымала шырокае выкарыстанне ў мове сродкаў інфармацыі і сустракаецца ў такіх спалучэннях, як *працэнт* беспрацоўных, *працэнт* стаўкі рэфінансавання, *працэнт* падатковай пошліны, *працэнт* выкананых работ і г. д. Даследчыкі звяртаюць увагу на тое, што слова *працэнт* было зафіксавана ў І. Насовіча («Словарь белорусского наречия»), прыйшло ў беларускую мову з рускай ад нямецкага prozent з італьянскага per cento, якое набыло лацінізаваную форму pro cento ‘за сто’ ад лацінскага pro centum [13]. Побач са словам *працэнт* адначасова выкарыстоўваецца і яго варыянт *адсотак*: *Дзевяноста восем* ***адсоткаў*** *сённяшняга Саюза пісьменнікаў займаюць тую ж самую пазіцыю, як «Тутэйшыя» дзесяць гадоў таму* (ЛіМ. 1998. № 17). Сярод крыніц пранікнення слова ў мову называецца польскае слова odsetek [14]. Другой крыніцай можа з’яўляцца ўкраінскае *відсоток*, якое ўвайшло ва ўжытак у сярэдзіне XIX ст., праіснавала да 1930-х гадоў, пакуль не было забаронена [15]. Слова *адсотак* мае славянскае паходжанне і выразна праяўляе значэнне ‘частка, узятая ад сотні’, але на працягу XX ст. засведчана толькі ў «Беларуска-расейскім слоўніку» М. Байкова і С. Некрашэвіча і «Краёвым слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча: *Адсотак* – м. процент (БРС. С. 25); *Мне сёліта трэба ўнесьці ў банк пяць* ***адсоткаў*** *зы пазычаныя грошы* (Бяльк. С. 47). Пытанне пра існаванне слова *адсотак* складанае, як і ўвогуле пытанне пра кадыфікацыю матэматычнай тэрміналогіі ў беларускай мове: з аднаго боку, сярод матэматычных тэрмінаў выкарыстоўваюцца інтэрнацыяналізмы тыпу *інтэграл* (integral), *лік пі*, *ступень куба* (cube), з другога – вялікую, можа, нават большую колькасць складаюць тэрміны-калькі і ўласныя ўтварэнні – *квадратны корань*, *сума*, *складаемае*, *выказнік* і інш. Слова *працэнт* працяглы час існуе ў мове, яго значэнне развілася і пашырылася, словаўтваральныя магчымасці слова наступныя: *працэнтаваць* – ‘вылічыць (-чваць) працэнты’; *працэнтны* (*працэнтавы*) – ‘які мае адносіны да працэнта, выражаны ў працэнтах (стаўка, норма), які прыносіць працэнты’; *працэнтоўка* – ‘налічэнне платы за працу натурай або грашамі ў памеры некалькіх працэнтаў ад зробленага’ (ТСБМ. Т. 4. С. 387). Той факт, што слова *працэнтаваць* належыць да спецыяльнай лексікі, а *працэнтоўка* – да размоўнай, сведчыць пра розныя ўзроўні выкарыстання слова *працэнт* і яго трывалае засваенне мовай. Слова *адсотак*, у сваю чаргу, служыць базай для ўтварэння прыметніка *адсоткавы*, вяртаецца да ўжытку і мае здольнасць да далейшага развіцця. Перспектывы выкарыстання слова *адсотак* у значнай ступені залежаць ад выбару рухацца ў напрамку поўнай інтэрнацыяналізацыі або ў напрамку поўнай нацыяналізацыі матэматычнай тэрміналогіі.

У нацыянальным друку для перадачы значэння ‘зменшаны чарцёж зямной паверхні або яе часткі з пераважным улікам тых або іншых спецыяльных прымет’ (ТСБМ. Т. 2. С. 647) ужываюцца варыянты *карта* і *мапа*: *Старая* ***мапа*** *Гродзенскай губерні таксама ўтрымлівае ў гэтым месцы шуканую назву ўрочышча Краснасток* (Ігар Жук. Сустрэчны рух: Літаратуразнаўчыя

эцюды); *Зірнуўшы на* ***карту*** *Беларусі, можна пераканацца ў тым, што кожны наш рэгіён мае свой буйны фестываль* (Культура. 2009. № 4).

Словы *карта* і *мапа* прыйшлі ў беларускую мову з польскай, але маюць розныя крыніцы паходжання. Слова *мапа* ўласціва заходнеславянскім мовам: польскае, славацкае і чэшскае *mapa* (параўнаем *a map* у англійскай мове); слова *карта* запазычана праз польскае karta, італьянскае carta з лацінскага charta, ад грэчаскага chartes [16]. У сучаснай беларускай мове слова *карта* мае значэнне не толькі чарцяжа зямной паверхні або зорнага неба (карта геаграфічная), але і карты санаторнай, карты для гульні. Мнагазначнасць слова развілася яшчэ ў старабеларускі перыяд: карта 1) афіцыйны або прыватны пісьмовы дакумент; распіска, вэксаль; 2) пранумераваны аркуш, старонка; 3) адзін з цвёрдых папяровых лістоў, якія складаюць набор (калоду) для гульні [17]. Слова *мапа* было запазычана са значэннем ‘геаграфічная карта’, а ў слове *карта* яно адно з некалькіх. Магчыма, на гэтай падставе ў творах на гістарычную тэматыку аўтары аддаюць перавагу *мапе*: *Усе маўчалі, гледзячы на* ***мапу****. Прыдняпроўе, зрэзанае сінімі стужкамі рэк, зялёнымі плямамі лясоў, цёмнымі кропкамі вёсак і гарадоў ляжала перад імі* [18]; *Гедзімін і Альгерд амаль не выходзілі з пакояў, дзе мясцілася княская казна, а таксама куфры з* ***мапамі****, на якіх намаляваныя былі планы іншых еўрапейскіх сталіц* [19]; *З ранку да абеду і на цэлыя вечары зачыняліся ў асобным пакоі княжага палаца і гадзінамі стаялі над* ***мапай*** *ці сядзелі ля печы і разважалі пра ўсе неабходныя дзеянні, спрачаліся, прымалі рашэнні* [20].

Такое суіснаванне і адначасовае размежаванне слоў *мапа* і *карта* засведчана ў слоўніках 1920-х гадоў: *карта* – карта, пісьмо (БРС. С. 142) і *мапа* – *карта* (географическая) (БРС. С. 166); *карта* – нарыс часьці зямлі, мора, неба; карта (РБС. С. 251); *карта* – письмо, записка; карта (РБС. С. 120). У дыялектных слоўніках таксама размяжоўваюцца словы *карта* і *мапа* (*карта* – павестка, ліст, старонка і *мапа* – уст. Карта): *Раней казалі* ***карта****, як кого вызывалі, каб у суд яўляўса* [21]; *Далі* ***карту*** *ў вармію ісці* (СГПЗ. С. 423); *Узялі гэты пашпарт, паслалі аш у Плешчыніцы, там ужо праверылі, аказалася, усе* ***карты*** *ё, павыдзіраных* ***картаў*** *німа* (СГЦР. С. 186); *На сцене вісела* ***мапа*** (Бяльк. С. 131); *Калі ведаць добра* ***мапу****, то зусім лёхка будзе геаграфію здаваць* (СГЦР. С. 225). Апошні прыклад ілюструе, што слова *мапа* захавалася ў вусным дыялектным маўленні, але пасля 1920-х гадоў яго не фіксаваў ні адзін акадэмічны слоўнік. З пачатку XXI ст. слова *мапа* рэгулярна сустракаецца на старонках беларускамоўных перыядычных выданняў у артыкулах на гістарычную або турыстычную тэматыку: *Асартымент «Амазону» не абмяжоўваецца кнігамі. На* ***мапы*** *таксама ёсць попыт – падрабязную каляровую схему беларускіх аўтамабільных дарог з плянам Менску можна набыць за 11 даляраў* (Наша Ніва. 29.04.2005); *Спадкаемцамі яшчэ адной, ужо не існуючай* ***на мапе*** *краіны – Чэхаславаччыны – стануць чэхі, шматразовыя пераможцы ўсясьветных першынстваў і Алімпійскіх гульняў* (Свабода. 29.04.2008); *Ад Плошчы Каталоніі злева ўверх*

*пойдзе Рамбла дэ Каталонія, з якой, арыентуючыся **па мапе**, вы праз пару кварталаў павернеце направа, на Прэч дэ Грацыя, каб пабачыць некаторыя дамы Гаўдзі* (Звязда. 21.09.2010).

Варыянтныя пары *амбасадар – пасол* і *амбасада – пасольства*, *электарат – выбаршчыкі* складаюць лексічныя адзінкі, звязаныя з палітычным бокам жыцця грамадства. Развіццё адносін паміж дзяржавамі ажыццяўляецца пры дапамозе дыпламатычных місій і пасольскіх карпусоў, якія ўключаюць у сябе непасрэдна інстытут пасольства і законных прадстаўнікоў іншых дзяржаў у нашай краіне – паслоў. Такая форма ўзаемаадносін на міжнароднай арэне мае працяглую гісторыю існавання, што падмацавана ўваходжаннем у лексічную сістэму мовы адпаведных моўных сродкаў: *пасол* – ‘дыпламатычны прадстаўнік вышэйшага рангу адной дзяржавы, акрэдытаваны пры ўрадзе іншай дзяржавы’ (ТСБМ. Т. 4. С. 81); *пасольства* – ‘дыпламатычнае прадстаўніцтва адной дзяржавы ў другой на чале з паслом; будынак, у якім знаходзіцца гэтая ўстанова’ (ТСБМ. Т. 4. С. 82). Аднак усё часцей у сучаснай маўленчай практыцы выкарыстоўваюцца варыянты *амбаса́дар* і *амбаса́да*: *На вернісажы **амбасадар** Францыі ў Беларусі спадар Жаліф гаварыў, што Марк Шагал належыць усяму чалавецтву* (ЛіМ. 11.07.1997); *Канферэнцыя прайшла на добрым навуковым узроўні. Прысутнічалі прадстаўнікі беларускай **амбасады** ў Польшчы ды консульства ў Беластоку, аднак слова не бралі* (ЛіМ. 7.08.1998).

Словы *пасол* і *пасольства* вядомы ў мове яшчэ з часоў існавання Вялікага Княства Літоўскага (*поселъ, поселский, посельский, поселство, посэлство*) [22]. Да іх прымыкае аднакаранёвае ўтварэнне *пословщизна* – падатак на ўтрыманне паслоў [23]. Словы ж *амбасада* і *амбасадар* з’яўляюцца пазнейшымі запазычаннямі ў мове. Аўтары «Слоўніка новых слоў беларускай мовы» [24] падаюць іх як запазычанні з польскай мовы (ambasada, ambasador), у якую яны трапілі з французскай (ambassade, ambassadeur) або англійскай (embassy, ambassador). Аднак навізна гэтых слоў адносная. З сярэдзіны XIX ст. слова *амбасадар* пранікае ў літаратурную мову праз мастацкія тэксты пісьменнікаў таго перыяду: *У італьянскай бацькаўшчыне слыў гэты магнацкі род і прыбыў у Польшчу як **амбасадар** неапалітанскі, за Яна III* [25]. Бытаванне ў мове назіраецца да 20-х гадоў XX ст., калі адзінкавыя выпадкі ўжывання слова *амбасадар* фіксуе толькі «Слоўнік мовы «Нашай Нівы»: *Нямецкі **амбасадор (пасол)** патрабаваў ад французскаго ураду звароту пашпартоў* <...> [26]. З 1930-х гадоў на першы план пачынае выходзіць слова *пасол*: пасол – 1) посланник, посол; 2) депутат (сойму) (БРС. С. 225).

У сучаснай беларускай мове словы *пасол* і *амбасадар*, *пасольства* і *амбасада* ўтвараюць дублетныя пары, прычым могуць выкарыстоўвацца побач у адным кантэксце: *Цікава, што «За Belarus» выказаўся і **амбасадар** Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан, а вось **пасольства** Беларусі ў Швецыі яе праігнаравала* (Наша Ніва. 1.09.2010). Лексічнае значэнне слова *пасольства* празрыстае: у беларускай мове слова ўтворана ад асновы слова *пасол* пры

дапамозе суфікса -ств-, які надае значэнне супольнасці, аб'яднанасці, далучанасці (параўн. *консульства*, *міністэрства*, *прадстаўніцтва*).

Не менш значнай праявай палітычнага жыцця дзяржавы выступае права кожнага грамадзяніна ажыццяўляць сваю ўладу непасрэдна і праз прадстаўнічыя органы шляхам выбрання сваіх прадстаўнікоў. Выбранне шляхам галасавання дэпутатаў у прадстаўнічы орган дзяржавы, службовых асоб, членаў арганізацый носіць назву *выбары*, а той, хто мае права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў, адпаведна – *выбаршчыкі*. Слова *выбаршчык* мае празрыстую этымалогію 'той, хто прымае ўдзел у выбарах, хто мае права выбару і ажыццяўляе гэтае права'. Пры вызначэнні этымалогіі лексемы даследчыкі ўказваюць, што слова *выбар* паходзіць, хутчэй за ўсё, з рускага *выборы* (ЭСБМ. Т. 2. С. 244), а *выбаршчык* – паўкалька ад рускага *избиратель* (ЭСБМ. Т. 2. С. 245). Суфікс -шчык- з'яўляецца прадуктыўным у рускай мове, але слова *выбаршчык* утворана ад агульнаславянскага назоўніка *выбар* (бязафікснае ўтварэнне ад дзеяслова *выбіраць*, *выбраць*), які быў зафіксаваны ў старабеларускай мове. У «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» засведчаны шэраг лексем з семай «выбар»: *выборъ* (выбар), *по выбору* (згодна з выбарам), *выбранецъ* (выбраннік), *выбранье, выбраный* (абраны на пасаду): *Дано листъ до бояръ думныхъ* <...> *штобы съ городовъ своихъ по* ***выбору*** *служили* (ГСБМ. Т. 5. С. 102). У сучаснай беларускай мове аснова *выбар* прадстаўлена ў такіх словах як *выбарнасць* – 'замяшчэнне пасад шляхам выбараў' (выбарнасць органаў кіравання і кантролю); *выбарны* – 'які замяшчаецца шляхам выбараў'; *выбарчы* – 'які мае адносіны да выбараў службовых асоб галасаваннем' (ТСБМ. Т. 1. С. 517). Але ў апошні час на старонках кніг і ў эфіры недзяржаўных СМІ сустракаецца адроджанае лацінскае слова *электарат* – даўняе запазычанне з лацінскай мовы (elector) праз польскую (elektor) [27]. Сведчаннем таго, што слова актыўна выкарыстоўвалася ў маўленчай практыцы перыяду старабеларускай мовы, з'яўляецца вялікая колькасць аднакаранёвых да яго адзінак і іх форм: *електоръ* (выбаршчык), *електъ*, *алектъ*, *олектъ* (выбраны), *елекция*, *алекция*, *елекцея*, *елекцыя*, *элекцыя* (выбар на якую-небудзь пасаду), *елекцыйный* [28]. Словаўтваральныя магчымасці асноў выбар- і elect- падобныя. Словы *выбаршчыкі* і *электарат* семантычна тоесныя, калі ўжываюцца са значэннем 'кола выбаршчыкаў, якое галасуе за якую-небудзь асобу ці палітычную партыю на парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбарах': *Босі не можа не ўлічваць інтарэсаў уласнага* ***электарата****, катэгарычна настроенага супраць мігрантаў* [29]. Аднак у сучаснай беларускай мове слова *электарат* набыло значэнне 'народ, насельніцтва', часта з неадабральным адценнем: *І там прызвычаіцца, змарнець* <...> *Зрабіцца часткай натоўпу, грамадзтва,* ***электарату*** *– такім, як усе* (В. Быкаў. Доўгая дарога дадому). У такім выпадку лексемы *выбаршчыкі* і *электарат* з'яўляюцца стылістычнымі сінонімамі.

Сярод актуалізаваных лексічных адзінак выдзяляецца тэматычная група найменняў са сферы харчавання: *гарбата, кава, цытрына*. Варыянтныя

адзінкі *гарбата* і *чай* называюць духмяны напітак, атрыманы з чайнага ліста, а іх адначасовае суіснаванне ў мове – вынік лексічных уплываў з Захаду і Усходу.

Слова *гарбата* са значэннем 'чай' з'яўляецца заходнеўкраінскім дыялектным запазычаннем, якое спачатку прыйшло ва ўкраінскую мову з польскай *herbata* (дыялектнае harbata), у якую ў XVIII ст. назва разам з прадуктам трапіла праз галандскую мову (herba thee) (ЭСБМ. Т. 3. С. 56). Калі звярнуцца да этымалогіі слова, то ў першай яго частцы закладзена лацінская назва расліны наогул (herba): *гербарый* – калекцыя засушаных раслін [30]. У другой частцы слова *гарбата* адны даследчыкі бачаць паўднёва-кітайскую назву чаю tē, другія – лацінізаваную форму назвы чаю *thea* (ЭСБМ. Т. 3. С. 56). Такая форма існуе даўно, ад яе, відаць, і паходзяць назвы чаю ў еўрапейскіх мовах: herba thee (галандская), erba tē (італьянская), tea (англійская).

Слова *чай* прыйшло з рускай мовы, у якую трапіла з кітайскай (ch´a-ye 'чайныя лісты') пры пасрэдніцтве турэцкай, кіргізскай і мангольскай моў. Прыкметы гэтай расліны (вечназялёная, з сямейства чайных, з яе лісця гатуюць духмяны напітак) закладзены ў значэнні слова *чай* 'вечназялёная расліна, дрэва або куст, сямейства чайных, з лісця якой атрымліваюць духмяны напітак' (ТСБМ. Т. 5. С. 287). Слова мнагазначнае: яно называе 'высушаныя і асобым спосабам апрацаваныя лісты вечназялёнага чайнага дрэва, на якіх настойваюць духмяны напітак', а таксама сам 'гарачы напітак, настоены на лісці гэтай расліны', і больш знаёмае ў апошнім значэнні. З'яўляючыся мнагазначным, слова *чай* да таго ж служыць асновай для ўтварэння іншых: *чайная* – грамадская сталовая, дзе наведвальнікі могуць выпіць чаю і паесці; *чайнік* – пасудзіна з носікам і ручкай, у якой заварваюць чай або гатуюць ваду; *чайніца* – пасудзіна для захоўвання чаю; *чайны* – які мае адносіны да чаю (*ліст, ружа, грыб*). Слова ж *гарбата* не валодае такімі семантычнымі і словаўтваральнымі магчымасцямі. Лексічны аб'ём слова *чай* большы за лексічны аб'ём слова *гарбата*: *чай* – расліна, лісты чайнага дрэва, напітак; *гарбата* – толькі лісты і духмяны напітак, і менавіта ў апошнім значэнні адзінкі выступаюць як варыянтныя.

Выпадкі ўжывання слова *гарбата* фіксуюць слоўнікі 1920-х гадоў («Беларуска-расейскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча, «Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік» М. Гарэцкага, «Падручны Расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік» В. Ластоўскага) і дыялектныя слоўнікі («Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча, «Віцебскі краёвы слоўнік» М. І. Каспяровіча, «Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі»): *Апошняя страва заўсёды была малочная, бо чаю, як тады казалі –* ***гарбаты****, мужыкі не пілі* (СГЦР. С. 88). Аднак у слоўніку В. Ластоўскага знаходзіць адлюстраванне і слова *чай*, якое з 1920–1930-х гадоў амаль выцясняе з ужытку ранейшае слова *гарбата* ў пасіўны лексічны запас. Якуб Колас адлюстраваў сітуацыю суіснавання слоў *гарбата і чай* у трылогіі «На ростанях»: *Я хутка пастараюся* ***чаю****, ці* ***гарбаты****. Як лепей назваць па-беларуску:* ***чай ці гарбата****? –*

*Як ні назавеш, – усё будзе добра, абы смачна, – адказаў жартам Лабановіч* [31]. У цяперашні час слова *гарбата* вярнулася да ўжытку, і выбар лексічнай адзінкі, як і стагоддзе таму назад, застаецца за носьбітам мовы.

Падобную гісторыю бытавання ў мове мае найменне яшчэ аднаго напітку – *кофе* ці *кавы.* Слова *кава*, як і *гарбата*, прыйшло з украінскай мовы (кава) праз польскую (kawa), у якой адзначана ў другой палове XVII ст. У польскую мову яно запазычана з арабскай kahwa 'кава' пры пасрэдніцтве турэцкага kahve, што паходзіць ад паўднёва-абісінскай геаграфічнай назвы Kaffa, дзе расце дрэва (ЭСБМ. Т. 4. С. 15).

Даследчыкі лічаць, што шлях слова *кофе* ў беларускую мову з арабскай наступны: галандскае Koffee – англійскае coffee – рускае кофе (ЭСБМ. Т. 5. С. 106). Размова ідзе пра адзін і той жа напітак, які разам з назвай быў запазычаны з арабскіх краін, а розныя назвы ўзніклі па прычыне рознага шляху іх з'яўлення ў мове і пад уздзеяннем законаў унутранага развіцця атрымалі некалькі рознае графічнае афармленне. У польскай мове слова *кава* змяніла сваё графічнае аблічча ад Kaffa (kafa) праз kahve да kawa, для беларускага вымаўлення таксама характэрны пераход гукаў [ф]→[хв]→[в], таму графічнае афармленне слова *кава* адпавядае фанетычнаму строю беларускай мовы. Але, акрамя гэтага, варта супаставіць лексічны аб'ём паняццяў *кофе* і *кава.* «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» падае лексемы *кофе* і *кава* як абсалютна раўназначныя: *кава* – 'тое, што і кофе' (чорная кава – чорны кофе) (ТСБМ. Т. 2. С. 570). Аднак супадзенне лексічнага аб'ёму назіраецца ў 2-м і 3-м значэннях слова кофе, г. зн., што аб'ёмы паняццяў не супадаюць цалкам. Сапраўды, ужываючы лексему *кава*, носьбіт мовы мае на ўвазе толькі 'насенне гэтага дрэва' і 'парашок з размолатага насення гэтага дрэва, а таксама займеннік такога парашку' ці, хутчэй за ўсё, 'напітак, прыгатаваны з такога парашку'. Між тым, як і чай, *кофе* мае раслiннае паходжанне, што і закладзена ў значэнні слова 'трапічнае дрэва або куст сямейства марэнавых, з насення якіх гатуюць асобы напітак; кафейнае дрэва' (ТСБМ. Т. 2. С. 718). Такі шлях развіцця значэння слова паказаны і ў «Этымалагічным слоўніку беларускай мовы»: *кофе* 'трапічнае дрэва або куст сямейства марэнавых' → 'насенне гэтага дрэва' → 'напітак, прыгатаваны з гэтага насення' (ЭСБМ. Т. 5. С. 106).

У сучаснай беларускай мове з асновай *кофе* вядомы такія лексічныя адзінкі: *кафейнік* 'пасудзіна для варкі або падачы кофе'; *кафейніца* 'банка або каробка для захоўвання кофе' ці 'ручны млынок для размолвання кафейнага зерня'; *кафейны* 'які мае адносіны да кофе' (плантацыя), 'прызначаны для кофе' (сервіз), 'прыгатаваны з кофе' (марожанае); 'колеру кофе, цёмна-карычневы'; *кафейная (кафейня, кафэ).* Ад слова *кава* ўтвораны прыметнік *кававы* (дрэва) і назоўнік *кавярня* (кафэ, чайная), якія прыводзіцца ў ТСБМ з паметай устарэласці. Нельга сказаць, што слова *кавярня* ўтворана па непрадуктыўнай мадэлі (параўн. *друкарня*, *кнігарня*), але яно было запазычана з польскай мовы (kawiarnia) і не атрымала шырокага пашырэння. ТСБМ

падае слова *кавярня* (утваранае ад *кава*) як устарэлае, а само слова *кава* не мае такой паметы. Паколькі слова *кава* зноў актыўна функцыянуе ў мове, ёсць падставы вывесці з пасіўнага фонду і назоўнік *кавярня*.

Да актуалізаваных лексічных адзінак адносіцца і слова *цытрына*, якое на працягу апошняга дзесяцігоддзя пачало ўжывацца побач з вядомым словам *лімон*: *Госць кульнуў дзеля смеласці фужэр каньяку, кінуў у рот скрылёк* ***цытрыны*** *й таксама падаўся на кухню* (В. Мудроў. Кава апоўначы. Новы час. 31.08.2009); *Рыгор наліў у тры келіхі. Узяў* ***цытрыну*** *і парэзаў на лусткі. Маланння дастала зярняткі з* ***цытрыны*** *і загарнула ў паперу* (А. Брытун. Пах мускусу. Полымя. 2010. № 1. С. 35). Паводле думкі даследчыкаў, слова *лімон* запазычана з рускай мовы, аднак яно было вядома яшчэ ў старабеларускай мове з 1679 г.: *лимонъ, лимония, лимоня, лимона, купили ... оливокъ и лимонь пару осм, купили... приправы до тыхъ рыбъ, две лимони, дали осм* (ГСБМ. Т. 17. С. 39). Слова мела форму і мужчынскага, і жаночага роду, якія абазначалі расліну Cytrus limon і яе светла-жоўтыя плады (ЭСБМ. Т. 5. С. 311).

Шлях утварэння слова *цытрына* вынікае са значэння слова *лімон* 'паўднёвае вечназялёнае пладовае цытрусавае дрэва сямейства рутавых; авальны плод гэтага дрэва з тоўстай жоўтай скуркай, кіслы на смак' (ТСБМ. Т. 3. С. 45). Цэнтральным у дадзеным вызначэнні стала слова цытрусавае, ад якога і ўтворана лексічная адзінка *цытрына*. Лацінскі корань citrium (лімонны) служыць агульнай семай у шэрагу слоў сучаснай беларускай мовы: *цытрус* – 'дрэва ці куст сямейства рутавых (апельсіны, лімоны, мандарыны і пад.), плод гэтага дрэва'; *цытрусавод*, *цытрусаводства*, *цытрусаводчы*, *цытрусавы*, *цытрусавыя* – 'вечназялёныя субтрапічныя і трапічныя пладовыя расліны, да якіх адносяцца лімоны, мандарыны, апельсіны і пад.'; *цытрон* – 'вечназялёная субтрапічная цытрусавая расліна сямейства рутавых з буйнымі жоўтага ці аранжавага колеру пладамі, падобнымі на лімоны; плод гэтай расліны; сорт цукерак з памадкаю'; *цытрын* – 'мінерал, разнавіднасць горнага хрусталю жоўтага колеру' (ТСБМ. Т. 5. С. 263).

У слоўніку М. Байкова і С. Некрашэвіча зафіксавана форма мужчынскага роду слова *цытрына* – *цытрон* (БРС. С. 340), у слоўніку В. Ластоўскага (РБС. С. 305) і дыялектных слоўніках паўночна-заходніх рэгіёнаў – форма жаночага роду *цытрына*: *Купі мне* ***цытрыны*** (Касп. С. 338). Форма мужчынскага роду *цытрон* уступае ў аманімічныя адносіны з самастойным словам, а форма *цытрына* – з формай Р. скл. адз. л. слова *цытрын* (мінерал). Частка назвы *цытрус* указвае на прыналежнасць расліны да цытрусавых, таму слова *цытрына* павінна было б пашырыць сваю семантыку і ўжывацца ў адносінах да любога плода раслін гэтага роду (апельсіна, мандарына, грэйпфрута).

Канец XX ст. для беларускай мовы стаў часам перагляду норм літаратурнай мовы, што ўрэшце прывяло да істотнага іх расхіствання. Пры гэтым нарматыўныя ацэнкі адных і тых жа моўных з'яў абумоўлены не толькі лінгвістычнымі прычынамі, але і моўнымі густамі саміх носьбітаў беларускай

мовы [32]. Пад уздзеяннем тэндэнцыі да актуалізацыі нацыянальных моўных асаблівасцей у сучаснай перыёдыцы выкарыстоўваюцца лексемы *асадка, атрамант, канікулы, мапа, амбасада* і *амбасадар, электарат, гарбата, кава,* якія вярнуліся з пасіўнага фонду мовы да актыўнага функцыянавання. У выніку дэархаізацыі лексікі з'явілася значная колькасць варыянтаў слоў. Некаторыя факты абнаўлення мовы з'яўляюцца залішнімі, таму для лексіколагаў першачарговая задача – выяўленне і вывучэнне асноўных тэндэнцый развіцця, фіксацыя і тлумачэнне наяўных у мове лексічных варыянтаў, каб можна было вызначыць перспектывы адносна існавання таго або іншага слова ў сучаснай беларускай мове: адны з іх пакінуць у пасіўным фондзе мовы (*асадка, атрамант, вакацыі*), другія выкарыстоўваць не як абсалютныя лексічныя дублеты, а толькі як стылістычныя сінонімы (*чай – гарбата, кофе – кава*).

На першы погляд здаецца, што такая варыянтнасць – з'ява непажаданая ў мове: яна стварае пэўную перанасычанасць моўнымі элементамі, супярэчыць неабходнай (з пункту гледжання кантактавання, зносін) уніфікацыі моўнай сістэмы, размывае яе межы і пагражае цэласнасці, дэстабілізуе моўную норму. На самай жа справе варыянты слова – гэта параджэнне аб'ектыўных законаў развіцця моўнай сістэмы, выяўленне дынамічнасці гэтай сістэмы, своеасаблівая форма яе эвалюцыі. Варыянтнасць і сінанімія – тыя сферы, дзе накопліваецца важнейшы лексічны патэнцыял, дзе працякаюць самыя розныя (у тым ліку і супярэчлівыя) працэсы, звязаныя з фарміраваннем сучаснай беларускай мовы. Ужо ў самой з'яве вар'іравання закладзены магчымасці змянення і развіцця. Менавіта варыянты слова і сінонімы ствараюць магутны рэзерв, які забяспечвае мове функцыянальную разнастайнасць, спрыяльныя ўмовы для рэалізацыі ўсіх яе матэрыяльных рэсурсаў і вобразнага патэнцыялу.

Змены ў слоўнікавым складзе мовы непасрэдна звязаны са зменамі ў жыцці грамадства. Значныя гістарычныя і сацыяльныя пераўтварэнні апошніх дзесяцігоддзяў паўплывалі на лексічныя працэсы ў беларускай мове. Найбольш адчувальнымі і важнымі ў беларускай мове гэтага перыяду з'яўляюцца працэсы папаўнення лексікі новымі словамі (наватворамі і запазычаннямі), узнікнення новых значэнняў слоў (семантычныя неалагізмы), а таксама вяртанне слоў з пасіўнага запасу.

## Спіс скарачэнняў

**БМС** – Гарэцкі М. Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік / рэд. Я. Станкеўчыка. – 2-е выд. стэр. – Вільня, 1921. – 264 с.

**БРС** – Байкоў М., Некрашэвіч С. Беларуска-расейскі слоўнік. – Менск, 1926. – 360 с.

**Бяльк** – Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. – Мінск, 1970. – 512 с.

**ГСБМ** – Гістарычны слоўнік беларускай мовы / склад. Т. І. Блізнюк, А. М. Булыка, П. В. Вярхоў [і інш.]; рэд. А. М. Булыка. – Мінск, 1982–2009. – Т. 1–29.

**Касп** – Каспяровіч М. І. Віцебскі краёвы слоўнік (матэрыялы) / пад рэд. М. Я. Байкова і Б. І. Эпімаха-Шыпілы. – Віцебск, 1927. – 371 с.

**РБС** – Ластоўскі В. Падручны Расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Выд. факсімільнага тыпу. – Коўна, 1924. – 832 с.

**СГПЗ** – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / уклад. Ю. Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене, Я. М. Рамановіч [і інш.]; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1979–1986. – Т. 1–5.

**СГЦР** – Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: у 2 т. / уклад. Е. С. Мяцельская [і інш.]; пад рэд. Е. С. Мяцельскай. – Мінск, 1990. – Т. 1.

**ТСБМ** – Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад агул. рэд. К. К. Атраховіча (Кандрата Крапівы). – Мінск, 1977–1983.

**ЭСБМ** – Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / А. Я. Міхневіч, Р. В. Краўчук, І. І. Лучыц-Федарэц [і інш.]; рэд. В. У. Мартынаў. – Мінск, 1978–2009. – Т. 1–12.

## Літаратура

1. Беларуская мова ў другой палове XX стагоддзя: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Мінск, 22–24 кастр. 1997 г. – Мінск, 1998. – С. 5.

2. Булыка, А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы / А. М. Булыка; рэд. А. І. Жураўскі. – Мінск, 1972. – С. 55, 109, 147, 254.

3. Булыка, А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы. – С. 55, 109, 147, 254.

4. Булыка, А. М. Слоўнік іншамоўных слоў: у 2 т. / А. М. Булыка. – Мінск, 1999. – Т. 1–2. – С. 620.

5. Дыялектны слоўнік Брэстчыны / склад. М. М. Аляхновіч [і інш.]. – Мінск, 1989. – С. 89.

6. Заняпад і адраджэнне: бел. літ. XIX ст. / уклад., прадм. і заўв. У. Казберука. – Мінск, 2001. – 606 с.

7. Іпатава, В. Альгердава дзіда. Вяшчун Гедзіміна / В. Іпатава. – Мінск, 2002. – 587 с.

8. Караткевіч, У. Каласы пад сярпом тваім: раман / У. Караткевіч; уступ. арт. Я. Гарадніцкага. – Мінск, 1981. – Кн. 1–2.

9. Колас, Я. На ростанях: трылогія / Я. Колас. – Мінск, 1996. – С. 268.

10. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. – Мінск, 1993–1997. – Т. 2. – С. 420.

11. Іпатава, В. Альгердава дзіда. Вяшчун Гедзіміна.

12. Колас, Я. На ростанях: Трылогія. – С. 284.

13. Прыгодзіч, М. Р. Старабеларускі лексікон: Падручны перакладны слоўнік / М. Р. Прыгодзіч, Г. К. Ціванова. – Мінск, 1997. – С. 92, 133.

14. Слоўнік мовы «Нашай Нівы» (1906–1915): у 5 т. / уклад. А. М. Анісім [і інш.]; пад рэд. В. П. Лемцюговай. – Мінск, 2003. – Т. 1: А–Д. – С. 129.

15. Стишов, О. А. Українська лексика кінця XX століття (на матеріалі мови засобів масової інформації) / О. А. Стишов; Київський нац. лінгв. ун-т. – Київ, 2005. – С. 91.

16. Струкава, С. М. Слоўнік архаізмаў і гістарызмаў (па творах беларускай мастацкай літаратуры і публіцыстыкі) / С. М. Струкава. – Мінск, 2007. – С. 49.

17. Сучасны стан і дынаміка норм беларускай літаратурнай мовы: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Мінск, 24–25 кастр. 2006 г. / Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. – Мінск, 2006. – С. 4, 120.

18. Колас, Я. На ростанях: трылогія. – С. 372.

19. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. – Т. 2. – С. 356.

20. Сцяцко, П. Культура мовы / П. Сцяцко. – Мінск, 2002. – С. 223.

21. Тарасаў, К. Тры жыцці княгіні Рагнеды. Пагоня на грунвальд / К. Тарасаў. – Мінск, 1997. – 342 с.

22. Іпатава, В. Альгердава дзіда. Вяшчун Гедзіміна.

23. Сучасны стан і дынаміка норм беларускай літаратурнай мовы: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Мінск, 24–25 кастр. 2006 г.

24. Слоўнік мовы «Нашай Нівы» (1906–1915): у 5 т. – Т. 1.

25. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. М. Р. Судніка, М. Н. Крыўко. – 4-е выд. – Мінск, 2005. – С. 521.

26. Уласевіч, В. І. Слоўнік новых слоў беларускай мовы / В. І. Уласевіч, Н. М. Даўгулевіч. – Мінск, 2009. – С. 36, 422.

27. Іпатава, В. Альгердава дзіда. Вяшчун Гедзіміна.

28. Іпатава, В. Альгердава дзіда. Вяшчун Гедзіміна.

29. Слоўнік мовы «Нашай Нівы» (1906–1915): у 5 т. – Т. 1.

30. Фасмер, Р. Этимологический словарь русского языка / под ред., предисл. Б. А. Ларина. – М., 1971. – Т. III: Муза – Сят. – С. 386.

31. Шкраба, І. Р. Варыянтнасць у сучаснай беларускай мове / І. Р. Шкраба. – Мінск, 2004. – С. 41.

32. Беларуская мова ў другой палове XX стагоддзя: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Мінск, 22–24 кастр. 1997 г.

## Summary

The attention is concentrated on the return the archaic vocabulary as one of the source of variant pairs in the lexical-semantic system and as a source of replenishment and renovation of vocabulary in the Contemporary Belarusian Language. The aim of the article is to analysis of variant pairs of lexical units and to give advice for standardization of the Contemporary Belarusian Language.

*Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа*
*і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*15.10.2010 г.*

*УДК 811.161.3’367.625 + 811.162.1’367.625*

*І. В. ГЛІННІК*

# ДА ПРАБЛЕМЫ СЕМАНТЫКА-СІНТАКСІЧНАГА АПІСАННЯ ДЗЕЯСЛОВА *быць* / *być* У БЕЛАРУСКАЙ І ПОЛЬСКАЙ МОВАХ

У сваёй манаграфіі «Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы» А. Я. Міхневіч сфармуліраваў асноўную задачу семантыка-сінтаксічнага апісання мовы як «высвятленне семантычных уласцівасцей слова, якімі вызначаецца наяўнасць у мове тыповых спалучальнасных утварэнняў – сінтаксічных канструкцый» [1]. Вядома, што праз супастаўленне сінтаксічных мадэлей (схем) і працэсаў мы можам пазнаць спецыфіку моўнага мыслення прадстаўнікоў кожнай моўнай супольнасці, бо, як вядома, «моўнае мысленне <...> з’яўляецца часткай культуры» [2], а семантыка сказа – гэта перш за ўсё «праблема сувязі моўнай структуры і пазамоўнага зместу, які яна выражае» [3].

Семантыка і сінтаксіс не з’яўляюцца незалежнымі «паверхамі» моўнай структуры, яны пераплецены паміж сабой, і таму аналіз можа адбывацца толькі адначасова [4], а спецыфіка дзеяслоўнай семантыкі і дзеяслоўнага сінтаксісу выяўляецца ў тым, што яна паддаецца апісанню толькі пры комплексным падыходзе, калі ўлічваюцца і зместавы, і фармальны, і функцыянальны аспекты адначасова [5].

Агульнавядома, што ў беларускай і польскай мовах дзеяслоў *быць / być* і яго формы вельмі шырока ўжываюцца. У «Частотным слоўніку беларускай мовы. Мастацкая проза» ўказваецца, што частата ўжыванняў дзеяслова *быць* складае 4255 адзінак у 290 прааналізаваных фрагментах [6]. У «Частотным слоўніку беларускай мовы. Паэзія» дзеяслоў *быць* адлюстраваны ў 300 фрагментах, яго колькасць 2165 адзінак [7]. У польскай мове па частаце ўжывання дзеяслоў *быць* (з паказчыкам 9621) знаходзіцца на 3-м месцы (пасля *po* і *w*) [8]. Увогуле выкарыстанне дзеяслова *быць* у польскай мове «вельмі пашырана ў паўсядзённым маўленні» [9].

У навуковай літаратуры няма адназначнага адказу на пытанне, колькі існуе функцый (значэнняў) дзеяслова *быць*. У залежнасці ад мэт даследавання кожны навуковец прапануе сваю класіфікацыю. Так, выдзяляюцца наступныя значэнні дзеяслова *быць*:

экзістэнцыяльнае [10; 11]: ‘існаваць’: *Ёсць яшчэ добрыя людзі на свеце!*; ‘мець месца, адбывацца’: *Быў <будзе> дождж*; ‘мець месца, наступаць’: *Было пяць гадзін* [12];

лакатыўнае [13]: ‘знаходзіцца’: *Дзеці былі на моры*; прыбываць куды-небудзь’: *Яго сёння не будзе* [14];

пасесіўнае [15; 16]: ‘мець’ выражаецца пры дапамозе «быць у»: *У яго была багатая бібліятэка*; ‘мець узрост’: *Яму было дваццаць год* [17];

звязачнае [18–20]: ‘з’яўляцца’: *Мой бацька быў архітэктарам*; ‘быць тоесным’: *Гэта быў Іван* [21];

мадальна-экзістэнцыяльнае: упэўненасць у непазбежнасці падзей’: *Быць навальніцы*; ‘упэўненасць у непазбежнасці кепскага’; ‘трэба спыніць уздзеянне’: *Будзе з цябе* [22];

мадальнае: *Я павінен прачытаць гэту кнігу* [23];

дапаможнае: у саставе аналітычнага будучага: *Не буду вам перашкаджаць*; у саставе аналітычнага пасіва: *Праект быў завершаны* [24].

**Аўтасемантычныя значэнні дзеяслова *быць* у беларускай і польскай мовах.** У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» выдзяляюцца наступныя значэнні дзеяслова *быць*: 1. Жыць, існаваць, быць у наяўнасці: *Вось так жыў-быў ды сплыў чалавек.* // Мець месца; бытаваць: – *Ужо і следу не засталося ад таго, што было... Нібы і не было нічога!* [25]. 2. Утрымлівацца на працягу нейкага часу: *Ведама, на сёння быў іншы пропуск**. 3. Прысутнічаць, знаходзіцца: *Адчувалі сябе больш дальнабачнымі, чым усе, хто быў у батальёне.* 4. Рабіцца, здарацца: *Недзе на паверхні зноў забухалі выбухі, але гэта было далей, чым папярэдні раз.* // Узнікаць, з’яўляцца на свет. 5. Прыходзіць, прыязджаць, прыбываць куды-небудзь, наведваць каго-небудзь: *[Зося:] – Бывай здарова, Галенка. Будзь у нас улетку* [26]. 6. 3-я асоба адз. л. *будзе* ўжываецца ў значэнні цяперашняга часу: *ёсць*, *маецца* (пры ўмоўным азначэнні колькасці): *Калі былі на сярэдзіне ракі, я думала, што гэта нейкі малады хлапец плыве, а цяпер бачу, што вам, мабыць, гадоў сорак будзе!*

У слоўніках польскай мовы прыводзіцца значна больш значэнняў дзеяслова *быць* / *być* (у параўнанні з беларускім слоўнікам): 1. Дынамічнае – ‘расці, станавіцца, рабіцца’ – значэнне этымалагічна першаснае (*Zanim góry były*) [27]. 2. Экзістэнцыяльнае – ‘мець быт, існаваць, жыць’: а) вітальнае – ‘жыць’, ‘весці які-небудзь лад жыцця’ (*Był pewien rybak ubogi...*) [28; 29]; б) абстрактнае – ‘існаваць, выступаць, быць (знаходзіцца) ва ўладзе’ (*Te chaty były i były. Cicho, jakby go nie było*) [30; 31]. 3. Лакатыўнае – ‘прысутнічаць, знаходзіцца, бываць, жыць, фігураваць, знаходзіцца ў спісе, выступаць’ (*Jesteście jeszcze w domu*) [32–34]. 4. Тэмпаральнае: а) дуратыўнае – ‘працягвацца, доўжыцца, трымацца пэўны перыяд часу’ (*Była mowa u stołu o wychowaniu córek. Przez kilka dni będę w domu*) [35]; б) эвэнтыстычнае – ‘мець месца, здарацца, адбывацца, наступіць / наступаць; падзея, здарэнне ў часе’ (*Telefon był do was*) [36–38]. 5. Партыцыпацыйнае – ‘браць у чым-небудзь удзел, удзельнічаць’ (*Nasz dziadek był na pierwszej wojnie światowej w 1914 r.*) [39–41]. 6. Рэляцыйнае – ‘знаходзіцца ў пэўных адносінах, сувязях

* Прыклады тут і далей прыводзяцца па: Быкаў, В. Збор твораў: у 4 т. / В. Быкаў. – Мінск, 1981. – Т. 2.

з іншымі людзьмі, аб’ектамі і г. д.’: а) асацыятыўнае – ‘суправаджаць каго-небудзь’ (*Dziecko było z ojcem w leśniczówce*) [42]; б) пасесіўнае – ‘належаць каму-небудзь’, ‘быць чыім’, ‘што-небудзь ёсць для каго-небудзь’ (*Ona nigdy nie może być jego*) [43; 44]; в) генетычнае ‘паходзіць адкуль-небудзь, быць адкуль, з чаго’ (*Był rodem z Litwy*) [45; 46]. 7. Канстытутыўнае – ‘утвараць, складаць, ствараць; падпадаць пад, лічыцца кім’ (*Te góry to są Sudety. Być za parabka*) [47]. 8. Аптымальнае – ‘у вялікай колькасці; хопіць’ (*W tym sadzie jabłka to są, ale gruszek jest za mało*) [48]. 9. Семантычнае – ‘значыць, гэта значыць’ (*Od kilku lat, to jest od czasu, kiedy*) [49].

Пад уплывам класічнай фармальнай логікі ў граматыцы звычайна выдзяляюць два розныя значэнні дзеяслова *быць*. Яго разглядаюць або ў якасці звязкі ў іменных суб’ектна-прэдыкатных сказах, або ў якасці прэдыката існавання ў сказах тыпу «Х ёсць» («Х існуе») [50].

Аналіз розных падыходаў да разгляду дзеяслова *быць* дае падставы сцвярджаць, што дзеяслоў *быць* мае лексічнае (экзістэнцыяльнае, пасесіўнае, лакатыўнае, мадальна-экзістэнцыяльнае) і граматычнае (звязачнае, дапаможнае) значэнні.

Звязачная функцыя «ў чыстым выглядзе» ўласціва толькі слову *быць*. В. В. Вінаградаў пісаў: «Звязка *быць* не дзеяслоў, хаця і мае дзеяслоўныя формы. Ёй не ўласціва значэнне дзеяння. <...> Усе астатнія звязкі ўяўляюць сабой змешаны тып слоў, спалучаючы функцыі дзеяслова і звязкі» [51].

У залежнасці ад таго, як разглядаць дзеяслоў-звязку *быць*: як элемент глыбіннай ці паверхневай структуры, магчымы дзве трактоўкі. Згодна з першай, больш пашыранай, звязка *быць* з’яўляецца глыбінным элементам, у форме цяперашняга часу замяняецца эліпсісам (г. зн. нулём). Згодна з другой, гэты дзеяслоў належыць да паверхневай структуры і ўводзіцца ў сказ як фармальны службовы элемент – носьбіт марфем прошлага і будучага часу [52].

Адрозніць сказы, у якіх дзеяслоў *быць* ужываецца як паўназначны, ад сказаў, у якіх дзеяслоў *быць* выступае ў якасці звязкі, можна трансфармацыйным метадам. Па сваёй сутнасці «трансфармацыйны аналіз з’яўляецца метадам даследавання значэнняў праз формы» [53]. Так, калі сказ *Настаўнік быў заўсёды прыкладам для нас* падвергнуць паслоўнай рэдукцыі, то ў выніку ядром фармальна-граматычнай схемы акажацца фраза *настаўнік быў*, але гэта ядро не супадае з ядром семантыка-сінтаксічнай мадэлі, паколькі фраза згубіла «агульны сэнс», пачала суадносіцца з іншай з’явай рэальнасці і перадаваць новае суджэнне [54]. У дадзеным выпадку гэта толькі звязка – уласна граматычны элемент, толькі частка выказніка. Мы не можам замяніць дзеяслоў *быць* сінонімам *існаваць*, бо ў дадзеным выпадку гэта не сінонімы, а падстаноўка дзеяслова *існаваць* цалкам зменіць структуру сказа.

Асобна трэба разгледзець суадносіны такіх сказаў як *Ёсць зіма* (*– А зіма ў вас там ёсць? – Ёсць зіма, а як жа*) і *Зіма – Была зіма*. У дадзеным выпадку няма ніякіх падстаў для таго, каб пры рэальных двухчленных суадносінах *Ёсць зіма – Зіма* не прызнаваць унутраную двухзначнасць комплекса

*Была зіма*, г. зн. «яго здольнасць прадстаўляць формы прошлага часу гэтых двух сказаў і, адпаведна, «заложенность» у гэтым комплексе рознай лексіка-граматычнай характарыстыкі дзеяслова *быць*» [55].

Неабходна звярнуць увагу на такія канструкцыі з дзеясловам *быць* у польскай мове, бо, як вядома, польская мова ў адрозненне ад беларускай, дзе дзеяслоў *быць* страціў формы 1-й і 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку, захавала гэтыя формы, а таксама форму 3-й асобы множнага ліку дзеяслова *быць / być*: *Chory Jurek jest w domu* і *Jurek jest chory. To jest duża szkoła* і *Ta szkoła jest duża. To jest biały dom* і *Ten dom jest biały.* У сказах першай групы прыметнікі выконваюць функцыю азначэння, разам з назоўнікам утвараюць іменную групу, а ў сказах другой групы разам са звязкай *быць* утвараюць іменны выказнік. У беларускай мове ў такіх сказах дзеяслоў *быць* апускаецца (*Юрэк хворы; Вялікая школа* і г. д.).

Гаворачы пра дзеяслоў *быць* у ролі звязкі, трэба адзначыць, што паміж гэтым дзеясловам (звязкай) і іменнай часткай узнікаюць адносіны акамадацыі (акамадацыя ў дадзеным выпадку разумеецца як «граматычны ўплыў адной сінтаксічнай адзінкі на другую» [56]), бо дзеяслоў *быць* у такім выпадку ў польскай мове патрабуе ад прыметніка (ці назоўніка) формы назоўнага ці творнага склону: *Jan jest odważny / Jan jest bohaterem*. У выпадку, калі іменная частка выказніка выражана прыметнікам, яе род і лічба залежаць ад намінальнай назоўнікавай групы (*Maria jest odważna / Chłopcy są odważni / Dziewczynki są odważne*), а, калі іменная частка выражана назоўнікам агульнага роду, залежнасць ад намінальнай назоўнікавай групы менш заўважна: праяўляецца толькі выключна пры дапасаванні ў ліку (*Chłopiec jest bohaterem // Chłopcy są (byli) bohaterami*). Аднак гэта залежнасць не мае выключна граматычнага характару, яна матывавана семантычна; напрыклад, цалкам правільным будзе сказ з адсутнасцю дапасавання ў ліку пры зборных назоўніках (*Chłopcy są dobrym towarzystwem*) або ў тых выпадках, калі род і лік не маюць значэння (*Kredki są dobrym prezentem*) [57]. У беларускай мове ў такіх сказах дзеяслоў *быць* апускаецца, а іменная частка, як правіла, ужываецца ў форме назоўнага склону (*Хлопец – багатыр* і г. д.). Творны склон магчымы ў беларускамоўных канструкцыях толькі ў тым выпадку, калі ўказвае на часавую характарыстыку, даючы магчымасць меркаваць, што яна існавала ў мінулым. Так, сказ *Ён быў настаўнікам* выклікае думку, што зараз ён ужо не працуе настаўнікам. Назоўны склон са звязкай, якая ўказвае на мінулы або будучы час, тым самым паказвае абмежаванні ў часе: *Ён быў таленавіты выкладчык*. Як правіла, такія фразы даюць характарыстыку памерлых асоб, указваючы на прафесію або рысу характару як на пастаянную якасць гэтай асобы.

Такім чынам, звязка ўказвае на граматычныя катэгорыі прэдыкацыі: асобу, лік, час, лад, трыванне, стан.

**Сінсемантычныя значэнні дзеяслова *быць* у беларускай і польскай мовах (дзеяслоў *быць* у несамастойнай функцыі).** У беларускай мове ў функцыі дапаможнага дзеяслоў *быць* ужываецца:

1. У значэнні звязкі паміж дзейнікам і іменным выказнікам. 2. Для ўтварэння складаных формаў залежнага стану: *Зрэшты, масла і пячэнне цяпер былі заменены салам. Збольшага даклады былі скончаны*. 3. Для ўтварэння формы будучага часу абвеснага ладу з неазначальнай формай дзеяслова незакончанага трывання: – *Будзе ведаць, як за чужыя спіны хавацца!* 4. Для ўтварэння формы будучага складанага часу: *... Я буду цябе чакаць, і ты вернешся*. 5. У форме будучага часу ў значэнні звязкі цяперашняга часу: – *Хто вы будзеце? – спыталіся яе [кабету]*. 6. У саставе складанага прошлага часу: *[Мікуць] некалькі гадзін прасядзеў у канторы, куды пайшоў быў Костусь ад сталярскай работы* [58].

У польскай мове пры дапамозе дзеяслова *быць* утвараюцца: формы будучага складанага часу: *Atakować będziemy w wyznaczonym czasie*[*]. *Wołoszyn wiedział jednak, że nad ranem mimo wszystko zmorzy ich sen i będą drzemać*; запрошлы час: *Przeczytał już był o adwencie, o suchedniach...*; формы прошлага часу ўмоўнага ладу: – *Aha, byłbym zapomniał – rzekł Guńko całkiem już zmienionym tonem*; формы залежнага стану: *Markin nigdy właściwie go nie zawiódł, był zdyscyplinowany*; неасабовыя звароты: а) у спалучэнні з інфінітывам толькі ў прошлым часе: *Było zostać, nie jechać*; б) у спалучэнні з інфінітывам і словамі «trzeba, można» ў прошлым або будучым часе: *Czego można będzie od nich żądać? Але ў такім выпадку камдыву трэба было пераглядаць нейкія ранейшыя свае рашэнні*; як рухомы суфікс іншых выразаў у сказе: *Ani tyś mój brat, ani przyjaciel, nic nie mamy wspólnego.*

Такім чынам, у беларускай і польскай мовах дзеяслоў *быць* служыць для ўтварэння формаў будучага складанага часу і складанага прошлага часу, залежнага стану, а таксама ўжываецца ў функцыі звязкі паміж дзейнікам і іменным выказнікам. Асаблівасцю беларускай мовы з'яўляецца ўжыванне формаў будучага часу ў значэнні звязкі цяперашняга часу. Адметнасцю польскай мовы з'яўляецца наяўнасць формаў так званага запрошлага часу і ўжыванне дзеяслова *быць* як рухомага суфікса іншых выразаў у сказе.

**Сінтаксічная спалучальнасць дзеяслова *być / быць*.** I. *быць* / *być* у значэнні 'выступаць; прымаць удзел; прысутнічаць; знаходзіцца дзе-небудзь' ужываецца з наступнымі прыназоўнікамі [59]:

| Пытанне | Прыназоўнік | Склон | Прыклад |
|---|---|---|---|
| blisko kogo? / czego? // каля каго? чаго? | blisko<br>каля | G. // G. | Zawsze *będę blisko ciebie* // Заўсёды *буду каля* цябе<br>Od kilku dni *jestem blisko kresu* wytrzymalności |
| czym? //<br>чым? | – | I. // I./N. | Polska *jest interesującym rynkiem* zbytu dla Europy // Польшча з'яўляецца цікавым рынкам збыту ... / Польшча – цікавы рынак збыту для Еўропы |

[*] Прыклады тут і далей прыводзяцца па: Bykow, W. Jego batalion / W. Bykow; przełożył W. Kiwilszo. – Warszawa, 1985. – 198 s.

*Працяг табліцы*

| Пытанне | Прыназоўнік | Склон | Прыклад |
|---|---|---|---|
| dokąd?/do czego?<br>да чаго? | do<br>да | G. // G. | Chcę kupić buty, które *są do kolan* // Хачу купіць боты, якія да кален |
| gdzie? //<br>дзе? | na<br>на | L. // L. | Przez dwa tygodnie *będę na wakacjach* // Два тыдні *буду на* канікулах |
| gdzie? //<br>дзе? | w<br>у | L. // L. | Przez kilka dni *będę w delegacji* // Некалькі дзён *буду ў* складзе дэлегацыі |
| między czym? //<br>паміж чым? | między<br>паміж | I. // I. | Na skutek zmian w polityce *byliśmy między młotem i kowadłem* // ... мы *былі паміж* молатам і кавадлам |
| między kim? //<br>паміж кім? | między<br>паміж | I. // I. | Ciągle *jestem między przyjaciółmi* // Увесь час знаходжуся паміж сябрамі |
| naprzeciw czego? //<br>насупраць чаго? | naprzeciw<br>насупраць | G. // G. | *Będę naprzeciwko* tego wysokiego hotelu // *Буду насупраць...* |
| opodal czego? //<br>побач з чым? | opodal<br>побач з | G. // I. | *Będę opodal tego domu* // *Буду побач з* тым домам |
| podczas czego? //<br>калі? | podczas<br>падчас | G. // G. | *Jestem* tutaj tylko *podczas przerwy* // Я тут (знаходжуся) толькі падчас перапынка |
| pod czym? //<br>пад чым? | pod<br>пад | I. // I. | Klucze zawsze *są pod wycieraczką* // Ключы заўсёды пад дыванком |
| przy czym? //<br>каля чаго? | przy //<br>каля | L. // G. | Kwiaty *są przy oknie* // Кветкі *каля* акна |
| przy kim? //<br>каля каго?<br>побач з кім? | przy //<br><br>каля / побач | L. // L., I. | Od świtu *jestem* już *przy moim chorym ojcu* // ... знаходжуся *побач з* маім хворым бацькам / ... *каля* майго хворага бацькі |
| skąd? //<br>адкуль? | spod //<br>з-пад | G. // G. | On *jest spod Warszawy*, a teraz mieszka w Warszawie // Ён *з-пад* Варшавы... |
| u kogo? //<br>у каго? | u //<br>у | G. // G. | Nie mogę teraz rozmawiać przez telefon, bo *jestem u szefa* // ... знаходжуся *ў* шэфа |
| w czym? //<br>дзе? | w //<br>у | L. // L. | Pieniądze *są* zawsze *w szuwladzie* // Грошы заўсёды *ў* ... |
| wokół czego? //<br>вакол чаго? | wokół //<br>вакол | G. // G. | Tak wiele problemów *jest wokół tej trudnej sprawy* // Так многа праблем *вакол той складанай справы* |
| w środku czego? //<br>у цэнтры чаго? | w środku //<br>у цэнтры | G. // G. | Reporterzy *byli w środku wydarzeń* wojny w Afganistanie // Журналісты *былі ў цэнтры* падзей вайны ў Афганістане |
| wśród kogo? //<br>сярод каго? | wśród //<br>сярод | G. // G. | Lubię *być wśród swoich rodaków* // Люблю *быць сярод* сваіх родных |
| wzdłuż czego? //<br>уздоўж чаго? | wzdłuż //<br>уздоўж | G. // G. | Ta ulica *jest wzdłuż rzeki* // Тая вуліца *ўздоўж ракі* |
| za czym? //<br>за чым? | za //<br>за | I. // I. | Stare gazety *są za szafą* // Старыя газеты (знаходзяцца) за шафай |
| z kim? //<br>з кім? | z / ze //<br>з | I. // I. | *Jestem* tutaj *z moim przyjacielem* // Я тут (знаходжуся) *з* маім сябрам |

II. *быць* / *być* у значэнні ‘мець месца, наступаць, адбывацца, заставацца, працягвацца, здарацца’:

| Пытанне | Прыназоўнік | Склон | Прыклад |
|---|---|---|---|
| bez czego? // без чаго? | bez без | G. // | Od kilku dni *jestem bez pieniędzy* // Колькі дзён у мяне няма грошаў |
| bez kogo? // без каго? | bez // без | G. // G. | Od kilku dni *jestem bez dzieci* // ... Я ўжо некалькі дзён *без дзяцей* |
| do kogo? // да каго? | do // да | G. // G. | Przed chwilą *był* tutaj ktoś *do ciebie* // За мінуту *да цябе* тут хтосьці *быў* |
| dzięki czemu? // дзякуючы чаму? | dzięki дзякуючы | D. // D. | *Jest* wspaniała pogoda *dzięki* atlantyckiemu wyżowi // *Дзякуючы* атлантычнаму цыклону надвор’е добрае |
| dzięki komu? // дзякуючы каму | dzięki дзякуючы | D. // D. | Te sprawy *zostały* załatwione *dzięki* szefowi // *Дзякуючы* шэфу ўсе праблемы *былі* ўладжаны |
| jaki? / jaka? і г. д. // які? якая? | – – | N. // N. | *Jest piękny* zachód słońca // *Прыгожы* заход сонца |
| komu? // каму? з кім? | – з | D. // I. | *Jemu* coś *jest*, bo jest cały blady // *З ім* штосьці не так, бо ён увесь бледны |
| przeciwko czemu? // супраць чаго? | przeciwko | D. // G. | On *jest* zawsze *przeciwko* każdej nowej propozycji // Ён заўсёды *супраць* новай прапановы |
| przeciwko komu? // супраць каго? | przeciwko | D. //. G. | On jest zawsze *przeciwko mnie* // Ён заўсёды *супраць мяне* |
| zamiast kogo? // замест каго? | zamiast замест | G. // G. | Teraz on tutaj *jest* zawsze *zamiast szefa* // Зараз ён тут *замест* шэфа |
| z kim? // з кім? | z /ze з | I. // I. | *Jestem* blisko *z tym człowiekiem* // *З тым чалавекам* я ў добрых адносінах |

Іншыя спалучэнні:

*być* + *прыслоўе*: W życiu *jest ciężko / rozmaicie / różnie* // У жыцці цяжка...;

*być* – безасабовыя канструкцыі: Dopiero *jest południe* / Jutro *będzie środa //* Зараз *поўдзень* / Заўтра *будзе серада*;

trzeba / warto / powinno się + *być*[*] + інфінітыў: *Trzeba było zrobić* to wcześniej // *Трэба было зрабіць* гэта раней;

widać + *być* + że: *Widać było, że* on nie jest w stanie tego zrobić // *Было відаць, што* ён не можа гэта зрабіць.

III. *быць* / *być* у функцыі звязкі іменнага выказніка; часткі складанага выказніка з назоўнікам, прыметнікам, дзеепрыметнікам, дзеепрыслоўем, прыназоўнікавым спалучэннем, прыслоўем ужываецца ў значэнні: ‘існаваць, жыць; належаць да групы, супольнасці; займаць пэўнае месца ў рэчаіснасці; характарызавацца чым-небудзь; заканчваць што-небудзь; мець рысы’:

[*] Толькі ў прошлым часе.

*Працяг табліцы*

| Пытанне | Прыназоўнік | Склон | Прыклад |
|---|---|---|---|
| bez czego? // без чаго? | bez // без без | G. // G. | Nie mogę teraz wyjść, bo *jestem bez makijażu* // Не магу зараз выйсці, бо *я без макіяжу* |
| co? // што? | – | N. // N. | Od kilku lat *był pokój* w tym kraju // Некалькі год у той краіне *быў мір*. Czy na świecie *jest sprawiedliwość*? // Ці *ёсць* на свеце *справядлівасць*? |
| czym? хто? | – | I. // N. | Kanarek *jest ptakiem* // Канарэйка – *гэта птушка* |
| jaki? jaka? і г. д. // які? якая? | – | N. // N. | Ojciec *jest chory*, a mama *jest zmęczona* // Бацька хворы, а маці стомленая |
| jakim? jaką? і г. д.// якім? | – | I. // I. | *Był intelegentnym, mądrym* (człowiekiem). *Jestem* zawsze *posłuszną* rodzicom* // Быў інтэлігентным, мудрым (чалавекам) |
| кim? // хто? | – | I. // N. | Ja *jestem Polakiem*, a ona *jest Niemką*. On *jest nauczycielem* i ona *jest nauczycielką* // Ён – настаўнік і яна – настаўніца |
| kto? // хто? | – | N. // N. | Czy ty *jesteś idiota*?** My *jesteśmy inteligencja* // Мы – інтэлігенцыя |
| na czym? на чым? | na // на | L. // L. | Od wielu miesięcy ta kobieta *jest na* diecie // Некалькі месяцаў гэтая жанчына *на дыеце* |
| po czym? – | po | L. // | *Jestem* już *po rozmowach* ze wszystkimi kandydatami // Я ўжо размаўляў з усімі кандыдатамі |
| pod czym? // пад чым? | pod пад | I. // I. | *Jestem pod wpływem* tego człowieka // Знаходжуся *пад уплывам* таго чалавека |
| w czym? у чым? | w у | L. // L. | Od kilku dni ona *jest w żałobie //* Некалькі дзён яна *ў жалобе* |
| z czego? з чаго? | z / ze з | G. // G. | Ten dom *jest z* czerwonej cegły // Гэты дом *з чырвонай цэглы* |

Такім чынам, адрозненні ва ўжыванні дзеяслова *быць* у беларускай і польскай мовах заключаюцца ў наступным: польская мова, у адрозненне ад беларускай, утварыла формы 1-й і 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку, а таксама форму 3-й асобы множнага ліку дзеяслова *być*: *jestem, jesteś, jest, jesteśmy, jesteście, są: I rzeczka jest. A ryba jaka! Prawdziwa uczta dla rybaka* [60]. Пры гэтым фарманты *-em, -eś, -eśmy, -eście, są* з'яўляюцца паказчыкамі катэгорыі асобы, ліку і часу; у беларускай мове форма цяперашняга часу *ёсць* ужываецца ў наступных выпадках: а) у сказах, дзе на дзеяслоў *ёсць* падае лагічны націск, а таксама ў агульным пытанні быційнага тыпу і ў адказе на яго *(У лесе ёсць грыбы?)*; б) калі наяўнасць аднаго прадмета супрацьпастаўляецца другому (*Гарбата ў нас ёсць, а цукру няма*); в) калі дзеяслоў *ёсць* служыць паказчыкам нявызначанасці суб'екта суджэння (*Ёсць хвіліны, якія нельга забыць*).

---

* Канструкцыя характэрна для размоўнага стылю.

** Канструкцыя характэрна для размоўнага стылю, калі субяседнік хоча надаць выказванню экспрэсіўны характар.

## Семантыка-сінтаксічнае апісанне дзеяслова *быць*:

| Функцыя | Значэнне | Беларуская мова | Польская мова |
|---|---|---|---|
| Быційная | Экзістэнцыяльнае; мадальна-экзістэнцыяльнае | $NP_{N} + V_{\text{być}}$ | $NP_{N} + V_{\text{być}}$<br>$NP_{Loc} + V_{\text{być}} + NP_{N} + (\text{który}\cap S)$<br>$NP_{Temp} + V_{\text{być}} + NP_{N}$<br>$(NP_{Temp}) + V_{\text{być}} + NP_{N}$<br>$NP_{N} \rightarrow$ [здарэнне].<br>$V_{\text{być}} + \text{to} + NP_{Temp}$ |
| | Лакатыўнае | $NP_{Loc} + V_{\text{być}} + NP_{N}$<br>$NP_{Loc} + V_{\text{być}} + NP_{N} + (NP_{Temp})$ | $NP_{Loc} + V_{\text{być}} + NP_{N}$<br>$NP_{Loc}$; $NP_{N} \rightarrow$[Abstr]<br>$NP_{N} + V_{\text{być}} + (NP_{Temp})$<br>$NP_{N} \rightarrow$ [-Abstr] |
| | Рэляцыйнае:<br>-пасесіўнае<br>-асацыятыўнае<br>-генетычнае | быць у<br>$NP_{N} + V_{\text{być}} + z\cap NP_{I}(u\cap NP_{L})$<br>$NP_{N} + V_{\text{być}} + z\cap NP_{G}$ | mam /маю<br>$NP_{N}+V_{\text{być}}+z\cap NP_{I}$ $(w\cap NP_{L})$<br>$NP_{N} + V_{\text{być}} + z\cap NP_{G}$ |
| | Тэмпаральнае | $(NP_{Temp}) + V_{\text{być}} + NP_{N}$<br>$NP_{N}\rightarrow$[здарэнне, выпадак] | $(NP_{Temp}) + V_{\text{być}} + NP_{N}$<br>$NP_{N}\rightarrow$[здарэнне, выпадак] |
| | Партыцыпацыйнае | $NP_{N} + V_{\text{być}} + na\cap NP_{L}$ | $NP_{N} + V_{\text{być}} + na\cap NP_{L}$ |
| | Канстытутыўнае | $NP_{N} + V_{\text{być}} + NP_{A}$<br>$V_{\text{być}} + NP_{I}$ | $NP_{N} + (\text{to})\ V_{\text{być}} + NP_{A}$<br>$V_{\text{być}} + za\cap NP_{G}$ |
| | Аптымальнае | $(NP_{L}) + V_{\text{być}} + NP_{N}$ + (мала, многа) | $(NP_{L}) + V_{\text{być}} + NP_{N}$ (za mało, za dużo) |

## Літаратура


1. Міхневіч, А. Я. Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы / А. Я. Міхневіч; рэд. В. У. Мартынаў. – Мінск, 1976. – С. 20.
2. Важнік, С. А. Кантрастыўны сінтаксіс польскай і беларускай моў: семантыка і дыстрыбуцыя дзеяслоўнага прэдыката / С. А. Важнік. – Мінск, 2008. – С. 16.
3. Золотова, Г. А. Коммуникативные аспекты русского синтаксиса / Г. А. Золотова. – М., 1982. – С. 17.
4. Міхневіч, А. Выбраныя працы / А. Міхневіч; агул. рэд. С. А. Важнік; уступ. арт. В. К. Шчэрбіна. – Мінск, 2006. – С. 89–90 (сер. «Моваведы Беларусі»).
5. Важнік, С. Дыстрыбуцыйныя ўласцівасці дзеяслоўнага прэдыката ў беларускай і польскай мовах: аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.03 / С. Важнік. – Мінск, 2002. – С. 8.
6. Мажэйка, Н. С. Частотны слоўнік беларускай мовы. Мастацкая проза / Н. С. Мажэйка, А. Я. Супрун. – Мінск, 1976. – С. 16.
7. Мажэйка, Н. С. Частотны слоўнік беларускай мовы. Паэзія / Н. С. Мажэйка, А. Я. Супрун. – Мінск, 1992. – С. 160.
8. Słownik frekwencyjny polszczyzny współczesnej / I. Kurcz [i in.]. – Kraków, 1990. – T. 1. – S. 39–40.
9. Wojtysiak, J. O słowie BYĆ. Z teorii wyrażeń egzystencjalnych i ich filozoficznego zastosowania / J. Wojtysiak. – Lublin, 2005. – С. 17.
10. Бенвенист, Э. Общая лингвистика / Э. Бенвенист. – 2-е изд., стер. – М., 2002. – С. 204.
11. Кузнецов, А. М. Глагол to be и его лексико-семантические эквиваленты в современном английском языке / А. М. Кузнецов // Категория бытия и обладания в языке. – М., 1977. – С. 68–74.

12. Апресян, Ю. Д. Лексикографические портреты (на примере глагола быть) / Ю. Д. Апресян // Избранные труды. – М., 1995. – Т. 2.– С. 513.
13. Кузнецов, А. М. Глагол to be и его лексико-семантические эквиваленты в современном английском языке. – С. 75–80.
14. Апресян, Ю. Д. Лексикографические портреты (на примере глагола быть). – С. 513.
15. Бенвенист, Э. Общая лингвистика. – С. 204–205.
16. Арутюнова, Н. Д. Русское предложение. Бытийный тип: структура и значение / Н. Д. Арутюнова, Е. Н. Ширяев. – М., 1983. – С. 30–42.
17. Апресян, Ю. Д. Лексикографические портреты (на примере глагола быть). – С. 513.
18. Бенвенист, Э. Общая лингвистика. – С. 209.
19. Кузнецов, А. М. Глагол to be и его лексико-семантические эквиваленты в современном английском языке. – С. 75–80.
20. Арутюнова, Н. Д. Русское предложение. Бытийный тип: структура и значение. – С. 30–42.
21. Апресян, Ю. Д. Лексикографические портреты (на примере глагола быть). – С. 513.
22. Апресян, Ю. Д. Лексикографические портреты (на примере глагола быть). – С. 513–514.
23. Кузнецов, А. М. Глагол to be и его лексико-семантические эквиваленты в современном английском языке. – С. 75–80.
24. Апресян, Ю. Д. Лексикографические портреты (на примере глагола быть). – С. 514.
25. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. (6 кн.) / пад агул. рэд. К. Крапівы. – Мінск, 1977–1984. – Т. 1. – С. 431–432.
26. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. – С. 432.
27. Słownik staropolski / red. nacz. S. Urbańczyk. – Ossolineum; Wrocław; Kraków, 1953–2003. – T. I. – S. 182–202.
28. Geller, E. Słownik synonimów / E. Geller, R. Turczyn. – Warszawa, 1995. – S. 12.
29. Słownik języka polskiego / red. nacz. W. Doroszewski. – Warszawa, 1958. – T. 1. – S. 751.
30. Słownik wyrazów bliskoznacznych / red. nacz. S. Skorupka. – Warszawa, 1958. – S. 276.
31. Słownik języka polskiego. – S. 751.
32. Słownik języka polskiego. – S. 751.
33. Słownik języka polskiego / red. nacz. M. Szymczak. – Warszawa, 1992. – T. 2. – S. 154.
34. Geller, E. Słownik synonimów. – S. 12.
35. Słownik języka polskiego. – S. 751–752.
36. Słownik języka polskiego. – S. 753.
37. Słownik języka polskiego. – S. 154.
38. Słownik wyrazów bliskoznacznych. – S. 306.
39. Słownik języka polskiego. – S. 754.
40. Słownik języka polskiego. – S. 154.
41. Słownik syntaktyczno-generatywny czasowników polskich / Oprac. Zespołowo pod red. K. Polańskiego. – Wrocław etc., 1980. – T. 1: A–M. – S. 55.
42. Słownik syntaktyczno-generatywny czasowników polskich. – S. 56.
43. Słownik staropolski. – S. 182–202.
44. Słownik frazeologiczny języka polskiego / red. nacz. S. Skorupka. – Warszawa, 1967. – T. I. – S. 122–123.
45. Słownik staropolski. – S. 182–202.
46. Słownik frazeologiczny języka polskiego. – S. 124.
47. Geller, E. Słownik synonimów. – S. 12.
48. Geller, E. Słownik synonimów. – S. 12.
49. Słownik staropolski. – S. 182–202.
50. Берка, К. Функции глагола «быть» с точки зрения современной формальной логики / К. Берка // Логико-грамматические очерки. – М., 1961. – С. 163.
51. Виноградов, В. В. Русский язык / В. В. Виноградов. – М.; Л., 1947. – С. 475.
52. Бархударов, Л. С. К вопросу о поверхностной и глубинной структуре предложения / Л. С. Бархударов // Вопросы языкознания. – 1973. – № 3. – С. 58.

53. Міхневіч, А. Я. Сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні ў беларускай мове (Трансфармацыйны аналіз) / А. Я. Міхневіч. – Мінск, 1965. – С. 15.
54. Міхневіч, А. Я. Сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні ў беларускай мове (Трансфармацыйны аналіз). – С. 16–18.
55. Шведова, Н. Ю. Спорные вопросы описания структурных схем простого предложения и его парадигм / Н. Ю. Шведова // Вопросы языкознания. – М., 1973. – № 4. – С. 32–33.
56. Saloni, Z. Składnia współczesnego języka polskiego / Z. Saloni, M. Świdziński. – Warszawa, 1998. – S. 111.
57. Grzegorczykowa, R. Wykłady z polskiej składni / R. Grzegorczykowa. – Warszawa, 2004. – C. 69.
58. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. – С. 432.
59. Mędak, S. Praktyczny słownik łączliwości składniowej czasowników polskich / S. Mędak. – Kraków, 2005. – S. 54–56.
60. Kołas, J. Nowa ziemia. Przełożył Czesław Seniuch / J. Kołas. – Мінск, 2002. – 904 с.

## Summary

In the article the meaning of the verb *to be* as an independent verb is examined, the verb *to be* in the function of ligaments, the ways of distinguishing ligament and *to be* as an independent verb, and also syntactic compatibility of the verb *to be* in Polish and Belarusian languages.

*Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа*
*і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*15.11.2010 г.*

*УДК 81'373–11*

*Т. В. ФЕДУНОВА*

# ХАРАКТАР СЕМАНТЫЧНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ У РЭЧЫШЧЫ КАНТРАСТЫЎНАЙ ЛІНГВІСТЫКІ

На сучасным этапе даволі інтэнсіўны імпульс атрымалі супастаўляльныя даследаванні ў межах кантрастыўнай лінгвістыкі, што абумоўлена акцэнтаваннем увагі на вырашэнні праблем, звязаных з пытаннямі міжмоўнай камунікацыі паміж прадстаўнікамі розных моўных культур.

Узрастанне значнасці кантрастыўных даледаванняў і ўсё бóльшая да іх увага даследчыкаў абумоўлены працэсамі міжкультурнай камунікацыі і дыялогу культур. У сувязі з гэтым кантрастыўная лінгвістыка набывае самастойны статус навуковай галіны ў мовазнаўстве са сваімі мэтамі, задачамі і тэрміналагічным апаратам, метадамі даследавання і строга акрэсленым месцам у межах іншых лінгвістычных кірункаў.

**Спецыфіка кантрастыўных даследаванняў: вопыт тэарэтычнага апісання.** Кантрастыўная лінгвістыка з'яўляецца *практычным кірункам* у параўнанні з сумежнымі з ёй лінгвістычнымі напрамкамі, якія маюць тэарэтычны характар, – параўнальна-гістарычным і супастаўляльным мовазнаўствам, лінгвістычнай тыпалогіяй і лінгвістыкай універсалій. Так, параўнальна-гістарычнае мовазнаўства паклала пачатак супастаўленню з яго навукова абгрунтаваным базісам. Тым не менш яго заўсёды цікавіў дыяхранічны план вывучэння моў без уліку праекцыі на практычнае выкарыстанне атрыманых вынікаў.

Лінгвістычная тыпалогія таксама знаходзіцца далёка ад пастаноўкі прыватных прыкладных задач і іх вырашэння, займаючыся вызначэннем тыпалогіі моў.

Дамінуючым фактарам лінгвістыкі ўніверсалій з'яўляецца фактар агульнасці моў, як роднасных, так і няроднасных, без уліку іх характэрных прыкмет. Такім чынам, аўтаматычна за межамі разгляду застаюцца тыя з'явы, якія складаюць нацыянальна-моўную і нацыянальна-культурную адметнасць моў.

Нарэшце, супастаўляльнае мовазнаўства, па меркаванні прафесара І. А. Сцерніна, таксама не зусім звязана з практычным авалоданнем той ці іншай мовай, таму што падрабязнае апісанне спецыфікі арганізацыі і функцыянавання асобна ўзятай моўнай падсістэмы з выяўленнем іерархіі адзінак, якія яе складаюць, падчас атрымліваюцца залішнімі ў практыцы навучання [1]. Размеркаванне кірункаў, якія арыентаваны на супастаўляльнае вывучэнне моў, знаходзіць сваё адлюстраванне на мал. 1:




Мал. 1. Кірункі вывучэння моўнай сістэмы

Кантрастыўныя даследаванні прадстаўляюць асобую форму сувязі паміж напрамкамі фундаментальнай лінгвістыкі і прыкладнымі аспектамі мовазнаўства, прадугледжваючы арганічную ўзаемасувязь агульных і прыватных аспектаў вывучэння мовы. Фактар агульнасці прадугледжвае апору на генеральны падыход у параўнанні некалькіх моў у сістэме «падабенства – адрозненне». Прыватны аспект арыентуе даследчыка на ўстанаўленне эквівалентных адзінак і міжмоўных адпаведнасцей у некалькіх мовах, якія абраны аб'ектам кантрастыўных даследаванняў.

Прысутнасць выразна акрэсленых задач, якія накіраваны на дасягненне абумоўленных самім даследаваннем мэт, і наяўнасць метадычнай базы, пры дапамозе якой будзе ажыццяўляцца вырашэнне вызначаных задач, – гэта як мінімум дзве ўмовы, якія рэпрэзентуюць самастойнае, паўнамернае даследаванне. Гэтым умовам і адпавядаюць кантрастыўныя даследаванні, якія дазволілі вывесці кантрастыўную лінгвістыку ў ранг самастойнай дысцыпліны.

Адзначым, што кантрастыўныя даследаванні пры актывізацыі агульных аспектаў у працэсе супастаўлення моў збліжаюцца, з аднаго боку, з лінгвістычнай тыпалогіяй з яе пошукам агульных структурна-семантычных заканамернасцей. З другога – з улікам прыватных, прыкладных аспектаў даследавання яны маюць дачыненне да тэорыі перакладу і практыкі выкладання моў.

Тым не менш кантрастыўныя даследаванні рэлевантны не толькі і не столькі ў сферы выкладання замежных моў. Падчас яны дазваляюць закрануць праблемы білінгвізму ў яго псіхалінгвістычным аспекце. У працэсе вырашэння гэтага праблемнага моманту судакранаюцца некалькі падыходаў – уласна лінгвістычны, філасофскі, псіхалагічны і педагагічны. Акрамя таго,

кантрастыўныя даследаванні дазваляюць глыбей пранікнуць у сутнасць моўных працэсаў і дапамагчы зразумець законы, якія прадказваюць і абумоўліваюць гэтыя працэсы.

Асноўнымі задачамі кантрастыўнага вывучэння моў з'яўляюцца наступныя:

1) выўленне сыходжанняў і разыходжанняў у выкарыстанні моўных сродкаў living рознымі мовамі;

2) вызначэнне асаблівасцей кожнай з супастаўляемых моў, якія могуць застацца незаўважанымі пры вывучэнні толькі адной мовы;

3) пераадоленне непажаданай інтэрферэнцыі і падача трывалай лінгвістычнай базы для практыкі перакладу;

4) выпрацоўка практычнага матэрыялу для тыпалагічных даследаванняў і лінгвістыкі ўніверсалій [2].

Для паслядоўнага ажыццяўлення кантрастыўных даследаванняў на любым моўным узроўні даследчыку небходна трымаць у полі зроку некалькі ўзаемазвязаных паміж сабой паэтапных прыкмет. В. П. Канецкая ў якасці такіх канстытутыўных прыкмет, якія маюць значнасць як у межах кантрастыўнай граматыкі, так і ў межах кантрастыўнай лексікалогіі, адзначае характар аб'екта параўнання (роднасныя, няроднасныя, блізкароднасныя мовы, нацыянальныя варыянты, дыялекты, прафесійныя «мовы» і інш.); мэта параўнання (аналіз ступені роднасці моў, іх тыпалагічных прыкмет з наступнай класіфікацыяй, пошук універсалій, характаралагічных прыкмет, устанаўленне эквівалентнасці і г. д.); напрамак параўнання (сінхранія або дыяхранія); тэорыя як сістэма навукова абгрунтаваных характарыстык аб'екта параўнання; метад як сістэма прыёмаў супастаўляльнага аналізу [3].

Відавая разнастайнасць кантрастыўных даследаванняў прадстаўлена з праекцыяй на ўзроўневую будову мовы. Кантрастыўныя даследаванні з улікам іх мэт, задач, паняційна-тэрміналагічнага апарата знаходзяць сваё ажыццяўленне на любым моўным узроўні – фанетыка-фаналагічным, лексіка-фразеалагічным, марфалагічным і сінтаксічным. Акрамя таго, некаторыя вучоныя (І. А. Сцернін) лічаць правамерным ажыццяўляць нават кантрастыўныя даследаванні камунікатыўных паводзін таго ці іншага народа.

Аб'ектам кантрастыўных даследаванняў з'яўляюцца дзве мовы, хоць у некаторых выпадках можа праводзіцца і трайное кантрастыўнае супастаўленне з больш складанай супастаўляльнай методыкай.

Акрэсленыя канкрэтныя мэты і задачы лагічна абумоўліваюць методыку кантрастыўных даследаванняў. Згодна з Р. Штэрнеманам, прынята адрозніваць два шляхі кантрастыўных даследаванняў – двухбаковы (шматбаковы) і аднабаковы.

*Двухбаковы* падыход дазваляе праводзіць параўнанне моў у напрамку ад адной мовы да другой, і наадварот. Пры гэтым у якасці кантрастыўнай асновы абіраецца tertium comparationis – «трэці член параўнання» як пэўнае пазамоўнае паняцце, якое абумоўлена мэтамі і задачамі кантрастыўнага да-

следавання. У працэсе кантрастыўнага супастаўлення фіксуюцца спосабы яго выражэння ў дзвюх ці больш супастаўляемых мовах. Па меркаванні Р. Штэрнемана, «адсюль і магчымасць карэліраваць <...> сукупнасць спосабаў выражэння <...> у мове А з сукупнасцю адпаведных спосабаў выражэння ў мове Б, і наадварот» [4]. Дадзенае палажэнне знаходзіць сваё адлюстраванне на мал. 2 з рэалізацыяй двухбаковага падыходу, калі супастаўленне мае абарачальны, узаемны характар:




Мал. 2. Двухбаковы падыход пры кантрастыўных даследаваннях

При *аднабаковым* падыходзе міжмоўнае супастаўленне ідзе толькі ў адным напрамку – ад зыходнай мовы да мовы-мэты, у выніку чаго супастаўленне набывае неабарачальны, аднанакіраваны характар. «Якая з моў з'яўляецца ў дадзеным выпадку зыходнай, а якая – мэтай, не вызначаецца ні падыходам, ні асаблівасцямі моў, але выключна залежыць ад пастаўленых перад кантрастыўным вывучэннем мэт і задач» [5]. У гэтым выпадку мы маем рэалізацыю адзначанага вышэй палажэння на мал. 3:




Мал. 3. Аднабаковы падыход пры кантрастыўных даследаваннях

Кантрастыўная лінгвістыка аперыруе матэрыяламі на сінхронным зрэзе мовы з актуалізацыяй відавой разнастайнасці методык у адпаведнасці з узроўневай канцэпцыяй мовы. Так, метад кампанентнага аналізу значэнняў выкарыстоўваецца пры супастаўленні лексіка-семантычных з'яў у супастаўляемых мовах з вылучэннем інтэгральных і індывідуальных сем.

Кантрастыўныя даследаванні ў вобласці сінтаксісу садзейнічаюць выкарыстанню мадэлей, якія грунтуюцца на ідэях трансфармацыйнай параджальнай граматыкі, склонавай граматыкі, глыбінных і павярхоўных структур, семантычных роляў, прапазіцыйнай структуры і розных відаў актуалізацыйных структур.

Ажыццяўленне кантэкстуальных супастаўляльных даследаванняў грунтуецца на кантэкстуальна-функцыянальным аналізе з вылучэннем пада-

бенстваў і разыходжанняў у выкарыстанні тых ці іншых структур у мовах, якія з'яўляюцца аб'ектам супастаўлення.

**Асаблівасці семантычных кантрастыўных даследаванняў.** Супастаўляльная лексікалогія і супастаўляльная семасіялогія прадстаўляюць сабой арганічную частку кантрастыўнай лінгвістыкі, асноўны прынцып якой заключаецца ў лексіка-самантычным параўнанні на фоне ўсеагульнага семантычнага кантынуума.

Значная колькасць інтэрферэнцыйных фактаў падмены значэнняў лексем некалькіх моўных сістэм абумоўлівае паслядоўны разгляд семантычнай спецыфікі дзвюх моў. Пры гэтым апошняе павінна праводзіцца ў рэчышчы комплекснага сістэмнага супастаўлення, што дазволіць вылучыць факты нацыянальна-культурнай і нацыянальна-моўнай спецыфікі абедзвюх моў. Па справядлівай заўвазе В. Н. Манакіна, такі кантрастыўны аналіз дае магчымасць разгледзець адну мову ў кантэксце другой [6].

Комплекснасць даследавання лексікі некалькіх моў (роднасных ці няроднасных) цалкам адпавядае характаралагічным прыкметам кантрастыўнай лексікалогіі як адной з галін моваазнаўства, у межах якой і ажыццяўляецца комплекснае супастаўляльнае вывучэнне лексікі. Гэтыя прыкметы грунтуюцца на тым, што кантрастыўная лексікалогія «вывучае складаную ўзаемасувязь падабенстваў і разыходжанняў паміж мовамі на лексічным узроўні» [7]. У сваю чаргу, кантрастыўная лексікалогія цесна звязана з кантрастыўнай семасіялогіяй, асноўная мэта якой – гэта «апісанне значэнняў адзінак адной мовы ў супастаўленні з магчымымі адпаведнасцямі кожнай з іх у другой мове з мэтай вылучэння і фіксацыі перш за ўсё *адрозненняў* (курсіў аўтара. – *І. А. Сцернін*) паміж гэтымі адзінкамі» [8].

Гэтыя адрозненні ўяўляюць спецыфіку нацыянальна-моўнага складніку супастаўляемых моў, даюць магчымасць зразумець семантычныя законы падачы інфармацыі, якія тычацца фактаў навакольнай рэчаіснасці, прасачыць спецыфіку «семантычнага карціравання» [9] прадметнага свету рознамоўнымі лексічнымі адзінкамі і вызначыць нацыянальную спецыфіку моўнага мыслення прадстаўнікоў кожнай з моў.

Аперыраваць семантычнымі прыкметамі дастаткова складана з прычыны таго, што яны маюць розную ступень абагульненасці і іерархічнай супадпарадкаванасці. Гэта і з'яўляецца тлумачэннем таго факта, што дастаткова працяглы час лексічная сістэма той ці іншай мовы не выступала аб'ектам кантрастыўнага вывучэння, бо змястоўны бок слова ў яго параўнанні з бокам фармальным цяжка паддаецца абагульненню. Так, па словах В. М. Ярцавай, лексіка – гэта «рыхлая» вобласць мовы [10], якую нельга змясціць у фармалізаваных схемах, што і надае складанасць падчас аперыравання самой катэгорыяй значэння.

Тым не менш кантрастыўныя даследаванні атрымоўваюць усё бóльшую актуальнасць. Па словах Ж. П. Сакалоўскай, «семантычны характар адносін паміж семанцемамі, тыпы адносін паміж семанцемай і яе варыянтамі,

элементарныя сэнсавыя адзінкі (семы) семантычных адзінак (семанцем) – усё гэта строга індывідуальна для кожнай мовы, абумоўлівае існаванне гэтай мовы, у адрозненне ад усялякай іншай» [11].

Адзначым, што ў гэтым выпадку факт статычнасці прыкмет навакольнай рэчаіснасці не знаходзіцца ў супярэчнасці з фактам дынамічнасці і вар'іруемасці ў працэсе адбору тых ці іншых семантычных множнікаў у той ці іншай мове пры фіксацыі прадметаў, прыкмет ці з'яў навакольнага свету. Сапраўды, «разглядаючы пытанне структуры значэнняў і структуры свету рэчаіснасці, мы павінны ўлічваць наяўнасць трох велічынь: свету рэчаіснасці, свету паняццяў і свету значэнняў. <...> свет рэчаіснасці ёсць зыходная велічыня; свет паняццяў абумоўліваецца працэсам пазнання свету рэчаіснасці і імкнецца быць адэкватным яму, перадаць яго структуру; свет значэнняў ёсць той канкрэтны спосаб, пры дапамозе якога фіксуецца ў мове свет паняццяў, ён відазмяняецца ад мовы да мовы, у выніку чаго структура значэнняў не толькі ніколі не паўтараецца ў розных мовах, але і ніколі не бывае тоеснай са структурай паняццяў, якая стаіць па-за межамі мовы і фарміруе лагічную аснову ўсіх моў. Як вынік, структура значэнняў не паўтарае структуры знешняга свету» [12]. Тут мы маем справу з працэсам семантызацыі рэчаіснасці, які ў розных мовах адбываецца па-рознаму. Менавіта такую выбарачнасць мовы тых ці іншых аспектаў і характарыстык прадметаў, якія дазваляюць іх абазначыць пэўным словам, адзначала Э. М. Меднікава [13].

**Прынцып сістэмнасці ў кантрастыўных семантычных даследаваннях.** Сістэмны падыход дае магчымасць аб'ектыўна вызначыць тое агульнае, што характарызуе арганізацыю слоў, эксплііцыраваць семантычную структуру супастаўляемых моў, вызначыць адрознівальныя прыкметы, якія складаюць спецыфіку кожнай асобна ўзятай мовы. Па словах А. Мейе, «ідзе гаворка пра граматыку, фанетыку або лексіку, ніколі не трэба выпускаць з поля зроку, што супастаўленне мае сэнс толькі тады, калі яно падпарадкоўваецца строгім правілам» [14].

Прынцып сістэмнасці знаходзіць сваё праяўленне ў некалькі арганічна ўзаемазвязаных адзін з адным аспектах.

Па-першае, сваёй перадумовай сістэмны прынцып мае сінхроннае сістэмнае вывучэнне дзвюх моў з улікам іх спецыфікі на фоне агульных рыс і дыктуе неабходнасць двухбаковага, бінарнага супастаўлення лексічнай сістэмы дзвюх моў у кірунках *«мова А → мова Б: мова А ← мова Б»*. Неабходнасць двухбаковага параўнання моў, як замежнай з роднай, так і роднай з замежнай, адзначаў яшчэ Л. У. Шчэрба [15].

Бясспрэчна, «станоўчы бок двухбаковага супастаўлення параметрычна аднолькавага матэрыялу дзвюх моў заключаецца перш за ўсё ў тым, што пры такім вывучэнні яскрава вымалёўваюцца спецыфічныя рысы кожнай з моў, якія ў іншым аспекце даследавання маглі б застацца незаўважанымі, што нярэдка здараецца падчас несістэмнага апісання блізкароднасных моў, калі ў гэтым выпадку губляюцца вельмі важныя дэталі, нюансы і паўтоны» [16].

Заўважым, што некаторыя вучоныя, адзначаючы вартасць прынцыпа сістэмнасці, у якасці аднаго з яго складнікаў выдзяляюць усё ж аднабаковую арыентацыю ў працэсе кантрастыўнага супастаўлення моўных сістэм (*«мова А → мова Б»*). Такі падыход, як правіла, мае вузкую накіраванасць і захоўвае сваю значнасць толькі ў межах методыка-педагагічнай распрацоўкі шляхоў навучання замежнай мове.

Па-другое, сістэмнасць супастаўлення лексікі мае сваёй перадумовай апору на семантыка-функцыянальны падыход. Выбар лексічнага матэрыялу пэўнай тэматычнай групы мае пад сабой бясспрэчную падставу: кантрастыўныя даследаванні, у цэнтры якіх знаходзяцца лексіка-семантычныя з'явы, набываюць сваю значнасць і эфектыўнасць толькі ў тым выпадку, калі лексічны матэрыял падбіраецца не хаатычна ці бессістэмна, а з апорай на тую ці іншую тэматычную ці лексіка-семантычную арганізацыю. Па слушнай заўвазе Н. Ю. Шведавай, «якімі б ні былі намаганні лексікографа, апісанне лексікі, якое вядзецца ў алфавітным парадку (ад «абажура» да «яшчура»), непазбежна звязана з непаслядоўнасцямі і недакладнасцямі, а часам і з супярэчнасцямі» [17].

Па-трэцяе, сістэмнасць супастаўлення мае на ўвазе фіксацыю асноўных рыс семантычнай структуры лексем супастаўляемых моў у бінарных суадносінах «падабенства – разыходжанне». Гэты аспект рэалізацыі прынцыпа сістэмнасці дазваляе вызначыць агульныя і спецыфічныя рысы ў семантыцы даследуемых лексічных адзінак пры ажыццяўленні наступных паслядоўных дзеянняў:

а) устанаўленне складу лексіка-семантычнага поля, што падлягае аналізу, з вылучэннем яго ўнутранай структуры ў зыходнай мове;

б) устанаўленне слоў, эквівалентных па асноўным значэнні ў мове супастаўлення;

в) вызначэнне семантычных структур полісемантычных лексем з эквівалентнымі асноўнымі значэннямі і ўстанаўленне заканамернасцей рэалізацыі іх значэнняў у кожнай з супастаўляемых моў.

Кантрастыўныя даследаванні лексічнай сістэмы розных моў дапамагаюць паслядоўна рэпрэзентаваць спецыфіку нацыянальна-культурнага і нацыянальна-моўнага паказчыка ў некалькіх *аспектах*. Адзначым, што паняцці нацыянальна-культурнага і нацыянальна-моўнага знаходзяцца ў адносінах сумежнасці, але не тоеснасці, таму што нацыянальна-моўная своеасаблівасць не абумоўліваецца асаблівасцямі культурнай традыцыі народа, а толькі спецыфікай самой моўнай сістэмы, у адрозненне ад таго, калі гаворка ідзе пра нацыянальна-культурную спецыфіку.

Па-першае, кантрастыўныя даследаванні лексікі некалькіх моўных сістэм дазваляюць *рэпрэзентаваць характэрнае чляненне рэчаіснасці, якое знаходзіць сваё адлюстраванне ў моўных парадыгмах кожнай асобна ўзятай мовы.* Згодна з М. В. Заўялавай, «кожная мова фарміруе ў яе носьбіта пэўны вобраз свету, які прадстаўлены ў мове семантычнай сеткай паняццяў,

характэрнай менавіта для дадзенай мовы» [18]. У мовах (няхай і блізкароднасных) няма абсалютна тоесных паняццяў, таму што ў аснову гэтых паняццяў пакладзены розныя прадметныя адносіны. Гэта, у сваю чаргу, абумоўлівае розную групоўку прыкмет у семантыцы слова пры адноснай агульнасці асноўнага набору прыкмет навакольнай рэчаіснасці.

Так мова своеасабліва адлюстроўвае і рэпрэзентуе навакольны свет у значэннях сваіх адзінак, што, па словах Г. В. Калшанскага, не сведчыць пра скажэнне і пераўтварэнне самой рэчаіснасці, а толькі праз семантычную сістэму мовы садзейнічае адлюстраванню адзінай прыроды свету ў канцэптуальным апараце чалавека [19].

Усё гэта з'яўляецца бясспрэчным сведчаннем таго, што «пранікненне ў «дух» новай мовы заўсёды выклікае ўражанне набліжэння да новага свету – свету са сваёй асабістай інтэлектуальнай структурай. Гэта нібы падарожжа-адкрыццё новай краіны, і самы вялікі здабытак ад такога падарожжа – тое, што свая ўласная мова паўстае ў новым свеце <...> Суадносныя тэрміны дзвюх моў рэдка адпавядаюць адным і тым жа прадметам ці дзеянням. Яны закранаюць розныя палі, якія падчас узаемапранікнення ўтвараюць шматколерную карціну і розныя перспектывы нашага вопыту» [20].

Па-другое, ажыццяўленне кантрастыўных лексічных даследаванняў дае магчымасць выявіць ступень разыходжанняў і адрозненняў у падобных значэннях у сістэме супастаўляемых моў. Нават у блізкароднасных мовах падобныя па сэнсе словы могуць мець розны семантычны аб'ём і ўласцівую толькі кожнаму з іх характэрную семантычную будову, пра што сведчыць аналіз, які праводзіцца на ўзроўні асобна ўзятага значэння і на ўзроўні лексемы ўвогуле з паслядоўным аналізам усёй колькасці значэнняў лексемы-полісеманта.

Нарэшце, кантрастыўныя даследаванні на лексічным узроўні дазваляюць выявіць эндэмічныя (безэквівалентныя) лексічныя адзінкі ў адной мове і ў адпаведнасці з гэтым лакуны ў супастаўляемай з ёй лексічнай сістэме другой мовы, што служыць бясспрэчным доказам унікальнасці і спецыфічнасці кожнай асобна ўзятай лінгвакультуры.

**Узроўні семантычнай дыферэнцыяцыі пры кантрастыўным аналізе лексем.** Комплекснае супастаўляльнае даследаванне лексікі некалькіх моў грунтуецца на двух узроўнях семантычнай дыферэнцыяцыі – уласна семантычным і семантыка-лексічным.

Першы ўзровень комплекснага даследавання – уласна семантычны аналіз – уключае ажыццяўленне кантрастыўнага аналізу на ўзроўні семемы з пэўным тэматычным значэннем з вылучэннем тыпаў адносін тоеснасці, уключэння ці перасячэння ў межах міжмоўнай лексічнай пары. Гэта дазваляе прасачыць факты падабенства і разыходжання ў семантычным напаўненні дзвюх моў.

Комплекснасць кантрастыўнага даследавання лексікі правамерна абумоўлівае і рэпрэзентацыю другога ўзроўню – узроўню лексемы ў цэлым, што

знаходзіць сваю рэалізацыю ў правядзенні семантыка-лексічнага аналізу. Гэта наступная прыступка ў рэалізацыі прынцыпу сістэмнасці ў кантрастыўнай лексікалогіі, прычынай чаго выступае здольнасць структуры лексемы канцэнтраваць у сабе істотныя сістэмаўтваральныя ўласцівасці лексічнай будовы моўнай сістэмы.

Гэты від аналізу дазваляе разглядаць семантычную структуру слова як сукупнасць узаемазвязаных значэнняў слова з улікам характару паслядоўнасці лексіка-семантычных варыянтаў, іх структуры і размеркавання, правядзення аналізу лінейных і вектарных лексічных адпаведнасцей супастаўляемых моў. Сапраўды, «паколькі ў мове існуе сістэма значэнняў, яна можа быць такім жа прадметам даследавання, як і сістэма форм выражэння. Гэта два бакі адной і той жа з'явы, што дае магчымасць мяняць зыходны пункт даследавання, не парушаючы цэласнасці самой з'явы» [21].

Правядзенне супастаўлення на ўзроўні лексемы ў цэлым дае магчымасць прасачыць увесь аб'ём значэнняў, якімі валодае тая ці іншая лексема адной мовы, супаставіць гэты аб'ём з адпаведным аб'ёмам значэнняў, якім валодае лексема ў мове супастаўлення. Такога кшталту накіраванасць кантрастыўных дзеянняў, па слушнай заўвазе В. Г. Гака, дыктуецца тым, што «абсалютных эквівалентаў няма, і абсалютных сыходжанняў у дзвюх мовах таксама не існуе. Пры супастаўленні ў межах лексічных падсістэм моў выяўляецца, што пры накладанні аднаго слова на другое яны, супадаючы ў адным ці некалькіх значэннях, не супадаюць у поўным аб'ёме сваіх значэнняў, таму што полісемія слоў – глыбока спецыфічная з'ява для кожнай з моў. Несупадзенні семантычных палёў двух слоў цягне за сабой і іншыя разыходжанні: у семантычнай спалучальнасці кожнага слова, у іх сінанімічных і антанімічных радах, у іх метафарычных магчымасцях; нарэшце, слова ў адной з моў можа быць эквівалентным устойліваму спалучэнню ў другой мове» [22].

Кантрастыўны аналіз, які праводзіцца на дадзеным узроўні, дазваляе выйсці на вылучэнне асноўных кантрастыўных прыкмет супастаўляемых лексем.

1. Ступень полісемічнасці лексем супастаўляемых моў. Не ўлічваць колькасць значэнняў пры кантрастыўным аналізе лексем нельга, таму што, па-першае, гэта можа служыць паказчыкам развіцця лексічнага складу моў; па-другое, дазволіць правесці размежаванне паводле бінарнай апазіцыі «адназначная лексема ў адной мове – полісемантычная лексема ў другой».

2. Гіпа-гіперанімічная лексічная характарыстыка моў. Так, для абазначэння адной і той жа рэаліі аб'ектыўнай рэчаіснасці адна з моў можа выкарыстоўваць больш за адно слова з больш вузкай семантызацыяй значэння, у той час як у другой мове ўсе гэтыя значэнні закладзены ў семантычную структуру адной лексемы, якая выступае своеасаблівым гіперонімам у дачыненні да гіпанімічных лексем другой мовы. У гэтым выпадку мы сутыкаемся з гіперанімieй як з'явай, якая заключаецца ў недыферэнцыраванасці значэнняў адной мовы ў дачыненні да другой, дзе гэтыя значэнні дыферэнцыруюцца.

3. Склад і іерархічная структура лексіка-семантычных варыянтаў (ЛСВ). Складанасць падчас устанаўлення адзначанай кантрастыўнай прыкметы абумоўлена тым, што значэнні супастаўляемых лексем утвараюць непарыўны, узаемапранікальны кантынуум з прыкметамі дыфузнасці. Аднак і не ўлічваць паслядоўнасць ЛСВ у складзе лексічных адзінак нельга, паколькі гэты факт дазваляе граматна ажыццявіць працэс разумення і спараджэння маўлення на іншай мове, пазбегнуць блытаніны падчас актуалізацыі таго ці іншага ЛСВ і прыпісвання асобна ўзятага ЛСВ іншай лексеме.

4. Лексіка-семантычнае маркіраванне як асобны семасіялагічны параметр супастаўлення, які прадвызначае правядзенне кантрастыўнага аналізу ў бінарнай апазіцыі «самастойны ЛСВ – адценне значэння». У гэтай сувязі з пункту погляду супастаўляльнай лексікалогіі значную актуальнасць набывае пытанне не столькі семантычнай кваліфікацыі зместу значэння (г. зн. аднясенне яго да адцення значэння ці да самастойнага ЛСВ), колькі магчымасць супрацьпастаўлення гэтых адзінак. Пытанне аб розным маркіраванні лексічных адзінак супастаўляемых моў павінна сведчыць пра факт семантычнай рознааб'ёмнасці дзвюх лексем, таму што адценне значэння з'яўляецца «паказчыкам больш тонкага, «спектральнага» аналізу лексічнага зместу слова, якое адлюстроўвае семантычную дынаміку і дыферэнцыруе розныя ўзроўні змястоўнага боку славеснага знака» [23].

Адрозненне ў складзе і іерархічнай структуры ЛСВ можа быць абгрунтавана, па-першае, неаднолькавай ступенню развіцця полісеміі; па-другое, наяўнасцю самастойных лексем, што асабліва важна падчас выбару адзінага правільнага ЛСВ у маўленчым працэсе.

Такім чынам, кантрастыўны аналіз лексічнай сістэмы некалькіх моў дазваляе рэпрэзентаваць адну мову праз прызму другой з наступным выяўленнем як фактаў падабенства, так і нацыянальна-спецыфічных рыс.

Толькі ў дыялектычным адзінстве падобных і адрознівальных рыс, якія фіксуюцца ў лексічнай структуры кожнай мовы, магчыма паслядоўна разгледзець характаралагічныя прыкметы і законы, якія складаюць моўныя асаблівасці.

Кантрастыўныя даследаванні садзейнічаюць лепшаму разуменню роднай мовы і мовы супастаўлення, а таксама служаць эфектыўнай практыцы авалодання мовамі – больш глыбокаму і сістэматычнаму разуменню працэсаў у роднай мове і ўсвядомленаму ўжыванню моўных адзінак у мове супастаўлення.

## Літаратура


1. Стернин, И. А. Контрастивная лингвистика. Проблемы теории и методики исследования / И. А. Стернин. – М., 2007. – С. 17.

2. Гак, В. Г. О контрастивной лингвистике / В. Г. Гак // Новое в зарубежной лингвистике. – М., 1989. – Вып. XXV: Контрастивная лингвистика. – С. 9.

3. Конецкая, В. П. Введение в сопоставительную лексикологию германских языков: учеб. пособие / В. П. Конецкая. – М., 1993. – С. 6–7.

4. Штернеманн, Р. Введение в контрастивную лингвистику / Р. Штернеманн // Новое в зарубежной лингвистике. – М., 1989. – Вып. XXV. – С. 152.

5. Штернеманн, Р. Введение в контрастивную лингвистику. – С. 153.

6. Манакин, В. Н. Сопоставительная лексикология / В. Н. Манакин. – Киев, 2004. – С. 300–301.

7. Гвишиани, Н. Б. Контрастивные исследования современных языков и корпусная лингвистика / Н. Б. Гвишиани // Филологические науки. – 2004. – № 1. – С. 61.

8. Стернин, И. А. Контрастивная лингвистика. Проблемы теории и методики исследования. – С. 33.

9. Уфимцева, А. А. Лексическое значение: Принцип семиологического описания лексики / А. А. Уфимцева. – М., 2002. – С. 6.

10. Ярцева, В. Н. Контрастивная грамматика / В. Н. Ярцева. – М., 1981. – С. 16.

11. Соколовская, Ж. П. Система в лексической семантике / Ж. П. Соколовская. – Киев, 1979. – С. 103.

12. Звегинцев, В. А. Теоретическая и прикладная лингвистика: учеб. пособие / В. А. Звегинцев. – М., 2007. – С. 62.

13. Медникова, Э. М. Значение слова и методы его описания: учеб. пособие / Э. М. Медникова. – М., 1974.

14. Мейе, А. Сравнительный метод в историческом языкознании / А. Мейе. – М., 2004. – С. 35.

15. Щерба, Л. В. Русско-французский словарь / Л. В. Щерба, М. И. Матусевич. – М., 1989. – С. 6–7.

16. Сопоставительное исследование русского и украинского языков. – Киев, 1975. – С. 47.

17. Русский семантический словарь. Толковый словарь, систематизированный по классам слов и значений / Ин-т рус. яз. им. В. В. Виноградова РАН; под общ. ред. Н. Ю. Шведовой. – М., 1998. – Т. 1: Слова указующие (местоимения). Слова именующие: имена существительные (Все живое. Земля. Космос). – С. 21.

18. Завьялова, М. В. Исследование речевых механизмов при билингвизме (на материале ассоциативного эксперимента с литовско-русскими билингвами) / М. В. Завьялова // Вопросы языкознания. – 2001. – № 5. – С. 60.

19. Колшанский, Г. В. Объективная картина мира в познании и языке / Г. В. Колшанский. – М., 2005. – С. 61.

20. Кассирер, Э. Избранное. Опыт о человеке / Эрнст Кассирер; пер. с нем. – М., 1998. – С. 596.

21. Гак, В. Г. Очерки по сопоставительному изучению французского и русского языков / В. Г. Гак, Е. Б. Ройзенблит. – М., 1965. – С. 6.

22. Гак, В. Г. Очерки по сопоставительному изучению французского и русского языков. – С. 6–7.

23. Манакин, В. Н. Сопоставительная лексикология. – С. 172.

## Summary

The article is devoted to the consideration of specific of contrastive studies in general and semantic contrastive studies in particular. The systems principle has been substantiated and explicated in the contrastive study of several languages, finding its expression in several interrelated aspects. The necessity of the complex systematic comparison of vocabulary of several languages has been disclosed in the process of explication of the semantic structure of the confronted lexemes. Two levels of integrated comparative study of several languages – the actual semantic and semantic-lexical levels – have been represented in the article.

*Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі*

*16.11.2010 г.*

## *ЭТЫМАЛАГІЧНЫЯ НАТАТКІ*

### БЕЛ. *ПУМПЕРЛІК*‘?’
### (зноў да праблемы вызначэння шляхоў пранікнення запазычанняў)

Лексема *пумперлік* у дачыненні да беларускай мовы зафіксавана толькі ў адной лексікаграфічнай крыніцы – у працы Ф. Шымкевіча «Собрание слов литовско-русского (белорусского) наречия», якая захавалася ў рукапісе і была выдадзена ўжгарадскім мовазнаўцам Барысам Галасам у 1995 г. [1]. З дадзенага выдання яна патрапіла і ў беларускі этымалагічны слоўнік [2] з паметай «няясна». Значэнне наймення *пумперлік* у выданні Б. Галаса зафіксавана як ‘мамотка’ [3], адкуль разам з лексемай перайшло і ў ЭСБМ. Аднак нашы спробы ўстанавіць сэнс самога слова «мамотка» не далі плёну – яно не фіксуецца ні ў беларускіх, ні ў іншаславянскіх крыніцах.

Найбольш верагодным адпаведнікам лексемы *пумперлік*, прынамсі па фармальных прыкметах, з’яўляецца ням. *Pumpernickel* ‘пернік, таўстушка’. Гэта ж адзначаецца і ў ЭСБМ, дзе таксама выказваюцца меркаванні аб магчымай сувязі беларускага слова з укр. *пімперля́* ‘недаростак, малалетка’, запазычанага з заходнеславянскіх моў (польск. *pimperlaj* ‘карлік, карапуз, малеча’, чэш. *pimprle* ‘лялька, марыянетка’, слвц. *pimprlik* ‘тс’), што з ням. *Pimpler* ‘песта, распешчаны чалавек’, *pimpelig, pimperlich* ‘распешчаны’. Дэфініцыю нямецкага слова *Pumpernickel* варта ўдакладніць звесткамі па этымалогіі і гісторыі дадзенага наймення і рэаліі. Згодна з Ф. Клюгэ, слова *Pumpernickel* было ўпершыню зафіксавана ў 1628 г. у якасці вестфальскага лаянкавага выразу, што паходзіць ад ням. *pumpe(r)n* ‘pedere’ (ранне-в.-ням. *pumper* ‘пускаць газы’) і скарочанага асобавага імя *Nickel* (ад *Nikolaus*), што ўжывалася ў значэнні ‘д’ябал, чорт’; *Pumpernickel*, такім чынам, значыла штосьці накшталт ‘чорт-смярдзючка’; у XVII ст. назва была перанесена на цяжкі для пераўлівання жытні хлеб [4]. Іншая пашыраная версія прапануе адваротны напрамак семантычнага развіцця: згодна з ёй, назва вестфальскага цэльназерневага жытняга хлеба пачала ўжывацца ў якасці абразлівага слова ў дачыненні да яго спажыўцоў [5]. Існуе таксама і займальная народная этымалогія слова *Pumpernickel*, якое нібы ўзнікла дзякуючы Напалеону (у іншых варыянтах – звычайнаму французскаму салдату), які, скаштаваўшы грубага вестфальскага хлеба, сцвердзіў, што ён прыдатны толькі для яго каня па мянушцы Ніколь (*C’est bon pour Nicol!*) [6].

Так ці інакш, падаецца цікавым, як гэта адносна новае нямецкае слова (XVII ст.) трапіла ў паўночна-ўсходнюю Беларусь (менавіта гэты рэгіён,

як мяркуецца, паслужыў крыніцай матэрыялу для вакабулярыя Ф. Шымкевіча [7]), набыўшы цьмянае значэнне ‘мамотка’? Версія аб польскім пасярэдніцтве, якая традыцыйна выказваецца пры разглядзе нямецкіх запазычанняў у беларускай мове, падаецца сумніўнай, паколькі ў польскай мове дадзеная лексема была не вельмі пашырана – прынамсі, яе не фіксуе ні слоўнік польскай мовы С. Б. Ліндэ, ні дыялектны слоўнік Я. Карловіча пачатку XX ст. Яна натуецца толькі ў Варшаўскім слоўніку са значэннямі ‘вестфальскі жытні хлеб; пернік’ [8] і ў слоўніку В. Дарашэўскага: польск. *pumpiernikiel* 1. ‘хлеб з жытняй мукі, з мёдам ці патакай, крыху заквашаны, выпякаецца ў форме; звычайна парэзаны і раскладзены ў пачкі’; 2. ‘гатунак сухога печыва з міндалём’ [9]. Аднак зафіксаваная Шымкевічам лексема *пумперлік*, хоць і падобна да польскай формы, мае адрозную фіналь. Затое ў большай ступені яна падобна да чэш. *pumprlík, pumprdlík* ‘маленькі чалавечак’: *To skřítkové vám jsou takoví malí pumprlíci* (*Хохлікі – гэта такія маленькія чалавечкі*) – паводле К. Чапека [10]. Складанае для вымаўлення спалучэнне [-prl-] са складовым [r] у беларускай форме прадстаўлена як [-p’erl-]. Аўтары этымалагічных слоўнікаў чэшскай мовы пакідаюць па-за ўвагай паходжанне чэш. *pumprlík* ‘маленькі чалавечак’. Але ў 1924 г. у часопісе «Naše Řeč» этымалогіі чэш. *pumprlík* прысвечана разгорнутая нататка ў рубрыцы «Hovorna (Форум)» [11]. Краёвы вучоны дарадца Ота Лонч (Otto Lonč) паведамляе, што пад такім імем (*Pumprnikl* альбо *Pumprnákl*) брненскім дзецям вядомы персанаж батлейкі Кашпарэк (постаць, аналагічная Пятрушку), само ж слова аўтар адназначна ўзводзіць да ням. *Pumpernickel*; па звестках іншага аўтара (абазначанага ў нататцы толькі ініцыяламі. – *K. J.*), слова *pumpernickel* у чэшскай мове мае таксама іншае значэнне і абазначае не самы лепшы гатунак пернікаў з начынкай з сушанай садавіны, якія «смачнейшыя (за вестфальскі жытні хлеб. – *А. У.*), але таксама вельмі цяжкія для пераатраўлівання» [12] – параўн. чэш. *pumpernikl*, *pumprnikl* ‘гатунак чорнага жытняга хлеба з цэлых зёрнаў ці жытняй сечкі’, кулінарнае ‘гатунак пернічнага печыва’ [13]. Такім чынам, у чэшскай мове адрозніваюцца назвы для ‘маленькага чалавечка’ (*pumprlík, pumprdlík*) і для печыва (*pumpernickel, pumprnikl*).

Незвычайнае фармальнае падабенства чэшскай лексемы *pumprlík* і слова *пумперлік*, занатаванага Шымкевічам, прывяло нас да здагадкі аб сэнсе апошняга. Верагодна, слова ‘мамотка’, якім акрэсліваецца значэнне лексемы *пумперлік* у рукапісным слоўніку Шымкевіча, варта чытаць як «малютка», г. зн. «маленькі чалавечак». Спалучэнні рукапісных літар «мо» і «лю» надзвычай падобныя, што магло спрычыніць недакладнасць пры падрыхтоўцы лексікаграфічнага помніка да выдання*.

Калі наша гіпотэза слушная, беларуская форма *пумперлік* уяўляе выразны фанетычны і семантычны багемізм. Пры гэтым цьмяным застаецца

* На жаль, пры падрыхтоўцы гэтай нататкі мы не мелі магчымасці працаваць непасрэдна з рукапісам «Собрания слов», таму нашу версію мы пакідаем на ўзроўні гіпотэзы, якая патрабуе пацвярджэння.

шлях, якім гэта слова магло патрапіць у паўночна-ўсходнія гаворкі Беларусі. Ф. Шымкевіч, як і ў больш вядомай сваёй працы «Корнеслов русского языка», у «Собрании слов» прыводзіць іншамоўныя адпаведнікі для беларускіх слоў, пры гэтым адпаведнікі з чэшскай мовы па колькасці займаюць адно з першых месцаў, аднак іх чэшскае паходжанне рэгулярна пазначаецца («богемское»), таму магчымасць блытаніны ў славянскай лексіцы не прымаецца ў разлік. Ды і ў найважнейшай лексікаграфічнай крыніцы па чэшскай мове, якой карыстаўся Шымкевіч – чэшска-нямецкім слоўніку Ё. Юнгмана, – няма ні слова *pumprlík*, ні *pumpernickel*. Найбольш верагодным падаецца, што чэшская лексема трапіла ў беларускую мову пры непасрэдным кантакце носьбітаў моў, якія меў месца на беларускай ці чэшскай тэрыторыі.

М. Гуліцкі адносна «Собрания слов» адзначае, што «ў рукапісе адбілася жывая моўная стыхія першай паловы XIX ст.» [14]. Аналіз слоўніка паказвае, што ў гэтай стыхіі істотную ролю займалі і запазычаныя словы (напрыклад, назвы тканін: *мульта, дрымліх, трып*; іншыя: *пліндра* ‘стрэльба’, *алембік* ‘куб для перагонкі віна’, *архалук* ‘?’, *выльдаморка* ‘невялікая гітара’, *тандэт* ‘?’ і інш.). Іх паходжанне і сэнс не заўсёды відавочныя, а таму ўяўляюць плённы матэрыял для даследавання. Вывучэнне ж этымалогіі слова *пумперлік* паказвае, што не заўжды крыніцу запазычання лексемы можна ўстанавіць, кіруючыся толькі агульнымі тэндэнцыямі ў развіцці лексічнага складу, уласцівымі той ці іншай мове.

*А. М. Ушакевіч (Мінск)*

## Літаратура

1. Собрание слов литовско-русского (белорусского) наречия // Ф. С. Шимкевич як лєксикограф і українськє словникарство (кінєць XVIII – початок XX ст.) / Б. К. Галас. – Ужгород, 1995. – С. 146–180.
2. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. – Мінск, 2005. – Т. 10. – С. 218.
3. Собрание слов литовско-русского (белорусского) наречия. – С. 167.
4. Kluge, F. Etymologisches Wörterbuch der deutchen Sprache / F. Kluge. – Berlin, 1975. – 21. unveränderte Auflage. – S. 570.
5. Klein, E. A comprehensive etymological dictionary of the English language / E. Klein. – Amsterdam; Oxford; New York, 1971. – P. 602.
6. Špumprnákle <...> a pumprnikl // Naše řeč, ročník 8. – Praha, 1924 [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://nase-rec.ujc.cas.cz/archiv.php?art=1182. – Дата доступу: 28.11.2010.
7. Гуліцкі, М. Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX–XX стст.) / М. Ф. Гуліцкі. – Мінск, 1978. – С. 15.
8. Karłowicz, J. Słownik języka polskiego / J. Karłowicz, A. Kryński, W. Niedźwiedzki. – Warszawa, 1912. – T. 5. – S. 433.
9. Doroszewski, W. Słownik języka polskiego / W. Doroszewski. – Warszawa, 1965. – T. VII. – S. 727.
10. Příruční slovník jazyka českého. – Praha, 1944–1948. – D. IV, Č. 2. – S. 552.
11. Špumprnákle <...> a pumprnikl.
12. Špumprnákle <...> a pumprnikl.
13. Příruční slovník jazyka českého. – С. 551.
14. Гуліцкі, М. Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX–XX стст.). – С. 16.

## *КУЛЬТУРА МОВЫ*

# РОДНАЯ МОВА Ў ГАЗЕЦЕ «ЗВЯЗДА»
## (культура слова)

Газета «Звязда» сапраўды з’яўляецца «роднай газетай на роднай мове». Безумоўна, газета змястоўная па друкаваных матэрыялах, якія падаюцца ў адпаведным стылістычным ракурсе – ад афіцыйна-справавога, навуковага, навукова-папулярнага да гутарковага і жартоўнага. Паколькі газетныя матэрыялы – адлюстраванне, адбітак нашага жыцця, то і мова газеты – мова нашага грамадства, нашай працы, нашых узаемадачыненняў з усімі ўласцівымі ёй працэсамі няспыннага развіцця, узбагачэння, змен, у тым ліку і ажыўлення старых слоў.

Трывалае месца на старонках «Звязды»[*] займаюць словы, якія ўжо былі прадметам разгляду, але ў акадэмічныя слоўнікі яшчэ не ўведзены. Лексема ***наступствы***, ужо адзначаная ў «Слоўніку новых слоў беларускай мовы»[**] як ‘вынік’, амаль ва ўсіх ужываннях мае значэнне ‘адмоўныя, непажаданыя вынікі’: «сумныя наступствы», «ліквідацыя наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», «наступствы даўняга ранення», «пераадолець наступствы» і да т. п. ***Насамрэч*** паспяхова ўжываецца замест выразу «на самай справе» як, напрыклад: «хатнія любімцы становяцца насамрэч любімымі і не толькі ў межах аднаго пакоя». Даўно жывуць у вусным маўленні беларускамоўных беларусаў і на старонках газеты ***жарсці*** («жарсці не сціхаюць», «жарсці ўжо адшумелі»), ***гасцёўня*** (ужо пададзена ў БРС-2003), ***складнік.*** Апошняя лексема са значэннем рус. ‘составляющая’ ўпэўнена замяняе лексему ***складальнік***, што ўжываецца ў значэнні рус. ‘составитель’: «Мова – яшчэ адзін складнік фундаменту любой дзяржавы». З такой жа словаўтваральнай мадэллю (дзеяслоў + -нік) уваходзіць ва ўжыванне ў мове газеты ***наведнік***, сустракаючыся часцей за ***наведвальнік***. Тут жа можна ўзгадаць і ***летнік*** ‘летні лагер адпачынку або працы’, які можа стаць чацвёртым амонімам у будучым слоўніку беларускай мовы («Заробкі ў дзіцячых аздараўленчых летніках...»). Відавочна, на ўзор рус. *очередник* стала ўжывацца ў мове ***чаргавік*** ‘той, хто стаіць у чарзе на атрыманне, звычайна, кватэры’.

***Ліст*** як ‘пісьмо’ шырока ўжываецца і фіксуецца ўсімі слоўнікамі, а ***ліставаца, ліставанне*** яшчэ чакаюць свайго пераходу са старонак «Звязды» ў слоўнікі.

---

[*] Разгледжаны нумары «Звязды» за красавік і выбарачна за май 2010 г.

[**] Уласевіч, В. І. Слоўнік новых слоў беларускай мовы / В. І. Уласевіч, Н. М. Даўгулевіч. – Мінск, 2009.

***Адмысловы*** ў беларускай мове абазначае ‘выдатны, цудоўны, непаўторны’, таму ***адмысловец*** мог бы быць носьбітам такіх якасцей, але гэта не ‘спецыяліст’, як часам можна сустрэць і пачуць: «Экскурсаводамі выступаюць як адмыслоўцы ў гэтай прафесіі, так і вядомыя гісторыкі».

Мае права на лексікаграфічнае жыццё слова ***стасункі*** ‘зносіны паміж людзьмі’ («нараджэнне новых ідэй і стасункаў», «тэлефонныя стасункі»). Не раз даводзілася чуць з вуснаў маладых людзей ***стасункавацца*** ‘мець зносіны’ (рускі адпаведнік ‘общаться’). Семантычна празрыстае ***ўнёсак*** («свой унёсак у бяссонніцу робіць і залішняя праца») ужываецца даволі часта.

Не выклікае сумнення правамернасць слова ***працадаўца***, паколькі беларускае ***праца*** шырэйшае па семантыцы і ўжыванні, чым рус. *труд* («Саюз прадпрымальнікаў і працадаўцаў»; «звярнуцца да працадаўцы»).

Некаторыя лексемы, ужываныя радзей, чым вышэйназваныя, адраджаюцца з 30-х гадоў мінулага стагоддзя: ***гаўбец*** ‘балкон’, ***шараговы*** ‘радавы’ («шараговы член партыі»), ***рада*** ‘савет’ («Міжнародная рада»), ***мапа*** ‘карта’ («мапа Беларусі», «мапа гарадоў»), ***выспы*** ‘астравы’ ***(«***Азорскія астравы»), ***адсоткі*** ‘працэнты’(А праз 10 гадоў доля энергіі ад узнаўляльных крыніц павінна скласці 20 адсоткаў у суцэльным энергабалансе). ***Адсоткі***, трэба сказаць, ужываюцца даволі часта, нават у адных артыкулах паралельна з ***працэнтамі***.

Сярод прыметнікаў, утвораных па беларускай словаўтваральнай мадэлі, найбольш пашыраны ў мове «Звязды», як і ў вусным маўленні, ***моладзевы*** (***моладзевая*** акцыя, ***моладзевае*** асяроддзе...). Сустракаецца і прыметнік ***медалёвы*** (не медальны): «самы медалёвы спорт».

Адзначым як пахвальнае імкненне пазбягаць неўжывальных у беларускай мове дзеепрыметнікаў з суфіксамі **-ем-, -ім-, -уч- (-юч-), -ач- (-яч-)**, замяняючы іх прыметнікамі: ***танізавальныя*** сродкі, ***аздабляльныя*** работы, ***ахвотныя*** (не жадаючыя), павіншавала з ***надыходным*** святам; аб’ём ***спажыванай*** ежы, папрасілі з’ехаць са ***здымнай*** кватэры; Дэпутаты падтрымалі законапраект аб ***узнаўляльных*** крыніцах энергіі). Даволі часта дзеепрыметнік ***дзеючы*** замяняецца прыметнікам ***дзейны: дзейная*** праграма, ***дзейнае*** заканадаўства, ***дзейны*** прэйскурант, праект паправак у ***дзейны*** федэральны закон. Трэба сказаць, што ў газеце ўжываюцца амаль што паралельна ***дзейны і дзеючы***.

Слоўнік беларускай літаратурнай мовы можа ўзбагаціцца новымі словамі, утворанымі словаскладаннем (***газаспажыванне, горадаўтваральны, новаабранцы, складанабытавы*** (пра тэхніку), ***чырванакніжны*** (пра дзічыну); словамі-кампазітамі (***крос-культурныя*** – пра стасункі, ***спарынг-партнёры, флорбол***), новымі словамі прэфіксальнага (***падзаробак, супраца, субкантрактацыя***) і суфіксальнага (***кіроўца, моладзевы, прэзентацыйны***) утварэння.

Разгляд эканамічных, сацыяльных, медыка-аздараўляльных праблем не можа не суправаджацца выкарыстаннем адпаведных навуковых тэрмінаў,

што адсутнічаюць у самых поўных слоўніках літаратурнай мовы. Напрыклад, ***дэмеркурызацыя, стрэйчынг, субкантрактацыя, канабіноіды, аўтаімунныя парушэнні, гіпатырэёз, дэнсітаметрыя, фітаэстраге*** і інш.

«Звязда» своечасова, адна з першых, выкарыстоўвае новыя «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», а таксама новыя словаўтваральныя тэндэнцыі ў мове. Так, абмежаванае ўжыванне суфікса **-ір-** ужо часткова адлюстроўвае БРС-2003 пад рэдакцыяй А. І. Падлужнага, а пасля публікацыі адпаведнага параграфа ў Правілах і ў «Звяздзе» чытаем: ***пазіцыянаваць, прэміяваць, трансляваць, трансляваца; эвакуяванне, базаванне, кандыцыянаванне; небутыляваны*** (пра віно).

Старонкі «Звязды» прывучаюць да складанаскарочаных слоў з новым гучаннем: рубрыка «Школа юнкараў», «паўпрад Прэзідэнта на Паўночным Каўказе», генсак і інш.

Выклікае сумненне паслядоўнае напісанне ***бізнэс*** (праз **э**).

Матэрыялы пра моладзевыя клубы адпачынку насычаны адпаведным слэнгам: ***клабер*** ‘член клуба’ (англ. club); ***фэйс-кантроль*** (англ. face ‘твар’); «***перцы***» ‘хлопцы’, «***чыка***» ‘дзяўчына з клуба’; ***афігенны*** ‘выдатны’.

Як характэрную сучасную рысу трэба адзначыць ужыванне поўных дзеепрыметнікаў у ролі выказніка: «Цяпер у адносінах да яго ***ўзбуджаная*** крымінальная справа», «У запланаваным аб’ёме ***праведзеная*** дыспансерызацыя дзяцей», «Мы не ***настроеныя*** прыміracца, ні адзін жыхар дома не пагодзіцца з гэтым» і інш.

Пашырана ўжыванне з прыназоўнікам ***па*** назоўнікаў у месным склоне пры вылучальным значэнні: лідар ***па закупе*** малака, работа ***па мантажы,*** упраўленне ***па наркакантролі, па хакеі*** і інш.

Канчатак назоўнікаў Р. скл. множнага ліку **-аў, -яў** пашыраецца не толькі на назоўнікаў жаночага роду з чыстай асновай на збег зычных: ***акалічнасцяў, дамоўленасцяў, непрыемнасцяў***, але і назоўнікі на *-а*, *-я* без збегу зычных на канцы асновы: ***асобаў, акругаў, мераў, аграсядзібаў, прыладаў***. Такія канчаткі ўласцівы жывой беларускай мове.

Набліжэнне мовы газеты да мовы чытача, часам эмацыянальнай, экспрэсіўнай, так званая дэмакратызацыя, праяўляецца ва ўжыванні эмацыйна афарбаваных лексем: ***зламыснік, прайдзісвет, брыдота, мардабой; прафілоніць*** (Спадар Філонаў ад канкрэтыкі ў лічбах устрымаўся – можна сказаць, «***прафілоніў***»); закуліснае жыццё акцёраў тэатра называецца ***серпентарыем аднадумцаў***; чытачы ***купляюцца на рэкламу, фестываляць***, ёсць сярод іх ***шапаголікі***.

Пэўна, варта звярнуць увагу на адхіленні ад арфаграфічных нормаў (д**а**ўгатэрміновы, Лан**ь**скі сельсавет, н**е**своечасова, праспект Шмі**д**та, рады**ё**нукліды), ад граматычных (трыбуна Палац**у** спорту, ручнікі вытворчасці камбінат**у**, план забудовы горад**у**, з раён**у**, няма прыёмнага пункт**у**). Вельмі частае ўжыванне няпоўнай формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў: «працягласць жыцця ў Заходняй Еўропе, Японіі **вышэй** (трэба –

вышэйшая), чым у былых постсавецкіх рэспубліках»; «кожны наступны год становіцца **лягчэй** (трэба – лягчэйшым), чым папярэдні», «калі зарплата **менш** мільёна (трэба – меншая за мільён) рублёў. А ***какава*** аднойчы была аднесена да мужчынскага роду (вырабляецца з цёртага какава).

У заключэнне варта яшчэ раз падкрэсліць адлюстраванне ў «Звяздзе» жывога маўлення і маўлення беларускамоўнай моладзі. А памылак, тыповых для пісьма большасці рускамоўных беларусаў, трэба пазбягаць.

*Г. Ф. Вештарт (Мінск)*

# АСАБЛІВАСЦІ КАНЧАТКАЎ МНОЖНАЛІКАВЫХ НАЗОЎНІКАЎ У РОДНЫМ СКЛОНЕ

Пытанне аб нарматыўнасці формаў роднага склону множналікавых назоўнікаў застаецца актуальным і сёння. У беларускай лінгвістычнай літаратуры адзначаецца, што множналікавыя назоўнікі не суадносяцца з якім-небудзь граматычным родам і скланяюцца як назоўнікі множнага ліку першага, другога і трэцяга скланенняў. Як вядома, у родным склоне множналікавыя назоўнікі ў беларускай мове маюць канчаткі *-аў (-яў)*, *-оў (-ёў)*, *-эй (-ей)*, *-ай*, нулявы канчатак. Згодна з «Кароткай граматыкай беларускай мовы» выбар таго ці іншага канчатка залежыць ад характару асновы, яе марфалагічнай будовы, месца націску ў зыходнай форме.

З канчаткам *-аў (-яў)* (як у I скланенні) ужываюцца:

1) назоўнікі, аснова якіх заканчваецца збегам зычных: *аліменты – аліментаў, вусны – вуснаў, яслі – ясляў, кадры – кадраў, песты – пестаў, джунглі – джунгляў, манеўры – манеўраў, козлы – козлаў, фінансы – фінансаў, ночвы – ночваў, святцы – святцаў, мошчы – мошчаў, нетры – нетраў, лейцы – лейцаў, апладысменты – апладысментаў, транты – трантаў; кудлаў, красёнцаў, парэнчаў, вальцаў, дроўцаў, дзверцаў, пласкагубцаў, медыкаментаў, будняў, гусляў, цугляў*;

2) усе назоўнікі, аснова якіх заканчваецца на зычны *к* з папярэднім галосным: *скокі – скокаў, уцёкі – уцёкаў, лекі – лекаў, хітрыкі – хітрыкаў, флякі – флякаў, трусікі – трусікаў, ходзікі – ходзікаў; прысмакаў, дрыжыкаў, плечыкаў, субтропікаў, навушнікаў, мудрыкаў, сутокаў*;

3) значная колькасць назоўнікаў з асновай на адзін цвёрды зычны з папярэднім галосным: *усходы – усходаў, прычындалы – прычындалаў, разводы – разводаў, маладажоны – маладажонаў, акуляры – акулраў, забабоны – забабонаў, веды – ведаў, выбары – выбараў, роды – родаў, провады – провадаў, прымы – прымаў, перавыбары – перавыбараў, іспыты – іспытаў, мемуары – мемуараў, мірыяды – мірыядаў, пампасы – пампасаў, палімеры – палімераў; даспехаў, кальсонаў, шараварaў, шораў, сухотаў, цымбалаў, захадаў, сульфідаў, зразаў, кулуараў, дэбатаў, шхераў, пенатаў, дэзідэратаў.*

З канчаткам *-яў* ужываюцца назоўнікі з асновай на адзін мяккі зычны з папярэднім галосным і на *й*: *палаці – палацяў, шалі – шаляў, арэлі – арэляў, гоні – гоняў, гулі – гуляў, тэфтэлі – тэфтэляў, памыі – памыяў, строі – строяў, мроі – мрояў, надоі – надояў; хімікаліяў, абояў, пабояў, пікуляў.* Выключэнне: *вакацыі – вакацый*.

Канчатак *-оў* уласцівы назоўнікам, якія ў зыходнай форме маюць націск на канчатку: *брусы* (спарт.) – *брусоў, ваўчкі – ваўчкоў, трусы – трусоў,*

*абцугі – абцугоў, духі – духоў, камы – камоў, штаны – штаноў, таганы – таганоў, буякі – буякоў, бацькі – бацькоў; азоў, брыжоў, ціскоў, шамкоў, гарадкоў, біткоў, кайданоў, нізоў.*

З нулявым канчаткам (як у II скланенні) ужываюцца множналікавыя назоўнікі з асновай на адзін зычны; большасць з іх мае суфіксы *-ін, -ын, -іц*: *паводзіны – паводзін, хрэсьбіны – хрэсьбін, зносіны – зносін, імяніны – імянін, абставіны – абставін, агледзіны – агледзін, суніцы – суніц, шахматы – шахмат, дровы – дроў; круп, калёс, заручын, завушніц, нагавіц, нажніц, радзін, улазін, хрысцін, запоін, праводзін, загавін, ласін, развалін, драбін, кпін, суадносін, весніц, змовін, рэзгін, нот, небажат, Каляд.*

Аднак у акадэмічных граматыках назіраюцца разыходжанні ў ацэнцы формаў роднага склону гэтай групы. Так, у «Граматыцы беларускай мовы» ёсць наступная заўвага: «Некаторыя назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, сустракаюцца як з канчаткам *-аў*, так і з нулявым канчаткам, праўда, перавага аддаецца першаму з іх: *забабонаў – забабон, латаў – лат, кальсонаў – кальсон*» [1]. Тлумачэнне да тэксту ў якасці заўвагі сведчыць пра пераважнае ўжыванне назоўнікаў з канчаткам *-аў*. У «Беларускай граматыцы» прадстаўлены множналікавыя назоўнікі з асновай на адзін зычны толькі з нулявым канчаткам [2]. «Кароткая граматыка беларускай мовы» канстатуе, што множналікавыя назоўнікі з асновай на адзін зычны ўжываюцца з нулявым канчаткам, але «ў практыцы некаторыя з гэтых назоўнікаў ужываюцца і з канчаткам *-аў*, які мае тэндэнцыю да пашырэння ў сучасным маўленні: *абставінаў, драбінаў, зносінаў, імянінаў, нагавіцаў, нажніцаў, варотаў, канікулаў*» [3]. Няма аднастайнасці падачы формаў роднага склону множналікавых назоўнікаў гэтай групы ў «Слоўніку беларускай мовы» (далей СБМ) і ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (1977–1985) (далей ТСБМ). Напрыклад, у СБМ зафіксаваны з нулявым канчаткам наступныя назоўнікі: *абставіны – абставін, адведзіны – адведзін, адходзіны – адходзін; акцябрын, зносін, лат, імянін, двайнят, агледзін, загавін, закладзін, запоін, круп, радзін, суадносін, улазін, хрэсьбін, весніц, грамніц.* З варыянтнымі канчаткамі адзначаны словы: *уводзіны – уводзін* і *уводзінаў* (але: *паводзін, праводзін*), *канікулы – канікул* і *канікулаў, вілы – віл* і *вілаў; крат* і *кратаў, кпін* і *кпінаў, грымот* і *грымотаў, прысад* і *прысадаў, шат* і *шатаў, нажніц* і *нажніцаў, варот* і *варотаў, панталон* і *панталонаў, даброт* і *дабротаў.*

У ТСБМ словы *ўводзіны, канікулы, вілы, краты, нажніцы, шаты, вароты, панталоны* пададзены толькі з канчаткам *-аў*, але: *прысад, кпін, нажніц,* аднак: *грымот* і *грымотаў.* «Граматычны слоўнік назоўніка» (2008) у падачы формаў роднага склону множналікавых назоўнікаў не адыходзіць ад СБМ.

Трэба адзначыць, што нулявы канчатак у родным склоне ўжываецца, калі назоўнікі спалучаюцца з колькаснымі словамі: *двое грабель, пара калготак, панталон, нажніц.*

У моўнай і маўленчай практыцы, асабліва ў мове мастацкай літаратуры, шырока ўжываюцца формы з канчаткам *-аў*: <...> *падчас панарамных* ***агледзінаў*** *літаратурнага працэсу апошніх дваццаці гадоў* (Полымя. 2009. № 10. С. 174); *Салдаты і афіцэры ў час* ***Калядаў*** *хадзілі ў сваёй звычайнай вайсковай форме па вясковых хатах* (Веды. 18.01.2010); <...> *ён* [Саскавец] *ва ўрадзе Расіі пэўны час вёў пытанні беларуска-расійскіх* ***адносінаў*** (ЛіМ. 1997. № 4. С. 2); *Садзіліся на іх* [коней] *хлапчукі і плавалі, а каб абмацаць дно, трэба было звязаць двое* ***насілаў*** (Полымя. 1997. № 1. С. 26); *Іх* ***адносінаў*** *мы, магчыма, ніколі зразумець не здолеем* (Беларуская думка. 2006. № 5. С. 122); *А ўвогуле, у час* ***канікулаў*** *на сяле працуюць практычна ўсе навучэнцы* (Беларуская думка. 2007. № 1. С. 111); *На сёмы дзень пасля* ***народзінаў*** (ЛіМ. 2000. № 35. С. 14); <...> *сямейна-абрадавыя гульні падчас вяселляў і* ***хрэсьбінаў*** (ЛіМ. 1997. № 35. С. 3); *Прабылі на свяце* ***праводзінаў*** *зімы і сустрэчы вясны да яго заканчэння* (ЛіМ. 2000. № 1. С. 10). У перыядычным друку зафіксаваны такія словаформы, як *узаемінаў, узаемаадносінаў, паводзінаў, зносінаў, правінаў, абставінаў, іспытаў, ножніцаў, шатаў, пакутаў, запросінаў, ардынатаў, драбінаў, нягодаў, імянінаў, суадносінаў, умоваў, грымотаў, варотаў, успамінаў* і інш. Улічваючы шырокае выкарыстанне формаў роднага склону з канчаткам *-аў* і выкладзеныя палажэнні ў «Кароткай граматыцы беларускай мовы», можна абедзве формы, на нашу думку, прызнаць раўназначнымі.

З нулявым канчаткам ужываюцца назоўнікі з асновай на збег зычных, апошні з якіх *к*, калі паміж імі паяўляецца беглы галосны *а*: *суткі – сутак, абіркі – абірак, адведкі – адведак, вышкі – вышак* (насціл), *вячоркі – вячорак, жмуркі – жмурак; братак, высевак, жылак* (сорт тытуню), *зёлак, калготак, палатак, паўсутак, санак, портак, апілак, плавак, попрадак, водведак, веснічак, карунак, пасядзелак, завідак, начовак, прочак, шашак* (гульня), *дажынак, зажынак, памінак.* Разам з тым у СБМ зафіксавана вялікая колькасць такіх множналікавых назоўнікаў толькі з канчаткам *-аў*: *з’едкі – з’едкаў, спіткі – спіткаў, выселкі – выселкаў, ападкі – ападкаў; абдымкаў, абнімкаў, вываркаў* (спец.)*, выпаркаў, каркаў, недапіткаў, недапіўкаў, палітзаняткаў, астанкаў, манаткаў, начаткаў, ачоскаў, водведкаў, запускаў, сумеркаў, падмосткаў, пажыткаў, рэшткаў, пазадкаў.* У СБМ сустракаюцца формы з варыянтнымі канчаткамі: *закосак* і *закоскаў, непаладак* і *непаладкаў, могілак* і *могілкаў, угодак* і *угодкаў*, а таксама формы: *грабель* і *грабляў, ножан* і *ножнаў, красён* і *кроснаў,* але толькі *сянец, канапель, жорнаў.* У ТСБМ зафіксаваны формы: *грабель, ножан, красён, угодак, карункаў,* але *непаладак* і *непаладкаў, могілак* і *могілкаў.*

Варыянтнасць канчаткаў назіраецца ў перыядычным друку і мастацкай літаратуры: <...> *я клыпаю між* ***рэштак*** *раскапанага ў зямлі* <...> *старажытнага горада* (ЛіМ. 1996. № 3. С. 14); *Гэта была яшчэ добрая хата са старога смалістага дрэва – і складалася з двух прасторных пакояў ды* ***сенцаў*** (Маладосць. 1999. № 4. С. 19); *Сырадой пасярод* ***сянец*** *Кацяняты*

*з чаропкі жлукцяць* (М. Аўрамчык); *Але асабліва карысныя экскурсіі для школьнікаў, якія дагэтуль тых жа* ***кроснаў*** *ці боечкі ніколі не бачылі* (Беларуская думка. 2004. № 2. С. 60); *<...> генерал кагосьці палаяў за гэта, маўляў, чым далей ад начальства, тым больш* ***непаладкаў*** (І. Чыгрынаў); *<...> у дзень саракавых* ***угодак****, ён, лежачы на кушэтцы, амаль прапанаваў: «Давай пройдземся па латках ды магазінах* (Г. Марчук); *Андрэй выбраўся з машыны, наблізіўся да варотаў-****веснічкаў*** (І. Капыловіч); *<...> такія ж фіялетавыя, бяздонныя* [вочы], *як у* ***братак****, што распускаюцца на веснавых схілах* (В. Іпатава); *З* ***могілак*** *Ліневіч ішоў побач з Надзеяй* (Ю. Станкевіч); *Сапраўды, гэтак стараліся, столькі патрацілі* ***высілкаў****, і ўсё марна* (В. Быкаў). Як вынікае з прыведзеных вышэй прыкладаў і фактычнага матэрыялу, ва ўжыванні назоўнікаў гэтай групы ў шматлікіх выпадках дапускаецца паралельнае ўжыванне канчаткаў.

Некаторыя множналікавыя назоўнікі ўжываюцца толькі з канчаткам *-аў*, які выступае дыферэнцыятарам пры супадзенні формаў роднага склону множнага ліку і назоўнага склону адзіночнага ліку. Параўн.: *ападкі – з'есці ападак* і *выпала шмат ападкаў, каркі – сесці на карак* і *сусед не даў каркаў прывезці дроў.*

Геаграфічныя назвы, якія ўжываюцца толькі ў форме множнага ліку, у родным склоне маюць тыя ж формы, што і агульныя множналікавыя назоўнікі. Існуюць разыходжанні толькі ў формах тапонімаў, якія канчаюцца на *-ічы (-ычы), -іцы (-ыцы), -аны (-яны), -іны (-ыны), -аты.* У «Кароткай граматыцы беларускай мовы» адзначаецца, што тапонімы на *-ічы (-ычы), -іцы (-ыцы), -аны (-яны), -іны (-ыны), -аты* ў родным склоне ўжываюцца з нулявым канчаткам [4]: *Бялыніч, Жыліч, Асіповіч, Баранавіч, Жыткавіч, Пружан, Бараўлян, Смалявіч, Крывіч, Смілавіч, Дарожкавіч.* «Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы» (2005) сведчыць, што «ў родным склоне множналікавыя тапонімы з націскам на аснове маюць два варыянты канчаткаў*: (каля) Баяр* і *Баяраў, Дзяляціч* і *Дзяляцічаў, Бараўлян* і *Бараўлянаў»* [5].

У вуснай і пісьмовай практыцы назіраецца паралельнае ўжыванне канчаткаў*: вёска Доўгае каля* ***Пружан*** (Маладосць. 2009. № 10. С. 119); *Над дарогай ля* ***Радашковіч*** (Полымя. 2007. № 2. С. 155); *<...> родам са* ***Смілавіч*** (Маладосць. 2009. № 10. С. 135); *Пасля вызвалення* ***Карэлічаў*** (ЛіМ. 1998. № 36. С. 4); *<...> неўзабаве немцы пакінулі Брэст і іншыя мясцовасці аж да* ***Пружанаў*** (Полымя. 1997. № 8. С. 21); *<...> з-пад* ***Бешанковічаў*** (Полымя. 1997. № 3. С. 106); *Любаміру пазваніў з* ***Жыткавічаў*** *бацька* (Полымя. 1995. № 2. С. 23). Нават у адным сказе тапонімы ў родным склоне ўжываюцца як з нулявым канчаткам, так і з канчаткам *-аў*: *Ён выдаў першыя кніжкі твораў Валянціны Макеевай з Горак, Віктара Шышкаўца з* ***Асіповічаў****, Леаніда Ячнева з* ***Клімавіч*** (ЛіМ. 1998. № 36. С. 4). Публіцыстычныя тэксты вызначаюцца большай частотнасцю выкарыстання формаў з нулявым канчаткам. У перыядычным друку, у тэкстах мастацкай літаратуры шырока прадстаўлена варыянтнасць канчаткаў.

З канчаткам *-эй (-ей)* (як у III скланенні) ужываецца невялікая група множналікавых назоўнікаў з націскам на аснове ў назоўным склоне, якія пераходзіць у родным склоне на канчатак: *дзверы – дзвярэй, грудзі – грудзей, сані – саней, сені – сяней, дрожджы – дражджэй, гоні – гоней*, *куры – курэй, палаці – палацей; людзей, бігудзей.*

З канчаткам *-ай* ужываецца множналікавы назоўнік *грошы – грошай.*

Такім чынам, множналікавыя назоўнікі ў родным склоне вызначаюцца разнастайнасцю канчаткаў. Выбар таго ці іншага канчатка залежыць ад характару асновы, яе марфалагічнай будовы, месца націску ў зыходнай форме. У сучаснай моўнай практыцы назіраецца тэндэнцыя да пашырэння канчатка *-аў (-яў).*

*Н. А. Чабатар (Мінск)*

**Літаратура**

1. Граматыка беларускай мовы: у 2 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; рэд.: К. К. Атраховіч (Крапіва), М. Г. Булахаў. – Мінск, 1962. – Т. 1: Марфалогія. – С. 91.

2. Беларуская граматыка: у 2 ч. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; рэд.: М. В. Бірыла, П. П. Шуба. – Мінск, 1985–1986. – Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск / М. В. Бірыла [і інш.]. – 1985. – С. 97.

3. Кароткая граматыка беларускай мовы: у 2 ч. / навук. рэд. А. А. Лукашанец. – Мінск, 2007. – Ч. 1: Фаналогія. Марфаналогія. Марфалогія. – С. 164.

4. Кароткая граматыка беларускай мовы: у 2 ч. – Ч. 1. – С. 164.

5. Арашонкава, Г. У. Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы: Правапіс. Вымаўленне. Націск. Словазмяненне. Словаўжыванне / Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова. – Мінск, 2005. – С. 384.

## *ХРОНІКА*

# ВАЛЯНЦІНА ПЯТРОЎНА ЛЕМЦЮГОВА
## (да 75-годдзя з дня нараджэння)



У снежні 2010 г. адзначыла свой юбілей Валянціна Пятроўна Лемцюгова – выдатны беларускі вучоны, педагог, доктар філалагічных навук, прафесар, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі. Юбілей вядомага вучонага – гэта не толькі значная падзея ў яго асабістым жыцці, але і пэўны этап у развіцці той галіны навукі, якой ён прысвяціў не адно дзесяцігоддзе. Таму мы з поўным правам можам адзначыць, што выдатныя асабістыя навуковыя дасягненні вучонага – гэта і здабыткі ўсёй навуковай галіны, у якой працуе юбіляр.

Нарадзілася В. П. Лемцюгова 19 снежня 1935 г. у вёсцы Новая-Алакуя Паргалаўскага раёна Ленінградскай вобласці ў сям'і беларускіх сялян, якія прыехалі сюды з Магілёўшчыны па вярбоўцы, каб дапамагчы ў арганізацыі ўзорнага калгаса на самай мяжы з Фінляндыяй. У 1940 г. бацька Валянціны Пятроўны загінуў на савецка-фінляндскай вайне. Пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны маці з дзецьмі вярнулася на радзіму. Тут Валянціна Пятроўна закончыла Чавускую беларускую сярэднюю школу і ў 1953 г. паступіла на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля яго заканчэння настаўнічала на Валожыншчыне. Педагагічная кар'ера складвалася паспяхова, але жыццё ўнесла свае карэктывы. У 1961 г. Валянціна Пятроўна пачала сваю навуковую дзейнасць у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа (цяпер – Інстытут мовы і літаратуры НАН Беларусі). Яна прайшла ўсе асноўныя прыступкі сапраўднага навукоўца – ад малодшага навуковага супрацоўніка да доктара філалагічных навук, прафесара. Працуючы над планавай тэматыкай, яна падрыхтавала і абараніла ў 1966 г. кандыдацкую дысертацыю па тэме «Тапанімія Міншчыны», а ў 1987 г. –доктарскую дысертацыю «Восточнославянская ойконимия в ее связи с семантической историей нарицательных названий типов поселений и жилища». У сваіх даследаваннях В. П. Лемцюгова разглядала тапанімічную праблематыку ў шырокай лінгвагістарычнай рэтраспектыве. Аўтарская манаграфія па доктарскай дысертацыі з'яўляецца важкім

укладам у вырашэнне праблемы прарадзімы славян і славянскага этнагенезу ў цэлым.

Значнае месца ў даследаваннях В. П. Лемцюговай займаюць пытанні лексікалогіі і лексікаграфіі. Яна суаўтар шэрагу буйных калектыўных лексікаграфічных прац, такіх як «Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі» (1970), «Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» (1987), «Руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі» (1994). Асобныя слоўнікі (падрыхтаваныя ў суаўтарстве з Г. У. Арашонкавай) адрасаваны выкладчыкам і студэнтам філалагічных факультэтаў, настаўнікам і вучням: «Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы» (1987), «Слоўнік-даведнік «Кіраванне ў беларускай і рускай мовах» (1991), «Кароткі слоўнік беларускай мовы» (1994).

В. П. Лемцюгова – вядучы спецыяліст у галіне анамастыкі. Яна плённа развівае напрамкі анамастычнай школы, заснаванай у 60-я гады мінулага стагоддзя акадэмікам М. В. Бірылам. Неаднаразова прымала ўдзел у ажыццяўленні буйных міжнародных і агульнанацыянальных праектаў: «Анамастыка Пабужжа» ў галіне навуковага супрацоўніцтва з Польскай акадэміяй навук, «Slowianska onomastyka» – агульнаславянскі праект, «Нацыянальны атлас Рэспублікі Беларусь». Ёю распрацаваны тэарэтычныя асновы стандартызацыі беларускіх геаграфічных назваў. Гэтыя распрацоўкі знайшлі шырокае прымяненне пры падрыхтоўцы і выданні розных па тэматыцы і маштабе карт, атласаў. Асобнае месца займае падрыхтаваны пад непасрэдным кіраўніцтвам Валянціны Пятроўны нарматыўны даведнік «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» у 6 кнігах, выдадзены сумесна з Камітэтам па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. Гэта выданне атрымала высокую ацэнку экспертаў камісіі па стандартызацыі пры ААН, якія рэкамендавалі яго ў якасці ўзору для іншых краін.

В. П. Лемцюгова – навуковец з неардынарным мысленнем і наватарскім падыходам да справы. Яна з’яўляецца аўтарам першага ў беларускай і славянскай лексікаграфіі «Украінска-беларускага слоўніка» (1980). Пад яе кіраўніцтвам ажыццёўлена ўнікальнае лексікаграфічнае даследаванне беларускай мовы пачатку XX ст., у выніку якога падрыхтаваны комплекс фундаментальных навуковых прац: «Слоўнік мовы «Нашай Нівы» (1906–1915) у пяці тамах (выйшла два тамы, другі том – у 2007 г.), некалькі манаграфій (Мова «Нашай Нівы». Варыянтнасць. Сінанімія» – выдадзена ў 2005 г., «Мова «Нашай Нівы». Семантыка. Стылістыка тэксту» і «Мова «Нашай Нівы». Сінтаксіс» – рыхтуюцца да друку).

Валянціна Пятроўна вядзе вялікую навукова-арганізацыйную і грамадскую працу: з’яўляецца старшынёй Рэспубліканскай тапанімічнай камісіі пры НАН Беларусі, прымае актыўны ўдзел у дзейнасці Тапанімічнай камісіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь і Тапанімічнай камісіі па найменаванні і перайменаванні вуліц пры Мінскім гарадскім савеце. У 2008 г.

яна выдала кнігу «Тапонімы распавядаюць», у якой у навукова-папулярнай форме распавяла пра паходжанне назваў беларускіх паселішчаў (усяго каля трох тысяч эцюдаў). З 2009 г. у газеце «СБ» Валянціна Пятроўна вядзе сталую рубрыку, у якой выступае з навуковым тлумачэннем паходжання розных прозвішчаў жыхароў Беларусі.

Таленавіты педагог, высокапрафесійны спецыяліст, В. П. Лемцюгова ўнесла значны ўклад у падрыхтоўку навуковых кадраў Рэспублікі Беларусь, выхавала цэлую генерацыю кваліфікаваных моваведаў і спецыялістаў у галіне анамастыкі. Яе вучні працуюць у розных дзяржаўных установах нашай краіны: у Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, у Беларускім дзяржаўным універсітэце імя А. С. Пушкіна, Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Францыска Скарыны, Мінскім лінгвістычным універсітэце, Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя І. П. Шамякіна, Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава, Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя А. А. Куляшова.

Валянціна Пятроўна Лемцюгова карыстаецца шчырай павагай у калег па працы за сваю працавітасць, сціпласць, добразычлівасць, прафесіяналізм і высокую адказнасць. У яе цікавыя творчыя планы і новыя навуковыя задумы. Мы, яе калегі, жадаем юбіляру добрага здароўя, ажыццяўлення задуманага, творчага натхнення і новых навуковых адкрыццяў.

*І. Л. Капылоў, А. М. Анісім, Т. М. Маракуліна (Мінск)*

## РАІСА МІКАЛАЕЎНА МАЛЬКО
## (да 70-годдзя з дня нараджэння)



У канцы 2010 г. кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік аддзела славістыкі і тэорыі мовы Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі адзначыла 70-гадовы юбілей.

Нарадзілася Р. М. Малько 5 снежня 1940 г. у вёсцы Мельшына Болхаўскага раёна Арлоўскай вобласці; у 1947 г. сям'я пераехала ў Бранск. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў 1957 г. паступае на аддзяленне чэшскай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Ленінградскага ўніверсітэта імя А. А. Жданава. Скончыўшы вучобу, са жніўня 1962 г. працуе настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў Высокаўскай васьмігадовай школе (пас. Ябланова) Выбаргскага раёна Ленінградскай вобласці, дзе яна, як адзначалася ў выдадзенай ёй характарыстыцы, праводзіла ўрокі метадычна правільна; ужо тут Раіса Мікалаеўна займалася і грамадскай работай – вяла драматычны гурток пры вясковым клубе, выступала перад насельніцтвам з дакладамі на міжнародныя і педагагічныя тэмы, таму і карысталася там заслужаным аўтарытэтам.

З 15 лістапада 1964 г. займаецца ў вочнай аспірантуры па славянскім мовазнаўстве пры Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. Пад кіраўніцтвам кандыдата філалагічных навук Рэйнгольда Уладзіміравіча Краўчука Р. М. Малько падрыхтавала кандыдацкую дысертацыю на тэму «Назвы рэльефу ў чэшскай і славацкай мовах» і паспяхова абараніла яе, а 30 кастрычніка 1970 г. ёй была прысуджана вучоная ступень кандыдата філалагічных навук. Раіса Мікалаеўна, застаўшыся працаваць у Інстытуце мовазнаўства, цалкам аддаецца навуковай дзейнасці. Ужо першыя яе публікацыі (а ўсяго ёю напісана каля 40 навуковых прац) сведчылі пра тое, што ў навуку прыйшоў настойлівы, актыўны і працаздольны вучоны з пэўнымі навукова-метадалагічнымі пазіцыямі, з глыбокім веданнем прадмета даследавання. У 1974 г. у выдавецтве «Навука і тэхніка» выходзіць яе манаграфія «Геаграфічная тэрміналогія чэшскай і славацкай моў». Аўтар сабраў у ёй багаты матэрыял, выкарыстаўшы ўсе вялікія слоўнікі літаратурных чэшскай і славацкай моў, чатырохтомны чэшска-нямецкі слоўнік Й. Юнгмана, а таксама каля 60 дыялектных слоўнікаў гэтых моў, і правяла даследаванне сабранай лексікі на шырокім славянскім фоне, адзначыўшы багацце і раз-

настайнасць семантычных пераходаў у гэтай лексіка-семантычнай групе, спецыфіку яе ў семантыцы і словаўтварэнні.

Адным з важнейшых аспектаў навуковай дзейнасці Р. М. Малько з’яўляецца ўдзел у стварэнні «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы». Ёю напісаны тысячы артыкулаў у 2, 8–13-м выпусках. Істотным укладам у беларускае мовазнаўства з’яўляюцца асобныя артыкулы, у якіх раскрываюцца сучасныя і старажытныя міжмоўныя кантакты на тэрыторыі Славіі. Прысвечаныя розным галінам мовазнаўства, напісаныя на высокім навуковым узроўні, яны сведчаць аб шырокіх лінгвістычных інтарэсах Раісы Мікалаеўны Малько, аб высокай навуковай сумленнасці і працавітасці. Яна – высокакваліфікаваны ў галіне славянскага і агульнага мовазнаўства эксперт пры абмеркаванні дысертацый, напісанні водзываў на дысертацыі, часта выступае з дакладамі на навуковых канферэнцыях.

Р. М. Малько заўсёды спалучала навуковую дзейнасць з грамадскай работай, якая ў другой палове XX ст. была вельмі неабходнай. Яна часта актыўна выступала перад насельніцтвам Мінска з лекцыямі аб культуры мовы, ніколі не замыкалася ў вузкім коле асабістых інтарэсаў, а шчодра дзялілася і дзеліцца сваімі ведамі і багатым вопытам з калегамі, за што яе любяць і паважаюць.

Сябры, калегі па працы шчыра жадаюць Раісе Мікалаеўне моцнага здароўя і новых навуковых поспехаў.

*І. І. Лучыц-Федарэц (Мінск)*

## МІКАЛАЙ ПАЎЛАВІЧ АНТРОПАЎ
## (да 60-годдзя з дня нараджэння)



У канцы лістапада 2010 г. вядомаму беларускаму вучонаму – славісту, этымолагу, дыялектолагу, загадчыку аддзела славістыкі і тэорыі мовы Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі кандыдату філалагічных навук, дацэнту Мікалаю Паўлавічу Антропаву споўнілася 60 гадоў.

Нарадзіўся Мікалай Паўлавіч 30 лістапада 1950 г. у Мінску, у 1973 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, адслужыў у войску і прыйшоў на працу на родны факультэт. Выкладанне шматлікіх курсаў спрыяла назапашанню ведаў, уменню працаваць у аўдыторыі і рыхтавала маладога філолага да надзейнага ўваходжання ў навуку. Творчая ж біяграфія вучоных так ці інакш звязваецца з тэмай кандыдацкай дысертацыі, а ў многіх з яе і пачынаецца. Напісаная ж не толькі з адказнасцю, але і з душой, дысертацыйная праца закладвае і фарміруе ў даследчыку тую стартавую пляцоўку, якая змяшчае ў сабе і валоданне матэрыялам, і так званыя фонавыя веды, і арыентаванне ў сваёй спецыяльнай і сумежнай літаратуры, і пэўныя метадалагічныя навыкі. Мікалай Паўлавіч, хоць і меў да таго часу шэраг публікацый на розныя тэмы, стартаваў у навуцы з працай «Беларускія назвы птушак на агульнаславянскім фоне», навуковым кіраўніком якой выступіў вядомы славіст Адам Супрун. Дысертацыя была прадстаўлена ў двух тамах і ўключала ў сябе важкі дадатак – «Этымалагічны слоўнік беларускіх назваў птушак». І гэты навуковы старт быў настолькі ўдалым і вызначальным, што кожны з элементаў ужо самой назвы кандыдацкай дысертацыі атрымаў у далейшым творчым шляху вучонага працяг і развіццё.

Беларуская мова і фальклор – вось той нязменны аб’ект увагі вучонага, тая без усялякага пафасу крыніца, з якой пульсуе яго насычанае творчае жыццё. Мікалай Паўлавіч доўгі час працаваў у Навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору і дыялекталогіі філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Адтуль і распачалося не проста знаёмства з песнямі ці абрадамі беларусаў, але глыбокія і пранікнёныя веды традыцыйнай духоўнай культуры. Важна і тое, што першымі ў поле даследчага зроку вучонага трапілі такія архаічныя і поўныя міфалагічнымі сэнсамі абрады, як

«Ваджэнне і пахаванне стралы» і «Ваджэнне Куста» [1]. Даследаванне гэтых палескіх з'яў скіроўвала ўвагу маладога вучонага на запаветную зону Палесся. У Мікалая Паўлавіча ўжо тады атрымлівалася не проста разам разглядаць, але і аналізаваць вербальныя і абрадавыя тэксты як дзве ўзаемазвязаныя маніфестацыі адзінай вуснай традыцыі.

Назвы – найменні, імёны, а папрост словы як згорнутыя тэксты, вузельчыкі на нітках зносін і разумення. Менавіта СЛОВЫ знаходзяцца ў цэнтры ўвагі ўсёй філалагічнай дзейнасці вучонага. А як жа іначай, бо М. П. Антропаў у сваіх артыкулах падае нам той ці іншы факт культуры і разгортвае яго гісторыю менавіта праз слова, яго этымалогію і шляхі развіцця. Якраз беларуская і славянская этымалогія з'яўляюцца важкім напрамкам навуковай дзейнасці і па сёння: з 2000 г. ён з'яўляецца сталым аўтарам, а з 11-га тома адказным рэдактарам «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы». Рэдактарская праца над слоўнікам у спалучэнні з надзейнымі этнакультурнымі ведамі сталі добрым падмуркам пры напісанні шэрагу артыкулаў, прысвечаных этымалагічным пошукам [2]. І сапраўды, толькі этымалагічны экскурс можа дапамагчы ў адказе на такое цікавае пытанне: «Радуга радует, радуется, родит или крадёт?», пастаўленае Мікалаем Паўлавічам у дакладзе на Другім кангрэсе фалькларыстыў у Маскве.

Вучоны, аднак, добра ўсведамляе, што слова мае не толькі сваю гісторыю, але і сталае месца жыхарства, нягледзячы на магчымыя падарожжы і нават міграцыі. Удзел у шматгадовым акадэмічным праекце «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак», распрацоўка шэрагу картаў і каментарыяў да іх, у цэлым праца ў аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа садзейнічалі грунтоўнай дыялекталагічнай падрыхтоўцы вучонага. Добры ўнёсак аказалі і частыя працяглыя выезды ў фальклорныя, дыялекталагічныя, этналінгвістычныя экспедыцыі па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Палявы матэрыял стаў найбагацейшай базай новых даных, якія ў далейшым леглі ў аснову глыбокіх даследаванняў.

Агульнаславянскі фон – тыя веды, без якіх немагчыма было этымалагізаваць і апісаць беларускія назвы птушак. Ад часу напісання кандыдацкай дысертацыі Мікалай Паўлавіч удасканальвае і пашырае свае веды ў галіне славянскага мовазнаўства. Шчырага захаплення варты той факт, што вучоны чытае на ўсіх славянскіх мовах і аперыруе ў сваіх доследах данымі з усіх славянскіх зон. Балгарскія, славацкія, славенскія, сербскія, македонскія, польскія кірункі даследаванняў знайшлі адлюстраванне ў шэрагу публікацый [3]. Паказальна пры тым, што пазабеларускія паралелі служаць надзейнай і даволі прадуктыўнай базай для рэканструкцыі беларускіх даных, фіксаваных у адзінкавых запісах. Да прыкладу, супастаўленні беларускай Камаедзіцы з паўднёваславянскімі «мядзведжымі» днямі дазволілі зрабіць шэраг цікавых высноў адносна самога матыву пераадольвання аб'ектам (калісьці, верагодна, татэмам) розных відаў сітуацыі каляндарнага пераходу [4].

Птушкі, нарэшце, як непасрэдны аб’ект дысертацыйнага даследавання, сталі затым героямі асобных пранікнёных этымалагічных і фалькларыстычных доследаў [5]. Аднак менавіта ў кандыдацкай дысертацыі ўпершыню ў беларускім мовазнаўстве ім распрацавана і рэалізавана арыгінальная методыка анамасіялагічнага даследавання назваў жывых істот на базе параўнання этымалогіі номенаў з уласна таксанамічнымі характарыстыкамі асобных відаў. Асаблівы рэзананс выклікала публікацыя «По следам одной «птичьей» этимологии» ў прэстыжных маскоўскіх «Балта-славянскіх даследаваннях» (2008).

М. П. Антропаў – славіст, этымолаг, дыялектолаг, фалькларыст. І ўсюды – цікавыя знаходкі і грунтоўныя працы. Але ёсць галіна мовазнаўства ці, шырэй, нарадазнаўства, дзе Мікалай Паўлавіч не толькі безумоўны лідар, але і праўдзівы пачынальнік. Гэта этналінгвістыка. У 1984 г. пачынае кіраваць спецсемінарам «Актуальныя праблемы беларускай і ўсходнеславянскай гістарычнай этналінгвістыкі» на філалагічным факультэце БДУ. І ў тым жа годзе з групай студэнтаў далучаецца да Палескай экспедыцыі Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Акадэміі навук СССР. Знаёмства, а затым цёплыя сяброўскія адносіны з Мікітам Ільічом Талстым, які ўзначальваў экспедыцыю, са Святланай Міхайлаўнай Талстой, з яго тады яшчэ вучнямі, а зараз буйнымі расійскімі вучонымі Т. А. Агапкінай, В. У. Бяловай, А. В. Гурой, А. Л. Тапарковым, працягваюцца і па сёння. Тады ж сумесныя выправы, бясконцыя абмеркаванні і нават спрэчкі з самых розных экспедыцыйных знаходак сталі для маладога даследчыка неацэннай школай майстэрства і крыніцай творчага натхнення.

У дзейнасці семінара, які працаваў на працягу 10 гадоў, рэалізоўваліся два кірункі: экспедыцыйны і даследчы. У рамках першага штогод праводзіліся экспедыцыі напачатку пераважна ў Заходнім Палессі (матэрыял уключаўся ў Палескі архіў Інстытута славяназнаўства), а затым па ўсёй Беларусі з мэтай стварэння архіва «Беларускага этналінгвістычнага атласа» (БЭЛА). Да гэтага часу па адзінай праграме аказаліся даследаванымі больш за 550 населеных пунктаў Беларусі. Створаны архіў атласа з дапаможнымі картатэкамі.

Мікалай Паўлавіч – добразычлівы і ў той жа час вельмі патрабавальны настаўнік. Яшчэ ў часы працы ў спецсемінары пад яго кіраўніцтвам падрыхтавана больш за 30 дыпломных прац, якія тычыліся практычна ўсіх сфер сучаснай этналінгвістыкі. У 1995 г. паспяхова абараніла кандыдацкую дысертацыю «Паўднёваславянска-ўсходнеславянскія этналінгвістычныя паралелі ў сферы сямейнай абрадавай тэрміналогіі (на матэрыяле вясельнага абраду)» І. М. Сухавіцкая, а ў 2004 г. у час працы М. П. Антропава на кафедры рускай мовы і літаратуры факультэта навук і мастацтваў Эрджыескага ўніверсітэта (Турцыя) пад яго кіраўніцтвам магістарскую дысертацыю па турэцка-рускай фразеалагічнай эквівалентнасці абараніў Мустафа Яшар.

Ужо па назвах і тэмах этналінгвістычных прац вучонага можна прасачыць кірункі, падыходы, багацце тэм, сюжэтаў і вобразаў і наогул шырыню і нават прывабнасць этналінгвістычнай праблематыкі. Мікалай Паўлавіч скрупулёзна разбіраецца ў нюансах абрадавай тэрміналогіі і дэманалагічнай наменклатуры; фактычна распачынае (а гэта значыць распрацоўвае метадалагічны апарат) этналінгвістычную геаграфію і арэалогію. Складаныя тэарэтычныя пытанні ўзнімаліся ім у артыкулах з праблемнымі назвамі «Этналінгвістычная эквівалентнасць у эўрыстычным люстры» [6]; «Міжкультурная аманімія як дамінанта этналінгвістычнага параўнання» [7]. Асобна хацелася б спыніцца на распачатай вучоным серыі артыкулаў пад назвай «Беларускія этналінгвістычныя эцюды». Пакуль іх з'явілася толькі два: 1. *Калода / калодка* і 2. Выкліканне дажджу (акцыянальны код). Аднак пад такой паэтычнай шыльдай эцюдаў перад намі праўдзівыя ўзоры падобнага роду доследаў. Менавіта ўзоры, бо за імі неверагодна багаты факталагічны матэрыял, строга вывераная і прадуманая метадалогія, надзвычай крапатлівая праца картаграфавання.

Хочацца спыніцца і яшчэ на адным навуковым захапленні вучонага. Мікалай Паўлавіч – без перабольшванняў самы буйны спецыяліст Славіі ў галіне плювіяльнай магіі. Пад гэтым не заўсёды зразумелым словазлучэннем – «плювіяльная магія» – разумеецца надзвычай глыбокі ў сваёй архаіцы комплекс веравнняў, вербальных тэкстаў і акцыянальных захадаў, звязаных з метэаралагічнымі ўяўленнямі беларусаў. Забяспечанасць рэдкім па сваёй паўнаце аўтэнтычным экспедыцыйным матэрыялам і несумненныя аналітычныя здольнасці аўтара, глыбокія веды фальклору і міфалогіі славян абумовілі высокі кшталт этналінгвістычных «плювіяльных» пошукаў. Сярод асабліва паказальных артыкулаў «Кодовая структура белорусских обрядов и ритуалов, связанных с вызыванием дождя»; «Суицидальное поле в этнолингвистическом пространстве традиционных метеорологических представлений белорусов» [8].

Асаблівае месца ў спісе этналінгвістычных публікацый вучонага займаюць глыбока наватарскія артыкулы «Надзённая задача беларускай этналінгвістыкі», «Беларускі этналінгвістычны атлас: гісторыя, архіў, вынікі і перспектывы», дзе не толькі выказаны ідэі аб гэтым фундаментальным праекце, але і прапанаваны шляхі і метады яго канкрэтнай рэалізацыі.

Заслуга М. П. Антропава і ў тым, што дзякуючы яму сама дысцыпліна этналінгвістыка набыла інстытуцыянальны статус, калі ў 2008 годзе ў падначаленым яму аддзеле славістыкі і тэорыі мовы Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы быў створаны сектар этналінгвістыкі і фальклору.

Пацвярджэннем кваліфікацыі вучонага з'яўляецца ўдзел у трох сталых камісіях Міжнароднага камітэта славістаў – этналінгвістычнай, этымалагічнай і «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа». У Інстытуце мовы і літаратуры, навуковых колах краіны і замежжа М. П. Антропаў карыстаецца

аўтарытэтам і павагай як вядомы навуковец з глыбокімі ведамі ў розных галінах філалагічных навук, цікавы суразмоўца, калега, заўсёды гатовы даць параду і аказаць дапамогу. Пра высокі аўтарытэт даследаванняў Мікалая Паўлавіча сведчыць шырокая геаграфія публікацыі яго работ: яны выходзілі ў Беларусі, Расіі, Украіне, Польшчы, Славеніі, Славакіі, Балгарыі, Македоніі, Эстоніі, ЗША. Даклады Мікалая Паўлавіча на навуковых канферэнцыях нязменна прыцягвалі і прыцягваюць увагу вастрынёй пастаўленых праблем, выклікалі і працягваюць выклікаць ажыўленыя дыскусіі ў славістычным друку, спрыяюць пастаноўцы новых задач і вырашэнню многіх спрэчных пытанняў у галіне этымалогіі і этналінгвістыкі. Наогул, трэба падкрэсліць талент М. П. Антропава прадстаўляць Беларусь на шматлікіх міжнародных форумах. Дзякуючы яго бліскучым выступленням і актыўным удзелам у дыскусіях у многіх еўрапейскіх краінах з’яўляюцца новыя зацікаўленыя беларускай праблематыкай.

Моцнага Вам здароўя, плённай працы на шчодрай ніве беларусістыкі і славістыкі!

*Т. В. Валодзіна*

## Літаратура

1. Антропов, Н. П. О пространственно-временных границах обряда «куста» / Н. П. Антропов, Р. М. Ковалева // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1980. – № 3; Антропов, Н. П. К истории и этимологии обрядового термина *сула* / Н. П. Антропов // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1987. – № 1.

2. К этимологии белорусских словарных уникализмов // Palaeoslavica / International Journal for the Study of Slavic Medieval Literature, History, Language and Ethnology. – Cambridge; Massachusetts, 2004. – Vol. XII, № 1. – С. 137–153; Этымалагічныя нататкі. 1 // Сучасныя праблемы беларускага мовазнаўства: да 75-годдзя Ін-та мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. – Мінск, 2005.

3. Белоруско (полеско)-български етнолингвистични съответствия в областта на плувиалната магия // Българска етнография. – 1989. – Кн. 1; Этнолингвистический аспект польско-белорусско-русских связей // Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства// Матэрыялы Першай усесаюз. навук. канф. – Віцебск, 1990; Этимолого-этнолингвистический комментарий к некоторым терминам сербской свадебной обрядности // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1991. – № 1 (разам з І. Сухавіцкай); Беларуска-славацкія этналінгвістычныя паралелі ў сферы традыцыйнай міфалогіі на агульнаславянскім фоне // XI medzinárodný zjazd slavistov: Zborník resumé. – Bratislava, 1993; Традиционная картина мира в белорусско-болгарской этнолингвистической призме // Южнославянские языки в их истории и современном состоянии: сб. науч. ст. – Минск, 2007; Беларуска-македонскія сыходжанні ва ўсходнеславянска-паўднёваславянскай этналінгвістычнай прасторы // Мовазнаўства. Літаратуразнаўства. Фальклор: дакл. беларускай дэлегацыі на XIV з’езд славістаў. – Мінск, 2008.

4. Белорусская этнокультура и южнославянский контекст: результативность сравнения // Етнолингвистичка проучвања српског и других словенских језика – У част академика Светлане Толстоја: зб. радова. – Београд, 2008; Белорусская *комоедица* на фоне южнославянских «медвежьих» дней и ритуалов // Славянские языки: аспекты исследования: сб. науч. ст. / под общ. ред. Е. Н. Руденко. – Минск, 2009.

5. По следам одной «птичьей» этимологии // Балто-славянские исследования. XVIII: сб. науч. тр. – М., 2008; Орнитонимические реминисценции: дубонос и удод // Поліські зворини: зб. пам'яті професора Миколи Васильовича Никончука. – Житомир, 2007.

6. Славянские языки: системно-описательный и социокультурный аспекты исследования: материалы Междунар. науч.-метод. конф.: в 2 ч. – Брест, 2006. – Ч. 1. – С. 69–73.

7. Slavistika v premenách času (štúdie z jazykovednej a literárnovednej komparatistiky): zb. príspevkov z medzinárodnej vedeckej konferencie. – Prešov, 2009. – S. 144–152.

8. Etnolingwistyka / Problemy języka i kultury. – Lublin, 2004. – T. 16. – S. 241–256; Кодови словенских култура / Смрт. Бр. 9. – Београд, 2004. – С. 189–207.

**МІХАІЛ РАМАНАВІЧ СУДНІК**
**(да 100-годдзя з дня нараджэння)**



21 лістапада 2010 г. споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага лінгвіста, буйнога арганізатара беларускай навукі, члена-карэспандэнта АН БССР Міхаіла Раманавіча Судніка.

Нарадзіўся М. Р. Суднік у вёсцы Пяцюлёва Полацкага раёна Віцебскай вобласці. Сялянскае асяроддзе, працоўны побыт беларускай вёскі, народныя традыцыі, бурнае нацыянальнае жыццё пачатку XX ст. паўплывалі на фарміраванне асобы Міхаіла Раманавіча. На ўсіх этапах доўгага і вельмі няпростага жыцця яго заўсёды вызначалі такія чалавечыя якасці, як сумленнасць, працавітасць, адказнасць за справу, добразычлівасць і патрабавальнасць да сябе, калег і сяброў, спагадлівасць, любоў да роднай зямлі і імкненне працаваць на карысць свайго народа, роднай беларускай мовы і культуры. Добра ўсведамляючы прыярытэты нацыянальна-культурнага жыцця беларускага народа, М. Р. Суднік назаўсёды звязаў свой лёс з высакароднай працай настаўніка, а пазней – вучонага-лінгвіста. Закончыў Полацкі педагагічны тэхнікум, Мінскі педагагічны інстытут. Працаваў намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце ў дзіцячым гарадку вёскі Быкаўшчына былога Ветрынскага павета, загадчыкам навучальнай часткі і выкладчыкам мовы і літаратуры ў Віцебскім педагагічным вучылішчы.

У гады Вялікай Айчыннай вайны М. Р. Суднік настаўнічаў на Тамбоўшчыне і ў Кіргізіі. З ліпеня 1943 г. працаваў у апараце Наркамасветы БССР. У 1944 г. па рашэнні Савета Народных Камісараў БССР яго накіравалі ў Акадэмію навук БССР для ўкладання «Руска-беларускага слоўніка». З гэтага часу ўсё жыццё вучонага было звязана з беларускім мовазнаўствам і з акадэміяй навук. Дасканала валодаючы мовай сваіх бацькоў, тонка адчуваючы багацце і прыгажосць беларускага слова, ён у значнай ступені (разам з калегамі) здолеў правільна вызначыць галоўныя аспекты нармалізацыі слоўнікавага складу беларускай мовы, нарматыўна замацаваць у слоўніку і нацыянальна адметнае і адлюстраваць агульныя тэндэнцыі папаўнення слоўнікавага складу мовы ў другой палове XX ст., асабліва ў сферы навуковай тэрміналогіі, дзе асабліва неабходна суадноснасць з міжнароднай інтэрнацыянальнай тэрміналогіяй у розных галінах ведаў і вытворчасці. Сваю разнастайную і шматгранную навуковую дзейнасць М. Р. Суднік на працягу

некалькіх дзесяцігоддзяў плённа спалучаў з вялікай навукова-арганізацыйнай і грамадскай дзейнасцю. Ён займаў пасады вучонага сакратара Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва (1948–1951), Інстытута мовазнаўства (1951–1952), загадчыка сектара тэрміналогіі (кастрычнік 1951–1956), дырэктара Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі і адначасова загадчыка аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі (чэрвень 1957 – люты 1985). Менавіта ў гэтыя гады адбывалася станаўленне Інстытута мовазнаўства як галоўнай навукова-даследчай установы краіны, у якой праводзіліся планамерныя навуковыя даследаванні па беларускай мове і славянскім мовазнаўстве. На пасадзе дырэктара інстытута М. Р. Суднік шмат увагі ўдзяляў падрыхтоўцы навуковых кадраў, фарміраванню новых навуковых напрамкаў. У гэты перыяд у інстытуце разгарнуліся шырокамаштабныя даследаванні беларускіх народных гаворак, ствараліся першыя акадэмічныя граматыкі беларускай мовы, пачалася праца над гістарычным і этымалагічным слоўнікамі беларускай мовы. Безумоўна, сярод гэтых праектаў, якія маюць агульнанацыянальнае культурна-навуковае значэнне, адметнае месца займае праца па стварэнні першага ў беларускай лексікаграфіі нарматыўнага «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» ў пяці тамах, шасці кнігах (1977–1984), якой вучоны аддаў увесь свой талент даследчыка-лексікографа і вопыт арганізатара лінгвістычнай навукі. Менавіта даследаванні Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі ў гэты перыяд вывелі беларускую лінгвістыку на перадавыя пазіцыі славянскага мовазнаўства.

Навуковыя інтарэсы М. Р. Судніка як лінгвіста знаходзіліся перш за ўсё ў сферы беларускай лексікаграфіі, дзе ён праявіў сябе і як даследчык-тэарэтык, і як практык, прымаючы непасрэдны ўдзел у стварэнні многіх слоўнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Вучоны таксама плённа займаўся праблемамі беларускага правапісу, навуковай тэрміналогіі, антрапанімікі. Вынікам тэарэтычных росшукаў у галіне беларускай гістарычнай лексікаграфіі стала кандыдацкая дысертацыя «Да гісторыі беларускай лексікаграфіі XVI–XVII стст.», якую даследчык паспяхова абараніў у 1953 г. Прызнаннем вялікага ўкладу М. Р. Судніка ў развіццё беларускага мовазнаўства стала абранне яго ў 1970 г. членам-карэспандэнтам НАН Беларусі. З яго імем звязаны ўсе буйныя слоўнікі беларускай мовы, падрыхтаваныя ў Інстытуце мовазнаўства ў пасляваенныя гады. Яны забяспечылі беларускай мове статус высокаразвітой літаратурнай мовы з багатым слоўнікавым складам, якая можа паспяхова абслугоўваць усе камунікатыўныя патрэбы сучаснага грамадства.

Першай самастойнай лексікаграфічнай распрацоўкай вучонага стаў «Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы», падрыхтаваны ў суаўтарстве з М. П. Лобанам і выдадзены ў 1948 г. Гэты слоўнік вытрымаў шэраг перавыданняў і быў шырока запатрабаваны перш за ўсё ў практыцы школьнага навучання. Ён стаў настольнай кнігай і практычным дапаможнікам для многіх пакаленняў беларускіх школьнікаў і настаўнікаў. Міхаіл Раманавіч Суднік – адзін

з пачынальнікаў і асноўных укладальнікаў «Руска-беларускага слоўніка». Праца над ім пачалася яшчэ ў 1944 г., а выйшаў даведнік у 1953 г. пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы і П. Глебкі. Гэтая фундаментальная і ўнікальная па сваім характары і аб'ёме фактычнага матэрыялу праца стала адметнай з'явай у беларускай лінгвістыцы, дзе практычна былі вырашаны многія тэарэтычныя праблемы беларускага мовазнаўства другой паловы XX ст., у прыватнасці нармалізацыі слоўнікавага складу беларускай літаратурнай мовы, навукова-тэхнічнай тэрміналогіі, беларускай арфаграфіі.

Пасля была не менш адказная і плённая праца над «Беларуска-рускім слоўнікам» (1962; 3-е выд. 2003). Стварэнню гэтага слоўніка папярэднічала вялікая праца па ўсебаковым даследаванні мовы беларускай мастацкай, публіцыстычнай, навукова-папулярнай літаратуры, якая была праведзена менавіта пад кіраўніцтвам М. Р. Судніка.

Наступным этапам у лексікаграфічнай дзейнасці М. Р Судніка можа лічыцца праца над першым у гісторыі беларускай лексікаграфіі найбольш поўным нарматыўным «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы». Гэты слоўнік адлюстраваў лексіку беларускай літаратурнай мовы другой паловы XX ст. і сёння застаецца найбольш аўтарытэтным даведнікам па беларускай мове. Вучоны быў ініцыятарам і адным з асноўных стваральнікаў аднатомнага «Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы» (1996; 5-е выд. 2005), над якім нястомна працаваў да апошніх дзён свайго жыцця.

Пяру М. Р. Судніка належыць і яшчэ адна ўнікальная па сваім характары лексікаграфічная праца – «Слоўнік асабовых уласных імён» (1965; 2-е выд., дапрац. 2005). Гэты слоўнік стаў фактычна першым у беларускім мовазнаўстве нарматыўным даведнікам, у якім сабраны практычна ўсе вядомыя ў Беларусі мужчынскія і жаночыя ўласныя імёны. Слоўнік мае арыгінальную структуру і ўключае беларуска-рускую і руска-беларускую часткі, а таксама ўстарэлыя і новыя рэдкаўжывальныя імёны. Ён і цяпер застаецца асноўным нарматыўным даведнікам для работнікаў аддзелаў загс, натарыяльных кантор, пашпартных сталоў і інш.

Міхаіл Раманавіч прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы такіх прац, як «Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі», «Руска-беларускі слоўнік па механіцы грунтоў і фундаментабудаванню», «Атлас БССР (беларуска-руская геаграфічная наменклатура)» і інш. У складзе міжнароднага славістычнага навуковага калектыву ўдзельнічаў у падрыхтоўцы чатырнаццацімоўнага «Слоўніка славянскай лінгвістычнай тэрміналогіі» (Прага, 1977–1979. Т. 1–2).

Тэарэтычную і практычную лексікаграфічную дзейнасць М. Р. Суднік гарманічна спалучаў з працай па ўдасканаленні беларускага правапісу. Навуковай грамадскасці нашай краіны добра вядомы артыкулы вучонага, прысвечаныя праблеме гісторыі фарміравання арфаграфічнай сістэмы беларускай мовы, яе асноўным прынцыпам. Ён – адзін з укладальнікаў поўнага зводу «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959), які лёг у аснову

новай рэдакцыі «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», што ўступіла ў дзеянне з 1 верасня 2010 г.

Вялікую ўвагу ў сваёй дзейнасці М. Р. Суднік аддаваў умацаванню і пашырэнню навуковых сувязей з вучонымі іншых славянскіх краін. Як старшыня Беларускага камітэта славістаў (1959–1985) і член Міжнароднага камітэта славістаў (1973–1985), а таксама член Камісіі па славянскай лінгвістычнай тэрміналогіі ён годна прадстаўляў нашу краіну і беларускую лінгвістыку ў гэтых аўтарытэтных міжнародных славістычных арганізацыях. Можна без перабольшання сцвярджаць, што ўся дзейнасць яго ў Міжнародным камітэце славістаў была накіравана на павышэнне міжнароднага прэстыжу беларускай мовы, беларускага мовазнаўства і беларускай славістыкі ў цэлым.

Пра грамадскае прызнанне заслуг М. Р. Судніка перад беларускім народам сведчаць ордэн «Знак пашаны», медалі, званне заслужанага дзеяча навукі БССР і інш. У Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца светлая памяць пра Міхаіла Раманавіча як пра высокаінтэлігентнага, добразычлівага і спагадлівага чалавека, таленавітага вучонага-лінгвіста, які ўсё сваё жыццё прысвяціў беларускай мове і беларускаму народу.

*Дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа
і Янкі Купалы НАН Беларусі А. А. Лукашанец (Мінск)*

# МІЖНАРОДНАЯ РАБОЧАЯ НАРАДА ПА АГУЛЬНАСЛАВЯНСКІМ ЛІНГВІСТЫЧНЫМ АТЛАСЕ Ў САФІІ (26 ВЕРАСНЯ – 3 КАСТРЫЧНІКА 2010 г.)

Чарговая нарада Міжнароднай камісіі і міжнароднай рабочай групы АЛА пры МКС адбылася з 26 верасня па 3 кастрычніка ў Балгарыі (Сафія). У ёй прынялі ўдзел 37 навукоўцаў з 12 краін: **Беларусь** – М. Антропаў, Л. Кунцэвіч, В. Русак, А. Чарняўскі; **Балгарыя** – К. Дэйкава, А. Кяева, М. Троева; **Германія** – С. Вёльке; **Македонія** – У. Гайдава, В. Лаброўска, М. Маркавіч, С. Міленкоўска; **Польшча** – Я. Ванякова, І. Далінскі, Д. Рамбішэўска, Я. Сяткоўскі; **Расія** – Ж. Варбат, Т. Вендзіна, Л. Калнынь, С. Кананава, У. Пыхаў; **Сербія** – М. Белецiч, С. Міларадавіч, С. Рэмецiч; **Славакія** – П. Жыга, А. Феранчыкава, М. Хахол; **Славенія** – Я. Гасценчнік, К. Кенда-Еж, В. Смоле, М. Шэклі; **Украіна** – П. Грыцэнка, Г. Кабірынка; **Харватыя** – М. Ланчарыч, М. Менац-Міхаліч, А. Цэлініч; **Чэхія** – М. Ірэінава.

Нарада праходзіла ў Доме навукі Балгарскай акадэміі навук. На пленарным пасяджэнні ўдзельнікаў нарады віталі намеснік старшыні Балгарскай акадэміі навук член-карэспандэнт БАН А. Атанасаў, старшыня Балгарскага нацыянальнага камітэта славістаў член-карэспандэнт Т. Баяджыеў, дырэктар Інстытута балгарскай мовы В. Райноў і старшыня Балгарскай нацыянальнай камісіі АЛА М. Троева. Усе адназначна падкрэслілі, што АЛА з'яўляецца буйнейшым навуковым міжнародным праектам, які ўносіць значны ўклад у развіццё славістыкі.

Са справаздачамі аб рабоце нацыянальных камісій за мінулы год выступілі старшыні нацыянальных камісій АЛА В. Русак, М. Троева, С. Вёльке, М. Маркавіч, Я. Ванякова, Л. Калнынь, С. Міларадавіч, А. Феранчыкава, К. Кенда-Еж, М. Менац-Міхаліч, П. Грыцэнка, М. Ірэінава. Члены ўсіх камісій працавалі ў двух секцыях: лексіка-словаўтваральнай і фанетыка-граматычнай, а таксама ў камп'ютарнай падсекцыі і падсекцыі марфаналагічнай транскрыпцыі. Удзельнікі нарады правялі кансультацыі і знялі пытанні па матэрыялах чарговых выпускаў АЛА, якія рыхтуюцца нацыянальнымі камісіямі да друку.

Польская нацыянальная камісія правяла прэзентацыю апублікаванага дзявятага выпуску лексіка-словаўтваральнай серыі АЛА «Чалавек». Прафесар Я. Сяткоўскі расказаў аб рабоце над выпускам, ахарактарызаваў структуру выпуску, яго праблематыку, а таксама прадэманстраваў шэраг картаў наватарскага характару. Пры абмеркаванні выпуску ўсе адзначылі, што ён падрыхтаваны на даволі высокім навуковым узроўні і з'яўляецца важкім укладам у развіццё тэорыі і практыкі славянскай лінгвагеаграфіі.

Пяць картаў і матэрыялы да іх падрыхтаваны беларускай нацыянальнай камісіяй.

На адным з пасяджэнняў македонская нацыянальная камісія прадставіла пробны лексічны том «Македонскага дыялекталагічнага атласа», каля вытокаў якога стаяў акадэмік Б. Відоескі. У абмеркаванні тома прынялі ўдзел М. Антропаў, П. Грыцэнка, П. Жыга, Я. Сяткоўскі, якія аднадушна адзначылі, што гэта праца адкрывае новыя перспектывы асэнсавання матэрыялу, адлюстраванага на картах Атласа.

Чэшская нацыянальная камісія прадэманстравала новую канцэпцыю замацаванага за ёй выпуску фанетыка-граматычнай серыі АЛА «Рефлексы *tort, *tolt, *tert, *telt». У выніку шырокага абмеркавання (выступілі Я. Ванякова, Т. Вендзіна, П. Жыга, М. Ланчарыч, С. Міларадавіч, А. Чарняўскі, В. Смоле і інш.) была прапанавана іерархічная сістэма графічнага прадстаўлення на картах разнапланавага фанетычнага матэрыялу.

Беларуская нацыянальная камісія прапанавала канцэпцыю падрыхтоўкі выпуску «Рэфлексы *a», прадставіла легенды і пробныя карты да выпуску, якія былі адобраны іншымі камісіямі.

На адным з пашыраных пасяджэнняў фанетыка-граматычнай секцыі было праведзена абмеркаванне шэрагу картаў замацаванага за славацкай нацыянальнай камісіяй выпуску фанетыка-граматычнай серыі «Назоўнікі». Прафесар П. Жыга падрабязна ахарактарызаваў матэрыял, прадстаўлены на картах. Пры абмеркаванні выступілі М. Маркавіч, С. Рэмецiч, С. Вёльке і інш., якія прапанавалі марфаналагічную інтэрпрэтацыю матэрыялу, пададзенага ў легендах да картаў.

На заключным пленарным пасяджэнні Міжнароднай камісіі АЛА быў прыняты план пасяджэнняў на наступныя 5 гадоў, план падрыхтоўкі да публікацыі чарговых выпускаў АЛА. Старшынёй Міжнароднай камісіі АЛА Т. Вендзінай была выказана прапанова: паскорыць работу над падрыхтоўкай да друку чарговых выпускаў АЛА, замацаваных за нацыянальнымі камісіямі.

Для ўдзельнікаў нарады балгарская нацыянальная камісія прапанавала шырокую культурную праграму, якая дазволіла калегам-славістам бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй і сучасным жыццём Балгарыі.

Наступнае пасяджэнне Міжнароднай камісіі па Агульнаславянскім лінгвістычным атласе пры Міжнародным камітэце славістаў адбудзецца ў верасні 2011 года ў Маскве.

*Л. П. Кунцэвіч (Мінск)*

## МІЖНАРОДНАЯ НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ «БЕЛАРУСКАЯ АНАМАСТЫКА. ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ»

20 красавіка 2010 г. у Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя «Беларуская анамастыка. Гісторыя і сучаснасць». У мерапрыемстве прынялі ўдзел больш за 60 вучоных з розных рэгіёнаў Беларусі, Расіі, Украіны і Польшчы. Сваю ўвагу даследчыкі сканцэнтравалі на абмеркаванні такіх праблем анамастычнай навукі, як стандартызацыя беларускіх уласных геаграфічных назваў; упарадкаванне нацыянальнай антрапаніміі; гістарычнае і гісторыка-этымалагічнае вывучэнне ўласных імён; анамастыкон і нацыянальная культура; анамастычны арэал; рэгіянальная анамастыка; анамастычная прастора мастацкага тэксту; уласнае імя ў сацыякультурнай прасторы.

Канферэнцыю адкрыў дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, член-карэспандэнт НАН Беларусі Аляксандр Аляксандравіч Лукашанец. Ён адзначыў, што правядзенне Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Беларуская анамастыка. Гісторыя і сучаснасць» з'яўляецца значнай навуковай падзеяй, якая будзе садзейнічаць актывізацыі даследаванняў у гэтай надзвычай важнай, складанай і актуальнай сферы беларускага мовазнаўства і сучаснай моўнай практыкі. Асаблівую ўвагу А. А. Лукашанец звярнуў на тое, што канферэнцыя паспрыяе пашырэнню тэматыкі XV з'езда славістаў, які пройдзе ў 2013 г. у Мінску. На думку дырэктара інстытута, на чарговым славістычным форуме варта было б абмеркаваць такія пытанні тэарэтычнай і прыкладной анамастыкі, як перадача ўласных імён з іншых моў на беларускую, стандартызацыя онімаў, адраджэнне страчаных гістарычных назваў і інш.

На пленарным пасяджэнні свае навуковыя даклады прадставілі вядомыя беларускія вучоныя: Г. М. Мезенка (Віцебск) «Беларуская анамастыка ў XXI стагоддзі: праблемы, перспектывы», В. П. Лемцюгова (Мінск) «Беларуская айканімія як аб'ект навукі і практыкі», В. В. Шур (Мазыр) «Беларуская літаратурная анамастыка: яе дасягненні, праблемы і перспектывы», Т. Р. Трафімовіч (Мінск) «Антрапанімічная «канва» судовых запісаў і праблема функцыянавання старабеларускіх антрапонімаў», В. А. Ляшчынская (Гомель) «Фразеалагізмы з кампанентам-тапонімам ці адтапонімным прыметнікам – знакі мовы і культуры», Р. М. Казлова (Гомель) «Бел. *Вяда, Свяда,* руск. *Вяда* (арэал, фанетыка, храналогія)». Даследчыкі з прыемнасцю адзначалі, што Міжнародная навуковая канферэнцыя «Беларуская анамастыка. Гісторыя і сучаснасць» аднаўляе традыцыі шырокага навуковага абмерка-

вання праблем беларускай анамастыкі менавіта ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, паколькі апошняя такая канферэнцыя «Праблемы беларускай тапанімікі» адбылася ў Інстытуце мовазнаўства ў 1967 г.

Кансультант упраўлення картаграфіі і геаграфічных інфармацыйных сістэм Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь Н. Р. Аўраменка ў сваім дакладзе «Праблемы і вырашэнне праблем у галіне нацыянальнай стандартызацыі назваў геаграфічных аб’ектаў Рэспублікі Беларусь» агучыла кола праблем у сферы нацыянальнай стандартызацыі назваў геаграфічных аб’ектаў краіны, а таксама выказала словы падзякі супрацоўнікам Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі за дапамогу ў стварэнні серыі нарматыўных даведнікаў «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» (па шасці абласцях).

Абмеркаванне пытанняў унармавання беларускага анамастыкону атрымала лагічны працяг падчас правядзення ў рамках канферэнцыі круглага стала на тэму «Праблемы стандартызацыі нацыянальнай анамастыкі». Вострую дыскусію выклікалі выступленні А. І. Копача «Выданне інструкцыі па перадачы тапонімаў у міжнародных крыніцах як важны этап працэса стандартызацыі нацыянальных геаграфічных імён», І. А. Гапоненка «Сучаснае скланенне беларускіх прозвішчаў (праблемы і перспектывы нармалізацыі)», П. М. Давідоўскага «Перадача беларускіх онімаў графічнымі сродкамі лацінскага алфавіта: маштаб праблемы», І. Л. Капылова «Праблема ўнармавання назваў вуліц Мінска», І. В. Бародзіч «Некаторыя праблемы ў галіне назваў геаграфічных аб’ектаў Рэспублікі Беларусь», А. М. Анісім «Назвы чыгуначных станцый як аб’ект тапаніміі».

На секцыйных пасяджэннях «Беларуская тапаніміка. Гісторыя і сучаснасць», «Беларуская антрапаніміка. Гісторыя і сучаснасць», «Літаратурная анамастыка» працягвалася абмеркаванне агульных і прыватных пытанняў развіцця беларускай анамастычнай навукі. Шырыню праблемнага поля канферэнцыі ілюструюць таксама назвы некаторых прадстаўленых на секцыях дакладаў: «Асаблівасці словаўтварэння ойкадамонімаў» (Н. А. Багамольнікава, Гомель), «Гістарычная тапаніміка: сучасны стан і перспектывы даследавання» (І. Л. Капылоў, Мінск), «Тапанімія Заходняга Палесся ў этналінгвістычным аспекце» (Т. М. Аліферчык, Мінск), «Семантычныя тыпы ўзвышшаў у тапаніміі старабеларускіх пісьмовых помнікаў» (В. У. Міцкевіч, Мінск), «Антрапанімікон г. Жлобіна (2002–2008 гг.)» (А. А. Станкевіч, Гомель), «Уласнае імя ў батанічных назвах (з этымалагічных назіранняў)» (В. В. Маршэўская, Гродна), «З антрапаніміі Дзісеншчыны. Дэрывацыйны аспект» (М. Н. Крыўко, Мінск), «Да пытання аб паходжанні імён *Вера, Надзея, Любоў*» (В. В. Герасімовіч, Мінск), «Напісанне імён гістарычных дзеячаў Беларусі і герояў літаратурных твораў XI–XVIII стст.: да пастаноўкі праблемы» (С. Л. Гаранін, Мінск), «Генезіс імёнаў вялікіх князёў літоўскіх» (А. У. Бразгуноў, Мінск), «Загаловак публіцыстычных тэкстаў газеты «Наша Ніва»: структурны і функцыянальны аспекты» (Т. М. Маракуліна,

Мінск), «Анамастычная прастора перакладнога мастацкага твора» (К. Л. Хазанава, Гомель).

Міжнародная навуковая канферэнцыя «Беларуская анамастыка. Гісторыя і сучаснасць» засведчыла, што развіццё і паглыбленне даследаванняў у гэтай галіне айчыннага мовазнаўства з’яўляецца важнай і актуальнай задачай, якая мае не толькі чыста навуковыя мэты, але і выразныя практычныя вынікі. Мерапрыемства яшчэ раз пацвердзіла неабходнасць стварэння агульнанацыянальнай праграмы па сістэмным і сістэматычным збіранні, упарадкаванні і даследаванні ўсіх пластоў анамастычнай лексікі, па выпрацоўцы найбольш адэкватных і абгрунтаваных рэкамендацый для сферы анамастычнай практыкі.

Тэксты дакладаў і паведамленняў удзельнікаў Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Беларуская анамастыка. Гісторыя і сучаснасць» склалі аднайменны зборнік матэрыялаў, які выйшаў з друку ў выдавецтве «Права і эканоміка».

*В. А. Шклярык, Н. А. Снігірова (Мінск)*

# МІЖНАРОДНЫ НАВУКОВЫ СІМПОЗІУМ «ПРАСЛАВЯНСКАЯ ДЫЯЛЕКТЫЗАЦЫЯ Ў СВЯТЛЕ ЭТЫМАЛАГІЧНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ» (ЛЮБЛЯНА, 16–18 ВЕРАСНЯ 2010 г.)

16–18 верасня 2010 г. у Любляне (Рэспубліка Славенія) адбыўся Міжнародны навуковы сімпозіум «Праславянская дыялектызацыя ў святле этымалагічных даследаванняў», прысвечаны стагоддзю з дня нараджэння выдатнага славенскага вучонага-лінгвіста, аднаго з буйнейшых славянскіх этымолагаў, акадэміка Францэ Бязлая. Сімпозіум, арганізацыйны камітэт якога ачолілі старшыня Этымалагічнай камісіі Міжнароднага камітэта славістаў (ЭК МКС) прафесар Аленка Шывіч-Дулар і прафесар Метка Фурлан, быў сумесна арганізаваны пад патранатам ЭК МКС Інстытутам славенскай мовы імя Франа Рамоўша Навукова-даследчага цэнтра Славенскай акадэміі навук і мастацтваў і аддзяленнем славістыкі філасофскага факультэта Люблянскага ўніверсітэта.

Адкрыццё (фактычна пленарнае пасяджэнне) і ўсе рабочыя пасяджэнні сімпозіума праходзілі ў адным з найбольш урачыстых памяшканняў галоўнага корпуса Люблянскага ўніверсітэта – Актавай зале (Zbornična dvorana). Навуковую сустрэчу адкрыў 16 верасня намеснік старшыні Славенскай акадэміі навук і мастацтваў акадэмік Каятан Гантар (Kajetan Gantar), які падрабязна распавёў аб жыццёвых і навуковых пуцявінах акадэміка Ф. Бязлая. З віншавальнымі словамі ў адрас прысутных выступілі таксама рэктар Люблянскага ўніверсітэта прафесар Радаван С. Пяёўнік (Radovan S. Pejovnik), дэкан філасофскага факультэта прафесар Валянцін Буцік (Valentin Bucik), дырэктар аддзялення славістыкі дацэнт Мікалай Еж (Nikolaj Jež). Прывітальнае слова дырэктара Інстытута славенскай мовы прафесара Марка Сноя (Marko Snoj) з’явілася фактычна першым навуковым дакладам сімпозіума, таму што было прысвечана падрабязнаму і выключна кваліфікаванаму этымалагічнаму аналізу славенскага антрапанімічнага прозвішча *Bezlaj*.

У сімпозіуме прынялі ўдзел і выступілі з дакладамі 27 славістаў (пераважна этымолагаў) з 9 краін: Балгарыі, Беларусі, Македоніі, Польшчы, Расіі, Сербіі, Славеніі, Украіны і Чэхіі, – прычым значная частка прысутных вучоных прадстаўляла калектывы, што працуюць над этымалагічнымі слоўнікамі, падрыхтоўка і выданне якіх працягваецца, менавіта балгарскім, беларускім, праславянскім (Кракаў), сербскім, славянскіх моў (Масква) і старажытнаславянскім (Брно).

Асноўны кірунак сімпозіума, звязаны з дыялектызацыяй (і дыялектнасцю) праславянскай мовы, абмяркоўваўся выступоўцамі ў некалькіх аспектах, з якіх найбольш агульны характар мелі даклады, прысвечаныя якраз

фарміраванню і статусу яе дыялектнай структуры. На падставе аналізу самага球 рознага матэрыялу аб гэтым гаварылі Аленка Шывіч-Дулар (Любляна; «Тэарэтычныя і метадалагічныя падставы этымалагічных даследаванняў і праславянская дыялектызацыя»), Любоў Куркіна (Масква; «Да праблемы інтэрпрэтацыі лексічных ізаглос») і Жана Варбат (Масква; «Значэнне ўстанаўлення ўтваральных асноў лексем славянскіх моў для меркавання пра дыялектны стан праславянскай мовы»). У дакладзе Генадзя Цыхуна (Мінск) «Эксклюзіўныя міжславянскія ізалексы і праславянская арэальная структура» быў прапанаваны прынцыпова іншы падыход да праблемы рэканструкцыі праславянскай моўнай прасторы, менавіта арэальны – з вызначэннем цэнтра (цэнтральнай зоны) і перыферыі (зоны «рассейвання») асобных праславянскіх моўных з’яў.

Найбольш старажытныя албанска-славянскія (праславянскай эпохі) моўныя дачыненні разглядзеў у сваім дакладзе «Аб паўночных індаеўрапейскіх сувязях албанскай мовы» Ваня Станішыч (Белград).

У больш абмежаваным плане, што тычылася як метадалагічнага, так і фактаграфічнага аспектаў акрэсленай тэмы, праблему разглядалі Мікалай Антропаў (Мінск; «Праславянскія дыялектызмы ў «Этымалагічным слоўніку беларускай мовы»), Хрысціна Дэйкава (Сафія; «Дыялектная дыферэнцыяцыя ў рамках праславянскай арніталагічнай сістэмы»), Марыя Рачава (Сафія; «Да праславянскай дыялектызацыі ў этымалагічным даследаванні колераазначэнняў», менавіта з асновамі *_las_- і *_last_-), Іржы Рэйзак (Прага; «Найменні з інтэнсіўнай рэдуплікацыяй у чэшскай мове і іншых славянскіх мовах»), Метка Фурлан (Любляна; «Архаізмы і дыялектызацыя» на прыкладзе апазіцыі *_pravъ_/*_desnъ_), Матэй Шэклі (Любляна; «Альпійскаславянскае і панонаславянскае ў славенскай мове»), Марыёла Якубовіч (Кракаў; «Даследаванне семантычнага развіцця праславянскіх лексічных сямей пасля распаду праславянскай» – кантынуантаў *_rychlъ_ і *_kyprъ_). Аб моўнай (= славянскай дыялектнай) і шчыльна звязанай з ёй анамасіялагічнай шматвектарнасці кантынуантаў праславянскіх *_gribъ_ і *_korbьji_ пераканаўча гаварыў Аляксандр Лома (Белград; «Архаізм і інавацыя, кампазіцыя і дэрывацыя»). Даклады з выразным семантычным складнікам этымалагічнага даследавання прадставілі этымолагі з Брно Ілона Янышкава («Да лексіка-семантычнага поля ‘смярдзець, пахнуць’ у славянскіх мовах (матывацыйныя асновы)» і Хелена Карлікава («Выяўленне канцэпту «вялікі» ў старачэшскай мове і яго эквіваленты ў славянскіх мовах»). Цікавую дыскусію выклікала выступленне Вацлава Блажэка (Брно) з дакладам «Hippologica Slavica» (найменні «каня» ў славянскіх мовах)», у якім прапанаваліся «далёкія» індаеўрапейскія і неіндаеўрапейскія рэканструкцыі адпаведных праславянскіх лексем *_konjь_, *_komonjь_, *_kobyla_ і г. д. У пэўнай ступені прымыкалі да паведамленняў гэтага кірунку даклады Елкі Ячавай-Улчар (Скоп’е; «Аб этымалогіі і структуры некаторых nomina agentis у славянскіх мовах») і Багуміла Астроўскага (Кракаў; «Ратацызм (Спроба акрэслення прычын з’явы)»).

Другі змястоўны блок паведамленняў, якія прагучалі падчас сімпозіума, быў уласна этымалагічным. Патрыярх сучаснай славянскай этымалогіі Тодар Тодараў (Сафія) выступіў з дакладам «Праславянскае **stąpiti*, яго вытворнае **jьzstąpiti* і паходжанне балгарскіх дзеясловаў *стъпѝсвам се, изстъпѝсвам се*». Асобныя пытанні такога ж кшталту былі пастаўлены ў дакладах белградскіх этымолагаў Марты Белеціч (Белград; «Аб лексічнай сям'і прасл. **brъstь*/**brъstъ* «пупышка, парастак»«) і Ясны Влаіч-Попавіч «Прасл. **p(r)ętro* 'гара (паддашак)', 'бэлька', 'сушня' ці 'камора (кладоўка)'?», а таксама Святланы Талстой (Масква) «К семантической реконструкции слав. **vesel-* и **rad-*» і кракаўскай славісткі Ядзвігі Ваняковай «Славянскія назвы раслін у святле этымалагічных даследаванняў (на выбраных прыкладах)» аб назвах адуванчыка, трыпутніка і незабудкі.

Тапанімічны кірунак у сучасных этымалагічных даследаваннях быў прадметам падрабязнага разгляду ў некалькіх дакладах, з якімі выступілі Ліляна Дзімітрава-Тодарава (Сафія; «Тапанімічныя матэрыялы Францэ Бязлая і іх значэнне для тлумачэння этымалогіі балгарскіх тапонімаў славянскага паходжання»), Віктар Шульгач (Кіеў; «Аб адным з выпадкаў дэлабіялізацыі ў славянскіх мовах (лексічная сістэма *L'ud-* > *Lid-*)»), Алена Беразовіч (Екацерынбург; «Да семантыка-этымалагічнай інтэрпрэтацыі адтапанімічных утварэнняў (на матэрыяле гнязда *'Русь, рускі'* ў рускіх і славянскіх дыялектах)») і Сілва Торкар (Любляна; «Корань **l'ub-* у славенскай тапаніміі (у славянскім кантэксце)»).

У другой палове дня 17 верасня вучоныя прынялі ўдзел ва ўрачыстым адкрыцці мемарыяльнай дошкі акадэміку Францэ Бязлаю на доме, дзе ён жыў. Адразу пасля гэтага адбылася навукова-пазнавальная экскурсія ў Рыбнішку даліну, менавіта ў сяло Рашчыца на радзіму славенскага першаасветніка і друкара Прымажа Трубара; там знаходзіцца яго мемарыяльны музей. Экскурсія прадоўжылася ў сяле Хравача, дзе ўдзельнікі сімпозіума агледзелі сядзібу выдатнага славенскага славіста канца XIX – пачатку XX ст. патэра Станіслава Шкрабца.

Тут жа ў культурным цэнтры адбылося пасяджэнне Этымалагічнай камісіі Міжнароднага камітэта славістаў. Пасяджэнне вялі старшыня камісіі Аленка Шывіч-Дулар і намеснік старшыні Генадзь Цыхун. Былі разгледжаны пытанні практычнай работы камісіі на перыяд да чарговага XV з'езда славістаў, які адбудзецца ў Мінску ў 2013 г., план канферэнцый з удзелам камісіі, а таксама прапановы па арганізацыі і навуковым кірунку тэматычнага блока па этымалогіі падчас з'езда.

*М. П. Антропаў (Мінск)*

## *РЭЦЭНЗІІ*

### MIROSŁAW JANKOWIAK. GWARY BIAŁORUSKIE NA ŁOTWIE W REJONIE KRASŁAWSKIM. STUDIUM SOCJOLINGWISTYCZNE. – WARSZAWA, 2009. – 248 s.

Рэцэнзуемая праца з'яўляецца працягам шырокага кола даследаванняў польскай славістычнай школы, прысвечаных вывучэнню пагранiччаў з улікам іх нацыянальнай, рэлігійнай і моўнай спецыфікі. За апошняе дзесяцігоддзе польская дыялекталогія папоўнілася сацыялінгвістычнымі працамі Э. Смулковай, К. Марыты, А. Зелінскай, М. Аструўкі і інш. Малады польскі славіст М. Янковяк заняўся даследаваннем беларускіх гаворак на тэрыторыі Латвіі з пункту гледжання сацыялінгвістыкі і тэорыі моўных кантактаў. Ён даследаваў некалькі населеных пунктаў Краслаўскага раёна: Каплаву, Педрую, Індру. У манаграфіі прадстаўлены аналіз камунікатыўных сітуацый і сфер сацыяльнага жыцця, у якіх функцыянуюць беларускія дыялекты побач з іншымі мовамі дадзенага рэгіёна (латышскай, польскай, рускай мовамі, а таксама латгальскай гаворкай). У працы М. Янковяка змяшчаецца вялікая гістарычная частка, у якой тлумачацца лінгвістычныя працэсы, што адбываюцца ў мове мясцовага насельніцтва, сацыяльна-гістарычнымі ўмовамі. Носьбіты беларускай мовы падзелены на тры сацыяльныя групы: карэнныя беларусы (народжаныя ў Латвіі), беларусы, якія прыбылі з Заходняй Беларусі ў міжваенныя часы, і мігранты з усходняй часткі Беларусі (асноўная хваля – пасля 1945 г.). Такім чынам, даследчык параўноўваў дыялектныя рысы маўлення мясцовых беларусаў і беларусаў-мігрантаў з розных рэгіёнаў нашай краіны.

Асноўнай мэтай манаграфічнага даследавання з'явілася вызначэнне ступені функцыянавання беларускіх гаворак у полілінгвістычнай сітуацыі ў Краслаўскім рэгіёне. Беларускай мове не адзін дзясятак гадоў спадарожнічаюць на ўзгаданым абшары латышская мова, латгальскія гаворкі, лакальны варыянт рускай мовы, паўночны варыянт польскай мовы (так званая пальшчызна крэсова), а таксама ў меншай ступені польская літаратурная і беларуская літаратурная мовы. Гістарычныя ўмовы спрыялі таму, што ў пэўныя часы ўзгаданыя мовы мелі розны прэстыж і ахоплівалі розныя сферы жыцця лакальных груп, што насялялі Краслаўскі рэгіён. Аналіз сацыялінгвістычнай сітуацыі з дапамогай методыкі *дамэн* з улікам усіх пакаленняў інфарматараў, а таксама храналагічнага аспекту зрабіла магчымым не толькі асвятленне функцыянавання беларускіх гаворак у межах даследуемых

груп насельніцтва, але прадставіла шырокі вобраз усёй сацыялінгвістычнай сітуацыі ў даследаваных мястэчках і вёсках Краслаўшчыны.

На працягу многіх дзясяткаў гадоў беларускія гаворкі ўжываюцца як сродак камунікацыі ў сем'ях і суседскіх адносінах. Яны выкарыстоўваюцца ў якасці прымарнай мовы з пакалення ў пакаленне да сённяшняга дня. У сённяшнія часы яны функцыянуюць ва ўжытку толькі старшага пакалення, якія называюць сваю мову камунікацыі *простай мовай.* Сярэдняе пакаленне, якое ў дзяцінстве ўжывала беларускую гаворку, пасля заканчэння рускамоўных школ стала практычна рускамоўным. Самыя маладыя інфарматары размаўляюць ужо практычна цалкам па-руску, хоць і не маюць ніякіх праблем з разуменнем роднай мовы сваіх дзядоў. У даследаваным рэгіёне значную колькасць насельніцтва складаюць беларусы, таму натуральна, што беларуская гаворка функцыянуе зараз і як сродак міжсуседскіх зносін. Беларусы ўжываюць *простую мову* таксама і ў кантактах з рускамоўнымі асобамі, што тлумачыцца блізкасцю лексічных сістэм беларускіх гаворак і мясцовай разнавіднасці рускай мовы. Самыя старыя інфарматары могуць быць акрэслены як моналінгвы, яны не ведаюць афіцыйнай мовы (латышскай або рускай), таму выкарыстоўваюць сваю гаворку і ў афіцыйных стасунках. *Простая мова* часткова ўжываецца і ў сферы рэлігіі: гэта звязана з выбарам мовы штодзённай малітвы, споведзі і размовы са святарамі. Выключэннем з'яўляюцца парафіі ў Педруі і Індры, у якіх ксёндз ужывае *простую мову* і падчас літургіі. У проціпастаўленні да *простай мовы* сфера ўжывання беларускай літаратурнай мовы была рознай у розныя гістарычныя перыяды. У міжваенныя часы, калі латышскія ўлады спрыялі развіццю нацыянальных меншасцей, у рэгіёне існавалі беларускія школы, выдаваліся беларускамоўныя кнігі і газеты. Беларуская літаратурная мова ўжывалася і падчас нямецкай акупацыі ў Другой сусветнай вайне. Пасля таго як Латвія стала савецкай рэспублікай, беларуская мова перастала функцыянаваць у афіцыйных сферах жыцця грамадства. Мясцовае беларускае несельніцтва мела дачыненне з беларускай літаратурнай мовай толькі праз атрыманне некаторых газет з суседней БССР, а таксама праз карыстанне радыё- і тэлеперадачамі з Мінска. Нягледзячы на тое што пасля атрымання Латвіяй незалежнасці ў 1991 г. сітуацыя з нацыянальнымі меншасцямі палепшылася, у рэчаіснасці сённяшнія інфарматары маюць кантакт з беларускай літаратурнай мовай толькі праз сродкі мас-медыя. Аналіз выбраных моўных рыс паказаў не толькі розніцу ў мове беларусаў-аўтахтонаў і беларусаў-мігрантаў з Заходняй Беларусі, але і зрабіў магчымым даследаванне тых змен, якія закранулі і моўную структуру пад уплывам пастапальнага працэсу русіфікацыі і пераход мясцовай гаворкі ў стан *мяшанай.* Бясспрэчна, больш беларускімі выглядаюць гаворкі беларусаў-мігрантаў, якія прыбылі з паўночных рэгіёнаў Беларусі пасля 1945 г. у параўнанні з маўленнем аўтахтоннага насельніцтва. Колькаснае даследаванне паказала, што маўленне абедзвюх даследаваных груп мае характар мяшаных гаворак, прычым гэта найбольш

відавочна ў мове насельніцтва, якое пражывае ў Латгаліі на працягу некалькіх пакаленняў. Аналіз фанетычных і марфалагічных рыс паказаў, што ў выпадку Краслаўскага рэгіёна і паўночнай Беларусі можна гаварыць аб тым, што інфарматары прадстаўляюць сабой адну лінгвістычную групу, аднак відавочна розніца ў лексіцы. Лексічны склад аўтахтонаў-беларусаў аналагічны лексіцы паўночна-ўсходніх дыялектаў Беларусі, г. зн. вельмі набліжаны і да рускіх гаворак. У маўленні жыхароў, якія прыбылі з Браслаўшчыны і Мёршчыны, захавалася шмат рэгіяналізмаў, характэрных для заходняй Беларусі, якія карэлююць з польскімі дыялектнымі адпаведнікамі.

Асноўным пытаннем, адказ на якое павінна было даць названае даследаванне, – прагноз аб вітальнасці беларускіх гаворак, якія функцыянуюць у настолькі складанай шматмоўнай сітуацыі. Без сумнення, найбольшы ўплыў на якасць *простай мовы* мае распаўсюджанасць рускай мовы, у меншай ступені на яе ўплываюць латышская мова, латгальскія гаворкі і паўночны варыянт польскага дыялекту. Малаверагодна, што ў бліжэйшыя часы дзяржаўная латышская мова выцесніць беларускія гаворкі, у той жа час цалкам рэальна выглядае, што яны ў большасці русіфікуюцца. З дапамогай методык, распрацаваных у *вітальнай этналінгвістыцы*, аўтар выдзяляе два ўзроўні крытэрыяў, якія дапамагаюць вызначыць, наколькі *простая мова* мае шансы захавацца ў будучым:

лінгвістычны крытэрый (наколькі генетычна блізкія мовы, якія ўступаюць у кантакт паміж сабой);

высвятленне, ці білінгвізм (а дакладней дыгласія) уплывае на ўзнікненне канфліктных сітуацый, ці адначасовае функцыянаванне дзвюх моў не выклікае спрэчак;

вызначэнне сфер функцыянавання моў, г. зн. якія сферы жыцця ахопліваюць даследуемыя мовы (фукцыянальны крытэрый);

вызначэнне, ці ў лінгвістычнай сітуацыі даследуемага рэгіёна адбываюцца змены (крытэрый стабільнасці).

Абапіраючыся на працы заходніх сацыялінгвістаў (Дж. Фішмана і інш.), М. Янковяк адзначае, што захаванню мовы ў полілінгвістычнай сітуацыі спрыяе дыгласія, якая захоўваецца на працягу некалькіх пакаленняў, у той жа час адыходжанне ад дыгласіі ў бок білінгвізму або шматмоўя ў асобных сферах жыцця прыводзіць да дамінавання афіцыйнай мовы або мовы з больш высокім прэстыжам.

Другая сфера крытэрыяў належыць да тэорыі этналінгвістычнай вітальнасці. На захаванне мовы маюць уплыў такія фактары, як статус мовы, або яе эканамічны, сацыяльны і сацыягістарычны прэстыж; колькасны стан групы носьбітаў і ступень яе канцэнтраванасці ў рэгіёне; наяўнасць афіцыйных інстытуцый па падтрымцы мовы.

Пры аналізе функцыянавання *простай мовы* ў даследуемым рэгіёне можна зрабіць выснову аб тым, што яе вітальнасці спрыяе перш за ўсё значная колькасць насельніцтва, якое ўжывае штодзённа беларускія гаворкі.

Тры даследаваныя населеныя пункты (у меншай ступені Краслаў) з'яўляюцца рэгіёнамі, у якіх пражывае вялікая колькасць беларусаў; аднак на працягу бліжэйшых гадоў гэты крытэрый страціць сваё значэнне, паколькі асобы сярэдняга пакалення і моладзь ужо пераходзяць або перайшлі на рускую мову.

Не спрыяюць захаванню беларускай гаворкі ў даследаваным рэгіёне наступныя фактары:

генетычная блізкасць беларускіх гаворак і лакальнага варыянта рускай мовы, што прыводзіць да таго, што мясцовыя жыхары натуральным чынам (г. зн. несвядома для саміх сябе) падвяргаюцца дастаткова хуткай русіфікацыі, што найбольш заўважна на лексічным узроўні іх маўлення;

змены лінгвістычнай сітуацыі ў сямейнай і суседскай сферы; старэйшае пакаленне інфарматараў – гэта апошняе пакаленне асоб, якія ўжываюць беларускую гаворку, іх дзеці і ўнукі размаўляюць па-руску;

нізкі прэстыж беларускай гаворкі; нягледзячы на пазітыўнае стаўленне да *простай мовы* саміх субяседнікаў, яны ніколі не прызнавалі за беларускай гаворкай высокага прэстыжу; у Краслаўскім раёне высокі прэстыж (у залежнасці ад афіцыйнай улады) мелі і маюць латышская, руская і польская мовы;

адсутнасць інстытуцыянальнай падтрымкі беларускай мовы; беларускія гаворкі ў Латгаліі, як і на тэрыторыі Беларусі, ніколі не падтрымліваліся з боку афіцыйных інстытуцый; беларуская літаратурная мова таксама ніколі не падтрымлівалася (за выключэннем міжваенных часоў) ні фінансава, ні афіцыйна з боку латышскіх ці польскіх улад. Арганізацыйная і фінансавая слабасць беларускіх суполак у Латвіі, слабая зацікаўленасць з боку беларускай дзяржавы прыводзяць да таго, што ў незалежнай Латвіі, нягледзячы на спрыяльныя юрыдычныя ўмовы, не створаны беларускія школы і інстытуцыя, якія маглі б падтрымаць беларускую культуру.

Як вынікае з прадстаўленых параметраў, вітальнасці беларускіх гаворак як у межах афіцыйных граніц краіны, так і за імі не спрыяе большасць вышэйназваных фактараў. Дзясяткі гадоў паланізацыі, а пасля і моцнай русіфікацыі, да таго ж і цяперашняя палітыка латышскай улады павінны былі ў значнай ступені абмежаваць сферу ўжывання беларускай мовы або спрыяць яе поўнаму знішчэнню. Як паказваюць сучасныя дыялекталагічныя даследаванні, беларускія гаворкі ўсё ж дастаткова шырока функцыянуюць. М. Янковяк адзначае, што ў дачыненні да *простай мовы* варта было б пашырыць канцэпцыю лінгвістычнай вітальнасці і праверыць, наколькі яна можа быць выкарыстана ў дачыненні да беларускага лінгвістычнага абшару. Адным з найважнейшых крытэрыяў *вітальнай этналінгвістыкі* з'яўляецца статус мовы, або прэстыж у эканамічных, сацыяльных і сацыягістарычных адносінах, прычым пад увагу належыць браць прэстыжнасць мовы з пункту гледжання саміх інфарматараў, а не навукоўцаў ці органаў улады.

Аўтар указвае таксама і на некаторыя іншыя фактары, якія спрыялі пашырэнню беларускіх гаворак у Латгаліі.

Беларускую гаворку, у залежнасці ад геаграфічнага палажэння, характарызуе насычанасць лексікай суседняй мовы (дыялекту), у выніку ўтвараецца дасканалы для разумення моўны код, які разумеюць і суседзі (расіяне), палякаў, і ўкраінцаў; практычна ўсе нацыянальнасці, якія насяляюць Краслаўскі рэгіён, выкарыстоўваюць рускую мову, таму нельга гаварыць аб моўным бар'еры ў штодзённым разуменні суразмоўцаў як у прыватнай сферы жыцця, так і ў афіцыйнай. Генетычная блізкасць беларускай і рускай моў прыводзіць да сітуацыі, якую можна акрэсліць як парадыгласію, г. зн. тэндэнцыі да насычэння *простай мовы* рускай лексікай, акрамя таго, беларускай і польскай, у залежнасці ад асобы і тэмы размовы.

Латышская мова вельмі далёкая генетычна ад беларускай, таму яна не ўвайшла трывала ў сямейную сферу і ў сферу суседскіх адносін, акрамя таго, яна вельмі цяжкая для навучання старэйшага пакалення; яе прэстыж з'яўляецца вельмі высокім з пункту гледжання афіцыйных улад, аднак інакш гэты прэстыж выглядае ў рэальнай сацыялінгвістычнай сітуацыі ў Краслаўскім рэгіёне: найбольш распаўсюджанай мовай, у тым ліку і ў працоўнай сферы, застаецца там руская мова; латышская мова не мае тут значнага прэстыжу для беларускага грамадства.

Захаванню *простай мовы* спрыяе стабільная дыгласія, якая ўтрымлівае ецца ў Латгаліі на працягу дзясяткаў гадоў, а таксама бесканфліктнае існаванне многіх моў у рэгіёне.

У выпадку *простай мовы* можна гаварыць аб пэўным парадоксе: з аднаго боку, генетычная блізкасць беларускіх гаворак і рускай мовы (у меншай ступені польскай мовы) прывяла да таго, што праз сотні гадоў наступіла спачатку павольная паланізацыя, а потым вельмі моцная русіфікацыя. Аднак ніколі не даходзіла ні да поўнай русіфікацыі мовы беларускіх вёсак, ні да поўнай беларусізацыі (і засваення беларускай літаратурнай мовы ў якасці роднай). З другога боку, гэтая самая генетычная блізкасць дапамагала на працягу дзясяткаў гадоў захоўваць беларускую гаворку з нязменнай фанетыкай і марфалогіяй, бо была яна зразумела для ўсіх носьбітаў славянскіх моў, якія жывуць у даследаваным рэгіёне.

Несумненна, рэцэнзуемая праца мае высокую навуковую вартасць і з пункту гледжання таго, што ў ёй прадстаўлены аналіз недаследаванага дыялектнага абшару беларускай мовы, і з пункту гледжання выкарыстання ў ёй новых метадалагічных прыёмаў (распрацаваных у працах па сацыялінгвістыцы, па тэорыі моўных кантактаў і інш.).

*І. У. Будзько (Мінск)*

# ЗМЕСТ

# *АНАТАЦЫІ*

*УДК 811.16*

Ц ы х у н Г. А. **Балканаславіка: праблемы і вынікі** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 66.

В статье исследуются история изучения и актуальные проблемы македонского этно- и глоттогенеза на балканославянском и широком балканском этнолингвистическом фоне. На основе историографического и этимологического анализа данных топонимии и этнонимии, сепаратных (эксклюзивных) македонско-белорусских параллелей, других языковых фактов, как обсуждавшихся ранее, так и новых, делаются выводы о времени и направлениях славянизации Балкан, формировании так называемого балканского языкового типа и под.

Библиогр. – 30 назв.

*УДК 811.161.3’282’374.4*

А н т р о п а ў М. П. **Праславянская дыялектнасць па матэрыялах «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы»** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 66.

В статье на материале данных «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы», анализируется комплекс помет, квалифицирующих праславянскую диалектную принадлежность ряда белорусских наименований. Констатируется, что диалектная структура праславянского языка, по данным ЭСБМ, в целом отражает традиционные научные взгляды, однако безусловным достижением белорусского этимологического словаря является присущее только ему широкое использование помет типа «ареальное», «региональное» в отношении праславянских диалектизмов с континуантами в белорусском, но в особенности – определение ряда белорусско-инославянских пар лексем как сепаратных изолекс позднепраславянской эпохи.

Библиогр. – 8 назв.

*УДК 808.26.316.4:9*

М а р о з В. К. **Тэрміналагічнае і гісторыка-лінгвістычнае вызначэнне літаратурнай формы беларускай мовы і яе нормаў у дачыненні да старажытнага перыяду** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 66.

В статье представлена нормативная реализация в наборе летописных текстов древнего этапа развития белорусского языка. Понятие нормы рассматривается как совокупность наиболее устойчивых традиционных показателей языковой структуры, отобранных и закрепленных письменной практикой в литературных жанрах. Предметная область публикации – теоретический аспект решения проблемы нормативности белорусского литературного языка.

Библиогр. – 21 назв.

*УДК 811.161.3(091) + 091.5(= 161.3) «17/18»*

Т а р э л к а М. У. **Мова аднаго кітаба і старабеларуская кірылічная пісьмовая традыцыя** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 66.

Статья посвящена описанию языка одного из китабов – рукописей белорусских татар. Наиболее яркой особенностью языка этой рукописи является влияние письменного старобелорусского языка на фонетическом, грамматическом (морфологическом и синтаксическом) и лексическом уровнях. Отмечается также сильное влияние старобелорусской орфографии. Некоторые языковые особенности рукописи указывают на ее возникновение на территории юго-западного диалекта белорусского языка прилегающей к территории украинского языка.

Библиогр. – 11 назв.

*УДК 808.2–541.42 + 808.26–541.42*

Я л ы н ц а в а І. У. **Полiматываваныя фемiнiнатывы ў сучасных беларускай i рускай мовах** // Беларуская лiнгвiстыка. 2011. Вып. 66.

В статье рассматриваются полимотивированные имена существительные со значением лица женского пола (фемининативы) в современных белорусском и русском литературных языках с позиции мотивационных баз и словообразовательных формантов (и их фонетических вариантов). Такого рода сопоставительный анализ фемининативов в белорусском языкознании проводится впервые.

Библиогр. – 2 назв.

*УДК 811.161.3’367.623’366.5*

У л а с е в і ч В. І. **Асаблівасці скланення якасных і адносных прыметнікаў жаночага роду ў родным і творным склонах адзіночнага ліку** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 66.

В статье рассматриваются особенности употребления в современном белорусском языке вариантных окончаний прилагательных женского рода в родительном и творительном падежах единственного числа. Несмотря на активное употребление двухсложных окончаний в данных падежах (*-ае*, *-ое*, *-яе* в родительном и *-аю*, *-ою*, *-яю* в творительном) в белорусской периодике конца XX – начала XXI в., они остаются стилистически маркированными. Односложные же окончания *-ай*, *-ой*, *-яй* в родительном и творительном падежах являются преобладающими и стилистически нейтральными.

Библиогр. – 18 назв.

*УДК 811.161.3’367*

Ш э м е т Т. Я. **Тэндэнцыі развіцця сінтаксісу беларускай мовы ў канцы XX – пачатку XXI ст.** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 66.

В статье рассматриваются некоторые тенденции в развитии синтаксической системы белорусского языка в конце XX – начале XXI в. Основное внимание уделено особенностям проникновения устной речи в письменные тексты и активизации отдельных вариантных форм выражения составного именного сказуемого.

Библиогр. – 12 назв.

*УДК 811.16’37 + 811.16’373.6*

Ушакевіч А. М. **Да праблемы вызначэння семантыкі і этымалогіі старасла-вянскага слова: *которати / котерати (сѧ)*** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 66.

На примере ст.-слав. ***которати / котерати (сѧ)*** в статье показывается важность учета всех факторов для более полного представления о семантике старославянской лексики. Исследование значения ст.-слав. глагола, проведенное с привлечением исторических словарей и рукописных памятников, позволило выдвинуть новую версию его происхождения – от местоимения **kotorъjь/*koterъjь*.

Библиогр. – 27 назв.

*УДК 811.161.3’373’366.542*

Шчасная К. Д. **Пытанне правапісу склонавых канчаткаў назоўнікаў жаночага роду на *-а (-я)* з асновай на адзін зычны ў родным склоне множнага ліку** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 66.

В статье затрагивается проблема нормализации существительных женского рода на *-а* (*-я*) с основой на один согласный в родительном падеже множественного числа. Вопрос рассматривается в ретроспективе становления норм белорусского языка на основании анализа нормативных источников ХХ – начала ХХІ в. и современных периодических изданий.

Библиогр. – 11 назв.

*УДК 801.3*

Марозава А. А. **Дэархаізацыя як крыніца лексічнай варыянтнасці ў сучаснай беларускай мове** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 66.

Статья посвящена явлению вариантности в языке, знакомит с процессом реархаизации как источником лексической вариантности в современном белорусском языке. Дается описание вариантных пар, состоящих из нормативных и устаревших лексических единиц, которые вернулись к активному использованию. Цель исследования заключается в анализе вариантных пар и прогнозировании перспективы развития лексических норм в отношении данных единиц в современном белорусском языке.

Библиогр. – 20 назв.

*УДК 811.161.3’367.625 + 811.162.1’367.625*

Гліннік І. В. **Да праблемы семантыка-сінтаксічнага апісання дзеяслова *быць / być* у беларускай і польскай мовах** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 66.

В статье рассматриваются значения глагола *быть / być* как самостоятельного глагола; глагол *быть* в функции связки; способы различия связки и самостоятельного глагола, а также синтаксическая сочетаемость глагола *быть* в польском и белорусском языках.

Библиогр. – 29 назв.

*УДК 81'373–11*

Ф е д у н о в а Т. В. **Характар семантычных даследаванняў у рэчышчы кантрастыўнай лінгвістыкі** // Беларуская лінгвістыка. 2011. Вып. 66.

В статье представлено рассмотрение статуса контрастивных исследований в современной лингвистике в параметрических характеристиках «цель – задачи – объект – характерологические признаки – направление проводимых контрастивных исследований – видовое разнообразие – методический потенциал». Изложены основные проблемы проведения данного рода исследований в области сопоставительной лексикологии и семасиологии, в результате чего обоснована необходимость комплексного системного сопоставления лексики нескольких сравниваемых языков с актуализацией системного подхода в экспликации семантической структуры сопоставляемых лексем. Раскрыто содержание принципа системности в рамках контрастивного семантического анализа. С учетом комплексного сопоставительного изучения лексики выделены и обоснованы два уровня анализа лексической системы сравниваемых языков – собственно семантический и семантико-лексический.

Библиогр. – 19 назв.

